Пётр Друждж

# БІТВА ПАД ОРШАЙ 1514 ГОДА

*Пераклад з польскай*

Мінск
Выдавец А.М. Янушкевіч
2014

УДК 94(476)«1514»
ББК 63.3(4Беи)4
Д76

Пераклад з польскай мовы Андрэя Янушкевіча
з выдання: Piotr Dróżdż. Orsza 1514. Warszawa: Bellona, 2000.

У афармленні вокладкі выкарыстаны фрагмент карціны
«Бітва пад Оршай» (Нацыянальны музей у Варшаве)

*Кніга выдадзена пры падтрымцы*
*Польскага Інстытута ў Мінску*

**Друждж, П.**
Д76 Бітва пад Оршай 1514 года / Пётр Друждж ; пер. з пол. Андрэя Янушкевіча. – Мінск : А.М. Янушкевіч, 2014. – 214 с. : іл.

ISBN 978-985-99340-1-8.

У кнізе польскага гісторыка Пётра Друждж на фоне шырокага асвятлення міжнародных падзей у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе распавядаецца пра перадумовы, ход і наступствы бітвы пад Оршай, якая адбылася паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы 8 верасня 1514 г. Асобныя часткі кнігі прысвечаны аналізу розных відаў зброі, вайсковых фарміраванняў і тактычных прыёмаў вядзення бою.

Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і суседніх краін эпохі Сярэднявечча і ранняга Новага часу.

**УДК 94(476)«1514»**
**ББК 63.3(4Беи)4**

**ISBN 978-985-99340-1-8**

# Змест

Прадмова / 7

Міжнароднае і ўнутранае становішча Польшчы ў канцы XV – пачатку XVI ст. / 12

Балтыйскае пытанне — пачатак барацьбы за *dominium maris baltici* / 61

Унутранае становішча Літвы і праблема ўніі з Польшчай / 68

Расія на мяжы XV–XVI стст. — аб'яднальная палітыка Івана III і Васіля III / 92

Узмацненне пагрозы для Літвы з боку Маскоўскай дзяржавы ў канцы XV – пачатку XVI ст. / 104

*Si vis pacem, para bellum* — нараджэнне новага ваеннага мастацтва / 119

Польская армія / 137

Літоўская армія / 178

Маскоўская армія / 184

Аршанская перамога / 189

Стабілізацыя літоўска-рускай мяжы / 205

# Прадмова

Бітва з маскоўскім войскам, якая адбылася 8 верасня 1514 г. на палях пад Оршай на Віцебшчыне, была адной з найвялікшых бітваў у тагачаснай Еўропе. Гэтая перамога, атрыманая польска-літоўскім бокам, як і шмат іншых, не была выкарыстана ні ў ваенных, ні ў палітычных мэтах. У Польшчы яна не дачакалася ператварэння ў нацыянальны сімвал. Зрэшты, гэта была перамога перадусім Літвы (і там яна займае пачэснае месца ў гістарычнай традыцыі, пачынаючы ад вяртання незалежнасці ў 1991 г.), хоць польскае войска адыграла ў ёй вырашальную ролю. Шчыра кажучы, сёння не шмат людзей здолее адказаць, калі адбылася Аршанская бітва, тым больш — паміж якімі краінамі дайшло да ваеннага канфлікту і з якіх прычын. Менавіта адсюль — мая зацікаўленасць гэтай падзеяй.

Ёсць яшчэ адна падстава для напісання гэтай кнігі. Змаганне на палях пад Оршай адбывалася ў найцікавейшую эпоху. Гэта быў час вялікіх перамен ва ўзбраенні і, як наступства — у ваенным мастацтве еўрапейскіх дзяржаў. Польска-літоўская дзяржава ўяўляе сабой асабліва цікавы прыклад. Яна складалася з двух (па меншай меры) народаў і, знаходзячыся на памежжы дзвюх культур — Захаду і Усходу, была прасторай сутыкнення розных кірункаў ваеннага

мастацтва. У выніку гэтых працэсаў сфарміравалася старапольская вайсковая школа, якая дасягне піку свайго развіцця ў XVII ст.

Калі казаць пра ўзбраенне, то вельмі значныя змены чакалі яго засцерагальна-ахоўныя элементы. Панцырныя даспехі ў поўным камплекце дасягнулі стылістычнай і тэхналагічнай дасканаласці. Праўда, яны ўжываліся ўсё радзей, аднак менавіта закованыя ў іх коннікі з'яўляліся галоўнай наступальнай сілай на полі бою. З'явіліся новыя і існавалі побач старыя віды шлемаў, з якіх у больш ці менш змененых формах захаваліся ў наступныя стагоддзі капэліны і салады. Салад дачакаўся цікавага прымянення ў найноўшы час. Прызнаны чыста нямецкім узорам, ён паслужыў прататыпам для стварэння "Штальгельму"[1] — баявога шлема нямецкай арміі падчас Першай і Другой сусветных войнаў. Сёння шмат якія ўзброеныя сілы таксама выкарыстоўваюць шлемы, прыбліжаныя формай да "Штальгельму". Вялікае кола прыхільнікаў, асабліва сярод польскай лёгкаўзброенай конніцы, здабыў сабе кальчугавы панцыр. Затое ўсё радзей падчас бою паяўлялася тарча (шчыт). Цяжкаўзброеная конніца адкінула яе зусім, перайшоўшы на магутныя панцырныя даспехі, якія насіліся на сабе. Кавалерыя, узброеная больш лёгка, па-ранейшаму працягвала ўжываць тарчы. У гэты час паявіўся новы род конніцы, г.зв. страдыёты (пол. *racowie*; так называлі сербаў, з якіх пачаткова фарміраваліся гэтыя вайсковыя атрады). З цягам часу з іх шэрагаў сфарміруецца знакамітае гусарскае войска. Зараз жа жаўнеры, якія служылі "па-рацку", былі самай лёгкаўзброенай групоўкай сярод польскай конніцы і карысталіся тарчамі.

Усё больш распаўсюджанай рабілася агняпальная зброя, у гэты час яшчэ вельмі недасканалая. Яе зарадка была вельмі

---

1 Nadolski A. Broń i strój rycerstwa polskiego w średniowieczu.Wrocław, 1979. S. 100.

доўгай, а з трапнасцю выходзіла яшчэ горш. Рознага кшталту гакаўніцы, ручніцы і аркебузы выклікалі напачатку хутчэй страх і перапалох, чым прыводзілі да значных страт у шэрагах непрыяцеля. З'явіліся на свет таксама гарматы. Гэта былі нязграбныя непрыгожыя прыстасаванні, якія цягнулі шматконныя запрэжкі. На мяжы XV–XVI стст. артылерыя робіцца сталай удзельніцай баявых сутычак. Менавіта агняпальная зброя назаўсёды змяніла характар бітваў у тагачаснай Еўропе. Аднак была важная не столькі сама зброя, колькі ў першую чаргу колькасць тых людзей, якія ўмелі ёю карыстацца. У бітвах усё часцей пачала паяўляцца найманая пяхота. Якраз найміты, якія вербаваліся пераважна з ніжэйшых слаёў грамадства, выціскалі шляхецкае паспалітае рушэнне, якое было няздольнае прыстасавацца да новага кшталту вайны. Гэта разумелі ў Заходняй Еўропе і з гэтых прычын праводзілі структурную рэарганізацыю войска.

На жаль, у Польшчы яшчэ доўгі час лічылі, што паспалітае рушэнне, якое так выдатна сябе праявіла ў перамозе пад Грунвальдам, немагчыма замяніць на вайскоўцаў, хоць і добра падрыхтаваных, але ўсё ж такі больш нізкага паходжання. Апрача гэтага, паўставала праблема фінансавання такога войска. Шляхта заўсёды з вялікімі цяжкасцямі выкладвала грошы на абарончыя патрэбы краіны. Увядзенне падаткаў на войска патрабавала ўхвалення соймам. І часцей адбывалася так, што шляхта пагаджалася на чарговыя падаткі, але ўзамен вымагала новых саслоўных прывілеяў.

Перадача абарончых функцый у рукі асоб часта больш нізкага паходжання стварала пэўную пагрозу для шляхты. Паны лічыліся — і доўгі час так было ў рэчаіснасці — найважнейшай палітычнай сілай у дзяржаве. Калі б шляхта пераклала ганаровы абавязак абароны краіны на плечы найманага войска, то магла хваляваცца за страту свайго сацыяльнага статусу. А так, эфектыўна змагаючыся з павевамі новага часу, высакародная знаць заставалася пры ўладзе і ўплывах. На жаль, тым самым яны асуджалі краіну на ўсё

горшае развіццё ў мілітарным плане, у той час калі суседнія краіны ішлі ўперад, ствараючы прафесійныя арміі. Нягледзячы на супрацiў шляхты, з цягам часу найманае войска было сфарміравана, аднак яшчэ працяглы час паспалітае рушэнне адыгрывала, прынамсі па колькасных паказчыках, важную ролю ў войнах, у якіх брала ўдзел польска-літоўская дзяржава. На шчасце для нас, канфлікт, які прывёў да бітвы пад Оршай, вёўся з яшчэ больш адсталым войскам па стандартах тагачаснай Еўропы. Зразумела, праз такое сцвярджэнне мы зусім не хочам усумніцца ў баявых якасцях маскоўскага войска, бо маскоўцам нельга адмовіць ні ў храбрасці, ні ў тактычных здольнасцях. Аднак з'яўляецца бясспрэчным фактам, што яно складалася цалкам з паспалітага рушэння і падобных яму адзінак.

Пачатак XVI ст. — гэта надзвычай цікавы час у развіцці ваеннай тэхнікі і вайсковага майстэрства. Кожная бітва несла з сабою, канешне, вялікія пакуты і знішчэнні. Але кожны раз гэта была несамавітая драма.

Вось паласа зямлі ахутана порахавым дымам. Праз яго праступаюць фігуры закованых у сталь агромністых коннікаў. Сонца, прабіваючыся праз дым і пыл з-пад конскіх капытоў, адбіваецца бляскам у шыкоўных нагрудніках рыцараў і эпікіроўцы коней. На ўзгорку ззаду відаць ашчэраныя пашчы гармат і пушкары, якія завіхаюцца вакол іх. На адным з флангаў разгарнулася атака лёгкай конніцы. Гэта — страдыёты-рацы. Іх каляровае ўбранне і адмысловае ўкрыццё галавы прыцягваюць позірк. Зараз пойдуць у справу шаблі і коп'і. Сярод стуку конскіх капытоў пачынае разносіцца размераны крок пяхоты. Праз момант яны стануць у замкнутым чатырохкутніку. Капійнікі заслоняць яго сваімі доўгімі коп'ямі, а аркебузьеры накіруюць у бок непрыяцеля смяротны салют. Дзе-нідзе чутны свіст выпушчаных з арбалетаў стрэлаў. Па-над галовамі лётаюць таксама стрэлы лучнікаў. Сярод скрыжату конных шэрагаў і лязгання бляхаў цяжкаўзброеных коннікаў можна пачуць загады каман-

дзіраў найманай пяхоты зноў зарадзіць рушніцы. Урэшце разыходзіцца магутны грохат ламаных у бітве коп'яў. У справу пускаюцца мячы. Здаецца, што гэта — перажыткі мінулай эпохі, але яны здаюць гэты складаны іспыт на выпрабаванне даволі ўдала... Уся бітва разыгрываецца паводле найлепшых узораў і класічных правіл ваеннага мастацтва Сярэднявечча і ранняга Новага часу.

Зразумела, ніводная бітва не адбывалася сама па сабе, па-за кантэкстам міжнародных адносін. Немалое значэнне мела таксама ўнутрыпалітычнае становішча ваюючых дзяржаў. У гэтай працы нас цікавяць усе акалічнасці Аршанскай бітвы, якая адбылася 8 верасня 1514 г.

## Міжнароднае і ўнутранае становішча Польшчы ў канцы XV — пачатку XVI ст.

Пералом XV–XVI стст. быў досыць складаным часам як для Польшчы, так і для Літвы. На першы погляд магло здавацца, што перавага Ягелонаў у Цэнтральнай Еўропе з'яўляецца вельмі значнай. Гэтая дамінацыя стварала ілюзорнае пачуццё сілы і ўсведамленне моцнага трывалага становішча польска-літоўскай дзяржавы. Аднак рэчаіснасць паўставала ў менш светлых колерах. Прычыны такога стану рэчаў, як звычайна, мелі дваісты характар — унутраны і знешні.

Першачарговай прычынай з'яўлялася дынастычная палітыка Ягелонаў. Яшчэ пры жыцці Казіміра Ягайлавіча прадпрымаліся спробы па здабыцці зямель на поўдзень ад Карпат і Судэт, якія належалі Чэхіі і Венгрыі. Казімір абапіраў узаемаадносіны дынастыі і дзяржавы на зусім новых пачатках, а сваю дынастычную палітыку імкнуўся рэалізаваць не фармальным чынам, а праз фактычныя дасягненні — як у Польшчы, так і ў Літве. Наперад высоўваўся персанальны і дынастычны інтарэс, прытым як ва ўнутранай палітыцы, так і ў знешняй. Падчас свайго праўлення яму ўдалося пераадолець супраціў магнатэрыі, які асабліва даў сябе адчуць

падчас Трынаццацігадовай вайны. Казімір прагнуў моцнай аднаасобнай улады, ён не хацеў кіраваць з дапамогай уплывовых арыстакратаў, якія ў эпоху Уладзіслава-Ягайлы і Уладзіслава III прывыклі бачыць у дынастыі толькі сродак ажыццяўлення дзяржаўнай палітыкі. Пазбавіўшыся перавагі магнатаў, Казімір мог з адданымі сабе людзьмі праводзіць у жыццё сваю дынастычную праграму[1]. Пунктам выйсця для гэтых дынастычных планаў сталі спадчынныя правы ў дачыненні да Чэхіі і Венгрыі, якія паявіліся дзякуючы шлюбу Казіміра Ягайлавіча з Лізаветай Габсбург. Менавіта яна ў значнай меры прычынілася да пераймання польскім дваром вынесенага з габсбургскага асяроддзя трактавання дзяржаўных спраў праз уласныя дынастычныя інтарэсы. Але зацяжная Трынаццацігадовая вайна з крыжакамі прывяла да таго, што справы дынастыі трэба было адкласці на больш спрыяльны час. Прызнанне правоў Габсбургаў на Чэхію і Венгрыю павінна было выклікаць змену стаўлення Польшчы да гэтых краін. Да гэтых пор польская палітыка, абапертая на абавязковую норму элекцыі, аспрэчвала вынікаючыя са спадчынных правоў прэтэнзіі Габсбургаў. Як у чэшскай дзяржаве, так і ў каралеўстве Святога Стэфана Польшча падтрымлівала волю народа і прынцып выбарнасці караля. Спадчынная перадача ўлады прывяла б да канфлікту з нацыянальнымі сіламі ў абедзвюх краінах. Гэтага ўдалося пазбегчы ў Чэхіі дзякуючы кампрамісу з мясцовым уладаром. Такі падыход спрыяў поспеху польскай палітыкі. Затое ў Венгрыі спадчыннае права паспрабавалі ўвесці з усёй катэгарычнасцю, і гэта закончылася там выразнай няўдачай.

У абедзвюх дзяржавах уладу трымалі і перадавалі далей прадстаўнікі мясцовай магнатэрыі. У Чэхіі ім з'яўляўся ў гэты час Іржы Падэбрадскі, звязаны з гусіцкім рухам. На чале Венгрыі стаяў Мацьяш Корвін, сын Янаша Гуньядзі,

---

1 На высокім узроўні гэтая праблема прааналізавана ў: Grodecki R., Zachorowski S., Dąbrowski J. Dzieje Polski średniowiecznej. T. II. Kraków, 1995.

героя барацьбы з туркамі, саюзніка Уладзіслава Варненскага. Становішча Іржы з Падэбрадаў было нязвыкла цяжкім. Як прыхільніка гусітаў яго паўсюдна не прызнавалі. У дадатак, мэтанакіраваную палітыку супраць яго пачаў рымскі папа Павел II, які імкнуўся вярнуць каталіцкай царкве былыя пазіцыі. Папа пракляў Іржы і звольніў яго падданых ад паслушэнства. Асабліва моцна гэты крок адбіўся ў Сілезіі, дзе ў апазіцыі да караля знаходзіўся, у прыватнасці, Уроцлаў. Нялюбасць да Іржы была тут настолькі вялікай, што сілезцы ўсё часцей аглядаліся ў бок Польшчы, якая магла дапамагчы пазбавіцца ненавіснага манарха. Уроцлаўскія мяшчане з вялікай радасцю ўслухаліся ў весткі аб пераможным завяршэнні Трынаццацігадовай вайны і верагодным хуткім прыбыцці сына Казіміра Ягайлавіча. Ватыкан прапанаваў каралю Польшчы выступіць супраць Іржы і забраць чэшскую карону сабе альбо аддаць яе аднаму са сваіх сыноў. Папскі легат упэўніваў у поўнай падтрымцы каталіцкіх краін і прыхільнасці сілезскіх князёў. Казімір, аднак, не рашыўся на выступленне супраць Іржы. Замест гэтага ён пэўны час стараўся падтрымліваць раўнавагу ў стасунках з чэшскім каралём. Такі стан рэчаў не мог працягвацца вечна. Рымскі папа адмовіўся ад зацвярджэння Торуньскай мірнай дамовы, пакуль Казімір не прыме чэшскай кароны. Польскі манарх доўга вагаўся, у рэшце рэшт вырашыўшы стаць пасрэднікам у грамадзянскай вайне, якая шырока разгарэлася ў Чэхіі за гэты час. Жаданне палюбоўнага судзейства было ўспрынята чэшскімі панамі, якія хацелі бачыць у Казіміры свайго караля, як адмова ад чэшскай кароны. З гэтай прычыны частка чэшскіх дыпламатаў накіравалася да венгерскага караля Мацьяша Корвіна з такой жа прапановай. На падставе ўзаемных пагадненняў Корвін абвясціў аб распачынанні барацьбы з каралём Іржы ў мэтах абароны каталікоў. У выніку далейшых дзеянняў ён быў абраны чэшскім каралём.

Становішча Іржы з Падэбрадаў значна пагоршылася.

Змаганне ён вёў беспаспяхова, не здолеўшы арганізаваць адпаведнае войска і карыстаючыся толькі малаздатным паспалітым рушэннем. Да Корвіна адышлі Сілезія, Лужыца і Маравія. Каб захаваць трон да канца жыцця, Іржы вырашыў ажыццявіць выбар Ягелона на свайго пераемніка. Адначасова з прапановай адрачэння ад чэшскай кароны на карысць дынастыі Ягелонаў выйшаў Мацьяш Корвін. Польскі бок, аднак, не пайшоў з ім на пагадненне і вырашыў у рэшце рэшт прыняць прапанову Іржы. Скліканы ў Празе сойм абраў Уладзіслава Ягайлавіча спадкаемцам цяперашняга манарха.

Такі абарот падзей не спадабаўся Мацьяшу Корвіну, які марыў аб злучэнні Чэхіі і Венгрыі. Ён вырашыў здзейсніць гэта любой цаной. Спачатку здавалася, што стан рэчаў спрыяе яму. У 1471 г. памёр Іржы з Падэбрадаў. Становішча Польшчы ў каталіцкім свеце відочна палепшылася, бо знік аргумент праціўнікаў, што Ягелоны звязваюцца з ерэтыкамі. Аднак паявіліся складанасці ў самой Чэхіі. Там як у лагеры прыхільнікаў Корвіна, так і Іржы перамагла ідэя выбару манарха на супольным сойме. Такая пастаноўка пытання азначала адмову ад прызнання раней праведзеных выбараў. Аднак польскія паслы, адпраўленыя на новы элекцыйны сойм у Кутняй Гары, змаглі вырашыць праблему на карысць Польшчы. З праціўнікаў, якія пагражалі польскім і ягелонскім дынастычным планам, найбольш небяспечным, зразумела, з'яўляўся Мацьяш Корвін. Аднак ён не меў моцных пазіцый. Шанцы венгерскага караля змяншаліся з-за пагрозлівых чутак, якія зыходзілі з самой Венгрыі. Атрымаўшы іх сур'ёзныя пацвярджэнні, венгерскае пасольства выехала з Кутняй Гары, не дачакаўшыся элекцыі. У гэтых умовах чэшскім каралём быў абраны Уладзіслаў Ягайлавіч. Гэта адбылося 27 мая 1471 г. У жніўні Уладзіслаў каранаваўся ў Празе. У гэты ж час выбухнула вайна паміж Польшчай і Корвінам. Было прынята рашэнне ўдарыць па венгерскай тэрыторыі.

Ужо некалькі год, па меры развіцця супярэчнасцей паміж Корвінам і польскім кандыдатам на чэшскі трон, Казімір

Ягайлавіч шукаў кантактаў з праціўнікамі венгерскага караля. Мэтай была падрыхтоўка грунту для ягелонскай кандыдатуры. Было вядома, што самаўладнае праўленне Мацьяша выклікае ў Венгрыі вострае незадавальненне, асабліва ў магнацкіх колах. Там не падабалася ўвязванне ў чэшскія справы і занядбанне барацьбы з туркамі. На пачатку 1471 г. склалася змова венгерскіх арыстакратаў, на чале якіх стаў даўні паплечнік Мацьяша прымас Янаш Вітэз. Змоўшчыкі планавалі скінуць Корвіна з венгерскага трона і паставіць на гэтае месца каралевіча Казіміра, аднаго з сыноў Казіміра Ягайлавіча. Яны паразумеліся ў гэтым пытанні з польскім дварам. Нягледзячы на вялікую сакрэтнасць, з якой прадпрымаліся ўсе дзеянні, Мацьяшу ўдалося даведацца аб інтрызе. Ён паспрабаваў перахіліць на свой бок частку незадаволеных магнатаў. Адначасова ў Кракаў было адпраўлена пасольства з прапановай перамір'я на адзін год. Венгерская дэлегацыя таксама прадставіла план усынаўлення Уладзіслава Корвінам. Кароль Венгрыі пад прысягай абяцаў перадаць чэшскую карону ўсыноўленаму Уладзіславу за кошт прызнання выбару яго на караля Чэхіі. Польскі двор у катэгарычнай форме адкінуў гэтую прапанову. Далейшы лёс чэшскага трону павінна была вырашыць вайна. У Венгрыю быў накіраваны каралевіч Казімір, якому венгерскае пасольства прапанавала карону Святога Стэфана.

2 кастрычніка 1471 г. Казімір вырушыў з Кракава на чале 12-тысячнага войска, якім камандаваў Пётр Дунін, герой Трынаццацігадовай вайны з крыжакамі. Выправе польскага войска папярэднічаў выданы ў верасні прывілей маладога Казіміра, у якім ён як сапраўдны манарх Венгрыі абвяшчаў вайну Мацьяшу Корвіну. Венграм ён абяцаў вяртанне правоў і абарону ад туркаў. У ваколіцах Пешта польскае войска паявілася 8 лістапада. У мясцовым замку ўладкаваўся Мацьяш Корвін. Ён не імкнуўся вырашыць справу на полі бою. Пакуль польскае войска прыйшло ў глыб Венгрыі, Корвіну ўдалося пакрысе авалодаць сітуацыяй і аб'яднаць вакол сябе

значную частку ўплывовай арыстакратыі. Ён выкарыстаў таксама неспрыяльную для ваенных дзеянняў пару года і пэўныя памылкі польскага камандавання. Польская армія нават не спрабавала здабыць замак у Пешце, накіраваўшыся ў Нітру – рэзідэнцыю пасваранага з Корвінам эстэргомскага арцыбіскупа Янаша. Аднак пагроза ўдару войска Корвіна, якая вісела над палякамі, і аблога Нітры прывялі да адыходу арміі Казіміра на тэрыторыю Польшчы. На месцы застаўся толькі адзін невялікі атрад.

Няўдалая венгерская авантура абярнулася велічэзнымі грашовымі выдаткамі і спрычынілася да паважных людскіх страт. Рэсурсы скарбу былі практычна вычарпаныя, бо, апрача венгерскай выправы, значная сума грошай пайшла на накіраванне ў Чэхію разам з Уладзіславам амаль 10-тысячнага войска. Шляхта не выказвала ахвоты на ўхваленне новых падаткаў на войска. У краіне пачала праяўляцца абыякавасць да знешнепалітычных ініцыятыў караля. Шляхта не хацела несці ахвяры дзеля дынастычных амбіцый манарха. Кашмарам сталі найміты, якім не заплацілі за службу, – вяртаючыся з Венгрыі, яны чынілі гвалт і рабункі. Урэшце ўдалося ўхваліць неабходныя квоты на аплату жаўнераў, але аб далейшым вядзенні вайны не магло быць гаворкі.

У гэтых умовах было вырашана пайсці на перамовы з Корвінам. Трэба было, аднак, спачатку ўрэгуляваць стасункі Мацьяша з чэшскім каралём Уладзіславам. Перамовы з упэўненым у сваім становішчы каралём Венгрыі не ішлі надта гладка. Ролю пасрэдніка выконваў Ватыкан, які імкнуўся да кампрамісу паміж варожымі бакамі на падставе існуючага ўжо падзелу Чэшскага каралеўства. Гэта азначала, што Уладзіслаў панаваў бы толькі ў Чэхіі, а ў Маравіі і Сілезіі захоўвалася ўлада Мацьяша. Папскі легат Марка Барбо прыкладаў намаганні схіліць польскага караля да кампрамісу абяцанкай зацвердзіць Торуньскі мір (падрабязней аб гэтым гл. далей). Падчас правядзення перамоў, нягледзячы на часовае паразуменне, не спыняліся сутычкі

на мяжы, напачатку правакаваныя беспакаральнымі польскімі наймітамі. Яны расклаліся ў некалькіх памежных замках і непакоілі адтуль землі горнай Венгрыі. Корвіну з цягам часу ўдалося ачысціць ад іх памежжа, і ў канцы 1473 г. ён сам распачаў чыніць набегі на паўднёвыя межы Польшчы.

Самым небяспечным з іх стаў напад у студзені 1474 г., калі венгерскія атрады спустошылі польскае Падкарпацце і дайшлі аж да Ясла, Пільзна і Бжостэка. Ім здолелі супрацьстаяць толькі Горліца і Кросна. Аднак і венгерскі бок ужо знясільвалі баі. Мірныя перамовы былі актывізаваны, у выніку чаго ў 1474 г. у Старой Весі быў падпісаны мір паміж Польшчай і Венгрыяй. Ён абапіраўся толькі на фактычны стан кантролю над землямі. Адначасова было заключана трохгадовае перамір'е паміж Уладзіславам з Чэхіі і каралём Венгрыі.

Стан спраў выдатна даваў зразумець, што канфлікт будзе мець свой працяг. У прадчуванні новага ваеннага сутыкнення Мацьяш паявіўся ў першых месяцах 1474 г. у Сілезіі. Ён рыхтаваў гэтыя землі да вайны. Польскія межы пачалі турбаваць адданыя Корвіну мясцовыя князі. Адна з такіх выпраў на чале з князем Янам II Жаганьскім (Шалёным) дайшла ў глыб Вялікапольшчы. Мацьяш парушыў варункі перамір'я, а значыць, яму можна было адплаціць тым жа самым. Аднак польская падрыхтоўка да вайны не дацягвала па маштабах да патрэбнага ўзроўню. Шляхта адмовілася ўхваліць неабходныя падаткі на войска. Узамен яна прапанавала каралю выкарыстаць паспалітае рушэнне. Яно было немалым па колькасці, але збіралася вельмі павольна. Месца збору — Мстуў пад Чэнстаховай — было амаль цалкам спустошана і вынішчана. Апрача таго, шляхта гандлявалася з каралём наконт аплаты за выправу па-за межы краіны. Урэшце 26 верасня мяжа Сілезіі была пяройдзена на рэчцы Лісварта. Распачалася новая вайна.

Польскай арміяй колькасцю 35–40 тысяч чалавек камандаваў Ян Рытвяньскі, гарачы прыхільнік караля. Супраць

гэтага шматлікага, але не надта спраўнага войска Мацьяш выставіў хоць і невялікую, але адборную найманую групоўку. Ён вырашыў сам яе ўзначаліць, выбраўшы стаўкай Уроцлаў. Корвін не заставаўся пасіўным назіральнікам дзеянняў палякаў. Каб ускладніць становішча шматлікага непрыяцельскага войска, ён загадаў знішчаць сабраны на палях ураджай ці пераносіць яго ў гарады. Гэта былі захады, якія ў поўнай меры задзейнічала Вялікая армія Напалеона падчас расійскай кампаніі 1812 г. Палякі першымі накіраваліся ў бок Алесны і здабылі яе. Затым у іх рукі трапілі Ключборк і Бычына. Павярнуўшы на поўдзень, польскае войска пераадолела пад Крапковіцамі Одру і дайшло да Аполя. Яно адмовілася здабываць гэты горад. На пачатку кастрычніка жаўнеры пераправіліся праз Нысу Клодзкую і накіраваліся маршам на Бжэг. 12 кастрычніка адбылася пераможная для палякаў сутычка з венгерскім войскам пад Свановіцамі. Праз два дні польскія рыцары дасягнулі Бжэга. Аднак і тут, як у выпадку з Аполем, яны адмовіліся ад аблогі, увесь час чакаючы падыходу чэшскіх атрадаў на чале з Уладзіславам Ягайлавічам.

У рэшце рэшт 23 кастрычніка пад Алавай польскія і чэшскія ўзброеныя сілы аб'ядналіся. Злучаная армія рушыла на Уроцлаў. Аднак яна не была належным чынам падрыхтаваная да аблогі такой магутнай крэпасці. Праявілася ўсё бяссілле паспалітага рушэння супраць уроцлаўскіх муроў і гармат. Сабраным на адным месцы агромністым масам людзей і коней праз некалькі дзён стала бракаваць харчавання. Мацьяш распусціў па ваколіцах невялічкія атрады, якія перашкаджалі падвозіць у вайсковы лагер правіянт. Яны таксама чынілі дробныя напады на польскім памежжы. Дадатковай праблемай стала распаўсюджанне ў польска-чэшскіх шэрагах хвароб. У вайсковым лагеры ўзмацнялася стомленасць і апатыя. Яны набралі да такой ступені гвалтоўнага характару, што на пачатку лістапада былі ініцыяваныя перамовы з абложаным горадам. У іх выніку пад Вялікім Мухаборам каля Уроцлава (сёння гэта вялікі жылы мікраараён)

адбылася сустрэча Мацьяша Корвіна з Ягелонамі. Праведзеныя перамовы прывялі да спынення ваеннай барацьбы і вызначэння паўнамоцных прадстаўнікоў для абмеркавання дэталяў замірэння ва Уроцлаве. Гэта адбылося 15 лістапада, а ўжо праз чатыры дні чэхі пачалі вяртацца дахаты, а за імі гэта зрабілі і палякі. Кароль вярнуўся ў Польшчу на пачатку снежня. Яго выправа зноў скончылася беспаспяхова, у чым абвінавачвалі галоўнакамандуючага войскам Яна Рытвіньскага.

8 снежня прадстаўнікі трох уладароў падпісалі ва Уроцлаве акт аб перамір'і. Бакі абавязваліся спыніць баявыя дзеянні да свята Тройцы 1477 г. Таксама было ўхвалена, што прызнаецца стан валодання тэрыторыяй да выправы Мацьяша Корвіна. Такім чынам, гэты этап змагання за венгерскую карону польска-чэшскі бок прайграў. нягледзячы на выдаткаванне вялікіх фінансавых сродкаў. І зноў было відавочным, што ў недалёкай будучыні дойдзе да чарговага канфлікту.

Аднак так сталася, што нешчаслівая сілезская выправа была апошнім паважным высілкам Ягелонаў у барацьбе за Чэхію. Грамадства было змучанае і знясіленае сталым і безвыніковым напружаннем фінансава-мілітарных рэсурсаў. Падчас выправы ў Сілезію стала відавочным непрыязнае стаўленне шляхты да дынастычнай палітыкі караля. Пад харугвамі Мацьяша апынулася немалая частка польскай шляхты. Кароль спрабаваў прымяніць супраць яе рэпрэсіўныя меры, але гэта толькі павялічвала расчараванне паноў у манарху. Шляхта каторы раз адмовілася ад падаткаў на войска і не дазволіла сабраць паспалітае рушэнне. Гэта адбывалася ў той момант, калі Уладзіслаў заключыў мірнае пагадненне з германскім імператарам, які здзейсніў у дачыненні да чэшскага караля акт фармальнай інвестытуры на чэшскі лен. Як наступства, Уладзіслаў вырашыў узнавіць вайну з Мацьяшам. Казімір Ягайлавіч звярнуўся да шляхты з просьбай аб падрыхтоўцы да новай выправы. Але шляхта, як ужо гаварылася, адмовіла ў гэтым.

Стрыманасць шляхты ў пэўнай ступені можа быць растлумачана і апраўдана падзеямі ў Прусіі. Там вялікі магістр Генрых фон Рыхтэнберг заключыў дамову з Мацьяшам Корвінам. Венгерскі кароль прадбачыў, што пасля сканчэння перамірнага тэрміну з Польшчай і Чэхіяй вайна можа быць адноўлена. Заключаючы пагадненне з крыжакамі, адвечнымі ворагамі Польшчы, ён ствараў для яе пагрозу патэнцыяльнай вайны на два фронты. Аднак Корвін не выканаў абавязкаў перад сваім новымі саюзнікамі. Падчас вайны Польшчы з Ордэнам 1478–1479 гг. ён паабяцаў крыжакам толькі дыпламатычную падтрымку ў завяршальны перыяд ваенных дзеянняў[1].

Кароль Венгрыі павінен быў змагацца з Уладзіславам самастойна. Аднак на гэтым тэатры баявых дзеянняў ніводзін з бакоў не атрымаў перавагі. У выніку быў заключаны мірны трактат у Брно 28 сакавіка 1478 г. Паводле варункаў міру Уладзіславу пакідалася Чэхія. Мацьяш затрымліваў да сваёй смерці Маравію, Сілезію і Лужыцу. Корвін вырашыў таксама парваць з крыжакамі і заміры́ўся з Казімірам. Мірная дамова была заключана ў Будзе, а затым ратыфікавана ў Оламаўцу 21 ліпеня 1479 г.

З’езд у Оламаўцу завяршыў васьмігадовае ваеннае змаганне паміж Мацьяшам і Ягелонамі. Дзеля стварэння трывалага падмурку для сябе і сваіх сыноў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе кароль Казімір Ягайлавіч ахвяраваў велічэзнымі фінансавымі і мілітарнымі сродкамі. Вынікі не адпавядалі панесеным выдаткам. Інтрыга вакол венгерскай кароны скончылася няўдачай, справы ў Чэхіі мелі палавінчаты вынік. Уладзіслаў сеў на чэшскі трон, але правіў дзяржавай, з усіх бакоў абкружанай уладаннямі Мацьяша. Саслабелая і раздробленая, Чэхія не з’яўлялася сур’ёзным і моцным партнёрам. Яна хутчэй была асуджана шукаць дапамогі з боку Польшчы.

---

[1] Больш падрабязна пра войны Польшчы з крыжакамі: Biskup M. Wojny Polski z Zakonem Krzyżackim 1308–1521. Gdańsk, 1993.

Зразумела, мір, заключаны ў Оламаўцу, не задавальняў ніводзін з бакоў. Аднак усе, хто быў зацікаўлены ў змяненні існуючага становішча, мусілі пачакаць да 1490 г. На той свет адышоў Мацьяш Корвін, і адразу паявілася мноства прэтэндэнтаў на месца нябожчыка. Сярод іх, апрача Янаша Корвіна і Максіміліяна Габсбурга, былі таксама два браты з дынастыі Ягелонаў — Уладзіслаў і Ян Ольбрахт. Абодва сыны Казіміра Ягайлавіча не толькі дзейнічалі без паразумення між сабой, але адразу перайшлі ў супрацьстаянне. Кожны здабыў сабе падтрымку мясцовых палітычных сіл. За Уладзіславам стала магнатэрыя. На жаль, ён не апраўдаў надзеі бацькі, адкінуўшы дынастычныя планы. Здавалася, што ён вельмі хутка забыўся, што зрабіў польскі бок дзеля таго, каб ён мог панаваць у Чэхіі. Ян Ольбрахт, у сваю чаргу, атрымаў падтрымку шляхты, якая непрыязна ставілася да Габсбургаў. Адлікам намаганняў Ольбрахта здабыць карону Святога Стэфана стала самавольнае абвяшчэнне яго каралём жменькай венгерскіх паноў пад Пештам у чэрвені 1490 г. Прыхільнікі кандыдатуры Уладзіслава не жадалі бачыць на троне энергічнага і прыхільнага да шляхты Ольбрахта. Ім удалося адкласці тэрмін фармальнай элекцыі, што прывяло да разыходжання шляхты дадому. Адначасова яны з дапамогай зброі разбілі прыхільнікаў Яна Корвіна. У Габсбурга не было ніякіх асаблівых шанцаў. Усе гэтыя акалічнасці расчышчалі шлях да трону для Уладзіслава з Чэхіі. Ён уяўляўся слабым і бязвольным гаспадаром, пры якім магнатэрыя будзе карыстацца шырокімі ўладнымі паўнамоцтвамі. Зрэшты, Уладзіслаў атрымаў моцную падтрымку сярод арыстакратыі, заключыўшы з магутным Іштванам Запальяі патаемнае пагадненне, якое давала яму шмат прывілеяў пры авалоданні каронай Святога Стэфана.

Фармальная элекцыя адбылася 15 ліпеня 1490 г. і прынесла перамогу Уладзіславу. Польскі двор, аднак, не збіраўся прызнаваць сваю паразу. Адразу пасля чэрвеньскай элекцыі Ян Ольбрахт вырушыў на чале некалькіх тысяч

жаўнераў на поўдзень. У гэты час адбылася элекцыя яго брата Уладзіслава. Ян Ольбрахт рушыў далей. Над ракой Горнад ён выдаў маніфест, у якім заявіў аб сваім абранні на венгерскі трон і заклікаў скласці прысягу на вернасць. Любой цаной ён імкнуўся адрэзаць дарогу на Пешт Уладзіславу, які падыходзіў з захаду. Аднак праблемы з пераправай праз Дунай не дазволілі Яну Ольбрахту апярэдзіць брата ў венгерскай сталіцы.

9 жніўня Уладзіслаў на чале свайго войска ўвайшоў у горад. За гэтым пасіўна назіраў Ян Ольбрахт, які прыбыў пад Пешт на дзень раней. Былі праведзены перамовы "з вока на вока". Польскі каралевіч за адмову ад венгерскай кароны запатрабаваў сабе Трансільванію. Уладзіслаў адкінуў гэтыя прэтэнзіі, прапанаваўшы ўзамен Глагоўскае княства. Перамовы скончыліся нічым. Пасля пяці дзён побыту пад Віштам Ян Ольбрахт адступіў у напрамку Хатвану. Там чарговы раз была прадпрынята спроба перамоў. Яны скончыліся згодай Яна Ольбрахта на перамір'е. Бакі пагадзіліся таксама на пасрэдніцтва Казіміра Ягайлавіча. Пасля заключэння пагаднення Ян Ольбрахт адышоў на поўнач. Здавалася, што сітуацыя знайшла сваё вырашэнне. Аднак ужо праз два тыдні Ян Ольбрахт сарваў перамір'е і аб'явіў вайну Уладзіславу. Ён захапіў Прэшаў і Сабінаў. На пачатку кастрычніка войска Яна Ольбрахта распачало аблогу Кошыц.

Уладзіслаў не мог аказаць дапамогу гораду, таму што быў заняты барацьбой з Габсбургамі. Праз месяц нападаючы бок быў вымушаны адмовіцца ад аблогі. Але Ян Ольбрахт зусім не прызнаў свайго пройгрышу. Пад мурамі горада ён пакінуў частку вайсковых фарміраванняў. Да канца 1490 г. адбываліся баявыя сутычкі, якія не прыносілі вырашальнай перамогі. У новым годзе братазабойчыя баі разгарэліся з новай сілай. Нягледзячы на зімовы час, які звычайна не выкарыстоўваўся для ваенных дзеянняў, Уладзіслаў выправіў войска супраць Яна Ольбрахта, які пустошыў паўночныя раёны краіны. У сярэдзіне студзеня адбыла-

ся канцэнтрацыя венгерскіх вайсковых падраздзяленняў. Каралю Венгрыі ўдалося сабраць каля 16 тысяч жаўнераў, якія ў лютым авалодалі польскім лагерам пад Кошыцамі. Там пры пасрэдніцтве Казіміра Ягайлавіча і была заключана мірная дамова. Ян Ольбрахт прызнаваў Уладзіслава каралём Венгрыі, але атрымліваў правы на трон у выпадку яго бяздзетнай смерці. За адмову ад сваіх прэтэнзій пад яго ўладу перадавалася Глагоўскае княства, а ў недалёкай будучыні павінны былі перайсці Аляськіцкае і Апаўскае княствы, а таксама гарады Карнюў, Тошэк, Бытам, Козле і Глубчыцэ. Гэта азначала прызнанне за Янам Ольбрахтам значнай часткі Верхняй і Ніжняй Сілезіі (паводле сённяшняга разумення), і гэта — незалежна ад Чэшскага каралеўства, разам з тытулам вярхоўнага князя Сілезіі.

Каралевіч Ян Ольбрахт, аднак, быў асобай энергічнай і з досыць падступнай натурай. Ён не трымаўся слепа прынцыпу, што *pacta sunt servanda*[1]. Ён зусім не спяшаўся пакідаць венгерскую тэрыторыю і дзейнічаў так супраць волі бацькі, які адмовіў яму ў падтрымцы. Ян Ольбрахт тлумачыў сваё перабыванне, якое крыху зацягнулася, вясновымі разлівамі рэк. Спачатку ён абяцаў адысці да велікодных святаў. Гэтага абяцання ён не стрымаў. Наадварот, у давяршэнне ўсяго ён пачаў тытулавацца каралём Венгрыі. Да новага змагання за венгерскі трон Яна Ольбрахта схілілі звесткі аб цяжкай хваробе Уладзіслава. У Польшчы быў абвешчаны збор наймітаў, у выніку якога яму ўдалося сабраць пад сваімі сцягамі каля 7 тысяч жаўнераў. Зноў распачаліся ваенныя дзеянні.

З 30 ліпеня ў аблогу быў узяты Стропкаў. 8 верасня горад здаўся. Адначасова працягвалася блакада Кошыц, якія ўдалося вызваліць у сярэдзіне верасня. Часовыя праблемы Уладзіслава з Габсбургамі не дазвалялі яму ўзяцца адразу за вырашэнне справы з Янам Ольбрахтам. Толькі ў снежні Уладзіслаў змог прадпрыняць больш рашучыя дзеянні су-

---

[1] *Дагаворы павінны выконвацца* (лат.)

прадць свайго брата. У сярэдзіне гэтага месяца яму ўдалося сабраць пад Кошыцамі 18-тысячную венгерскую армію. Сілы Яна Ольбрахта былі ўжо моцна патрапаныя і налічвалі не больш за 4 тысячы чалавек. 1 студзеня пад Прэшавам, дзе размяшчалася стаўка Яна Ольбрахта, разыгралася вырашальная бітва. Польскае войска ў ёй пацярпела паразу. Загінула каля 500 палякаў, у той час калі страты венграў ацэньваліся толькі на 11 забітых. Пасля бою горад Сабінаў перайшоў на бок Венгрыі. Сам Ян Ольбрахт яшчэ спрабаваў бараніцца за мурамі Прэшава. Аднак ён хутка зразумеў безнадзейнасць свайго становішча і здаўся на міласць Уладзіслава.

Капітуляцыя польскага каралевіча адбылася на варунках Кошыцкай дамовы. Пакорлівы лёсу Ян Ольбрахт быў суправаджаны венгерскім палкаводцам Іштванам Запольем да польскай мяжы. Яго амбітным планам надышоў канец. Былі перакрэслены таксама вялікія дынастычныя планы Казіміра Ягайлавіча. Ход барацьбы паміж Уладзіславам і Янам Ольбрахтам выразна адлюстроўваў, якой слабой знутры была сама дынастыя. Не ставала кансалідацыі, адзінства мэтаў, задач і дзеянняў. Падначаленне Венгрыі Уладзіславам цалкам марнавала тую выгаду, якую Польшча магла мець у выпадку, калі б на чале дзвюх суседніх дзяржаў знаходзіліся Ягелоны. Калі б, прыкладам, на чэшскім троне ўдалося пасадзіць Яна Ольбрахта, а на венгерскім пакінуць Уладзіслава, то абедзве краіны былі б вымушаны шукаць якой-кольвек падтрымкі Польшчы. Польскае каралеўства рабілася б кіроўнай сілай у сістэме ягелонскіх дзяржаў. З іншага боку, злучэнне Чэхіі і Венгрыі пад адным скіпетрам моцна звязвала гэтыя дзяржавы разам. Яны павінны былі ісці на супрацоўніцтва між сабой і слабей цікавіліся не так ужо ім неабходнай Польшчай. Не сталася так, як гэта сабе ўяўляў Казімір Ягайлавіч. Аднак, не зважаючы на ўсе акалічнасці, у руках ягелонскай дынастыі апынуліся, не лічачы Польшчы і Літвы, Чэхія з Сілезіяй і Лужыцай, а таксама Венгрыя ўключна з Харватыяй.

Гэты вялізны кангламерат на прасторах Цэнтральнай

Еўропы, на жаль, не меў унутранай згуртаванасці. У яго склад уваходзілі народы з вельмі рознай культурай. Адрозным у шмат якіх выпадках быў уклад і ўзровень эканамічнага развіцця. Зразумела, існавалі супярэчнасці і паміж інтарэсамі арыстакратыі. Гэта ўсё змешвалася з сярэднявечным разуменнем дзяржавы. Манарх трактаваў яе як сваю ўласнасць і прастору для эксплуатацыі вузкім колам магнатэрыі. З гэтых прычын дынастычная палітыка ніяк не ўлічвала этнічных і культурных чыннікаў.

З тэрыторыі ягелонскіх манархій у Еўропу дастаўляліся шматлікія сыравінныя рэсурсы, таму яны адыгрывалі важную ролю ў тагачаснай гаспадарцы кантыненту. Маючы вялікі гаспадарчы патэнцыял, краіны нашчадкаў Ягайлы маглі быць палітычнай супрацьвагай імперыі Габсбургаў. Аднак у супрацьлегласць да яе, таксама разнастайнай з культурнага і эканамічнага гледзішча, ягелонскія дзяржавы амаль не праводзілі адзіную знешнюю палітыку. Гэта, спаміж іншага, адрознівала Ягелонаў ад Габсбургаў. Габсбургская дынастыя лічылася пакліканай да ўладарання як над германскімі народамі, так, з іншага боку, і над раманскімі і славянскімі, а таксама вугра-фінскімі. Прагматыкі ад улады, якія ведалі розныя мовы, яны не баяліся авалодваць новаадкрытымі для сябе землямі. У працэсе падпарадкавання разнастайных краін яны часцей карысталіся палітычнай зброяй, чым мячом. Да дасканаласці было даведзена мастацтва стварэння дынастычных повязяў. Віртуозна выкарыстоўваліся шлюбныя саюзы для набыцця правоў на манаршыя троны[1]. У канцы XV — пачатку XVI ст. Габсбургі гаспадарылі ў Нідэрландах, Іспаніі, Новым Свеце. Яны сталі першай, самай магутнай дынастыяй у Еўропе, а іх улада была моцна цэнтралізаванай і абапіралася ў тым ліку і на багацейшыя фінансава-купецкія вярхі.

Аднак на дынастычнай палітыцы ўсё не скончвала-

[1] Dynastie Europy / Red. A. Mączak. Wrocław etc., 1997. S. 108.

ся. Праблемай Польшчы з'яўлялася дэцэнтралізацыя ўлады. Даўно вядома, што з дзяржавай, якае мае моцную, а галоўнае — эфектыўную цэнтральную ўладу, лічацца ў свеце. Такая вярхоўная ўлада дае магчымасць імкліва рэагаваць на ўнутраныя патрасенні і цяжкасці. Цэнтралізаваная дзяржава — гэта, прынамсі ў тэорыі, больш спраўнае судаводства і рэалізацыя найважнейшых правоў і абавязкаў. У такой краіне, зноў разважаючы з тэарэтычнага боку, лягчэй збіраць падаткі і выконваць іншыя павіннасці. А калі казаць пра фінансы, то пры поўным скарбе будзе існаваць моцная армія і бяспечныя межы. Менавіта цэнтралізацыя ўлады, а таксама пераадоленне адрозненняў паміж асобнымі рэгіёнамі сталі такімі ж важнымі задачамі, як два стагоддзі назад аб'яднанне краіны. Неабходна было так узмацніць цэнтральныя органы ўлады, каб яны былі здольныя запыніць буйных магнатаў і найвышэйшае духавенства, якія пачалі задзіраць галаву. Становішча тут было не найлепшым. У першую чаргу не было такой сацыяльнай групы, на якую можна было б абаперціся. Манарх у сваім палітычным манеўры абмяжоўваўся толькі класам феадалаў.

Можна запытацца — а што з мяшчанствам? На жаль, у Польшчы пазіцыя гэтага сацыяльнага слою была нашмат слабейшай, чым у заходніх краінах, дзе працэс цэнтралізацыі абапіраўся якраз на моцную мяшчанскую супольнасць. Польскаму мяшчанству было далёка да ўнутранай кансалідацыі. Да таго ж пераважная частка патрыцыяту мела іншаземнае паходжанне. На мяжы XV–XVI стст. мяшчан досыць паспяхова пачалі ізаляваць як патэнцыяльную групу ўплыву на развіццё краіны. Гэта адбывалася як дзякуючы намаганням магнатэрыі і шляхты, так і паводзінам саміх мяшчан. Яны папросту праявілі дзіўную абыякавасць. Асабліва кепска выглядалі жыхары Кракава. Нягледзячы на блізкасць каралеўскага двара, яны не дабіліся для сябе такога становішча, якім карысталіся ўжо ў той час жыхары большасці еўрапейскіх сталіц.

Да цэнтралізацыі, а праз гэта да ўзмацнення дзяржавы (за выключэннем звязанай з каралеўскім дваром групы арыстакратаў) магла схіляцца сярэдняя шляхта. Яна ў гэты перыяд, што датычыцца сваіх палітычных мэтаў, яшчэ не з'яўлялася маналітным і свядомым класам. Яна, кажучы шчыра, удзельнічала ў барацьбе паміж манархам і арыстакратамі, аднак перахільвалася то на адзін, то на іншы бок, не становячыся для каралеўскай улады ні асабліва выгадным, ні дастаткова моцным саюзнікам. Шляхта не збіралася падтрымліваць абсалютысцкія памкненні манарха. Уладар, часта аддаючы перавагу фаварытам з ліку вяльможаў, без запалу падыходзіў да супрацоўніцтва са шляхтай. Шмат пры гэтым залежала ад асобы манарха. Калі б гэта быў энергічны і мэтанакіраваны чалавек, то спробы рэформ у дзяржаве маглі прайсці цалкам паспяхова. На жаль, на працягу 20 год, якія папярэднічалі Аршанскай бітве і падзеям, з ёй звязаным, такіх рысаў бракавала большасці нашых уладароў. Гэта датычыцца ў першую чаргу Жыгімонта Старога, падчас панавання якога адбыліся падзеі, што нас цікавяць.

У справе цэнтралізацыі дзяржавы на першы план выйшаў сойм. Перш чым гэта адбылося, сярэдняя шляхта павінна была даспець да выканання кіроўных функцый у краіне. Становішча гэтай сацыяльнай групы паступова ўзмацнялася. Паспрыялі гэтаму і знакамітыя прывілеі, якія шляхта навучылася патрабаваць ад караля. Перыяд праўлення Казіміра Ягайлавіча замацаваў неабходнасць звароту караля да шляхецкай супольнасці, у прыватнасці, калі ішла справа пра ўхваленне падаткаў ці ваенныя выправы за межы краіны. Для такіх рашэнняў згоды каралеўскай Рады было замала. Яна магла толькі выказаць меркаванне наконт канчатковай мэтазгоднасці накладвання новых падаткаў, даць параду аб неабходнасці склікання паспалітага рушэння. Але згоду на ўсе падобныя ініцыятывы давала шляхта, і гэтае права было замацавана ў зацверджаных каралём прывілеях. Каралеўскай уладзе было цяжка знайсці паразумен-

не са шляхецкімі масамі падчас шматлюдных з'ездаў. Таму манарх кантактаваў з імі падчас мясцовых з'ездаў, якія называліся соймікамі. Яны склікаліся паводле гістарычна сфарміраваных падзелаў польскіх зямель. Перад кожным асобным соймікам пазіцыі караля адназначна выглядалі мацнейшымі, чым у выпадку сутыкнення са шматтысячным натоўпам шляхты.

Першыя соймікі паявіліся ў Вялікапольшчы як асобныя з'езды зямель, якія ўваходзілі ў склад гэтага рэгіёна. Неўзабаве ўсталяваўся звычай збору генеральнага сойміка для гэтых ваяводстваў. На ім зацвярджаліся канчатковыя рашэнні і пастановы. Троху іншая практыка існавала ў Малапольшчы. Тут адбываўся адзін асобны соймік для ўсяго рэгіёна, а другі — для "рускіх" зямель. З цягам часу, пад канец панавання Казіміра Ягайлавіча, і ў Малапольшчы паўсталі асобныя ваяводскія соймікі.

Невядома дакладна, з якіх прычын Казімір Ягайлавіч пазбягаў склікання агульнадзяржаўных соймаў. У часы Яна Ольбрахта ў гэтым плане наступілі карэнныя змены. Манарх спачатку ўдзельнічаў у сойміках, потым склікаў генеральныя соймікі і ў рэшце рэшт абвяшчаў збор вальнага сойма, у пасяджэннях якога бралі ўдзел прадстаўнікі генеральных соймікаў і каралеўская Рада. Яны збіраліся асобна. Такім чынам сфарміраваліся дзве палаты парламента. Адна з іх займела назву пасольскай ізбы, дзе засядалі прадстаўнікі шляхецкай супольнасці. У склад другой увайшла каралеўская Рада, якая ў хуткім часе стала называцца сенатам. У пасольскай ізбе бракавала прадстаўнікоў мяшчанства і духавенства. Выключэннем з'яўляўся Кракаў, але, як казалася вышэй, гэты горад не здабыў сабе такой пазіцыі, якую мелі вялікія гарады ў Заходняй Еўропе.

Пры такім унутраным раскладзе шмат залежала ад асобы караля. Важнымі чыннікамі былі яго актыўнасць, паслядоўнасць і вытрыманасць пры дасягненні пастаўленых мэтаў. Ян Ольбрахт быў уладаром энергічным і прадпры-

мальным. У яго палітычныя планы ўваходзіла паскарэнне працэсу фарміравання вальнага сойма. Заканадаўчая ўлада, праўда, фармальна належала соймікам, а сойм з'яўляўся толькі месцам, дзе ўзгадняліся іх ухвалы. Аднак у часы Яна Ольбрахта досыць відочна праявілася тэндэнцыя перавагі сойма над соймікамі. Гэта падкрэсліваў уступ да ўхвалаў Пётракаўскага сойма 1496 г. У ім гаварылася, што соймавыя паслы прадстаўляюць усё Польскае каралеўства і маюць паўнамоцтвы выступаць ад усіх шляхцічаў, непрысутных на сойме. Такая пастаноўка справы стварала магчымасць прадстаўнікам шляхты прымаць рашэнні ў дачыненні да іншых сацыяльных слаёў. Адначасова паслы былі дапушчаныя ў сферу ўладных паўнамоцтваў манарха, які з гэтых пор рабіўся рэпрэзентантам дзяржавы. Можа здавацца, што гэта паслабляла становішча караля за кошт узвышэння арыстакратыі і шляхты. Аднак на практыцы стваралася магчымасць узмацнення каралеўскай улады, у прыватнасці ў адносінах да сената, дзе засядала магнатэрыя. Кароль разам з пасольскай ізбой прымаў рашэнні, звяртаючыся да меркаванняў сваіх радцаў, але не быў вымушаны ім падпарадкоўвацца. Уладару належала перадусім выканаўчая ўлада. У яго задачы ўваходзіла выкананне тых ухвалаў і пастаноў, якія прыняў сойм. А сойм цяпер вырашаў справы, якія датычылі скарбу, адміністрацыі, судовай сферы. Гэта азначала, што фактычна абшар каралеўскай улады значна пашырыўся. Відавочным было абмежаванне ўплываў урадніцкай іерархіі ў выглядзе каралеўскай Рады. Менавіта яна раней кантралявала і запавольвала ажыццяўленне каралеўскіх пачынанняў.

Іншыя ўхвалы Пётракаўскага сойма 1496 г. аказаліся не менш знамянальнымі для кансалідацыі шляхецкага саслоўя, чым згаданы ўступ да іх. Напачатку былі пацверджаны ранейшыя прывілеі шляхты. Надзвычай важнымі для агулу шляхты сталі рашэнні, прынятыя ў дачыненні да сялян. Перадусім хвалявала пытанне ўцёкаў сялян за мяжу. Было

пастаноўлена, што з кожнай вёскі толькі адзін селянін зможа раз у год пакінуць месца жыхарства. На сойме таксама вырашылі, што толькі адзін з сялянскіх сыноў мог прысвяціць сябе рамяству ці навуцы. Гэтыя ўхвалы выразна мелі на мэце павялічыць колькасць рук, здольных да працы ў сельскай гаспадарцы і, як наступства, садзейнічаць росту вытворчасці ў шляхецкіх фальварках. Шляхта была вызвалена ад выплаты мыта на Вісле. У значных маштабах былі абмежаваны правы мяшчан. Сойм рэкамендаваў, каб кошты на тавары на гарадскіх рынках вызначалі ваяводы. Вясковых жыхароў вызвалілі з-пад юрысдыкцыі гарадскіх судоў. Але найважнейшым новаўвядзеннем стала забарона мяшчанам набываць земскія землеўладанні. Шляхта ў такой жа ступені імкнулася абмежаваць правы духавенства. Аднак яна не была зацікаўлена ў яго аслабленні, важным было ўсталяванне кантролю над уплывамі і матэрыяльнымі рэсурсамі. Шляхта імкнулася стварыць умовы, каб у святарскі стан не былі дапушчаны прадстаўнікі іншых саслоўяў і, у прыватнасці, не даць ім магчымасці дасягнуць самых высокіх пасад у духоўнай іерархіі. Было ўхвалена правіла, паводле якога ў найважнейшых капітулах — Кракаве, Влацлаўку, Познані і Гнезна — маглі кіраваць толькі асобы шляхецкага паходжання. Існавала зусім малая колькасць месцаў, якія маглі трымаць асобы з доктарскай ступенню.

Дзяржаўныя рэформы, распачатыя ў Пётракаве, ажыццявіліся не адразу. Перашкодай стала кароткае па часе, але вельмі паказальнае па сваіх наступствах бескаралеўе пасля смерці Яна Ольбрахта ў 1501 г. Кіраўніцтва дзяржавай удалося перахапіць сенату. Гэта азначала перавагу ў краіне ўплываў феадальнай арыстакратыі. У гэты час быў выданы Мельніцкі прывілей, які санкцыянаваў такі стан рэчаў (аб гэтым больш падрабязна гл. далей). Сенацкае праўленне, аднак, доўга не пратрывала, і падчас барацьбы паміж старой і маладой, падтрыманай сярэдняй шляхтай арыстакратыяй (апошняй кіраваў канцлер Ян Ласкі) дайшло да надзвычай важных

рашэнняў. Яны былі прыняты на сойме, які быў скліканы Аляксандрам Ягайлавічам у Пётракаве ў 1504 г. У якасці самага першага рашэння варта згадаць г.зв. *incompatibilia*. Гаворка ішла пра забарону злучэння ў адных руках некаторых найвышэйшых пасад, а менавіта – земскага суддзі, канцлера, найбольш значных біскупаў, а таксама ваяводы і кашталяна. Іншая важная ўхвала абмяжоўвала раздачу каралеўскіх уладанняў і абвяшчала экзекуцыю (вяртанне) зямель, раней самавольна прысвоеных. Пастанаўлялася, што з гэтых пор рашэнні, якія датычаць продажу, закладу альбо падаравання каралеўскіх уладанняў, могуць быць прыняты толькі на вальным сойме. На практыцы ўхвала аб забароне злучэння ўрадаў ніколі паслядоўна не выконвалася. Яна, аднак, з'яўлялася вельмі грознай зброяй у руках шляхты ў барацьбе з магнатэрыяй. Дакладна большае значэнне мела пастанова аб экзекуцыі землеўладанняў. Шматлікія каралеўскія землі ў выглядзе часовых альбо пажыццёвых трыманняў ("дзяржаў") на працягу XV – пачатку XVI ст. прысвоілі сабе розныя магнацкія роды. На Пётракаўскім сойме былі таксама ўхвалены высокія стаўкі падаткаў і рэкамендавана збіраць назапашаныя запазычанасці, на тры гады назад перасоўваючы ўсе звальненні ад мытаў і падаткаў.

Пастановы сойма 1504 г. ставілі сваёй мэтай рэарганізацыю цэнтральнай улады ў Польшчы пасля няўдалага кіравання сената (аб гэтым гл. далей). У 1505 г. адбыўся сойм у Радоме, на якім рэформа дзяржаўнага кіравання была працягнута. Большасць ініцыятыў, якія атрымалі станоўчае рашэнне, зыходзілі ад шляхты. Праз актыўную працу на сойме яна імкнулася займець большы ўдзел у кіраванні дзяржавай, дзе раней у пераважнай меры вяла рэй арыстакратыя. На Радомскім сойме прысутнічалі і прадстаўнікі гарадоў. У дачыненні да іх былі прыняты спецыяльныя ўхвалы. Была скасавана, у прыватнасці, забарона набыцця мяшчанамі земскіх землеўладанняў.

Аднак найважнейшым вынікам Радомскага сойма з'яўлялася прыняцце славутай канстытуцыі *nihil novi* ("нічо-

га новага"). Яна стала надзвычай важным этапам у развіцці польскага парламентарызма. У залежнасць ад згоды караля, сената і пасольскай ізбы траплялі не толькі падатковыя рашэнні, але і заканадаўчыя ініцыятывы, якія датычыліся правоў і свабод шляхты. Гэты заканадаўчы акт канчаткова аформіў існаванне двухпалатнага парламента. Шляхецкія дэлегаты, сабраныя ў пасольскай ізбе, вярталіся да пазіцый, якія яны мелі падчас панавання Яна Ольбрахта. З іншага боку, сенат беззваротна губляў сваё становішча, занадта пахваляючыся той уладай, якую ён займеў дзякуючы Мельніцкаму прывілею (аб ім шырэй на старонках, прысвечаных праблеме ўніі Польшчы і Літвы). Зрэшты, акт, прыняты ў Мельніку, быў у Радоме адкінуты. Важнасць акту *nihil novi* палягала перадусім на тым, што заканадаўчая ўлада, якая раней фармальна знаходзілася ў кампетэнцыі соймікаў, цяпер пераходзіла да вальнага сойма. Што датычыць уладных паўнамоцтваў і прэрагатыў манарха, то яны абмяжоўваліся ў вобласці выдання новых законаў, а ў асаблівасці — накладанні новых падаткаў. Кароль, аднак, захоўваў усю паўнату выканаўчай улады з правам выдання распараджэнняў. Ён таксама мог рэгуляваць звычаёвае права асобных зямель і рэгіёнаў.

Вось у такім выглядзе скліканы ў Радоме сойм канчаткова вырашыў праблему захавання моцнай каралеўскай улады, з якой не маглі справіцца ўжо першыя Ягелоны. Як аказалася, захаваць яе было немагчыма і манарх быў павінен ісці на саступкі. У ходзе барацьбы паміж арыстакратыяй і каралём паявіўся трэці чыннік — шляхта. Менавіта ў ёй кароль пачаў усё больш выразна шукаць апоры ў сваіх дзеяннях па ўмацаванні ўлады. Каб палегчыць цэнтралізацыю і ўніфікацыю дзяржавы, быў даведзены да канца збор усіх законаў і прывілеяў у адзіны звод. Ён атрымаў назву Статутаў Ласкага і быў разасланы па судах ва ўсёй Польшчы. У далейшым гэты звод стаў прававым падмуркам для руху сярэдняй шляхты ў першай палове XVI ст., вядомага пад назвай "экзекуцыя правоў".

Для таго каб перамены ў краіне маглі ажыццяўляцца згодна з рашэннямі Радомскага сойма і яго найважнейшага акта — канстытуцыі *nihil novi*, быў патрэбны моцны і рашучы ўладар. Аднак тут прыхільнікам рэформ не пашанцавала. Кароль Аляксандр, атрымаўшы на сойме ў Радоме ўдар інсульту, усё больш знемагаў і ў рэшце рэшт памёр 20 жніўня 1506 г. Яго астатнія намаганні, асабліва пры адсутнасці дзяцей-спадкаемцаў, былі накіраваныя на тое, каб забяспечыць трон свайму брату Жыгімонту, які да гэтых пор знаходзіўся ў ценю. Новы гаспадар не рашыўся працягваць ранейшую палітыку. Ён хутчэй выступаў за саюз са старой арыстакратыяй. Пасля прызначэння Яна Ласкага на пасаду гнезненскага арцыбіскупа ён мог пасадзіць на вызваленае месца канцлера свайго чалавека, якім быў Крыштаф Шыдлавецкі. Так чынілася і з іншымі ўрадамі. Жыгімонт I быў манархам гаспадарлівым і высокаадукаваным, але малаэнергічным, лёгка трапляючым пад чужое ўздзеянне. На жаль, людзям вакол яго найчасцей былі цікавы толькі свае інтарэсы і карысці. У такіх варункахкожны праект новых пераўтварэнняў, прыкладам, рэформы скарбу і войска, сутыкаўся з супрацівам не толькі шляхецкай апазіцыі, але і магнацкага атачэння манарха[1]. Яно папросту адчувала пагрозу ад усялякіх спроб узмацнення пазіцый караля. Менавіта ў гэтым заключалася прычына няўдач унутранай палітыкі Жыгімонта I.

Звяртаючыся да ўнутраных працэсаў у Польскай дзяржаве, варта прысвяціць трохі ўвагі гаспадарчым аспектам. Гэта дазволіць нам убачыць, у якой эканамічнай сітуацыі Польшча падыходзіла да ваеннага змагання з Масквой у якасці саюзніка Літвы. Перыяд польска-літоўскай уніі — гэта час вялікіх сацыяльных і эканамічных перамен. Узмоцненая

---

[1] Зацікаўленыя чытачы адсылаюцца да працы: Wyczański A. Z dziejów reform skarbowo-wojskowych za Zygmunta I // Przegląd Historyczny. 1952. T. XLIII.

хаўрусам з Вялікім княствам Літоўскім, ягелонская Польшча мела магчымасці для больш шпаркага і шырэйшага развіцця. Асаблівы ўздым гэтага росту пачаўся з моманту скасавання дамінацыі магнатэрыі, што адкрыла дарогу павелічэнню ўплываў шляхты.

Гэтае ўзмацненне палітычнага значэння шляхецкага саслоўя ў структуры дзяржавы паляпшала для яе ўмовы для пашырэння землеўладанняў і набыцця таннай працоўнай сілы. Менавіта шляхта ўсё мацней дабівалася стварэння магчымасцей для больш эфектыўнага і прыбытковага гаспадарання на "ўласным двары". Гэта асабліва добра было відаць у сельскай гаспадарцы[1]. Доўгі час яна развівалася ў форме, прынятай у ранейшыя часы — асадніцтве на нямецкім праве[2]. Пад канец XV ст. паявіліся выразныя тэндэнцыі павелічэння феадальных уладанняў. Адбылося падзенне вартасці грошай пры адначасовым росце жыццёвых патрэб рыцарскага саслоўя. Чыншавага падатку, які да гэтых пор плацілі сяляне сваім панам, перастала хапаць. Каб палепшыць фінансавае становішча, падымаліся стаўкі павіннасцей і пашыраліся абшары землеўладанняў. Якраз з канца XV ст. у гаспадарчым жыцці Польшчы зацвярджаецца фальваркава-паншчынная гаспадарка, якая тры наступныя стагоддзі з'яўлялася дамінуючым элементам у структуры сельскагаспадарчага жыцця краіны.

Падобныя працэсы ахапілі ў тыя часы і значную частку суседніх краін. Па вялікім рахунку, уся Цэнтральная і Усходняя Еўропа ўваходзіла ў перыяд развіцця паншчыннай гаспадаркі. Гэтыя перамены абышлі бокам Заходнюю Еўропу, дзе "першую скрыпку" грала мяшчанства. У выніку ў эканамічным развіцці еўрапейскага кантыненту паўстаў своеасаблівы дуалізм. Гэтыя два светы не сапернічалі паміж

---

1 Grodecki R., Zachorowski S., Dąbrowski J. Op. cit. S. 437.

2 Больш падрабязна пра праблему асадніцтва на нямецкім праве гл.: Zientara B. Henryk Brodaty i jego czasy. Warszawa, 1998.

сабою, а наладзілі супрацоўніцтва, давёўшы яго да пэўнай ступені ўзаемазалежнасці. Першапачаткова сельскагаспадарчыя краіны атрымлівалі з такога стану рэчаў больш непасрэдных выгодаў. Аднак з часам аказалася, што менавіта Захад развіваецца больш хутка ў эканамічным плане. Спецыялізацыя Польшчы як сельскагаспадарчай краіны паставіла яе ў залежнасць ад замежнага капіталу.

Паспяховае развіццё фальваркава-паншчыннай гаспадаркі было ўзаемазвязана з паступовым ростам прыгоннай залежнасці сялян ад шляхты. З цягам часу гэта прывяло да падзення ўзроўню жыцця сялянства і, як наступства, да абмежавання попыту на тавары, якія выраблялiся ў гарадах. Вытворчасць тут пачала губляць стымулы для развіцця. Вынікі сталі відочныя толькі ў пазнейшыя часы, калі выраб прадукцыі на месцах альбо ўпаў, альбо трапіў у залежнасць ад замоваў шляхты. Пагаршэнне становішча сялянства пацягнула за сабой і іншыя наступствы, якія адыгралі велізарную ролю ў будучыні. Так, адпрацоўка паншчыны з'яўлялася адным з найменш эфектыўных відаў працы. Яна выконвалася пад прымусам, які не меў нічога агульнага з матэрыяльным стымуляваннем. Нягледзячы на тое, што вялізныя абшары, якія займалі шляхецкія і магнацкія фальваркі, гарантавалі адпаведна значныя прыбыткі, вядзенне экстэнсіўнай гаспадаркі ў іх давала меншыя зборы ўраджаю, чым у краінах, дзе паншчыны не было. Насуперак агульнапрынятым сцвярджэнням, сельская гаспадарка Польшчы не была ў першых шэрагах на міжнароднай арэне. Усё часцей адбываліся ўцёкі сялян з-за звышвысокага прыгнёту. Яны перасяляліся на неабжытыя тэрыторыі, ствараючы групы вольных людзей. Формай абароны ад панскага прыгнёту, акрамя ўцёкаў, таксама сталі выступаць сялянскія паўстанні. Фальваркава-паншчынная гаспадарка вяла да значнага маёмаснага расслаення. Гэта, у сваю чаргу, стварала вялікую прорву паміж living рознымі групамі тагачаснага грамадства. Селянін усё менш цікавіўся палітычным жыццём краіны.

Пад інтарэсамі народу разумеліся шляхецкія інтарэсы, таму для сялянства яны рабіліся чужымі і абыякавымі. Як моцна гэта паўплывала на развіццё Польшчы, мы ведаем з пазнейшай гісторыі.

XVI ст. амаль ва ўсёй Еўропе было часам вялікай кан'юнктуры на сельскагаспадарчую прадукцыю. Дынамічнае развіццё таварна-грашовай гаспадаркі і рост багацця мяшчан павялічвалі попыт на прадукты харчавання[1]. Першапачаткова якраз такі ўнутраны гандаль, а не экспарт за мяжу, вызначаў дабрабыт шляхты. У інтарэсах феадалаў было як мага мацнейшае прывязванне селяніна да зямлі. Яму ўскладнялі свабоду перамяшчэння і павялічвалі павіннасці. Недахоп працоўных рук з'яўляўся адной з важнейшых праблем у працэсе стварэння фальваркаў. Цяжкасці ўзнікалі і з-за адсутнасці патрэбнай колькасці прылад працы для апрацоўкі зямлі і збору збожжа. Шляхта не валодала неабходнымі сродкамі для інвестыцый. Нават трымаючы вялізныя маёнткі, яна пакутавала ад недахопу грошай. З гэтых прычын у фальварках рэдка прымянялася найманая праца. Затое ў большых памерах, чым гэта было прадугледжана мясцовымі лакацыйнымі актамі, выкарыстоўвалася паншчына. Яна дапаўнялася толькі найманай працай чэлядзі і каморнікаў, а таксама загроднікаў.

Паншчына, прынамсі на некаторы час, вырашала праблему сродкаў вытворчасці, якія з'яўляліся ўласнасцю працуючых на палях сялян. У сваю чаргу, яны, выкарыстоўваючы спрыяльную сітуацыю на рынку, звязаную з вялікім попытам на збожжа, пачалі весці больш інтэнсіўную гаспадарку. Дзякуючы гэтаму лішкі прадукцыі яны маглі прадаваць купцам. Мацнейшае прывязванне да зямлі дасягалася шляхам урэзвання альбо пазбаўлення сялян іх правоў. Гэтаму спрыяў, як мы ўжо ведаем, і мэтанакіраваны пераход шляхты да ўмацавання сваіх палітычных пазіцый за кошт іншых саслоўяў.

---

[1] Gierowski J. A. Historia Polski 1505—1764. Warszawa, 1989. S. 24.

Пад канец XV ст. значна ўзраслі даходы сацыяльных груп, якія бралі непасрэдны ўдзел у сельскагаспадарчай вытворчасці — мяшчанства і заможнага сялянства, у той час як прыбыткі самой шляхты спынілі свой рост. Паявілася пагроза збяднення шляхты, і яна была вымушана прыняць меры для абароны свайго эканамічнага, сацыяльнага і палітычнага становішча. Таксама верагодна, што дынамічнае развіццё фальваркава-паншчыннай гаспадаркі было звязана з паступовай адмовай ад паспалітага рушэння на карысць найманага войска. Гэта давала шляхце магчымасць засяродзіцца на сельскагаспадарчай вытворчасці[1]. Пад фальваркавыя ўгоддзі браліся ў першую чаргу неасвоеныя абшары зямель, якія знаходзіліся ў руках паноў яшчэ да часоў каланізацыі. Часам пазбаўлялі пасады солтыса і яго маёнткі далучалі да створанага фальварку. Калі-некалі адбіраліся землі, якія належалі сялянам. Яны абменьваліся на горшыя альбо меншыя кавалкі. Уплывовыя магнацкія роды дзеля павелічэння абшару сваіх землеўладанняў карысталіся наданнямі караля, а таксама карчавалі лясы, якія фармальна належалі да скарбу дзяржавы. Такая дзейнасць і, у прыватнасці, бяспраўнае прысваенне і перадача ў спадчыну маёнткаў, нададзеных толькі на акрэслены час ("да жывата"), да пачатку XVI ст. прыводзілі да выразнага змяншэння каралеўскага дамену. А ён, знаходзячыся ў карыстанні шляхты, з'яўляўся найвялікшым комплексам землеўладанняў у краіне.

Варта ў гэтым месцы адзначыць, што фальваркі атрымалі развіццё перш за ўсё ва ўладаннях шляхты, перадусім яе "сярэдняга класу". Інакш выглядала справа ў каралеўскіх і духоўных маёнтках, а таксама на дварах заможнай шляхты. Там фальваркі выступалі адназначна радзей, што было звязана з цяжкасцямі непасрэднага надзору. Развіццё свецкай уласнасці адбывалася па-рознаму ў кожным з рэгіёнаў

---

[1] Ibid. S. 25.

Польшчы. Тэрыторыя Вялікапольшчы была заселена ў большасці земскімі ўласнікамі, якія валодалі адной вёскай, хаця, натуральна, здараліся і выпадкі, калі адзін уладальнік меў некалькі, а то і не адзін дзясятак вёсак. У Мазовіі існавала дробная зямельная ўласнасць, дзе аднаму ўладальніку магла належаць толькі частка сяла. Найбольш вялікія ўладанні знаходзіліся ў Малапольшчы. Феадалы з гэтай правінцыі атрымлівалі велізарныя масівы зямель, якія налічвалі дзясяткі вёсак, у прыватнасці, на Украіне. Можна, аднак, прыняць, што ў асноўным на тэрыторыі ўсёй краіны пераважалі шляхецкія маёнткі, якія складаліся з адной вёскі. Такая шляхта нагадвала сваім ладам жыцця хутчэй разбагацелых сялян.

Нягледзячы на аднолькавае прававое становішча, канец XV — пачатак XVI ст. характарызаваўся сур'ёзнымі адрозненнямі ў маёмасным стане сельскага насельніцтва. Некаторыя гаспадары валодалі больш чым адным ланам зямлі. Солтысы гаспадарылі на яшчэ большых абшарах. Каля іх у той жа час усё часцей узнікалі групы малазямельных альбо беззямельных сялян — загроднікаў і каморнікаў. Яны часта зараблялі на жыццё некантраляваным сельскім рамяством, наймаліся на працу як у шляхецкія маёнткі, так і да заможных сялян, млынароў ці карчмароў. Вельмі распаўсюджанай стала з'ява выкарыстання пакінутых угоддзяў заможным сялянствам. Такія гаспадары распараджаліся вялізнымі масівамі апрацаваных зямель, пераўзыходзячы нярэдка сваім багаццем дробную шляхту.

Фарміраванне і ўмацаванне фальваркава-паншчыннай гаспадаркі, зразумела, паўплывала на эканамічныя адносіны ў гарадах. Скіраванне высілкаў значнай часткі насельніцтва на сельскагаспадарчую вытворчасць не спрыяла, аднак, паўнавартаснаму развіццю іншых галін. Мяшчане прадпрымалі ўласныя гаспадарчыя ініцыятывы ці працягвалі ісці далей па выбраным шляху. На гэта ўплываў агульны рост дабрабыту. У прынцыпе, без праблем развівалася ра-

месная вытворчасць. Шляхецкі кантроль над цэнамі на рамесныя тавары, які функцыянаваў на падставе ўхваленых у 1496 г. ваяводскіх ставак, асабліва не шкодзіў.

Адной з асноў багацця гарадоў заставаўся гандаль, як унутраны, так і знешні, асабліва калі на Захадзе з'явіўся вялікі попыт на збожжа. Разам з паяўленнем і развіццём фальваркавай гаспадаркі буйныя гарады, якія налічвалі больш за 5 тысяч жыхароў, сталі цэнтрамі рэгіянальных рынкаў. У межах гэтых рэгіёнаў развіваўся абмен, усталёўваліся шчыльныя кантакты з суседзямі. Вялікую ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі Кракаў, Гнезна, Познань. У XVI ст. да іх далучылася Варшава і, у асаблівасці, Люблін. Паўсюдна былі вядомыя знакамітыя люблінскія кірмашы. Шырокую вядомасць мелі таксама кірмашы ў Гнезне, Ленчыцы, Яраславе. З другой паловы XV ст. пачала сваё фарміраванне структура знешняга гандлю, характэрная для гаспадарчага развіцця Польшчы наступныя 200 год. Кошты тавараў, якія вывозіліся на Захад марскім ці сухапутным шляхам, з часам у шмат разоў перавысілі кошты імпартаванай прадукцыі. Разбагацеўшая шляхта і мяшчанства большасць прыбыткаў аддавалі на набыццё прадметаў раскошы. Пэўная іх частка ператваралася ў зберажэнні ў каштоўных металах, а часткова — ішла на прамысловыя інвестыцыі.

Агульны дабрабыт гарадоў, звязаны з выгаднай сітуацыяй на заходніх рынках, не вырашаў унутраных праблем, з якімі змагалася мяшчанская супольнасць. Ніжэйшыя слаі — паспольства — у пераважнай меры былі польскага паходжання. Патрыцыят, заможнае купецтва і багацейшыя рамеснікі — у асноўным іншаземцы. З гэтых прычын, спаміж іншага, час ад часу ўсчыналася барацьба за ўладу, падаграваная нацыянальнымі адрозненнямі. Аднак, нягледзячы на гэта, паланізацыя найвышэйшых слаёў гарадскога насельніцтва адбывалася досыць хутка, асабліва ў Малапольшчы.

Адной з найбольш вострых праблем у гарадскім асяроддзі з'яўляліся падаткі. Гэта датычылася перадусім тых

мяшчанскіх сем'яў, што пачалі ўзбагачацца, але не былі прадстаўленыя ў структурах гарадской улады, якая жорстка і бязлітасна збірала падаткі, выкарыстоўваючы атрыманыя прыбыткі на ўласныя патрэбы. Прадстаўнікі новых родаў, якія падымаліся ўгару, прадпрымаючы якія-кольвек дзеянні супраць гарадской Рады, заўсёды маглі разлічваць на вечна незадаволенае паспольства. А для яго дадатковым чыннікам абвастрэння стасункаў з патрыцыятам з'яўляліся вялічэзныя адсоткі ад выдаваных крэдытаў[1].

Аднак агулам можна прыняць, што польскія гарады ў гэты час адносіліся да катэгорыі заможных. І гэтая заможнасць мела выраз не толькі ў багацці асобных людзей, але праяўлялася ў стане гарадскога бюджэту. Гарады стварылі ўласную скарбовую сістэму. Даходы здабываліся не толькі дзякуючы вядзенню гаспадаркі, але таксама браліся з манаполій, адміністрацыйных і гаспадарчых пошлін, гарадскіх падаткаў. Дзякуючы ўсім гэтым захадам у вялікіх гарадах канцэнтраваліся вельмі значныя сумы грошай. Гэта стварала магчымасці для крэдытавання. Гарады альбо найзаможнейшыя мяшчане пачалі забяспечваць наяўнымі грашыма не толькі прыватных асоб, але таксама дзяржаву і манарха. Найбольш вядома такой дзейнасцю фамілія Бонэраў. Менавіта яны стварылі ў Кракаве першы банк, які абарочваў сродкі, досыць значныя як на польскія варункі. На жаль, узбагачэнне ў дзяржаве слаба ўплывала на фінансавы стан каралеўства. Каралеўскі скарб быў вычарпаны і расстроены яшчэ ў часы Уладзіслава III Варненскага. Паляпшэннем яго стану паміж іншых спраў спрабаваў займацца Казімір Ягайлавіч. Але ён не адважыўся на фундаментальную рэформу скарбу і задавольваўся сродкамі, якія давалі толькі часовы эфект. Не лепей, па старых узорах, дзейнічалі Ягелоны, якія сядзелі на польскім і літоўскім троне пасля яго. У далейшым часе адзінымі сталымі крыніцамі фінансавання,

---

[1] Samsonowicz H. Historia Polski do roku 1795. Warszawa, 1990. S. 127.

якія меў кароль, з'яўляліся даходы з землеўладанняў, здабычы солі і волава, манетнага двара, мытаў і падатку на нерухомасць. Нягледзячы на тое, што гэтых крыніц было даволі шмат, даходы з іх былі нерэгулярныя і нізкія. Яны аддаваліся пад заклад (у заставу) па меры патрэбы. Мноства старостваў былі альбо цалкам аддадзеныя, альбо часткова абцяжараны на доўгія гады наперад. У заставу перадаваліся таксама мыты і падатак на нерухомасць. Распаўсюджанай з'явай з'яўлялася перадача даходаў, у асноўным з зямельных маёнткаў, у якасці ўзнагароды за заслугі — на вызначаны час альбо да канца жыцця. Гэта вяло ў рэшце рэшт да ўстанаўлення надзвычайных падаткаў. Яны сталі асабліва "папулярныя" ў гады Трынаццацігадовай вайны і з тых часоў шырока выкарыстоўваліся на практыцы.

Падаткі найчасцей ухваляліся ў выпадку пагрозы іншаземнага нападу. Надзвычайныя падаткі накладваліся таксама на духавенства. Гэта быў г.зв. *subsidium haritativum*, які ўхваляўся сінодам. Зразумела, нездавальняючы стан скарбу адмоўна ўплываў на ваенны патэнцыял дзяржавы. У Польшчы павінны былі адбыцца карэнныя перамены ў арганізацыі ўзброеных сіл і як вынік — адмова ад архаічнага паспалітага рушэння на карысць прафесійных падраздзяленняў найманых жаўнераў (аб саміх зменах і прынцыпах ваеннага мастацтва Новага часу гл. далей). У рэшце рэшт гэта прыводзіла да стварэння сталага войска, няхай невялікага па колькасці, але здольнага супрацьстаяць татарскім і турэцкім набегам, якія ўсё больш узмацняліся.

Сталае войска было немагчыма нават уявіць без рэформы скарбу. Праўду кажучы, раз-пораз паяўляліся галасы за ўхваленне пастаянных падаткаў на фарміраванне і ўтрыманне 5500 вершнікаў і 1000 пяхоты. Аднак на практыцы спробы хоць часткова рэалізаваць такую задуму не прадпрымаліся. Існавала боязь накладвання на сябе занадта моцнага фіскальнага цяжару, а таксама ўзмацнення каралеўскай улады ў выніку паяўлення сталага войска і ігнаравання інтарэсаў

шляхты як у справах унутраных, так і знешніх. А гэта, у сваю чаргу, адкрыла б шлях стварэння абсалютнай манархіі. Здаецца, кароль Жыгімонт I і яго дарадцы імкнуліся менавіта такім чынам пазбавіцца ад патрэбы звяртацца ў пасольскую ізбу. Падобных прыкладаў было шмат амаль па ўсёй Еўропе. У выніку няўдач па стварэнні сталага войска прадпрымаліся спробы ў выпадку неадкладнай патрэбы ратаваць становішча вярбункам часовых аддзелаў альбо ўзмоцненым націскам на "несмяротны" абавязак паспалітага рушэння. Падобным прыкладам можа служыць ардынацыя Пётркаўскага сойма 1477 г. Згодна з ёй, неабходна было ўрэгуляваць забеспячэнне жаўнераў з вайсковым рыштункампраз гарады і духавенства, належным чынам спраўджваць выхад у войска убогай шляхты, а таксама вырваць з корнем злоўжыванні, звязаныя з кіроўнымі функцыямі ў войску. Але гэта былі толькі паўмеры, якія не апраўдвалі надзей на паляпшэнне сітуацыі. Разам з нарастаннем пагрозы на паўднёва-ўсходніх межах на соймах зноў паявіліся прапановы стварыць моцную найманую армію. Такія праекты вылучаліся некалькі разоў на соймах у 1517–1522 гг. Аднак яны адразу згортваліся, як толькі аказвалася, што спатрэбіцца правесці ўсеагульную рэвізію маёнткаў. Гэта выклікала супраціў і пратэсты малапольскай шляхты. Яе падтрымала арыстакратыя, якая найбольш магла пацярпець ад новых метадаў падаткаабкладання.

Правядзенне вайсковай рэформы было б лягчэйшай справай, калі б знайшліся сапраўдныя асобы, здольныя яе рэалізаваць на практыцы. У тагачаснай Польшчы бракавала такіх людзей, а маладзейшыя яшчэ не здабылі той павагі, якая б дапамагла ім у такой пачэснай справе. Сапраўды здольныя военачальнікі сустракаліся рэдка. Ваенныя таленты значнага маштабу, вялікія палкаводцы ў другой палове XV — пачатку XVI ст. не паявіліся. Польскія ініцыятывы ў вайсковай справе з гэтых прычын у большасці выпадкаў ажыццяўляліся з цяжкасцямі, няўклюдна і нярэдка без выніку.

Знешнімі прычынамі нетрывалай моцы польска-літоў-

скай дзяржавы былі перамены, якія адбываліся ў суседзяў ягелонскіх манархій. На шляху паспяховага развіцця Рэчы Паспалітай стаяла мноства перашкод і супярэчнасцей. Адной з іх з'яўлялася ўсё больш небяспечная Турцыя са сваімі васаламі. Пасля авалодання Канстанцінопалем і значных поспехаў на Балканах у 1475 г. туркі здабылі Кафу — калонію Генуі ў Крыме. У 1484 г. захапілі малдаўскія порты Белгарад-Днястроўскі і Кілію, якія гралі значную ролю ў гандлі Польшчы з Усходам. У Польшчы адразу заўважылі небяспеку на паўднёва-ўсходнім памежжы. Ацанілі таксама наступствы для гаспадаркі, якія адсюль вынікалі. Ужо ў наступным годзе Казімір Ягайлавіч арганізаваў выправу на Малдавію. Яму нават удалося сабраць досыць значнае войска. Выправа не скончылася нейкім эфектным поспехам, войска не дабралася да Белгарада і Кіліі, не сустрэлася на полі бою з туркамі. Аднак была атрымана палітычная перамога ў выглядзе васальнага падпарадкавання Малдавіі Польшчы. Да гэтых пор Малдавія стаpaлася ўтрымліваць прыязныя стасункі з Польшчай, але заўсёды пільнавала свой суверэнітэт. Толькі турэцкая пагроза прымусіла малдаўскага гаспадара канкрэтна вызначыцца з дачыненнямі з Польскім каралеўствам. У адваротным выпадку ён не мог разлічваць на дапамогу ягелонскага войска. З гэтых прычын гаспадар Стэфан склаў ленную прысягу каралю Казіміру Ягайлавічу, што адбылося ў Каламыі ў 1485 г. На падставе заключанага пагаднення Стэфан абавязваўся быць саюзнікам польскага караля і аказваць яму пры неабходнасці ваенную дапамогу. Ён абяцаў не распачынаць вайны і не заключаць міру без узгаднення з польскім манархам. Той са свайго боку павінен быў бараніць Малдавію перад любым ворагам. Кароль абавязваўся аказаць любую дапамогу ў выпадку, калі б гаспадара скінулі з трона. Як ужо згадвалася, да сутыкнення польскага войска з туркамі не дайшло. Дакладных прычын такога развіцця падзей мы не ведаем. Так ці інакш, Казімір даў Стэфану некалькі тысяч наймітаў пад камандаваннем Яна Карнкоўскага. Пры іх чынным удзе-

не гаспадару ўдалося разбіць туркаў у лістападзе 1485 г.

Тымчасам Турцыя пачала пагражаць польскай дзяржаве з іншага боку. Пасля захопу Кафы яна падпарадкавала сабе прычарнаморскіх татар, якія стварылі Крымскае ханства. Ужо ў 1482 г. татары здзейснілі балючы набег на ўсходняе памежжа Польшчы. 8 верасня 1487 г. супраць новага набегу татар выступіў Ян Ольбрахт, разбіўшы іх пад Копыстырынем на Падоллі. Аднак ён не мог забяспечыць сваёй дзяржаве трывалай бяспекі з гэтага боку. Да таго ж крымскія татары сталі саюзнікамі Масквы ў змаганні з Літвой і Польшчай. Такая сітуацыя схіляла Казіміра Ягайлавіча да пошуку партнёраў сярод прыволжскіх татар. Новыя клопаты з'явіліся ў 1487 г., калі малдаўскі гаспадар Стэфан Вялікі заключыў мір з Турцыяй, абавязваючыся плаціць высокія штогадовыя "памінкі". Падпарадкаванасць Малдавіі Польшчы была скасавана. З гэтага часу гаспадар імкнуўся лавіраваць паміж Польшчай, Турцыяй і Венгрыяй. У выніку Малдавія стала ў бліжэйшыя гады полем саперніцтва трох дзяржаў. Пад канец свайго жыцця, у 1489 г., Казімір Ягайлавіч забяспечыў Польшчу двухгадовым перамір'ем з Турцыяй. Яго дзеянне ў наступныя гады працягвалася.

Ваеннае рашэнне турэцкай праблемы прадпрыняў Ян Ольбрахт. Да гэтага яго штурхаў не толькі ўласны тэмперамент, але перш за ўсё добра ўсвядомленыя палітычныя і эканамічныя інтарэсы дзяржавы. Падрыхтоўчыя дзеянні — як дыпламатычныя, так і ваенныя — цягнуліся некалькі гадоў. Ян Ольбрахт імкнуўся падрыхтавацца да выправы належным чынам, таму патрабаваў адпаведнай падтрымкі ўнутры каралеўства. Яна чакалася ад шляхты, дзякуючы якой Ян Ольбрахт у вялікай ступені стаў каралём Польшчы. Уладар вырашыў падтрымаць памкненні шляхты, якія датычыліся ўнутрыпалітычнай сферы. Такі падыход азначаў змяншэнне ўплываў арыстакратыі і іншых саслоўяў. Як паслядоўны палітык, Ян Ольбрахт пацвердзіў каралеўскія прывілеі для шляхецтва. Гэта мела месца на з'ездзе ў Пётракаве ў

1493 г. На ім жа былі ўхвалены падаткі для выкупу каралеўскіх уладанняў і дадзена згода на вайну з туркамі і татарамі.

Каб выправа супраць Турцыі была паспяховай, неабходна было прывесці да ўзгодненага ўзаемадзеяння ўсе ягелонскія дзяржавы. У 1492 г. было заключана пагадненне з Уладзіславам. Згодна з ім, абодва манархі аб'ядноўвалі свае сілы супраць туркаў, а ў сакрэтным дадатку прысягалі аказваць узаемную дапамогу супраць непаслухмяных і збунтаваных падданых. Да малдаўска-турэцкай праблемы бакі вярнуліся на дынастычным з'ездзе Ягелонаў у Левочы ў 1494 г. У ім узялі ўдзел, акрамя Яна Ольбрахта і Уладзіслава, караля Чэхіі і Венгрыі, каралевічы Жыгімонт і Фрыдрых, а таксама іх швагер Фрыдрых Гогенцолерн. Тэмай перамоў з'яўляліся ўскладненні адносін Уладзіслава з Габсбургамі і ўнутраныя патрасенні ў каралеўстве Святога Стэфана. Зразумела, як ужо згадвалася, абмяркоўвалася і турэцкая праблема, а разам з ёй і стаўленне да Малдавіі. Ёсць падставы меркаваць, што ў гэты час паявіўся праект перадачы гаспадарскага трона Жыгімонту, чый лёс пасля смерці Казіміра Ягайлавіча не быў вызначаны. Такую прапанову, верагодна, вылучыў Уладзіслаў як старэйшы з роду. Падобная пастаноўка пытання, відавочна, не магла спадабацца венгерскай арыстакратыі. Яна непакоілася за страту венгерскіх уплываў у Малдавіі і ўмяшальніцтва Венгрыі ў канфлікт з Турцыяй. Можна здагадвацца, што перамовы зайшлі ў тупік менавіта з-за турэцка-малдаўскай праблемы. Што датычыць Жыгімонта, то яму ў той час было прызначана прускае намесніцтва (аб гэтым — далей). Выправа з мэтай авалодання прычарнаморскімі портамі без канкрэтнага плана дзеянняў у дачыненні да Малдавіі была немагчымая. Неабходна было рашыцца альбо на падтрымку, альбо на адсоўванне з трону гаспадара Стэфана. Але ўсё засталося вісець у паветры. Адзіным вынікам з'езду стала пагадненне паміж Янам Ольбрахтам і Уладзіславам, у якім абодва манархі абяцалі падтрымаць адзін аднаго ў выпадку бунту

падданых. Яны пагадзіліся таксама прытрымлівацца мірных стасункаў паміж Венгрыяй і Польшчай.

Як бачна, гэтыя пастановы разыходзіліся з дамовай 1492 г. Былі абыдзены маўчаннем узаемныя дзеянні супраць туркаў. Такім чынам, агульная акцыя ягелонскіх дзяржаў не бралася пад увагу. Акрамя таго, сабраныя падаткі на вайсковыя патрэбы аказаліся недастаковымі. З-за гэтых прыкрых няўдач Яну Ольбрахту нічога іншага не заставалася, як шукаць з туркамі па меншай меры перамір'я. Яно было заключана 28 чэрвеня 1494 г. Зрэшты, самі туркі прапаноўвалі падпісаць яго яшчэ годам раней.

Ян Ольбрахт, зразумела, не адмовіўся ад барацьбы з Асманскай імперыяй. Пачатак 1497 г. працякаў пад знакам ваенных і фінансавых прыгатаванняў да выправы. Планавалася здзейсніць яе адразу пасля сканчэння перамір'я. Кампанія распачалася ў жніўні 1497 г. З ваеннага пункту гледжання яна была значным мерапрыемствам. Дастаткова сказаць, што ў войска было сабрана 80 тысяч жаўнераў і 30 тысяч падвод. Апрача паспалітага рушэння, удалося сфарміраваць немалы найманы кантынгент, а таксама прыцягнуць дапаможныя сілы з Мазовіі і ад крыжакоў. На жаль, няўдачай адразу абярнуліся палітыка-дыпламатычныя дзеянні. Нягледзячы на шматразовыя захады, Яну Ольбрахту не ўдалося схіліць да ўдзелу ў выправе свайго брата Уладзіслава, караля Чэхіі і Венгрыі. У апошнюю хвіліну палякі зноў звярнуліся да Венгрыі і яе караля з просьбай б падтрымцы. Кароль, аднак, у гэты час знаходзіўся ў Чэхіі, а ўладу ў Венгрыі пакінуў нядобразычліваму ў дачыненні да Польшчы, і ў асаблівасці — Яна Ольбрахта, Іштвану Запольяі. Адказ быў адмоўны. Венгерскі бок спасылаўся на існуючы мір з Турцыяй. У Польшчы разлічвалі таксама на дапамогу іншага брата караля — Аляксандра. Вялікі князь літоўскі быў зацікаўлены ў наступе на туркаў. Гэта магло аслабіць крымскіх татар, саюзнікаў Масквы. Аляксандр вырушыў на чале войска, але да Малдавіі не дайшоў з-за адкрытага супраціву літоўскіх маг-

натаў. Гэтая выправа скончылася на Валыні.

Аднак галоўнай прычынай беспаспяховага сканчэння ваеннай кампаніі супраць Турцыі была пазіцыя ненадзейнага малдаўскага гаспадара. Стэфан не толькі не ўзаемадзейнічаў з войскам Яна Ольбрахта, але нават не захоўваў нейтральных паводзін. Спачатку ён пагадзіўся на пераход польскага войска праз малдаўскія землі. Ён пакінуў за сабой права злучыцца з польскай арміяй толькі над Дунаем. І слова свайго не стрымаў. Здаецца, што адной з прычын менавіта такіх паводзін гаспадара была боязь, што падчас выправы ў Турцыю кароль Польшчы захоча пазбавіць яго ўлады і на малдаўскі трон паставіць каралевіча Жыгімонта. Малдаўскі гаспадар непрыемна здзівіў польскае камандаванне. 17 жніўня перад польскім каралём сталі малдаўскія паслы і абвясцілі, што Стэфан ёсць падданым султана. Яны запатрабавалі вываду польскага войска з тэрыторыі Малдавіі. Такія паводзіны абурылі Яна Ольбрахта. Ён загадаў арыштаваць паслоў і адаслаць у Львоў. Гэта быў не самы годны караля і рыцарскага кодэкса ўчынак, але ніхто Яна Ольбрахта не асудзіў. Гаспадар тымчасам здзейсніў дыверсійную акцыю, накіраваўшыся на Пакуцце. Выправа Яна Ольбрахта мусіла абраць новы кірунак — замест Чорнага мора яна павярнула на Сучаву, сталіцу Малдавіі.

Ваеннае і палітычнае становішча польскага манарха з-за такога нечаканага абароту падзей стала даволі складаным. Але яно яшчэ не было безнадзейным, у асаблівасці калі б удалося давесці аблогу Сучавы да паспяховага завяршэння. Польская армія мела значную перавагу над малдаўскім войскам, якому дапамагалі малалікія турэцкія і трансільванскія атрады. Аднак Сучава мела славу непрыступнай крэпасці.

Гэта быў замак па форме, зблізканай да падковы, які стаяў на высокім узвышшы, абкружаны магутнымі мурамі з вежамі і ровам[1]. Нягледзячы на ўсе намаганні, аблога гара-

[1] Pajewski J. Buńczuk i koncerz. Warszawa, 1978. S. 50.

да была няўдалай. Абстрэл даў нязначныя вынікі. Насупраць найбольш моцных муроў з паўднёвага боку былі ўсталяваны цяжкія гарматы, з якіх фартыфікацыйныя ўмацаванні закідваліся вогненнымі ядрамі. Сапраўдная лавіна камянёў падала на сучаўскія сцены. Але ўзламаць іх не ўдалося. Драбнейшыя пашкоджанні гарнізон крэпасці выпраўляў unaчы. Паявілася праблема недахопу харчавання, давозу якой перашкаджаў сам Стэфан, заўчасна адступіўшы на поўдзень. Польскае войска нібыта апынулася між двух агнёў. З аднаго боку знаходзіўся сучаўскі замак, які мужна бараніўся ад аблогі, з іншага непакоілі пастаяннымі ўдарамі атрады, якія стаялі на поўдні. Стала відавочнай поўная непрыдатнасць паспалітага рушэння — асновы польскіх узброеных сіл. Магчыма, аблога скончылася б поспехам, калі б не прыезд венгерскага пасольства, якое заявіла пратэст супраць нападзення на малдаўскага гаспадара, ленніка каралеўства Святога Стэфана. Адначасова пасольства выказала падазрэнні ў тым, што кароль пад прэтэкстам вайны з Турцыяй мае намер пасадзіць у Малдавіі Жыгімонта. З малдаўскім гаспадаром было заключана перамір'е, з-пад Сучавы трэба было вяртацца дахаты з абцятым хвастом.

На чале адваротнай выправы ішло паспалітае рушэнне з Вялікапольшчы. За ім цягнулася артылерыя і каралеўская гвардыя, а сярод яе ехаў хворы на ліхаманку манарх. Затым маршыравала паспалітае рушэнне з Малапольшчы. Тыльную ахову складала найманае войска і невялікі дапаможны атрад з крыжакоў. Паход адбываўся ў атмасферы разняволенасці. Войска згаладалася, людзей касілі хваробы. Не былі прыняты нават элементарныя меры асцярожнасці. Дарога назад не праходзіла ў спакоі. Быў абраны іншы шлях замест таго, які быў прапісаны ў перамірнай дамове. Для малдаван гэта паслужыла падставай для зрыву перамірных дамоўленасцей. 26 кастрычніка 1497 г. каралеўская армія апынулася ў букавінскіх лясах каля сяла Козьмін. Яна ішла па доўгім яры, і там тыльныя падраздзяленні польскага войска былі атака-

ваны малдаванамі, валахамі і татарамі. Гэты нечаканы ўдар у нязручным для абароны месцы прывёў да поўнага разгрому наймітаў і крыжакоў. Пасля гэтага непрыяцельская лёгкая конніца і пяхота ўдарылі па малапольскіх жаўнерах, якія таксама былі вымушаны скарыцца пераважваючым сілам ворага. У гэты момант надышла дасланая каралём для адпору надворная каралеўская харугва — гвардыя[1]. Магутная атака цяжкай кавалерыі прывяла да панічных уцёкаў непрыяцеля з поля бітвы. Далейшы шлях адбываўся сярод пастаянных дробных udaраў малдаўскага войска. Польская армія ад часу букавінскай засады ішла прыспешаным маршам.

Няўдача пад Козьмінам асабліва не паўплывала на ход выправы, а яе маштабы пазней былі моцна перавялічаны[2]. Насуперак сцвярджэнню, што "ў часы караля Ольбрахта шляхта вынішчылася", страты ў людзях былі нашмат меншыя, чым пазней уяўлялася. Сапраўды, было згублена каля 6 тысяч падвод, але затое выратавана амаль уся артылерыя. Так ці інакш, кароль вяртаўся на радзіму хворы і стомлены, са здэмаралізаваным войскам. Турэцкая выправа нават без спаткання з туркамі на полі бою скончылася фіяска.

Зразумела, Турцыя не магла не скарыстацца шанцам ударыць па аслабленай Польшчы. У 1498 г. адбыўся напад туркаў з удзелам татар. Увесну са згоды султана Баязэта дваццацітысячнае турэцкае войска прыбыло на Днестр і пад Хоцімам пераправілася на паўночны бераг ракі. Пасля кароткага адпачынку нападнікі рушылі ў свой знішчальны паход. На Падоллі былі здабытыя Чорткаў і Рагатын. 13 мая туркі з'явіліся пад Львовам. Тут яны, аднак, задаволіліся толькі спальваннем прадмесцяў. У гэты ж час два перадавыя турэцкія атрады дасягнулі Санока і Ланцута. Амаль нідзе туркі не сустракалі супраціву. Склікане каралём пас-

[1] Kroniki Bernarda Wapowskiego z Radochoniec / Red. J. Szujski. T. II. Kraków, 1874. S. 30.

[2] Grodecki R., Zachorowski S., Dąbrowski J. Op. cit. S. 465.

палітае рушэнне сабралася толькі ўлетку. Выключэннем стала сутычка з палякамі пад Пшэмыслем. Пасля гэтага турэцкая армія спакойна, без перашкод адступіла з польскай тэрыторыі. Чарговы набег, які быў непасрэдным наступствам малдаўскай выправы, адбыўся восенню гэтага ж года. Заахвочаныя поспехам папярэдняй вылазкі, туркі паявіліся ў лістападзе ў складзе 20 тысяч лёгкай конніцы. Рэйд турэцкага войска на гэты раз ішоў праз Галіч, Жыдачаў, Драгобыч, Санок. Жыхары атакаваных зямель хаваліся ў гарах і ўмацаваных месцах. Зноў туркі паявіліся пад Львовам. На шчасце, надыходзячая хуткімі тэмпамі зіма прывяла да паспешлівага адступлення турэцкага войска. На гэты раз ім не ўдалося закончыць выправу паспяхова. Каля Днестра надышлі моцныя маразы, з-за якіх загінула значная частка жаўнераў. Тыя, хто ацалеў, падвергліся нападу малдаван падчас пераправы праз Прут. З усяго войска жывымі засталося не больш 400 чалавек. Гэты набег у рэшце рэшт схіліў караля і сойм да арганізацыі сталай абароны з ліку найманых жаўнераў. Аднак сродкі, здабытыя на гэтыя мэты, не дазволілі выставіць патрэбную колькасць вайскоўцаў для абароны польскіх межаў перад чарговымі турэцкімі нападамі ў 1499 і 1500 гг.

Таму неадкладна патрэбнымі былі захады па замірэнні з Турцыяй. У першую чаргу былі ўрэгуляваны стасункі з Венгрыяй, якая лічыла малдаўскага гаспадара сваім васалам і вайну з ім трактавала як парушэнне ўласнага нейтралітэту. Удалося залагодзіць канфлікт 1498–1499 гг., да якога прывяла такая пазіцыя. Быў адноўлены мір паміж Польшчай і Венгрыяй. Згодна з ім, з гэтага часу абедзве дзяржавы павінны былі весці вайну альбо заключаць мір з Турцыяй выключна на аснове двухбаковага пагаднення. Польшча была вымушана прыняць умову Венгрыі, што не будзе шукаць рэваншу з малдаўскім гаспадаром за яго здрадніцкія дзеянні ў 1497 г. і наладзіць з Малдавіяй мірныя адносіны. Амаль адразу былі прадпрыняты перамовы з туркамі. Улетку 1499 г. адбыла-

ся дыпламатычная місія Мікалая Фірлея ў Турцыю з прапановай замірэння. Пасольства было прынята добразычліва, і на пачатку 1500 г. Фірлей вярнуўся назад разам з турэцкімі пасламі, якія везлі прапановы ў справе перамір'я. Неабходнасць канчатковага паразумення з Венгрыяй у выніку заключэння нядаўняга пагаднення трохі замарудзіла вырашэнне спраў з Турцыяй. Пакуль выконваліся ўсе фармальнасці, адышоў на той свет Ян Ольбрахт. Яго пераемнік Аляксандр прадоўжыў перамовы і паспяхова іх завяршыў.

9 кастрычніка 1503 г. канчаткова было падпісана пяці гадовае перамір'е паміж Польшчай і Турцыяй. Перамірнае пагадненне пакідала прычарнаморскія порты, Белгарад і Кілію, у руках Турцыі. Нягледзячы на тое, што перамовы зацягнуліся, мірныя адносіны з Турцыяй фактычна існавалі ўжо некалькі год. Такі стан рэчаў захоўваўся на працягу доўгага часу. Пытанне ўмяшальніцтва Польшчы ў сферу турэцкіх інтарэсаў засталося закрытым. На адмову польскага боку паўплывалі як няўдачы ў бітвах, так і пазіцыя суседніх краін. Было вырашана пакінуць прычарнаморскія порты ў турэцкіх руках, таму што іх вяртанне патрабавала занадта вялікіх намаганняў. Гэта станавілася праблематычным асабліва з улікам тых пагроз і выклікаў, перад якімі сталі Польшча і Вялікае княства Літоўскае. Складанай справай аказалася каардынацыя польскай і венгерскай палітыкі ў дачыненні да Турцыі. Трэба таксама памятаць, што Стэфан Вялікі не адмовіўся ад прэтэнзій на Пакуцце. Гэта стала ў далейшым іскрай для разгарання новага канфлікту.

Менавіта Пакуцце, лясісты край, які ляжаў у паўднёвай частцы Рускага ваяводства паміж Днестрам, Быстрыцай, Карпатамі і малдаўскай мяжой, было каменем нязгоды ў польска-малдаўскіх дачыненнях. Калі Стэфан Вялікі даведаўся пра смерць Яна Ольбрахта, ён вырашыў паказаць яго пераемніку Аляксандру, што менавіта Малдавія, а не Польшча, мае поўныя правы на Пакуцце. Каб дэманстрацыя намераў была паўнавартаснай, ён здзейсніў рабаўнічы напад на

спрэчную тэрыторыю. У гэты час на ўсходзе ішла літоўска-маскоўская вайна, з-за чаго кароль Аляксандр не меў магчымасці належным чынам зрэагаваць на падзеі. Ён не хацеў таксама праз хуткапальныя дзеянні сапсаваць стасункі з гаспадаром, імкнуўся паводзіць сябе ў дачыненні да Стэфана па-згодніцку. Малдаўскі гаспадар, набраўшыся смеласці ад такога стаўлення польскага караля, заняў Пакуцце восенню 1502 г. Малдаўскія атрады, пераправіўшыся праз Днестр, у сваіх дзеяннях нават падышлі да Камянца-Падольскага.

Становішча Польшчы крыху палепшылася пасля смерці Стэфана Вялікага ў 1504 г. На троне ў Сучаве сеў яго сын Багдан III Аднавокі. Польшча вырашыла ўмяшацца ў малдаўскія ўнутраныя справы і пры спрыяльных абставінах забраць сабе Пакуцце. Гаспадар Багдан не быў адзіным прэтэндэнтам на трон у Сучаве. На Падоллі, у замку Зінькаў жыў іншы кандыдат — Пётр, унук колішняга ўладара Малдавіі Пятра Арона. Каб пазбавіцца грознага канкурэнта, Багдан паспрабаваў злавіць яго ў свае рукі. З гэтай мэтай на Падолле быў высланы атрад, які налічваў некалькі соцень жаўнераў. У канцы снежня 1504 г. яны напалі на Зінькаў. Аблога замка, аднак, была няўдалай, бо на дапамогу прыбыло фарміраванне польскай паточнай абароны. Польскае войска перамагло малдаван у сутычцы пад сценамі зінькаўскага замка. Гэтая маленькая, але вельмі патрэбная перамога, аднак, не была выкарыстана да канца. Аляксандр замест таго, каб распаліць грамадзянскую вайну ў Малдавіі праз ваенную падтрымку Пятра, закрыў вочы на гвалт на польскай тэрыторыі. Ён задаволіўся прапановамі Багдана, які імкнуўся да збліжэння з польскай дзяржавай, знаходзячыся пад моцным ціскам шляхецкай апазіцыі і ўсведамляючы жаданне Турцыі поўнасцю падпарадкаваць сабе Малдавію. Каб зрабіць гэтае збліжэнне рэальным, ён прапанаваў за руку Лізаветы, сястры караля Аляксандра, вярнуць Польшчы Пакуцце. Польскі бок прапанову прыняў, але не збіраўся прытрымлівацца заключанага пагаднення. У Сучаву было накіравана польскае па-

сольства, якое папрасіла Багдана ў знак шчырасці сваіх намераў спачатку вярнуць Пакуцце. Паводле пасольскай прамовы, яно было б перададзена назад Малдавіі ў якасці шлюбнага пасагу каралеўны. Гаспадар прыняў такія ўмовы і пачаў рыхтавацца да вясельных урачыстасцей. Ён выслаў нават у Венецыю купцоў, каб тыя закупілі для каралеўны Лізаветы шлюбныя падарункі.

У Польшчы тымчасам памёр кароль Аляксандр. Гэта цалкам развязала рукі польскім сенатарам, якія яшчэ вагаліся, ці трымаць слова, дадзенае Багдану. Ідэяй шлюбу была таксама незадаволена Лізавета. Пасля смерці караля яна катэгарычна запярэчыла будучаму вяселлю. Багдан быў абражаны і на пачатку верасня стаў чыніць напады на тэрыторыю Падолля. Зразумела, малдаване не прамінулі авалодаць неабыякавым для іх Пакуццем.

У прадчуванні хуткай развязкі малдаўскага канфлікту вялікі каронны гетман Мікалай Камянецкі пачаў збіраць харугвы паточнай абароны. У планы ўваходзіла адпраўленне на спрэчную тэрыторыю Пакуцця каля 40 тысяч вайскоўцаў. Аднак, як звычайна, гэтага не дазволіў зрабіць недахоп сродкаў, якія меліся ў наяўнасці. Удалося сабраць толькі 2500 коннікаў, 400 чалавек пяхоты і некалькі гармат. Дадаткова быў створаны атрад вершнікаў колькасцю 60 чалавек, каб сачыць за сітуацыяй на мяжы з татарамі. Акрамя таго, у Камянцы-Падольскім размяшчаўся гарнізон у складзе 200 жаўнераў. Меней чым праз тры тыдні пасля заняцця малдаванамі Пакуцця польскае войска было гатовае да паходу. 29 верасня яно пераправілася праз Днестр і выціснула са спрэчнай тэрыторыі непрыяцельскія атрады. Малдаване зусім не аказалі супраціву. Выключэннем быў толькі гарнізон замка ў Чэсыбесах. Гетман Камянецкі пакінуў пад ім частку сваіх сіл, а з рэштай, у асноўным конніцай, увайшоў на тэрыторыю Малдавіі. Ён рухаўся імкліва, бо ў планах гэта была спусташальная акцыя ў адказ на памежных землях. Адборныя малдаўскія падраздзяленні чакалі польскае вой-

ска ў глыбіні краіны, а на мяжы стаялі паспешна набраныя аддзелы малдаўскага военачальніка Копача. Ён сфарміраваў паспалітае рушэнне, далучыўшы да барацьбы нават сялян. Маючы ў распараджэнні невялікія і даволі малаэфектыўныя сілы, ён вырашыў весці вайну раптоўнымі ўдарамі. З гэтай мэтай ён падрыхтаваў засаду для войска Камянецкага, якое рухалася ўглыб краіны. Непадалёку ад Чарнаўцоў Копач атакаваў авангард польскай арміі, які высунуўся занадта наперад. Дзякуючы колькаснай перавазе малдаван пярэдні атрад быў цалкам разгромлены. Натхнёны перамогай, малдаўскі военачальнік вырашыў дачакацца астатнюю частку польскай конніцы. Ён не чакаў, што польскі камандуючы не дасць сябе застрашыць лёсам авангарда. Ужо на наступны дзень Камянецкі прадпрыняў гвалтоўную атаку на войска Копача. Другая бітва пад Чарнаўцамі закончылася поўным разгромам малдаван, а сам Копач ледзьве выратаваўся. Разбіццё яго фарміраванняў дазволіла Камянецкаму без перашкод спустошыць ваколіцы. Польскія коннікі даходзілі на адлегласць каля 40 кіламетраў ад сталіцы Малдавіі Сучавы. Камянецкі вырашыў, што мэта выправы дасягнута і павярнуў назад, у Польшчу. Гэтая падзея, разам з няспраўджаным шлюбам Багдана і Лізаветы, носіць у польскай гістарыяграфіі найменне "крывавых зашлюбін".

На гэтым праблемы, звязаныя з Малдавіяй, а ў асаблівасці з яе задзірыстым гаспадаром Багданам, не скончыліся. Той зусім не збіраўся пагадзіцца са стратай Пакуцця і не хацеў адмаўляцца ад ідэі жаніцьбы з каралеўнай Лізаветай. У чэрвені 1509 г. ён напаў на Падолле і выдаліў з Пакуцця польскія гарнізоны, тым самым далучаючы гэтыя землі зноў да Малдавіі. Ён спрабаваў авалодаць і Камянец-Падольскім, але магутная крэпасць здолела абараніцца ад яго дзеянняў. З-пад Камянца Багдан вырушыў на Львоў, які яму таксама не ўдалося здабыць. Не авалодаўшы замкамі, ён вырашыў нанесці як мага большыя спусташэнні на тэрыторыі Рускага ваяводства. Па дарозе назад ён амаль цалкам вынішчыў Галіцкі павет.

А што ў адказ на дзеянні малдаўскага гаспадара рабіла Польшча? Як і трэба было чакаць, польскія дзеянні былі надта запозненыя. Кароль Жыгімонт I, праўда, склікаў паспалітае рушэнне і распачаў набор найманых падраздзяленняў, але ўсё гэта адбывалася вельмі павольна. У жніўні польска-літоўскае войска ўрэшце сабралася ў Львове. Удалося склікаць даволі значную колькасць жаўнераў — каля 20 тысяч чалавек. У склад арміі ўвайшло паспалітае рушэнне, надворныя харугвы, падраздзяленні паточнай абароны і нованабраныя атрады наймітаў. У Львове камандаванне прыняў на сябе гетман Мікалай Камянецкі. Кароль Жыгімонт па сваёй прыродзе не з'яўляўся ваяром — ён з лёгкай душой перадаў военачальніцкія функцыі, тым больш што ў гэты час яго збіла з ног хвароба. У канцы жніўня войска Камянецкага ўвайшло на землі няшчаснага Пакуцця і зноў выкінула адтуль малдаўскія фарміраванні. Затым польская армія рушыла ўглыб краіны, вынішчаючы і спустошваючы на сваім шляху вялікія абшары Малдавіі. Урэшце Камянецкі апынуўся пад Сучавай. Аблога добраўмацаванай крэпасці не была паспяховай, таму было вырашана вяртацца дахаты. Войска Багдана захоўвала адносны спакой, рыхтуючы галоўны ўдар якраз падчас вяртання палякаў на радзіму. Найлепшы момант, па меркаванні гаспадара Багдана, надышоў тады, калі польскае войска перапраўлялася праз Днестр пад Хоцімам. 4 кастрычніка першым праходзіла раку паспалітае рушэнне. Нішто не ўказвала на тое, што пераправе найманага войска можа нешта перашкодзіць. Менавіта ў гэты момант малдаване вырашылі атакаваць. Аднак зрабілі гэта яны не надта разважліва. Найманыя жаўнеры — гэта не разамлелая і свавольная шляхта. Малдаване хутка ўразумелі гэта з усёй відавочнасцю. Войска гаспадара панесла ў гэтай няўдалай для сябе бітве значныя страты і было вымушана паспешна адступіць. Шмат малдаўскіх жаўнераў апынулася ў няволі. У выніку дайшло да перамоў аб перамір'і, якія завяршыліся падпісаннем дамовы ў 1510 г. На падставе яе

ўмоў Багдан адмаўляўся ад Пакуцця і планаў ажаніцца з каралеўнай Лізаветай. Гэты трактат аніяк не згадваў пра васальную залежнасць Малдавіі ад Польшчы. Абодва бакі абавязваліся ўзаемна папярэджваць і абараняцца ад татарскіх і турэцкіх набегаў. Гэтай дамоўленасці малдаўскі бок не выконваў ніколі. Толькі Польшча дапамагла Багдану ў 1511 г., калі Малдавія падверглася нападу з боку Турцыі. Палякі дарэмна чакалі на дапамогу з малдаўскага боку падчас татарскага набегу ў наступным годзе. Тады татарскае войска спазнала паразу пад Вішняўцом, але яна была атрымана без спадзяванай падтрымкі з боку вайсковых атрадаў Багдана.

Сталую і надзвычай вялікую пагрозу для земляў польска-літоўскай дзяржавы ўяўлялі татары. У XV ст. Залатая Арда распалася на некалькі ханстваў, якія спаборнічалі між сабой. Бліжэйшым з іх да Польшчы было Крымскае ханства, дзе панавалі ўладары з дынастыі Гірэяў. Адзін з іх стаў васалам Турцыі, а таксама саюзнікам Масковіі ў змаганні з Вялікім княствам Літоўскім і ўскосна — Польшчай. Яшчэ ў першай палове XVI ст. татары суцэльна вялі качавы лад жыцця. Гадуючы скот, яны былі вымушаны без перапынку вандраваць у пошуку адпаведных пашаў. Такая прымітыўная гаспадарка не заўсёды дазваляла здабыць патрэбныя сродкі для жыцця. З гэтай прычыны амаль штогод, а калі і некалькі разоў на год татары здзяйснялі рабаўнічыя выправы на суседнія, багацейшыя землі Вялікага княства Літоўскага, Польшчы і Маскоўскага княства. Хан рэдка браў асабісты ўдзел у гэтых выправах, часцей пасылаў з імі сваіх сыноў альбо сваякоў. Звычайна з імі было ад некалькі соцень да некалькі тысяч чалавек, з якіх кожны валодаў не адным выдатным канём. Перасаджваючыся падчас паходу з аднаго каня на іншага, татары перамяшчаліся з імклівай хуткасцю. Гэта было адной з прычын паспяховасці выпраў. Тактыку кожнага набегу дапасоўвалі да рабаўнічых мэтаў. Хуткім маршам увайшоўшы ўглыб чужога краю, татары стараліся авалодаць як мага большай здабычай. Перадусім іх цікавіла хатняя жывё-

ла і людзі — г.зв. "ясыр", які яны забіралі з сабой. Менавіта гэты ясыр татары цанілі найбольш. Часам для яго ўтрымання яны адважваліся на бітвы (Вішнявец 1512 г.). Падчас найбольш значных выпраў яны закладвалі на чужой тэрыторыі лагер, альбо "кош". Адсюль яны накіроўвалі ва ўсе бакі малыя атрады для захопу здабычы і палонных. Калі ўсе чамбулы вярталіся ў лагер, татары разбіралі кош і адпраўляліся са здабычай назад у стэп.

Абараняцца ад такога праціўніка было няпроста. На гэта ўплывала некалькі істотных чыннікаў. У першую чаргу, трэба было загадзя даведацца аб планаваным набегу ці хаця б яго пачатку. На татарскім памежжы Польшчы і Літвы была створана адмысловая сістэма аховы, высунутая далёка ў стэп. Калі выяўляліся надыходзячыя чамбулы, ахоўнікі павінны былі як мага хутчэй паведаміць аб гэтым у гарады і мястэчкі, якія ляжалі ў глыбіні краіны на патэнцыяльным шляху татарскіх атрадаў. Галоўным элементам абароны з'яўляліся добраўмацаваныя гарады і замкі. У іх хавалася насельніцтва з ваколіц, пераважна безабаронных вёсак. Зрэшты, засведчаны нярэдкія выпадкі ўмацавання і сельскіх паселішчаў. На прасторы, якая знаходзілася пад сталай пагрозай, мелася няшмат гарадоў і замкаў, абнесеных мурамі. Большасць з іх мела земляныя валы старога тыпу з драўляным частаколам. Іх дапаўнялі равы. Памежныя ахоўнікі ў стэпе ўяўлялі сабою пасіўную форму абароны перад качэўнікамі. Дзейснай абаронай маглі займацца толькі пастаянныя вайсковыя адзінкі, якія дыслацыраваліся на памежжы. Гэтую ролю выконвалі войскі г.зв. паточнай абароны, якія знаходзіліся на польска-татарскім памежжы (аб гэтым падрабязней далей). Дадзеныя сілы, на жаль, былі занадта слабыя, каб цалкам забяспечыць бяспеку Польшчы з гэтага боку. Пры маштабных набегах паспешна фарміравалася найманае войска, а таксама прыцягваліся надворныя харугвы караля і магнатаў. Літва зусім не мела паточнай абароны, яна арганізоўвала ўзброеныя сілы ў рамках г.зв. "абароны зямлі".

Набегі татар былі надзвычай уразлівыя для польска-літоўскіх зямель. Сітуацыю ўскладняла тая акалічнасць, што татары часта ўзаемадзейнічалі з іншымі ворагамі ягелонскіх дзяржаў, прыкладам, з малдаўскім гаспадаром альбо вялікім князем маскоўскім. У такіх выпадках становішча польскіх і літоўскіх зямель рабілася вельмі цяжкім. Давала пра сябе ведаць таксама недасканаласць сістэмы фінансавага забеспячэння войска ў ягелонскіх дзяржавах.

Іншай знешняй пагрозай з'яўляліся Габсбургі, якія імкнуліся збудаваць універсальную імператарскую ўладу. XV ст. — гэта час вяртання Габсбургаў у першы шэраг еўрапейскіх вялікіх дзяржаў. Дынастыя ўмацавала адзінства і вярнула сабе нямецкую карону. Яна здабыла таксама яшчэ не надта цвёрдыя, але важныя правы на чэшскую і венгерскую карону. Гэтак сталася дзякуючы шлюбу Альбрэхта V і Лізаветы, дачкі Жыгімонта Люксембургскага. Апошні з'яўляўся імператарам Святой Рымскай імперыі і каралём Чэхіі і Венгрыі. Калі Жыгімонт у 1437 г. памёр, не пакінуўшы патомкаў, Альбрэхт як муж яго дачкі — законнай спадкаемцы Чэхіі і Венгрыі, абвясціў аб сваіх прэтэнзіях на карону. З гэтых пор Габсбургам прыйшлося весці доўгую, расцягнутую на некалькі пакаленняў барацьбу з Ягелонамі за панаванне ў Цэнтральнай Еўропе. Магутным прадстаўніком дынастыі Габсбургаў быў, бясспрэчна, Максіміліян I. Ён стаў адным з найвялікшых еўрапейскіх уладароў. Ідэі і ўзоры дзяржаўнага развіцця ён браў з эпохі Сярэднявечча. Аднак адначасова ў сваёй палітычнай праграме ён улічваў і павевы Адраджэння. З сярэднявечнага ўніверсалізму выйшла яго задума, сфармуляваная ў канцы жыцця, каб, застаючыся імператарам, прыняць духоўны сан і абрацца на рымскага папу, і тым самым сканцэнтраваць у адных руках уладу свецкую і духоўную. Максіміліян разумеў, што моц улады — гэта не толькі пераможныя войны. Не менш важнай у знешняй палітыцы ёсць высокапрафесійная дыпламатыя, а ва ўнутраным жыцці дзяржавы — эфектыўныя органы

кіравання. Ён не забываўся і аб падтрымцы навукі і мастацтва. Максіміліян, як і ўся габсбургская дынастыя, умеў дасканала карыстацца дынастычнымі повязямі, якія ў выніку далі Габсбургам перавагу ў змаганні з Ягелонамі за дамінаванне ў Цэнтральнай Еўропе. Варта зазначыць, што вялікія дынастычныя планы Максіміліяна абапіраліся на перакананне ў выключнай для ўсёй Еўропы палітычнай ролі дынастыі Габсбургаў. Прыдворныя гісторыкі дастаўлялі яму адпаведныя факты для абгрунтавання гэтага тэзісу. Сярод мноства легендаў аб паходжанні роду імператару найбольш падабалася тая, якая выводзіла яго непасрэдна ад караля Прыяма. Потым праз Энэя і яго патомкаў (гэта звязвала яго з заснаваннем Рыма) род злучаўся з Меравінгамі, і ў выніку ён атрымаў старэйшае права на французскі трон, чым пануючыя цяпер Валуа[1]. Нічога дзіўнага, што ўзброеныя такой ідэалогіяй Габсбургі ўяўлялі вялікую пагрозу і складалі значную канкурэнцыю ягелонскай дынастыі.

Сталай праблемай, з якой былі вымушаны сутыкацца Польшча і Літва, былі адвечныя спрэчкі, канфлікты і войны з Нямецкім Ордэнам. Свавольнасць і ганарлівасць, з якімі валадарылі чарговыя вялікія магістры, прывяла да того, што праблема Прусіі і дачыненняў з ёй паглынала ўсю ўвагу дыпламатыі і ўзброеных сіл Польшчы і Літвы, якія часта былі больш патрэбныя ў іншых раёнах.

Нельга забываць, зразумела, і аб яшчэ адной надзвычай важнай справе для лёсу ягелонскіх дзяржаў — сувязях з Літвой. Не ўрэгуляваныя канчаткова, яны ўяўлялі сабой сур'ёзную праблему, асабліва ў варунках нарастаючага напору Масквы ў рамках рэалізацыі праграмы аб'яднання рускіх зямель. Менавіта гэтым двум пытанням — стасункам з крыжакамі і літвінамі — хацелася б прысвяціць асобныя разважанні.

---

[1] Ibid. S. 109.

## Балтыйскае пытанне — пачатак барацьбы за *dominium maris baltici*

Найбольш пільнай задачай для польскай замежнай палітыкі было ўрэгуляванне крыжацкай праблемы. Так сталася, што перамога пад Грунвальдам не высветліла канчатковага пераможцу, не вырашыла гэтае вострае пытанне, гэтак жа, як і наступныя войны з крыжакамі ў XV ст. Для перамогі ордэнскай дзяржавы Польшчы, як і Літве, дапамаглі перамены ў сістэме функцыянавання ўлады, якія непазбежна набліжаліся. Паяўленне на свет манархій новага кшталту даводзіла, што сярэднявечная форма ордэнскай дзяржавы не мае шанцаў на працяглае існаванне. Дзяржаўны арганізм быў поўны ўнутраных супярэчнасцей. Мясцовае рыцарства сапернічала з крыжацкімі "братамі", якія, як правіла, прыбывалі з Нямеччыны. Ордэн пераставаў быць прэстыжным месцам для заходнееўрапейскіх рыцараў, што ўплывала на прыліў грошай. Гэта, са свайго боку, узмацняла напружанне паміж шляхтай і прускім мяшчанствам, якое было вымушана падпарадкоўвацца ў культурным і этнічным сэнсе чужынцам.

Не зважаючы на гэтыя праблемы, крыжакі пасля другой Торуньскай мірнай дамовы (1466 г.) імкнуліся аднавіць свой патэнцыял і значэнне, якія яны мелі перад Трынаццацігадовай вайной. Яшчэ не высах подпіс пад Торуньскім пагадненнем,

а Ордэн ужо пачаў супраціўляцца каралеўскай уладзе і чыніць перашкоды польска-літоўскай дзяржаве. Вялікі магістр насуперак дамове не спяшаўся складаць васальную прысягу польскаму каралю, з самага пачатку спрабуючы паставіць пад сумненне неабходнасць дакладнага выканання мірнага трактата. Ордэнскія ўлады ў сваіх планах маглі разлічваць на Габсбургаў, Ватыкан і нямецкіх князёў. Ужо ў 1478–1479 гг. выбухнула чарговая польска-крыжацкая вайна. Крыжакі знайшлі паразуменне з настаўленым супраць Ягелонаў каралём Венгрыі Мацьяшам Корвінам. Разлічваючы на тэрытарыяльныя набыткі, яны падтрымалі выбар Мікалая Цюнгена варміньскім біскупам, што супярэчыла волі Казіміра Ягайлавіча. "Вайна святароў" (пад такой назвай яна замацавалася ў гістарыяграфіі), скончылася нічыёй. Пасля заключэння міру паміж Польшчай і Венгрыяй крыжакі разам з Цюнгенам хуценька прызналі ўладу польскага ўладара. Але той пагадзіўся з кандыдатурай біскупа, абранай мясцовай капітулай. Гэтае рашэнне стварыла небяспечны прэцэдэнт. Пасля смерці Мікалая Цюнгена варміньская капітула, не чакаючы згоды польскага караля, абрала ў 1489 г. біскупам Лукаша Ватцэнродэ. Па-новаму распалены канфлікт, аднак, быў спынены смерцю Казіміра Ягайлавіча.

Але праблемы не зніклі. Яшчэ ў гэтым жа годзе (1489 г.) новы вялікі магістр Ян фон Тыффен адмовіўся прыносіць прысягу. Ён адкрыта засведчыў, што не лічыць сябе васалам Польшчы, а з'яўляецца князем Святой Рымскай імперыі і падпарадкоўваецца выключна германскаму імператару. Таруньская дамова яго не датычыла. Такая ганарлівая і варожая пазіцыя Ордэна павінна была выклікаць у Польшчы рашучы адпор. Тут зноў з'яўляецца постаць біскупа Ватцэнродэ. Ён стаў дарадцам Яна Ольбрахта (пераемніка Казіміра Ягайлавіча) па пытаннях Памор'я і Ордэна. Адбягаючы ад тэмы, варта дадаць, што гэты біскуп быў дзядзькам і галоўным апекуном Мікалая Каперніка. Ватцэнродэ, высокаадукаваны юрыст, які добра ведаў хітрадумныя здольнасці

крыжакоў, лічыў, што трэба раз і назаўсёды ўтаймаваць варожыя і небяспечныя для Польшчы захады Ордэна. Гэтага можна было дасягнуць, на думку спрытнага біскупа, выдаліўшы рыцараў з чорным крыжам з прускіх зямель. З'явілася ідэя перамясціць іх на Падолле. Біскуп Варміі пераконваў, што галоўная задача Ордэна — хрышчэнне язычнікаў — у Прусіі ўжо выканана. Затое на Падоллі ён мог бы змагацца ў мэтах абароны хрысціянства з Турцыяй. Удалося атрымаць папярэднюю падтрымку рымскага папы і нават імператара — туркі сапраўды ўяўлялі вялікую пагрозу. У 1484 г. Турцыя захапіла порты Белгарад і Кілію на месцы ўпадзення Дуная і Днястра ў Чорнае мора, тым самым уварваўшыся на малдаўскую тэрыторыю. Гэта пагражала поўнай стратай кантролю над старым гандлёвым шляхам, які злучаў Львоў праз Падолле і Валахію з Чорным морам і далей — Блізкім Усходам.

План перанакіравання крыжакоў на барацьбу з туркамі ўпершыню з'явіўся ў 1464 г. Яны самі, аднак, асабліва не спяшаліся яго ажыццяўляць. Гэтым разам праект вармінскага біскупа быў афіцыйна падтрыманы на дынастычным з'ездзе Ягелонаў у Левочы ў 1494 г. Згодна з прынятымі рашэннямі, каралевіч Жыгімонт павінен быў атрымаць усе ордэнскія землі і сесці на месца вялікага магістра ў Караляўцы[1]. Першаснай задачай было прымушэнне крыжакоў да ўдзелу ў малдаўскай выправе Яна Ольбрахта. На заклік польскага караля, падмацаваны пагрозай прымянення сілы, выйшаў сам магістр Ян фон Тыффен з харугвай. На жаль, параза няўдалай выправы на Валахію перакрэсліла планы вяртання Кіліі і Белгарада, а праз гэта — і доступу да Чорнага мора. Адначасова быў правалены праект перасялення крыжакоў на Падолле. Падчас выправы ў Львове памёр вялікі магістр. Выкарыстаўшы паразу караля, абраны ў 1498 г. новы кіраўнік Ордэна саксонскі князь Фрыдрых адмовіўся прыносіць пры-

---

[1] Wójcicki J. Dzieje Polski nad Bałtykiem. Warszawa, 1986. S. 115.

сягу. Гэта стала нечаканасцю для Яна Ольбрахта, таму што ён спадзяваўся на лаяльнасць Фрыдрыха, свайго швагра. Вялікі магістр адмовіў у прысязе таксама наступніку Яна Ольбрахта — Аляксандру Ягайлавічу (1501–1506 гг.).

Гэта азначала, што крыжакі намерваюцца аспрэчыць Торуньскую дамову, а ў перспектыве ўвогуле ад яе адмовіцца. Пад гэтым, без сумневу, разумелася скідванне з сябе залежнасці ад Польшчы і вяртанне Каралеўскай Прусіі, разам з вусцем Віслы і Гданьскам. Гэта адбывалася насуперак выразнаму супраціву крыжацкіх падданых — лаяльных у дачыненні да ягелонскай Польшчы прускіх саслоўяў. Фрыдрых з Саксоніі, карыстаючыся фармальным падпарадкаваннем ордэнскай Прусіі Ватыкану, завабіў яго ў захады па дэнансацыі Торуньскага міру. Ён пераканаў у сваёй рацыі і імператара Максіміліяна І. Праблема Прусіі набыла міжнароднае гучанне, у асаблівасці на пачатку панавання Жыгімонта І Старога (з 1506 г.).

Найбольш выразна гэта праявілася на з'ездзе ў Познані. Ён адбыўся ўлетку 1510 г. дзякуючы пасрэдніцтву імператарскіх паслоў і брата Жыгімонта — караля Чэхіі і Венгрыі Уладзіслава Ягайлавіча. Прадстаўнікі Ордэна наўпрост паставілі пад сумнеў усе артыкулы Торуньскай дамовы. Яны запатрабавалі вяртання акупаваных Польшчай крыжацкіх зямель, г.зн. усёй Каралеўскай Прусіі. Паслы сцвярджалі, што мір у Торуні быў заключаны пад ціскам і гвалтам. Яны імкнуліся таксама давесці, што мірная дамова супярэчыць ордэнскім законам і прынцыпам свабоды каталіцкай царквы. Крыжакі аспрэчвалі права падданых Ордэна на супраціў. Польскі бок адкінуў усе аргументы сваіх апанентаў. Ён звярнуў увагу на важнасць трактата 1466 г. і ролю папскага легата, прысутнасць якога выключала ўсе патэнцыяльныя пагрозы пры яго заключэнні. Далейшае настойванне Ордэна на сваёй аргументацыі прывяло да спробы змякчыць варункі прысягі вялікага магістра. Фрыдрых павінен быў прыносіць яе Жыгімонту ў канфідэнцыйных абставінах. Аб-

мяжоўваўся таксама абавязак рыцараў аказваць ваенную дапамогу па просьбе караля. Аднак гэтыя рашэнні не задаволілі крыжацкія ўлады. Яны прапанавалі адкласці рашэнне канфлікту на 20 гадоў, без прысягі ў гэты час польскаму каралю. Польскі ўладар адпрэчыў гэтыя патрабаванні, а канфлікт з Фрыдрыхам працягваўся да яго раптоўнай смерці ў снежні 1510 г.[1]

Дастойным пераемнікам Фрыдрыха быў маркграф Альбрэхт фон Гогенцолерн-Ансбах, пляменнік Жыгімонта Старога. Ён карыстаўся падтрымкай імператара, як і ўсяго свайго роду ў Брандэнбургіі. Альбрэхт, зразумела, адмовіўся прыносіць прысягу польскаму каралю. Абапіраючыся то на рымскую курыю, то на імператара Максіміліяна, ён адкладваў вырашэнне канфлікту з Польшчай паводле Торуньскай дамовы. Не паглыбляючыся ў дэталі, якія выходзяць за храналогію нашай тэмы, варта толькі прыгадаць, што Польшчы ў рэшце рэшт удалося вырашыць праблему са сваім паўночным суседам. У красавіку 1525 г. Альбрэхт склаў на рынку ў Кракаве прысягу са спадчыннага княства Прусіі. Ён абавязваўся аказваць ваенную дапамогу, атрымаў тытул польскага сенатара. Польская дзяржава займела права склікання апеляцыйнага суда для вырашэння спрэчак паміж князем і яго падданымі. Так скончыў сваё існаванне Нямецкі (Тэўтонскі) Ордэн, а на яго месцы з'явіўся дзяржаўны арганізм, які, як тады ўяўлялася, складзе бяспеку Польшчы з паўночнага боку. На жаль, як вядома з далейшай гісторыі, такія чаканні аказаліся занадта зманлівымі. Так ці інакш, Ягелоны займелі сур'ёзнае палітычнае значэнне ў балтыйскім рэгіёне.

Як бачна, неабходнасць вырашэння крыжацкай праблемы накіравала ўвагу польскай знешняй палітыкі на прыбалтыйскія тэрыторыі. Аказалася, аднак, што не толькі Польшча хацела ўзмацніць свае пазіцыі ў гэтым рэгіёне. Прусія, а таксама Інфлянты, якія знаходзіліся яшчэ далей на поўначы,

---

Biskup M. Op. cit. S. 260–261.

з'яўляліся ласым кавалкам таксама для Літвы, Масковіі, а пазней — для Швецыі і Даніі. Існавалі перадумовы для не самага накладнага падпарадкавання гэтых зямель. Існуючы тут Ордэн мечаносцаў змагаўся з такімі ж унутранымі праблемамі, як і Тэўтонскі Ордэн у Прусіі. Інфлянцкая шляхта і мяшчанства выступалі супраць яго ўлады. Палітычныя групоўкі, якія не маглі знайсці паміж сабой паразумення, шукалі знешняй падтрымкі. Гэта вяло да ператварэння барацьбы за Інфлянты ў міжнародны канфлікт. Натуральна, ніводзін з бакоў не хвалявалі інтарэсы мясцовых народаў. Ніхто не задумваўся, ці мае латышскае і эстонскае насельніцтва права на ўласную дзяржаўнасць. Зрэшты, прывілеяванае саслоўе ў Інфлянтах складалі немцы. Для краін, зацікаўленых у Інфлянтах, найважнейшымі былі фіскальна-эканамічныя і стратэгічныя інтарэсы. Інфлянты з'яўляліся вельмі важным скрыжаваннем гандлёвых шляхоў, якія злучалі захад і поўнач Еўропы з яе ўсходняй часткай. Кантроль над шляхамі даваў надзвычай вялікія прыбыткі — як мяшчанству, якое ўдзельнічала непасрэдна ў гандлёвых зносінах, так і дзяржаўным уладам.

У гэты час расло палітычнае і гаспадарчае значэнне Балтыйскага мора. Тым больш што ўплыў Ганзы, якая кантралявала паўночныя марскія прасторы да XV ст., падаў. Яе слабасць вынікала, спаміж іншага, з адсутнасці трывалай і канкрэтнай палітычнай апоры. У бок Усходу рваліся наперад галандскія і англійскія капіталы. Гандляры гэтых краін наладжвалі кантакты непасрэдна з гарадамі балтыйскага рэгіёна (Шчэцін, Гданьск, Рыга). Падобным чынам дзейнічалі і прадстаўнікі тых дзяржаў (прыкладам, Польшча і Расія), якія перажывалі перыяд бурлівага развіцця. Палітычная барацьба за дамінаванне ішла ў Скандынавіі, што ў далейшым прывяло да разрыву Кальмарскай уніі (1523 г.). Усе зацікаўленыя краіны імкнуліся авалодаць як мага большымі тэрыторыямі, каб гарантаваць сабе поспех у будучым змаганні за *dominium maris baltici.*

Не трэба здзіўляцца, што менавіта Літва як непасрэдны су-

сед была асабліва зацікаўлена ў падпарадкаванні Інфлянтаў. У Вялікім княстве Літоўскім у гэты час шпарка развівалася сельскагаспадарчая вытворчасць, прызначаная на экспарт. Асабліва важным таварам стала збожжа, якое знаходзіла свой збыт у Рызе і Караляўцы (канешне, і ў польскіх гарадах, такіх як Гданьск, Познань, Люблін і інш.). Каб атрымаць з гандлю збожжам найбольшыя прыбыткі, неабходна было пазбавіцца ад залішняга пасрэдніцтва. Кажучы інакш, трэба было падпарадкаваць Інфлянты Літве альбо супольна — польска-літоўскай дзяржаве. Варта тут зазначыць, што Інфлянты былі заможнай і добра асвоенай у гаспадарчым плане тэрыторыяй. І з гэтай прычыны яны прыцягвалі ўвагу літоўскіх і польскіх паноў як патэнцыяльны раён для эканамічнай экспансіі.

Літву штурхала да здабыцця прыбалтыйскіх зямель яшчэ адна справа — саперніцтва з Масковіяй. Падпарадкаванне Ордэна мечаносцаў рускаму цару палепшыла б умовы гаспадарчага развіцця Маскоўскай дзяржавы і дало б ёй выдатныя магчымасці для камунікацыі з Захадам. Авалоданне Інфлянтаў павялічыла б і так велічэзную пагрозу для Літвы, якая была б ахоплена непрыяцелем таксама і з поўначы. Літвіны імкнуліся любымі спосабамі гэта прадухіліць.

## Унутранае становішча Літвы і праблема ўніі з Польшчай

У перыяд з сярэдзіны XV ст. да сярэдзіны XVI ст. у Літве адбыліся важныя і знамянальныя пераўтварэнні ў сацыяльнай і гаспадарчай сферах. На іх фоне неаднаразова разыгрываліся драматычныя палітычныя падзеі. Літоўская дзяржава з уступленнем на трон Казіміра Ягайлавіча ўвайшла ў эпоху дынамічнага эканамічнага развіцця. Гэта праяўлялася перадусім у значным дэмаграфічным росце і, як наступства — маштабным асваенні новых зямель. У іх недахопу не было. У распараджэнні знаходзіліся абшары на пруска-латышскім памежжы, а таксама былыя землі яцвягаў, якія ляжалі неасвоенымі з-за войнаў з Нямецкім Ордэнам. Гаспадарчае жыццё ў Літве не замірала нават тады, калі літоўская знаць вяла з палякамі спрэчкі наконт уніі, калі на ўсходзе ішлі войны з Маскоўскай дзяржавай. Дынамічна развіваліся гарады і мястэчкі. З паловы XV ст. пачалі паяўляцца цэхі. У гарадах і раней існавалі праваслаўныя рамесныя брацтвы, але яны мелі больш таварыска-рэлігійны характар. З цягам часу рамеснікі сталі ўяўляць моцную па колькасці і трывалую ў арганізацыйным плане супольнасць. Гэта, у сваю чаргу, служыла прычынай барацьбы за ўдзел у гарадскім самакіраванні. Віленскія рамеснікі дамагліся гэтага ў 1536 г.

Спрыяльная кан'юнктура на сельскагаспадарчую прадукцыю, у прыватнасці на збожжа, спрычынілася і ў Літве да шпаркага развіцця гандлю. Развіваўся і досыць даходны гандаль з Масквой, аднак яго ўскладнялі частыя войны. Прыбытковы гандаль быў немагчымы без адпаведнай сельскай гаспадаркі. Зразумела, і ў Літву пранікла фальваркава-паншчынная гаспадарка. Яшчэ да сярэдзіны XVст. панская гаспадарка, заснаваная на працы нявольнай чэлядзі, з'яўлялася для пана галоўнай крыніцай існавання. Невялікія даніны ад малалікага насельніцтва, як і ваенная здабыча, не маглі стаць сродкам утрымання для баярына-шляхціча, які не займаў дзяржаўных пасад. На мяжы XV–XVI стст. панскі двор пачаў ператварацца ў фальварак, які вырабляў тавары на продаж. Прычыны імклівага развіцця фальваркаў у Літве былі дакладна такія ж самыя, як у Польшчы. Агулам можна сказаць, што на гэта паўплываў бурлівы росквіт гарадоў на захадзе Еўропы. У выніку згону землеўладальнікамі сялян з зямлі наступіў крызіс сельскай гаспадаркі. Замест таго, каб трымаць на сваіх угоддзях схільных да непаслухмянасці падданых, паны хацелі займацца гадоўляй авечак альбо вінаробствам. Менавіта гэты спрыяльны для Усходняй Еўропы стан рэчаў і пастаянна ўзрастаючае спажыванне на дварах феадалаў спрычыняліся да павелічэння фальваркавых зямель у Літве. Рэй у пашырэнні старых і заснаванні новых фальваркаў вялі свецкія і духоўныя паны, а таксама сам вялікі князь. Феадалы хутка зразумелі, што даходы з фальваркаў значна перавышаюць даходы з разнастайных павіннасцей, якія неслі сяляне. Стала выгадным скасоўваць альбо змяншаць павіннасці і заахвочваць сялян да паншчыны ў фальварках. Хутка надышло разуменне, што можна адначасова выкарыстоўваць селяніна ў фальварку і павялічыць яго старыя павіннасці. З канца XV ст. стаў пашырацца грашовы чынш, які ў ранейшыя часы выступаў досыць рэдка.

Развіццю вытворчых сіл спадарожнічалі глыбокія перамены ў сферы дзяржаўна-прававых, сацыяльных і экана-

мічных адносін. З часоў заключэння ўніі з Польшчай у Крэве шматлікія выгоды атрымалі баяры. Пасля земскіх прывілеяў 1387, 1413, 1434 гг. наступны важны прывілей выдаў баярам Казімір Ягайлавіч у 1447 г. З гэтых пор яны былі вызвалены ад падаткаў з уласных землеўладанняў. Выключэннем была толькі стацыя, а таксама работы па рамонце і будаўніцтве замкаў. Прывілей адначасова даваў баярам права суда над сваімі падданымі. Гэта пацвярджалася і ўдакладнялася ў прывілеях 1492, 1506, 1529 і 1547 гг. Баяры маглі без перашкод збіраць на свае патрэбы павіннасці са сваіх падданых, атрымаўшы поўную ўладу над імі. Такім чынам, баяры выдзяліліся ў структуры грамадства ў шляхецкае саслоўе.

Як і польская шляхта, яе літоўскі аналаг быў далёкі ад унутранай кансалідацыі. Літоўскую шляхту аб'ядноўвалі агульныя прывілеі, але адрозненні ў стане заможнасці прывялі яе да падзелу на чатыры асноўныя групы. Найбольш нізка ў гэтай іерархіі знаходзіліся г.зв. "дымнікі" і "ўбогая" шляхта. Яны не валодалі падданымі, а на ваенныя выправы выбіраліся пешшу. Вышэй стаяла "акольная" шляхта, якая жыла ў г.зв. колах, адсюль выводзіцца пазней назва ваколіц. Да гэтай другой групы залічвалася таксама засцянковая і заградовая шляхта. Яна валодала некалькімі падданымі, але не была ў стане ўтрымлівацца за кошт сялянскіх павіннасцей. Таму час ад часу яна працавала разам са сваімі сялянамі на палях. Гэта быў найбольшы слой у сацыяльнай структуры баярства. Трэцяй група, таксама шматлікай, была сярэднезаможная шляхта. Яна распараджалася некалькімі дзясяткамі падданых і магла жыць за кошт іх працы. Апошняй, найменшай па колькасці праслойкай была група паноў і князёў, якая мела мноства падданых. Гэтая група налічвала некалькі дзясяткаў чалавек. Яна імкнулася любой цаной мець уплыў на дзяржаўную ўладу і характар дачыненняў Літвы з Польшчай. У сваіх дзеяннях па аваладанні ўладай літоўскія арыстакраты выкарысталі перыяд малалецтва вялікага князя Казіміра, а ў далейшым — доўгія гады яго адсутнасці

ў Вільні. Яны засядалі ў Радзе, трымалі ўсе найважнейшыя пасады — ад намеснікаў і маршалкаў да канцлера. З пачатку XVI ст. яны прэтэндавалі і на біскупскія чыны. У адрозненне ад Польшчы, дзе прынамсі тэарэтычна пільнаваўся прынцып незлучэння пасад у адных руках, літоўскія магнаты не цураліся гэта практыкаваць. Больш за тое, свае пасады яны перадавалі ў спадчыну, што ў выніку прывяло да фарміравання вузкай кіроўнай эліты.

Надзвычай важнай праблемай была цэнтралізацыя дзяржавы. Як і ў выпадку з Польшчай, у Літве гэта было няпростай задачай. Неабходна было больш трывала падпарадкаваць вялікакняскай уладзе землі, якія здавён вялі самастойнае існаванне. Найслабей з літоўскай дзяржавай былі звязаны чарнігаўска-северскія землі і вярхоўскія княствы над Акой, на маскоўскім памежжы. Самастойныя дробныя князі знаходзіліся ў Кобрыне, Пінску, Тураве і Давыд-Гарадку. Асобным правам, якое пацвярджалася земскімі прывілеямі, кіраваліся Полацкая, Віцебская, Кіеўская землі, Падляшша і Валынь. Аднак пераважная большасць баяр была зацікаўлена ва ўдасканаленні дзяржаўнай адміністрацыі і ўтрымання адзінства Літвы. Працэс умацавання дзяржавы павінен быў ісці разам са стварэннем цэнтральных інстытутаў улады і адпаведных урадаў. Падчас праўлення Казіміра сфарміравалася паны-рада. Такі орган існаваў у Літве яшчэ пры Міндоўгу. У той час ён, аднак, не меў канкрэтна акрэсленых паўнамоцтваў і быў дарадчым органам. На працягу другой паловы XV ст. адбылося яго пераўтварэнне ў самастойную структуру, якая магла дзейнічаць незалежна ад манарха. Рада кіравала дзяржавай ад імя ўладара ў яго адсутнасць. У яе склад уваходзілі віленскі і жамойцкі біскупы, а таксама ўсе высокапастаўленыя вяльможы (дыгнітары) і прызначаныя вялікім князем земскія і дворскія ўраднікі. Кампетэнцыі радных паноў санкцыянаваў прывілей 1492 г., выданы Аляксандрам Ягайлавічам. Згодна з ім, без згоды Рады нельга было ўхваляць новыя законы. Гэты прывілей пацвердзіў у 1506 г. Жыгімонт I.

Для стварэння моцнай дзяржавы былі неабходны пасады службовага, бюракратычнага тыпу. Гэта павінны былі быць урады, а не толькі ганаровыя тытулы, якія час ад часу выкарыстоўваліся пры аказанні паслуг дзяржаве ці яе ўладару. Найбольшае значэнне сярод ураднікаў займеў канцлер. Ён дзейнічаў ужо з сярэдзіны XV ст. і займаўся не толькі вялікакняскай канцылярыяй, але і знешнепалітычнымі справамі. З сярэдзіны XV ст. паявіліся таксама ўрады земскага і дворнага падскарбія. На пачатку XVI ст. сфарміраваўся ўрад гетмана, што было звязана са сталым удзелам Княства ў войнах. Некаторыя ўрады — прыкладам, маршалак — мелі свае карані аж у часах Вітаўта. Маршалкі выконвалі судовыя функцыі, а таксама займаліся прыёмам і адпраўленнем пасольстваў.

Працэс цэнтралізацыі літоўскай дзяржавы адбываўся па польскім узоры. У рамках узмацнення цэнтральнай улады фарміраваўся інстытут вальнага сойма. Гэта адбывалася ў эпоху Казіміра Ягайлавіча. Паводле агульнай задумы, сойм павінен быў стаць органам, які прадстаўляў інтарэсы баярства ўсяго ВКЛ. У рэчаіснасці аказалася, што вальны сойм з'яўляўся рэпрезентантам найзаможнейшай групы літоўскіх магнатаў. У ранейшы час — ужо ў XIV ст. у Літве, а яшчэ раней на рускіх тэрыторыях — адбываліся абласныя соймы. Вальны сойм, як і ў Польшчы, займаўся ўнутранымі справамі, у галоўнай ступені звязанымі з ухваленнем падаткаў. Але ў яго кампетэнцыю ўваходзіла таксама выказванне меркаванняў па праблемах знешняй палітыкі. Усеагульны па задуме ўдзел баяр у пасяджэннях сойма з цягам часу абмежаваўся іх азнаямленнем з ухваламі, прынятымі магнацтвам. Такі стан рэчаў панаваў на мяжы XV–XVI стст. Аднак ужо з сярэдзіны XVI ст. баярства пачало дамагацца выразна большага ўдзелу ў соймавых пасяджэннях. Зрэшты, ужо падчас правядзення г.зв. палявых соймаў, якія збіраліся падчас паспалітага рушэння (прыкладам, у 1507 г.), шляхта, прымаючы масавы ўдзел у абмеркаванні праблем, пачала аказваць сур'ёзны ўплыў на іх ход.

Агульнавядома, што цэнтралізацыя дзяржавы не можа быць паспяховай без уніфікацыі права на тэрыторыі ўсёй краіны. Да гэтых пор асобныя землі, якія ўваходзілі ў склад літоўскай дзяржавы, кіраваліся асобным заканадаўствам, гарантаваным адпаведнымі прывілеямі. У 1434 і 1437 гг. былі выдадзены прывілеі для баярства, якія дзейнічалі ва ўсёй краіне. Неабходнасць кадыфікацыі права рабілася неадкладнай справай. У 1468 г. Казімір Ягайлавіч выдаў спіс судовых нормаў. Г.зв. "Судзебнік" мог бы стаць гонарам літоўскай дзяржавы, калі б не той факт, што ён датычыўся у асноўным пытанняў, звязаных з крадзяжамі сялян. Толькі ў 1529 г. Жыгімонт І зацвердзіў падрыхтаваны літоўскімі і рускімі знаўцамі права І Літоўскі Статут. У ім змяшчаліся, акрамя норм публічнага і грамадзянскага права, палажэнні, якія ахоўвалі шляхецкую зямельную ўласнасць ці, кажучы агулам, інтарэсы баяр. Палажэнні Статута ў пераважнай ступені абапіраліся на прывілеі, якія літоўская шляхта атрымала ў 1413, 1434, 1447, 1492 і 1506 гг. Такім чынам, Літва мусіла крыху больш пачакаць кадыфікацыі права, чым Польшча. Як вядома, у Польскім каралеўстве ўжо на пачатку XVI ст. дзейнічалі г.зв. "Статуты Ласкага".

Як ужо казалася раней, у ВКЛ рэй у палітыцы адназначна вялі заможныя паны — магнацтва. Увесь надзвычай важны працэс цэнтралізацыі адбываўся перадусім з улікам інтарэсаў гэтай малалікай сацыяльнай групы. Гэта выразна адрознівала Вялікае княства Літоўскае ад Польшчы ці нават Масковіі. У Польшчы цэнтралізацыя дзяржавы праходзіла з невялікімі адхіленнямі пад лозунгам "шляхецкай дэмакратыі". У Маскоўскім княстве, у сваю чаргу, гэты працэс ажыццяўляўся ў мэтах узмацнення самадзяржаўнай улады вялікага князя-цара. Панаванне магнацтва не прынесла Літве нічога добрага. У дзяржаве правіў гвалт заможных паноў, існавала бяспраўе. Па краіне гойсалі збройныя дружыны, якія сілай імкнуліся ажыццявіць цэнтралізатарскія планы. Трансфармацыя баяр з супольнасці рыцараў у земян-

ства, якое пільнавала перадусім свае гаспадарчыя інтарэсы, спрычынілася да страты магутнасці літоўскай дзяржавы. Па меры таго як старая літоўская ваяўнічасць адыходзіла ў нябыт, як баярства пачало перакоўваць мячы на плугі, падала і значэнне Літвы ў рэгіёне як моцнага гульца. Гэта асабліва было відаць па дачыненнях з Польскім каралеўствам і адвечным ворагам — Маскоўскім княствам.

Стасункі паміж Польшчай і Літвой ніколі не складваліся бясхмарна. У абедзвюх краінах існавалі такія грамадскія групы, якія заўсёды знаходзілі нейкія супярэчнасці ў польска-літоўскіх дачыненнях. Каб зразумець гэтыя ўнійныя праблемы, трэба звярнуцца да часоў перад векапомнай уніяй у Крэве.

Літоўцы, прусы, яцвягі, жамойты і латышы належаць да адной балцкай моўнай групы. Усе гэтыя плямёны спазналі на сабе неаднаразова напады Нямецкага Ордэна. Прусы і яцвягі былі вымушаны раней за іншых скарыцца смяротным дамаганням тэўтонаў. Латышы, у сваю чаргу, трапілі ў залежнасць ад Ордэна мечаносцаў. На полі бою засталіся жамойты і літоўцы, якім удалося абараніць сваю незалежнасць. У вялікай ступені за гэта яны павінны дзякаваць прыродным умовам. Эфектыўнай абарончай тактыкай, майстэрствам і трываласцю асабліва вызначаліся жамойты, на якіх крыжакі ціснулі з надзвычайнай сілай.

На пачатку сярэднявечнай эпохі ў Літве і Жамойці пачалі ўтварацца пляменныя структуры. Ужо ў другой палове XII ст. літоўскія плямёны ўзаемадзейнічалі падчас абарончых мерапрыемстваў супраць знешніх нападаў, перадусім з боку Русі. Здзяйсняліся таксама супольныя ўдары па суседзях — на тэрыторыі Латвіі, куды прыязджалі немцы, на Русь і Польшчу. У гістарыяграфіі стваральнікам Літоўскай дзяржавы прынята лічыць Міндоўга. Ён заключыў саюз з крыжакамі, якія падтрымалі яго памкненні атрымаць у Ватыкана каралеўскую карону (1253 г.). Міндоўг хрысціўся, аднак не здолеў правесці хрысціянізацыю ўсёй дзяржавы.

Зрэшты, у канцы жыцця ён адрокся ад новай веры і саюза з Ордэнам. Міндоўг не спыніўся на аб'яднанні этнічнай Літвы і распачаў працяглы працэс захопу рускіх зямель. Русь знаходзілася пад татарскім ярмом, і літоўская экспансія так ці інакш азначала вызваленне ад яго. Літоўскія ўладары пераважна захоўвалі рускія інстытуты ўлады і звычаі. Праўда, замест старых мясцовых князёў яны часта садзілі ўласных альбо адданых сабе ўладароў. Літоўцы-язычнікі не пераследавалі праваслаўных. Яны не знішчалі культурныя набыткі Русі, наадварот, самі паддаваліся яе ўплыву. Да канца XIV ст. Літва авалодала значнымі тэрыторыямі на Русі. У залежнасць ад літоўскіх князёў трапілі Наваградак, Гародня, Полацкая і Віцебская землі, Палессе, Валынь, Падолле, вялізныя прасторы Кіеўскай Русі, Севера-Чарнігаўская і Смаленская землі.

У першай палове XIVст. літоўская дзяржава стала надзвычай важным палітычным чыннікам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Асабліва заўважна на становішчы краіны адбілася праўленне Гедыміна. Літва ўзмацнела ў эканамічным і вайсковым плане. Паміраючы ўзімку 1341/1342 гг., вялікі князь Гедымін падзяліў сваю дзяржаву паміж сямю сынамі. На вялікае княжанне ў Вільні быў вызначаны Яўнут. Ён, аднак, аказаўся няўдалым спадкаемцам. Магло здацца, што Літва, як многія раннефеадальныя еўрапейскія манархіі, увойдзе ў перыяд раздробленасці. Аднак становішча Літвы на міжнароднай арэне не дазволіла гэта зрабіць. Утрыманне і пашырэнне літоўскіх уладанняў на Русі было неабходна перадусім для адпору крыжацкай агрэсіі, а таксама прэтэнзій з боку Польшчы і Масквы[1]. Неўзабаве вялікакняскую ўладу пераняў Альгерд, які правіў сумесна з малодшым братам Кейстутам. Паспяхова ажыццяўляючы экспансію на ўсходзе, Літва з цяжкасцямі стрымлівала напор грозных крыжакоў. Было відавочна, што натуральнай мэтай Нямецкага Ордэ-

---

[1] Ochmanski J. Historia Litwy. Wrocław, 1990. S. 54.

на, з'яднанага з інфлянцкім Ордэнам мечаносцаў, будзе аваладанне Жамойцю, якая з'яўлялася своеасаблівым мастом паміж Прусіяй і Інфлянтамі. Язычніцкая Літва не разглядалася крыжакамі як тэрыторыя місіянерскай апекі. Для рыцараў яна з'яўлялася свайго роду палігонам для беспакаральных нападаў. Гэта вабіла не толькі крыжакоў, але і мноства іншаземцаў, якія прыбывалі з Захаду.

Пасля смерці Альгерда ў 1377 г. вялікакняскую ўладу атрымаў Ягайла. Кейстут спачатку прызнаў гэтае рашэнне. Аднак досыць хутка паявіліся спрэчныя моманты, якія датычыліся стаўлення Ягайлы да крыжакоў. Справа ў тым, што Ягайла ў 1380 г. у Давыдзішках заключыў з Ордэнам г.зв. "вечны мір". Кейстут такое рашэнне не падтрымаў, у выніку разгарэўся канфлікт. Магутная літоўская дзяржава перажывала сур'ёзны крызіс. Пад узрастаючым ціскам крыжакоў слабелі магчымасці супраціву літвінаў. Дастаткова сказаць, што ў 1345–1382 гг. на 96 крыжацкіх нападаў Літва правяла ў адказ толькі 42 выправы на крыжацкія ўладанні.

На ўсходніх межах Літва таксама пачынала адчуваць сябе няўпэўнена. Нарастала небяспека, што ўтрымаць у залежнасці ад сябе рускія землі будзе складанай задачай. Масковія паступлова рабілася сур'ёзным канкурэнтам Літвы. Ініцыяваная ёю палітыка збірання рускіх зямель супярэчыла інтарэсам літоўскай дзяржавы, якая раней за Маскву пачала яднаць Русь пад сваёй уладай. Аднак у аб'яднальнай палітыцы Масковія мела перавагу над літоўскімі князямі — язычніцкая Літва была чужой з моўнага і культурнага боку. Маскоўская дзяржава, у сваю чаргу, уяўляла блізкі, родны асяродак, што гарантавала больш спраўнае і трывалае злучэнне рускіх зямель.

У такіх складаных умовах Ягайлу давялося прыступіць да выратавання і ўмацавання Літвы. Дзеля дасягнення пастаўленых мэтаў ён быў вымушаны пайсці на саступкі Нямецкаму Ордэну, атрымліваючы так патрэбную перадышку для краіны. Ён падпісаў з Ордэнам чарговае мірнае пагадненне

на 4 гады. Згодна з яго палажэннямі, крыжакі атрымлівалі палову Жамойці. Ягайла прысягаў, што без згоды не будзе абвяшчаць вайну, будзе дасылаць вайсковыя фарміраванні на ваенныя выправы і ўрэшце прыме хрышчэнне з іх рук. Гэтая астатняя ўмова ляжала ў сферы планаваных Ягайлам захадаў па мадэрнізацыі дзяржавы. За кошт такіх зняважлівых для сябе крокаў вялікі князь атрымліваў магчымасць упарадкавання ўнутраных спраў. Сітуацыя, якая склалася ў гэты час вакол Літвы, здавалася, спрыяе яго намерам. Маскоўская Русь пасля страшнага набегу Тахтамыша ў 1382 г. не была здольнай прадпрыняць у дачыненні да Літвы аніякіх агрэсіўных крокаў. Польшча пасля смерці Людвіка Венгерскага таксама не магла паводзіць сябе актыўна, хоць вельмі хацела выгнаць літвінаў з Чырвонай Русі.

Саюз з крыжакамі быў, аднак, часовай з'явай і не з'яўляўся трывалым падмуркам для стварэння магутнай літоўскай дзяржавы. З гэтай прычыны паявіўся праект заключэння перамір'я з Масковіяй. Яго ажыццяўленне павінна было прайсці дзякуючы шлюбу Ягайлы з дачкой Дзмітрыя Данскога (аб ім падрабязней далей). Рыхтуючы ў 1383–1384 гг. дамоўленасці з Масквой, Ягайла дзейнічаў асцярожна і павольна. У канчатковым выніку да гэтага саюзу не дайшло. У гэты ж час на свет паявілася ідэя звязаць лёс Літвы з польскай дзяржавай. Сёння дакладна невядома, хто быў ініцыятарам уніі. Літоўскія крыніцы падаюць, што першапачатковыя захады на гэты конт рабілі палякі. У той жа час польская гістарыяграфія сцвярджае, што да дзяржаўнага саюза Літвы з Польшчай імкнуўся Ягайла. Варта дапускаць, што ўмовы дыктавалі польскія арыстакраты, а літоўскаму боку яны не здаваліся завышанымі. Толькі будучыня магла паказаць, для каго ў рэшце рэшт гэты хаўрус будзе выгадным. Вялікі князь, а з ім баяры і князі не без асцярогі прынялі польскія прапановы. Яны, аднак, зразумелі, што польская карона на галаве Ягайлы можа пасадзейнічаць утаймаванню крыжацкіх нападаў, а таксама ўзмацніць пазіцыі Літвы

на Русі. Польскі бок спадзяваўся, што ўнія з Літвой адкрые новыя магчымасці для палітычнай і гаспадарчай экспансіі на ўсход. Далейшыя перамовы праходзілі больш спраўна. На пачатку 1385 г. у Кракаў прыбыло літоўскае пасольства. Бакі дамовіліся аб папярэдніх варунках уніі. У жніўні Ягайла падпісаў акт у Крэве, згодна з якім пасля шлюбу з Ядзвігай, дачкой Людвіка Венгерскага, ён атрымае польскі трон і злучыць Літву з Польшчай. У першыя месяцы 1386 г. па чарзе адбылося зацвярджэнне Ягайлы каралём Польшчы, яго хрышчэнне разам з вяльможамі, шлюб манарха з Ядзвігай і ўрэшце — каранацыя. Новы кароль прыняў хроснае імя Уладзіслаў.

З гэтага моманту з'явіліся новыя праблемы. Неабходна было так наладзіць узаемныя стасункі, каб абодва бакі засталіся цалкам задаволенымі. Першай праблемай стала акрэсленне змяненняў, да якіх прывяла ўнія. Ці мела месца далучэнне Літвы да Польшчы? А можа, было наадварот? А можа, гаворка ішла аб цеснай інкарпарацыі? Дзяржаўна-прававую сувязь Літвы з Польшчай у крэўскім акце вызначаў толькі адзін лаканічны і агульны лацінскі выраз *applicare*. Гісторыкі ўжываюць наступныя тлумачэнні гэтага тэрміну: злучыць, уключыць, далучыць і ўрэшце – увайсці ў склад (польск. *wcielić*). Пераважна лічыцца, што Крэўскі акт пазбаўляў Літву суверэнітэту. Літоўская дзяржава рабілася правінцыяй Польшчы[1]. Аднак, калі прыняць такую аргументацыю, то трэба было чакаць, што пасля 1386 г. Літва як асобны арганізм перастане існаваць. Сапраўды, літоўскія князі прыносілі Ягайлу як каралю Польшчы прысягу на вернасць. Рада і каронная канцылярыя пашырылі свае кампетэнцыі на літоўскія землі. Палякі прызначаліся на высокія ўрады ў Літве. Аднак гэтыя дзеянні, хоць і не надта выгадныя для літвінаў, не парушалі глыбокай дзяржаўнай адасобленасці нашага новага сябра па шчасці і нядолі. Літвіны зусім не адчувалі сябе

---

[1] Ibid. S. 72.

падданымі Кароны. Такім чынам, гэтае няшчаснае *applicare* засталося мёртвай літарай, а фактычны стан узаемаадносін дыктаваўся самім жыццём. Вялікае княства Літоўскае па-ранейшаму заставалася дзяржавай, якой кіравалі літвіны, з цалкам іншым заканадаўствам і органамі ўлады. І хоць з Польшчай яе аб'ядноўвала асоба супольнага ўладара і агульныя антыкрыжацкія інтарэсы, гэта не перашкаджала літвінам успрымаць палякаў іншаземцамі.

Натуральна, унія была вельмі нявыгадная для Нямецкага Ордэна. Там хутка зразумелі, што новастворана дзяржаўны кангламерат, хоць і не моцна скансалідаваны знутры, уяўляе вялікую пагрозу. Унія адбірала ў Ордэна сэнс існавання, у значнай ступені — матэрыяльную і маральную падтрымку Захаду. Менавіта з гэтых прычын крыжакі імкнуліся пры кожнай спрыяльнай акалічнасці разбіць унію. З гэтай мэтай яны аказвалі падтрымку апазіцыі ўнутры Літвы. Лідарам руху за самастойнасць Літвы і зрыву ўніі з Польшчай стаў Вітаўт, сын Кейстута. Неаднаразова ён звяртаўся за дапамогай да крыжакоў. Знешняя небяспека, зрэшты, пагражала не толькі Літве, але і Польшчы. На двары Жыгімонта Люксембургскага пястоўскі князь Уладзіслаў Апольскі ў 1392 г. нават падрыхтаваў праект падзелу Польшчы паміж суседзямі. Пагрозлівая сітуацыя вымушала Ягайлу і польскую знаць пайсці на пагадненне з Вітаўтам. Апошні атрымаў у кіраванне ўсё Вялікае княства Літоўскае і на гэты раз супольна з палякамі выступіў супраць крыжакоў. Складзеная польскім каралём антыордэнская кааліцыя дасягала відавочных поспехаў, але бліжэйшыя гады не прынеслі сапраўдных палітычных вынікаў. Гэта было звязана, на жаль, з усё слабеючымі адносінамі паміж Польшчай і Літвой.

Вітаўт зноў распачаў свае інтрыгі. Ён імкнуўся да поўнай незалежнасці і хацеў атрымаць карону. У яго планы ўваходзіла стварэнне дзяржавы, якая ахоплівала б усе рускія землі. Ён чарговы раз заключыў пагадненне з крыжакамі і перадаў ім Жамойць. Амбітныя планы Вітаўта, аднак,

скончыліся фіяска. У 1399 г. ён пацярпеў паразу ў бітве з татарамі на рацэ Ворскла. Гэтая няўдача разам з народным паўстаннем у Жамойці супраць крыжакоў прымусіла пайсці на чарговае збліжэнне з Польшчай. У 1401 г. была заключана дамова ў Вільні і Радоме. На яе падставе кароль аддаваў Вітаўту пажыццёва Літву і залежныя ад яе землі разам з вялікакняскім тытулам. Вітаўт са свайго боку аднавіў прысягу Ягайлу і Польскаму каралеўству. Пасля смерці Вітаўта ўся Літва вярталася пад уладу караля і Польшчы. Выключэнне складала толькі частка, прызначаная для брата Вітаўта Жыгімонта. Вынікам уніі 1401 г. было прызнанне Польшчай Літвы раўнапраўным партнёрам. Дзяржава Вітаўта ахоплівала не толькі тэрыторыі, якімі ён кіраваў непасрэдна, але і княствы, якія знаходзіліся здавён у васальнай залежнасці. Князі гэтых зямель цяпер падпарадкоўваліся Вітаўту. Дагэтуль яны складалі прысягу Ягайлу і Польскаму каралеўству. Такія ў пэўнай меры канструктыўныя стасункі пратрымаліся да вырашальнага, як здавалася, сутыкнення з Нямецкім Ордэнам пад Грунвальдам у 1410 г. У далейшым сваркі і разлады на польска-літоўскай мяжы зноў паявіліся.

Неадкладнай справай стала новая нармалізацыя ўзаемаадносін. Нямецкі Ордэн зусім не збіраўся адмаўляцца ад далейшых спроб аслабіць польска-літоўскі саюз. Крыжакі не хавалі сваіх намераў абвясціць крыжовы паход супраць Літвы як язычніцкай краіны. Літвінам з гэтых прычын яшчэ больш было важна замацаваць саюз з Польскім каралеўствам. На з'ездзе ў Гародлі, які адбыўся ў кастрычніку 1413 г., абодва бакі мадыфікавалі прававы характар узаемных стасункаў. Першым чынам канчаткова была пацверджана самастойнасць Літвы, нягледзячы на заяву, што адбылося ўзнаўленне ўваходжання Літвы ў склад Польшчы. Гэтае паўтарэнне Ягайлам формулы пра ўваходжанне не мела практычнага значэння. Быў прызнаны вялікакняскі тытул Вітаўта і ўхвалена, што пасля яго смерці Літва не вернецца пад уладу Ягайлы, а атрымае пасля ўзгаднення з польскім бо-

кам новага ўладара. Была, такім чынам, замацавана пасада асобнага вялікага князя літоўскага, і гэта перакрэсліла фармальныя падставы інкарпарацыі. Літва абавязвалася не ўступаць у хаўрусы з ворагамі Польшчы і захоўваць вернасць як пры Ягайлу, так і пры Вітаўце. Літвіны і палякі склалі ў Гарадзельскім акце прысягу, што без агульнай згоды нікому не абвесцяць вайны. За баярскімі каталіцкімі родамі ў Літве былі прызнаны такія ж самыя прывілеі, якія мела польская шляхта. На літоўскую шляхту быў накладзены абавязак плаціць падаткі, будаваць замкі і несці вайсковую службу. Акт Гарадзельскай уніі згадваў такія ж літоўскія дзяржаўныя пасады, як у Польшчы, а менавіта — ваяводы, кашталяны, старосты. Такім чынам, унія знаменавала сабой саюз паміж дзвюма раўнапраўнымі краінамі. Заключэнне ў Гародлі адноўленага саюза дазволіла ўрэгуляваць узаемныя стасункі на бліжэйшыя 20 гадоў, стварыла таксама перадумовы для прадпрыняцця рашучых крокаў супраць крыжакоў.

Восенню 1430 г. памёр Вітаўт. Ягайла адразу прызначыў на пусты вялікакняскі трон свайго брата Свідрыгайлу. Пры гэтым ён не звярнуўся ні да польскіх, ні да літоўскіх вяльмож па іх меркаванне. Свідрыгайла меў падобныя планы, што і Вітаўт. Ён хацеў поўнай самастойнасці Літвы і каронны тытул. У сваіх памкненнях Свідрыгайла абапёрся на праваслаўных баяр, якім Гарадзельская ўнія не дала раўнапраўя з каталікамі. Распачалася грамадзянская вайна, у якую ўмяшаліся малдаўскі гаспадар і крыжакі. Астатнія, заключаючы 19 чэрвеня са Свідрыгайлам саюз, упэўнівалі яго ў поўнай падтрымцы прадстаўнікоў "рускага свету", у тым ліку і па-за межамі Літвы. Вайну распачаў малдаўскі гаспадар, які здзейсніў напад на памежныя землі Падолля і Русі. Яму ўдалося аказаць супраціў, хоць гэта была ўсяго толькі дыверсійная акцыя. Больш небяспечнай была крыжацкая атака. Сам Ордэн імкнуўся да канца ўтрымаць у Польшчы ўражанне, што ён не мае ніякіх агрэсіўных намераў.

Кіраўніцтву Ордэна ўдалося падмануць палякаў і напасці на тэрыторыю Куяваў і Вялікапольшчы. Гэтая выправа крыжацкага войска амаль не сустрэла супраціву з боку польскіх вайскоўцаў. Толькі пад Наклем крыжакі панеслі значную паразу. Невядома, як далей развіваліся б падзеі, калі б не перамір'е са Свідрыгайлам. У Польшчы было вырашана выкарыстаць атрыманы час для ўрэгулявання літоўскіх спраў. У выпадку паспяховага выніку можна было б спакойна заняцца расправай з нахабнымі крыжакамі.

Перамовы са Свідрыгайлам, аднак, ішлі беспаспяхова. Было вырашана звярнуцца да літоўскіх магнатаў, якія аказаліся схільнымі да кампрамісу. Бакі пагадзіліся, што Свідрыгайла будзе трымаць вялікакняскі трон на такіх жа варунках, што і Вітаўт. Заставалася атрымаць згоду самога Свідрыгайлы. Але той не пагадзіўся. У выніку па намове польскіх дыпламатаў і ў поўным ўзаемапаразуменні з літвінамі была прадпрынята спроба выкрадання Свідрыгайлы. Ён здолеў уцячы ад пераследнікаў, але ўжо ніколі не вярнуў сабе трон. Зрэшты, некалькі разоў ён быў разбіты польскім і літоўскім войскам. У выніку на вялікакняскі трон быў пакліканы брат Вітаўта Жыгімонт, які меў падтрымку польскай знаці і часткі літоўскай. На бок Жыгімонта схіліўся і сам кароль, ужо не зважаючы на ранейшае прызначэнне Свідрыгайлы. Новы вялікі князь аднавіў Гарадзельскую ўнію ў 1432 г. Жыгімонт адмаўляўся ад прэтэнзій на каралеўскую карону. Падкрэсліваўся пажыццёвы характар вялікакняскага тытулу. Польскім і літоўскім панам быў гарантаваны ўдзел у кожным абранні вялікага князя. Пасля смерці Жыгімонта Літва, за выключэннем нададзенай яму ў спадчыну Троцкай зямлі, павінна была вярнуцца пад уладу Ягайлы ці яго сыноў. Ягайла і Жыгімонт склалі прысягу аб узаемадапамозе супраць патэнцыяльных непрыяцеляў, у прыватнасці крыжакоў і Свідрыгайлы. Гарадзельская ўнія ўласна ні ўносіла нічога новага ў польска-літоўскія адносіны і па сутнасці з'яўлялася пацвярджэннем старых дамоўленасцей. Разам з гэ-

тым польскія дэлегаты ад імя Ягайлы выставілі прывілей, згодна з якім праваслаўныя баяры атрымлівалі роўныя правы з каталіцкімі. Як памятаем, па Гарадзельскім акце 1413 г. польская і літоўская шляхта каталіцкага веравызнання рабіліся раўнапраўнымі. Польская дыпламатыя імкнулася знайсці прыхільнасць праваслаўных баяр і адарваць іх ад Свідрыгайлы. Аднак Уладзіслаў Ягайла не пацвердзіў гэты прывілей.

Падчас абрання Жыгімонта на вялікага князя Літва падзялілася на два варожыя лагеры. Адзін з іх, які карыстаўся падтрымкай крыжакоў і татар, прадстаўляў праваслаўнарускае баярства на чале са Свідрыгайлам. Другі лагер аб'ядноўваў прапольскія элементы, звычайна каталіцкага веравызнання. Яму дапамагала Польшча, а ўзначальваў яго, зразумела, Жыгімонт. Грамадзянская вайна працягвалася да 1435 г., калі Жыгімонт перамог Свідрыгайлу ў бітве пад Вількамірам. У гэтай бітве таксама брала ўдзел войска з Польшчы на чале з Якубам Кабылянскім. Дзякуючы гэтаму кантынгенту, які налічваў некалькі тысяч жаўнераў, удалося адолець сілы Свідрыгайлы, якому дапамагалі татары і крыжакі. Перамога пад Вількамірам гарантавала Жыгімонту ўзыходжанне на вялікакняскі трон. Свідрыгайлу пашчасціла ўцячы з поля бітвы. Ён спрабаваў знайсці паразуменне з палякамі, аддаючы ў склад Польшчы пасля сваёй смерці паўднёва-рускія землі. Гэты праект не дачакаўся рэалізацыі, бо Жыгімонт, занепакоены такімі захадамі, распачаў перамовы, якія прывялі да новага пацвярджэння ўзаемных прыязных стасункаў паміж Літвой і Польшчай. У снежні 1437 г. у Гародні бакі паразумеліся, што пасля смерці Жыгімонта Літва пяройдзе пад уладу Уладзіслава III з Польскага каралеўства. Узамен Польшча абяцала не аказваць падтрымкі Свідрыгайлу, а таксама абавязвалася пацвердзіць унію пасля паўналецця караля Уладзіслава. Аднак гэтае пагадненне, адобранае польскім каралём у 1438 г., вялікі князь літоўскі не ратыфікаваў. Неўзабаве Жыгімонт

павёў сваю палітыку па шляху хутчэй непрыхільным да Польшчы. Ён імкнуўся да поўнай незалежнасці. У гэтай сітуацыі ў Польшчы нават паявіліся заклікі, каб Літва пачала плаціць ёй даніну. Невядома, як у далейшым развіваўся б гэты канфлікт, калі б Жыгімонт не быў забіты ў выніку змовы, на чале якой стаў Іван Чартарыйскі. Яго групоўка мела падтрымку значнага кола літоўскіх вяльмож, усё больш незадаволеных аўтарытарным праўленнем Жыгімонта. Зноў паўстала неабходнасць абрання ў Вільні новага вялікага князя. Новы кароль Польшчы Уладзіслаў III у гэты момант рыхтаваўся да заняцця венгерскага трона. На замену сабе ён выслаў у Літву свайго малодшага брата Казіміра. Але літвіны заспелі знянацку польскі бок: яны самі абралі Казіміра вялікім князем. Казімір толькі дарастаў да паўналецця, фактычна кіраўніцтва дзяржавай у свае рукі забірала мясцовая знаць. У Польшчы гэта было расцэнена як зрыў уніі[1].

Пасля злапомнай і завершанай смерцю Уладзіслава III выправы супраць туркаў у 1444 г. перад польскай арыстакратыяй паўстала праблема абрання яго наступніка на польскі трон. На з'ездзе ў Серадзы ў 1445 г. яна звярнулася да вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча. Відавочна, і на гэты раз знаць хацела выкарыстаць спрыяльны момант для забеспячэння свайго становішча ў дзяржаве. Узамен за абранне каралём яна дамагалася пацвярджэння сваіх ранейшых прывілеяў. Казіміра шантажавалі іншымі прэтэндэнтамі на карону (сярод іх князь Баляслаў Мазавецкі, Фрыдрых Габсбург). Каранацыя кагосьці з іх павінна была наступіць адразу ў выпадку, калі б Казімір дакладна адмовіўся прыняць польскую карону. Аднак сур'ёзна такая магчымасць не бралася пад увагу. У канчатковым выніку Казімір Ягайлавіч прыехаў у Польшчу і каранаваўся ў чэрвені 1447 г. Новаму каралю ўдалося не скласці абавязальніцтваў наконт новых саступак на карысць польскіх паноў. Яшчэ перад прыездам

---

[1] Wyrozumski J. L. Historia Polski do 1505 roku. Warszawa, 1989. S. 203.

у Польшчу Казімір выдаў у 1446 г. акт, які рэгуляваў польска-літоўскія ўзаемаадносіны. Абедзве дзяржавы павінны былі ўтрымліваць кантакты на падставе роўнасці. Літве гарантавалася недатыкальнасць межаў, а літоўскай шляхце — правы, аналагічныя польскім.

Такім чынам, дзякуючы абранню Казіміра Ягайлавіча каралём Польшчы ўнія была ўваскрошана. Дзве дзяржавы злучала толькі асоба манарха. Да 1447 г. унія мела палітычны характар. З моманту элекцыі Казіміра яна прымала інстытуцыянальны характар, таму ў гістарыяграфіі прынята яе акрэсліваць як персанальную ўнію. Такі стан рэчаў не вельмі задавальняў польскую арыстакратыю. Яна хацела аднаўлення ўніі на прынцыпах, выпрацаваных падчас праўлення Уладзіслава Ягайлы, калі ўнія разумелася як уваходжанне Літвы ў склад Польшчы. Прадпрымаліся розныя спробы ціску на літвінаў, каб іх прымусіць менавіта да такога разумення ўнійнага акта. Час ад часу з гэтай мэтай склікаліся польска-літоўскія з'езды ў 1448, 1451, 1453 гг. Між іншым, менавіта ў 1448 г. Казімір Ягайлавіч, прагнучы атрымаць польскую дапамогу для літоўскіх дзеянняў на ўсходняй мяжы, паспрабаваў чарговы раз вырашыць польска-літоўскія спрэчкі. З'езд у Любліне, на якім бакі павінны былі прыйсці да пагаднення, з усёй відавочнасцю адлюстраваў супярэчнасці ў палітычных падыходах польскага і літоўскага боку. Літвіны цвёрда выступалі за персанальную ўнію. Яны дамагаліся пры гэтым скасавання ранейшых пастаноў аб падпарадкаванні Літвы. Літоўскі бок патрабаваў вяртання Падолля і заходнерускіх зямель. Польскі бок, у сваю чаргу, выступіў з ідэяй шчыльнай інкарпарацыі Літвы ў сувязі з яе знаходжаннем пад адным скіпетрам з Польшчай. Польская знаць жадала прававога ўраўноўвання ўсіх літоўскіх зямель з польскімі. У гэтым выпадку зніклі б перадумовы для спрэчак наконт прыналежнасці асобных тэрыторый. З-за такіх катэгарычных пазіцый не магло быць і гаворкі аб паразуменні, таму люблінскі з'езд не дасягнуў сваёй мэты. Пры кожным

спрыяльным моманце літвінам нагадвалі, што Польшча валодае вярхоўнымі правамі над Літвой. Трынаццацігадовая вайна (1454–1466 гг.) Польшчы з Нямецкім Ордэнам крыху супакоіла разлад паміж абедзвюма краінамі. Аднак, нягледзячы на прынятую літоўскімі вяльможамі пазіцыю прыязнага нейтралітэта, яны высоўвалі прэтэнзіі на адрас Польшчы адносна прыналежнасці Падолля.

Зноў праблема ўніі паявілася пасля смерці Казіміра Ягайлавіча. Яго дынастычная палітыка ставіла мэтай забеспячэнне кожнаму з сыноў трону. Казімір Святы памёр заўчасна. Фрыдрых задаволіўся пасадай гнезненскага арцыбіскупа і кардынальскім тытулам. З чатырох засталых кандыдатаў на карону першым яе атрымаў Уладзіслаў, які стаў каралём Чэхіі. Амбітныя планы Казіміра пацярпелі паразу над Дунаем, дзе якраз Уладзіслаў не дапусціў да венгерскага трону Яна Ольбрахта. Згодна са сваёй апошняй воляй Казімір Ягайлавіч перадаў Ольбрахту польскую карону. Наймалодшы Аляксандр атрымаў вялікакняскі пасад у Літве. Арыстакратыя, хоць і без зычлівасці, выканала гэта пажаданне. Натуральна, гэта ўваходзіла ў супярэчнасць з памкненнямі польскага боку ўмацаваць унію Польшчы з Літвой, з якой узаемасувязі відавочна аслабіліся. Такі стан рэчаў негатыўна ўплываў на бяспеку Літвы, асабліва з маскоўскага боку. Яшчэ пры жыцці Казіміра Ягайлавіча Іван III заняў Ноўгарад Вялікі, выдаляючы адтуль літоўскія ўплывы. У 1481 г. ён арганізаваў няўдалы замах на Казіміра. Пасля яго смерці ў 1492 г. Масковія распачала вайну з Літвой. Няўдачы ў гэтай вайне прымусілі літвінаў шукаць новага збліжэння з Польшчай. Яны адзінадушна падтрымалі абранне Яна Ольбрахта на польскі трон (у самой Польшчы ён меў праціўнікаў), імкнучыся ўтрымаць дынастычны саюз. Літоўскія магнаты хацелі абмежаваць яго толькі ў дачыненні да сферы знешняй палітыкі, патрабуючы ў першую чаргу дапамогі супраць пагрозы з боку Масквы.

Палякі, аднак, выстаўлялі складаныя для ажыццяўлення

ўмовы, жадаючы аднавіць унію на падставе ранейшых абавязальніцтваў і норм. Пасля дынастычнага з'езда ў Левочы і адмовы ад планаў пасадзіць Жыгімонта на малдаўскі трон паявілася неабходнасць яго ўладкавання. Было вырашана даць яму якое-небудзь княства ў Літве. У сакавіку 1495 г. у Аляксандра знаходзіліся паслы ад Яна Ольбрахта і Жыгімонта. План надання апошняму Кіеўскага княства сарваўся з-за рашучага супраціву літоўскіх паноў. Польска-літоўскае пагадненне не дзейнічала, заставалася на паперы. Польскі бок мэтанакіравана дабіваўся літоўскай падтрымкі ў планаванай выправе супраць Турцыі. Літвіны выступілі ў 1496 г. з уласным праектам нармалізацыі адносін. Ён вызначаў, што элекцыя манарха ў абедзвюх краінах будзе абмежавана толькі прадстаўнікамі дынастыі Ягелонаў нават у выпадку адсутнасці нашчадкаў ва ўладара. Такі падыход фактычна азначаў скасаванне прынцыпу выбарнасці караля ў Польшчы. Палякі, зразумела, не хацелі пагадзіцца з такім прававым рашэннем. Літвіны, са свайго боку, выказваліся супраць палажэнняў уніі 1401 г. і Гарадзельскага акта 1413 г.

На самым пачатку свайго праўлення ў Літве Аляксандр трапіў пад моцныя ўплывы арыстакратыі. На падставе Віленскага прывілея 1492 г. яна атрымала значнае пашырэнне правоў вялікакняскай Рады, з выразным пазначэннем самастойнасці літоўскай дзяржавы. Магнаты, аднак, не здолелі адказаць на тыя выклікі, якія прынесла вайна, што выбухнула ў гэты час з Масковіяй. Знешняе становішча Літвы было цяжкім, так ці інакш больш складаным, чым у перыяд персанальнай уніі пры Казіміры Ягайлавічы. Гэты пагрозлівы стан схіляў Літву да нармалізацыі стасункаў з Польскім каралеўствам, нягледзячы на разыходжанні поглядаў. Здавалася, што настаў спрыяльны час для вырашальных захадаў у гэтай справе. Няўдачы Польшчы ў 1497–1498 гг. значна павялічылі шанцы літоўскага боку ў дыскусіі наконт умоў адноўленай уніі. У 1498 г. Польшча выступіла з ініцыятывай заключэння саюза супраць туркаў. Літва

прыхільна сустрэла гэтую прапанову, але сваю канчатковую згоду паставіла ў залежнасць ад прынцыповага ўрэгулявання ўзаемаадносін паміж дзвюма краінамі. Літвіны акцэнтавалі ўвагу на раўнапраўным партнёрстве Літвы і Польшчы. У канчатковым выніку быў прыняты літоўскі праект пагаднення, які быў прадстаўлены ў г.зв. Віленскай уніі. Актавыя матэрыялы гэтага пагаднення, зацверджаныя польскім і літоўскім бокам, канчаткова пацвярджалі, што Літва з'яўляецца незалежнай дзяржавай, і засведчылі права літвінаў абіраць уласнага ўладара па ўзгадненні з палякамі. Такім жа чынам была акрэслена пазіцыя Літвы ў выбары польскага караля. Палажэнні старых унійных актаў, якія датычыліся падпарадкавання Літвы Польшчы, пераставалі дзейнічаць. Абодва бакі абавязваліся аказваць адзін аднаму вайсковую дапамогу. Як вынікае з гэтых палажэнняў, польска-літоўскае пагадненне 1499 г. не было ўнійным актам, а толькі саюзніцкай дамовай. Польшча і Літва заставаліся самастойнымі дзяржавамі. Кожная з іх мела права на свайго манарха. Польшча фактычна адмовілася ад ідэі інкарпарацыі Літвы. Асновай віленскага пагаднення з'яўляліся літоўскія прапановы 1496 г., пры тым, як памятаем, яны закладвалі рамкі элекцыі ў межах ягелонскай дынастыі. У гэтым дакуменце такога палажэння ўжо не было.

Пасля смерці Яна Ольбрахта Літва завязла ў новай вайне з Масковіяй і, цалкам магчыма, пад уплывам паразы ў бітве на рацэ Ведраш імкнулася да аднаўлення ўніі як персанальнага саюзу. Гэтая задача была рэалізавана. Вялікага князя літоўскага Аляксандра абралі каралём Польшчы, абмінаючы засталага без трону Жыгімонта і караля Чэхіі і Венгрыі Уладзіслава. Аднак абранне Аляксандра на польскі трон адбылося коштам саступак Літве і абмежавання, няхай і часовага, каралеўскай улады. Наверсе палітычнага жыцця Польшчы апынулася новая магнацкая групоўка, якая ўтварала каралеўскую раду. Падчас бескаралеўя менавіта яна разам з сенатам узяла ў свае рукі ніці кіравання. У часы

Яна Ольбрахта сенат быў адсунуты на задні план. Ён чакаў магчымасці вярнуць уладу і павялічыць свае кампетэнцыі. Адпаведным момантам палічылі элекцыю новага караля, якая ў рэчаіснасці залежала ад сената. У мэты гэтай групоўкі ўваходзіла ўмацаванне ўніі з Літвой. Літва таксама імкнулася да аднаўлення ўніі. Сенат выставіў патрабаванне ўзамен за абранне Аляксандра каралём пагадзіцца на зацвярджэнне персанальнай уніі. Пасля абмеркавання паміж групай польскіх вяльмож, літвінамі і каралём апошні падпісаў у 1501 г. у Мельніку дакумент, які аднаўляў фармальную ўнію Польшчы з Літвой. Абедзвюма краінамі павінен быў кіраваць супольны манарх, які выбіраўся ў Польшчы сумесна палякамі і літвінамі. Запэўнівалася ўзаемная вайсковая дапамога. Прадугледжвалася скліканне супольных з'ездаў для абмеркавання пільных праблем. Гэтым актам Аляксандр перакрэсліваў спадчынныя правы Ягелонаў на Літву. Два яго браты, праігнараваныя пры выбары на караля Польшчы, былі незадаволены аб'яднаннем Польшчы і Літвы пад уладай Аляксандра. Яны падкрэслівалі свае спадчынныя правы на Літву, у асаблівасці права Жыгімонта на забеспячэнне ўладнымі паўнамоцтвамі ў Літве.

Адначасова з прыняццем Мельніцкай уніі Аляксандр быў вымушаны выдаць прывілей для сената, які дамагаўся большай улады. Паводле палажэнняў гэтага прывілея ўлада ў дзяржаве сапраўды пераходзіла з каралеўскіх рук у рукі магнатаў, якія засядалі ў сенаце. З гэтых пор манарх мог прызначаць ураднікаў толькі на ніжэйшыя пасады і то павінен быў гэта рабіць са згоды сенатараў. Пасольская ізба таксама ўплывала на прыняцце рашэнняў у дзяржаве. Роля караля была абмежавана да старшынства на пасяджэннях сената і выканання яго пастаноў. З'явілася магчымасць выказвання непаслухмянства каралю, калі той спрабаваў выкарыстаць у дачыненні да асобы сенатара сродкі прымусу ці выступаў супраць рашэнняў, прынятых падчас абмерка-

вання[1]. У выніку ў Польшчы адбылася прынцыповая змена дзяржаўнага ладу. Уладу цалкам пераняло магнацтва. Эпоха Яна Ольбрахта адсунула арыстакратаў ў цень, бо гэта быў занадта моцны кароль, каб ім можна было маніпуляваць. Акрамя таго, Ян Ольбрахт цвёрда абапіраўся на шляхту. Аднак калі на чале дзяржавы стаў чалавек, які быў поўнай супрацьлегласцю свайго папярэдніка, сітуацыя змянілася карэнным чынам. Над недаразвітай у палітычным і культурным сэнсе шляхтай цяпер узяло верх магнацтва. Яно захапіла ў свае рукі рэй улады падчас бескаралеўя і прымусіла новага караля зацвердзіць свае ўладныя паўнамоцтвы прававым шляхам. Шляхецкія масы такому развіццю падзей не аказалі аніякага супраціву.

Аляксандр, які так дорага купіў польскі трон, каранаваўся ў Кракаве ў 1501 г. Неўзабаве ён вырушыў на вайну з Масковіяй. Польская дапамога ў вайне аказалася, аднак, занадта слабой. У Літве атрымала перавагу сепаратысцкая партыя, прадстаўнікі якой непрыхільна ставіліся да збліжэння з Польшчай. Такую пазіцыю займаў князь Міхаіл Глінскі, аб якім яшчэ будзе весціся гаворка пры апісанні Аршанскай бітвы. На стаўленне літвінаў уплывалі таксама паводзіны самога караля. Аляксандр пачаў усё больш схіляцца да меркавання сваіх братоў, якія выступалі супраць умоў элекцыі паводле акта Мельніцкай уніі. Ён пачаў рабіць упор на спадчынных правах Ягелонаў на Літву. У гэтай сітуацыі літвіны папросту не ратыфікавалі мельніцкі акт. Групоўка "праціўнікаў" падтрымлівала прэтэнзіі Жыгімонта, які быў незадаволены сваім намесніцтвам у Сілезіі і Лужыцы. Яго пачуццё незадаволенасці не знікла і пасля атрымання вярхоўнай улады над Прусіяй. Тымчасам у Польшчы адпрэчылі мельніцкія рашэнні. З прычыны, што ўмова выба-

---

[1] Шырэй на гэтую тэму гл.: Sobolewski J., Uruszczak W. Artykuły mielnickie z roku 1501 // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1990. T. XLII. Z. 1–2. S. 51–80.

ру ўладара Польшчы і Літвы на супольным з'ездзе польскіх і літоўскіх паноў знікла, Аляксандр перадаў сваёй апошняй воляй Літву якраз-такі Жыгімонту. Пасля смерці Аляксандра яго абралі і каралём Польшчы. Такім вось чынам, нягледзячы на мельніцкія палажэнні, згодна з якімі Польшча і Літва ўяўлялі сабой адзіную дзяржаву, унія ў далейшым часе аж да 1569 г. мела выключна персанальны характар.

## Расія на мяжы XV–XVI стст. — аб'яднальная палітыка Івана III і Васіля III

Дзяржавай, якая ў будучыні перамагла ў змаганні за першынство на Балтыцы, была Расія. У гэты час яна яшчэ называлася Руссю. На мяжы XV–XVI стст. гэтая краіна была зусім малавядомай. На Русі адбываўся адзін з найважнейшых унутраных працэсаў, які стаў падмуркам будучай магутнасці Расіі: г.зв. збіранне Масквой рускіх зямель, іншымі словамі, іх аб'яднанне пад гегеманіяй вялікіх князёў маскоўскіх. Асабліва хутка яно ішло падчас праўлення вялікага князя Івана III Васільевіча (1462–1505 гг.). Яго наступнік Васіль III Іванавіч (1505–1533 гг.) прадоўжыў справу бацькі.

Каб зразумець сутнасць збірання рускіх зямель, неабходна вярнуцца ў XIII ст., калі Русь страціла сваю незалежнасць. Верагодна, падчас войнаў у Сярэдняй Азіі з'явіліся планы вызвалення з-пад улады Чынгісхана ўсіх народаў цюркскага паходжання. У гэтым ляжала прычына канфлікту мангольскага ўладара з заможным Харэзмам. Нягледзячы на сваю моц, харэзмаўская дзяржава не здолела супрацьстаяць знішчальнай сіле манголаў. Падчас ваеннага проціборства авангард мангольскага войска пад камандаваннем Субэдэя ў пагоні за шахам Харэзма перабраўся праз каўказскія перавалы на кіпчацкія стэпы, паміж ніжняй Волгай і Донам. Усведамляючы пагрозу, палавецкі хан папрасіў

дапамогі ў свайго зяця, галіцкага князя Мсціслава Удалога. Арганізаваная апошнім кааліцыя рускіх князёў панесла страшэнную паразу над ракой Калка ў 1223 г., што і вырашыла лёс полаўцаў. Тыя з іх, хто не хацеў трапіць пад мангольскую ўладу, уцяклі на тэрыторыю Венгрыі. Астатнія мусілі скарыцца захопнікам. Русь непасрэдна не пацярпела, бо манголы пакінулі яе ў спакоі, занятыя здабыццём Крыма і кіпчацкіх стэпаў. Аднак доўга цешыцца спакойнымі часамі Русі не прыйшлося. Створаная пасля смерці Чынгісхана ў 1227 г. Залатая Арда паставіла мэтай аб'яднанне ўсіх народаў цюркскага паходжання, якія пражывалі паміж Уралам і Дунаем. Дапамога, аказаная полаўцам рускімі князямі, стала зачэпкай для падначалення манголамі няцюркскіх тэрыторый, у першую чаргу Русі. Гэта забяспечвала абарону перад пагрозай патэнцыяльнага нападу з яе боку.

У 1236 г. манголы ўдарылі па Волжскай Булгарыі. Пасля яе падпарадкавання яны рушылі ў канцы 1237 г. на Уладзіміра-Суздальскую Русь, спальваючы па чарзе Разань, Каломну, Маскву, Уладзімір на Клязьме, Суздаль і Растоў. У наступным годзе захопнікі накіраваліся ў Ноўгародскую зямлю. Затым яны павярнулі на поўдзень у кірунку Чарнігава і Кіева, але былі вымушаны вярнуцца ў Залатую Арду, дзе выбухнула паўстанне. Пасля яго падаўлення на мяжы 1239–1240 гг. манголы зноў вырушылі на захад. Пераяслаўскі і чарнігаўскі князі спрабавалі аказаць супраціў. Аднак яны былі разбіты, а іх землі моцна спустошаны. У выніку гэтай выправы амаль уся Русь трапіла пад уладу манголаў. Татары (так пачалі зваць манголаў) пакінулі тут сваіх намеснікаў — баскакаў. Яны не ўмешваліся ва ўнутраныя мясцовыя справы. Для іх найважнейшым былі рэгулярныя паступленні даніны і навязванне кожнаму рускаму князю ярлыка — пісьмовага прызнання сваёй падпарадкаванасці. На плячах прызнанага татарамі вялікага князя ляжала ўся адказнасць за лёс падлеглых яму тэрыторый. Гэта вельмі палягчала качэўнікам пільнаванне парадку па ўсёй Русі. Нададзены татарамі тытул

вялікага князя даваў апошняму ў выпадку патрэбы (прыкладам, пры мяцяжы падначаленых удзельных князёў) магчымасць звярнуцца за збройнай дапамогай да сваіх апекуноў. Нічога дзіўнага, што рускія князі змагаліся за такі статус, даючы неверагодныя абяцанкі і стараючыся з дапамогай "нячыстых інтрыг" знішчыць сапернікаў.

Сярод мноства князёў Паўночна-Усходняй Русі хутка наперад вылучыўся Аляксандр, празваны Неўскім пасля перамогі над шведамі на берагах гэтай ракі. Дзякуючы ваеннай славе, здабытай у войнах са Швецыяй, а таксама з крыжакамі, ён меў моцныя пазіцыі сярод рускіх князёў. Менавіта яму татары ў 1246 г. далі ярлык на вялікае княства. Аляксандра Неўскага хвалявала становішча на поўначы, таму ён захоўваў лаяльнасць у дачыненні да сваіх новых пратэктараў[1]. На гэтых землях, найбольш залежных ад захопнікаў, пачалася карпатлівая праца па аб'яднанні Русі.

Вялікакняская дынастыя ўсё больш разрасталася, яе члены дзялілі паміж сабой княствы, якія перайшлі па спадчыне, разглядаючы іх як свае ўдзелы. Гэты працэс суправаджаўся ўнутранай анархіяй. Вялікія князі абралі сваёй сталіцай Уладзімір на Клязьме. Пад іх заступніцтвам прадпрымаліся спробы супрацьдзейнічаць працэсам феадальнай раздробленасці. Аднак злучэнне невялікіх удзелаў у большыя палітычныя адзінкі не адбывалася выключна пад кіраваннем уладзімірскіх князёў. З імі сапернічалі ў розныя часы цвярскія, суздальскія і разанскія князі. Урэшце сярод іх паявілася і Масква. Гэтая сталіца малога княства была абавязана сваім поспехам надзвычай удаламу геаграфічнаму размяшчэнню. Яна была важным камунікацыйным пунктам паміж Ноўгарад Вялікім і Разанню. У XIV ст. значэнне Масквы настолькі ўзрасло, што сюды была перанесена рэзідэнцыя вялікага князя. Гэта здзейсніў Іван Каліта, які кіраваў княствам "цвёрдай рукой". Такое праўленне было аса-

---

[1] Manteuffel T. Historia powszechna. Średniowiecze. Warszawa, 1990. S. 256.

бліва цяжкім для ўдзельных князёў, але трохі зменшыла феадальны хаос у краіне і стрымала знішчальныя для яе карныя экспедыцыі татар.

Палітыка падпарадкавання маскоўскімі князямі іншых княстваў натыкнулася на перашкоду ў выглядзе літоўскіх пасяганняў на рускія землі. Гэта прывяло да адкрытага канфлікту, адным з праяў якога ў будучыні стала Аршанская бітва ў 1514 г., якая з'яўляецца галоўнай тэмай дадзенай працы. Канфлікт разгарэўся падчас праўлення Івана Дзмітрыевіча на Русі і Альгерда ў Літве. Літоўскі князь авалодаў чарнігаўска-северскімі землямі і некаторай часткай Смаленскага княства. Затым ён заключыў саюз з цвярскім князем, старым сапернікам маскоўскіх князёў у барацьбе за тытул вялікага князя. Літоўскае войска двойчы падыходзіла пад сцены Масквы (1368 і 1370 гг.). Аднак горад здолеў абараніцца. Літвіны спрабавалі аслабіць свайго праціўніка з дапамогай інтрыг у Ардзе, якая пачала падтрымліваць князёў з Цверы.

Пэўны час Дзмітрыя не хвалявалі ўзаемаадносіны з Ардой, таму што тая сама перажывала сур'ёзны ўнутраны крызіс. Аднак на пачатку 70-х гг. XIV ст. сітуацыя ў Ардзе палепшылася. Узмацнелыя татары пачалі пагражаць памежным рускім землям, размешчаным на паўднёвым усходзе. Маскоўскі князь імкнуўся дапамагчы пацярпелым княствам і гэтым скіраваў гнеў захопнікаў на сябе. Татары рыхтаваліся да выправы доўга і старанна. Яны заручыліся падтрымкаю літоўскага князя і ўдзельных разанскіх князёў. Аднак у найбольш важны момант, у бітве на Куліковым полі каля верхняга Дона (8 верасня 1380 г.), літоўскі саюзнік падвёў. Стрымалі слова толькі рускія партнёры. Бітва скончылася поўнай паразай татар і прынесла пераможнаму князю Дзмітрыю мянушку "Данскі". Прэстыж і значэнне князя значна ўзраслі. Ганебны пройгрыш знявечыў палітычныя планы Мамая, правадыра татар. Яго наступнікам стаў Тахтамыш. Ён не пагадзіўся з такім хуткім вызваленнем Паўночна-Усходняй Русі. У 1382 г. Тахтамыш узначаліў карную выправу супраць

Дзмітрыя. Рускі князь на гэты раз не быў падрыхтаваны да належнай абароны і адступіў на поўнач. Татары здабылі Маскву і спустошылі вялікія абшары ў краіне. Русь была вымушана зноў пагадзіцца з выплатай даніны Ардзе.

У такім становішчы вялікакняскі пасад пасля Дзмітрыя заняў яго сын Васіль I (1389–1425 гг.). Русь не была гатовая да новай спробы скінуць татарскае ярмо. Васіль намагаўся навязаць саюзніцкія адносіны з вялікім князем літоўскім Вітаўтам. Аднак знайсці кампраміс паміж спрэчнымі інтарэсамі дзвюх краін не ўдалося. Ужо на пачатку XV ст. літвіны распачалі чарговы наступ на ўсход. Неўзабаве на рускія землі рушылі і татары. Пасля падзення Тахтамыша, падчас праўлення ваяўнічага Тамерлана, татары спынілі напады на Русь, скіроўваючы свае сілы на іншыя тэрыторыі. Калі пасля Тамерлана ўзышоў Едыгей, татарская небяспека аднавілася. Новы ўладар хацеў вярнуць поўную ўладу манголаў над рускімі землямі. У 1408 г. ён арганізаваў выправу і спустошыў вялізныя абшары забранага краю. Аднак праблемы ў Залатой Ардзе ўзмацняліся. Сепаратысцкія памкненні з найбольшай сілай праявіліся ў памежных землях. Першым адкалолася Крымскае ханства (1427 г.), якое пасля захопа туркамі генуэзскай Кафы (1475 г.) было вымушана стаць султанскім васалам. У 1436–1437 гг. ад Залатой Арды адарваліся землі волжскіх булгар. Там паўстала самастойнае Казанскае ханства. Затым у 1450–1464 гг. стала незалежным Астраханскае княства. Здрабнелая Залатая Арда пачала называцца Вялікай Ардой[1].

Падзел татарскай дзяржавы на некалькі ханстваў, якія сапернічалі паміж сабой, палегчыў вялікім князям маскоўскім вызваленне падпарадкаваных татарам зямель. Гэты працэс адбываўся паволі, праз паступовае змяншэнне даніны, якая выплачвалася захопнікам. Фармальна яе выплату скончыў Іван III Васільевіч. Ён стрымаў дзве выправы хана

---

[1] Ibid. S. 353.

Вялікай Арды ў 1472 і 1480 гг. Рускія землі былі цалкам вызвалены з-пад татарскага ярма.

Надзвычай важнай праблемай разам з працэсам вызвалення ад панавання манголаў з'яўлялася аб'яднанне рускіх княстваў пад уладай маскоўскіх князёў. Яшчэ падчас барацьбы за вызваленне ад татарскай залежнасці адбылося ўсталяванне Масковіяй канчатковага кантролю над Суздалем і Ніжнім Ноўгарадам. Маскоўскія князі былі вымушаны пастаянна змагацца з сепаратысцкімі памкненнямі ўдзельных князёў. Вялікія князі, папраўдзе, перадавалі ўладу ў цэнтр дзяржавы старэйшаму сыну, аднак і астатнія атрымлівалі хоць і меншыя, але асобныя ўдзелы. Іх незалежнасць павялічвалася асабліва тады, калі вялікі князь быў яшчэ занадта малады, каб кіраваць самастойна. На пачатку XV ст. найбольш сур'ёзную пагрозу для цэнтралізацыі дзяржавы стварала Галіцкае княства. Яго тэрыторыя была шчыльна заселенай, а землі мелі ўраджайныя глебы. Тут знаходзіліся шматлікія саляныя радовішчы, што таксама давала вельмі высокія прыбыткі. Дзякуючы гэтаму ствараліся перадумовы для барацьбы з маскоўскімі князямі. Канфлікт разгарэўся з вялікай сілай падчас праўлення Васіля II (1425–1462 гг.), які сваю перамогу аплаціў пакутлівай стратай — ён быў асеплены. У гісторыю ён увайшоў пад імем Васіль II Сляпы.

Працэс аб'яднання праходзіў у далейшым з моцным супраціvам. Найбольшыя праблемы наступнік Васіля II Іван III меў з Вялікім Ноўгарадам і Псковам. Удзельнае княства Вялікага Ноўгарада ўжо ў XI ст. выяўляла імкненне да палітычнай самастойнасці. Горад шпарка развіваўся і ператварыўся ў свайго роду рэспубліку, вельмі падобную на Венецыю. На чале княства, праўда, знаходзіўся князь з роду Рурыкавічаў, але ён усё больш абмяжоўваўся ў сваіх правах. З цягам часу яго ўладныя паўнамоцтвы сталі датычыцца толькі камандавання войскам і судовага кіравання. Яго рэзідэнцыя размяшчалася па-за мурамі горада, з гэ-

тай прычыны свае візіты ён кожны раз павінен быў узгадняць з гарадскімі ўладамі. Усё, што рабіў князь, кантралявалася радай баяр і купцоў. Яна кіравала ўсёй палітыкай дзяржавы. Палітычныя рашэнні прымаліся на вечы з удзелам ўсяго насельніцтва. Галоўную ролю на вечы, зразумела, адыгрывалі баяры і заможныя купцы, але здараліся выпадкі апазіцыйных выступленняў ніжэйшых слаёў грамадства. У пасяджэннях веча бралі ўдзел таксама жыхары меншых гарадоў, залежных ад Ноўгарада, — г.зв. "прыгарадаў". Найбольшым з іх быў Пскоў, які ў 1384 г. стаў самастойным і сфарміраваў у сябе аналагічны наўгародскаму палітычны лад.

Дынамічнае развіццё Маскоўскай дзяржавы павінна было рана ці позна прывесці яе да канфрантацыі з заможным Ноўгарадам. Аднак не толькі імкненне аб'яднаць рускія землі схіляла ўладароў Масквы да дзеянняў супраць купецкай рэспублікі. Надзвычай важнымі з'яўляліся інтарэсы маскоўскага баярства і купецтва. Яны гублялі частку сваіх патэнцыяльных прыбыткаў на гандлёвым пасрэдніцтве наўгародцаў. Аб'яднаўчая дзейнасць маскоўскага князя не магла спадабацца нобілям з Ноўгарада. Знаходзячыся пад уладай баяр і заможнага купецтва, яны больш схіляліся да польска-літоўскай апекі. Праводзіліся тайныя перамовы з Казімірам Ягайлавічам, а ў 1470 г. нават адбыўся на вечы акт падпарадкавання наўгародскіх баяр польскаму каралю. Аднак не ўвесь горад падтрымліваў планы кіроўнай эліты. Народныя масы і духавенства рашуча выступалі на баку Івана III. Князь, даведаўшыся пра пануючыя настроі ў Ноўгарадзе, у 1471 г. вырашыў ажыццявіць збройную інтэрвенцыю. Ён не сутыкнуўся з моцным супраціўам і перамог большую па колькасці, але значна горш узброеную наўгародскую армію. На першы погляд, у тагачасным ладзе жыцця Вялікага Ноўгарада нічога не змянілася. У рэчаіснасці прайграны горад пазбавілі права правядзення самастойнай знешняй палітыкі. Ён павінен быў выплаціць высокую кан-

трыбуцыю. Іван III расправіўся з мясцовай арыстакратыяй. Ён канфіскаваў яе ўладанні і перасяліў у іншыя раёны сваёй дзяржавы. Велізарныя абшары наўгародскіх зямель былі ўключаны ў склад Маскоўскага княства. Неўзабаве падобны лёс напаткаў Цвер. Цверскія князі таксама спрабавалі ратавацца з дапамогай саюза з каралём Польшчы. Аднак у выніку пастаянных нападаў з боку Масквы яны былі вымушаны скарыцца захопнікам. Цверскі князь уцёк у Літву, а Вялікае княства Цверскае ў 1485 г. увайшло ў склад Масковіі. Найдаўжэй з усіх незалежных удзельных княстваў пратрымаўся Пскоў — да 1510 г, а таксама Разань, якая страчвала незалежнасць паступова аж да 1520 г.

Аб'яднанне Русі нельга было лічыць паспяхова завершаным, пакуль вялікая частка тэрыторыі Кіеўскай Русі ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. У XIV ст. Масква абаранялася ад удараў з боку літоўскай дзяржавы. XV ст. было перыядам адноснай раўнавагі, якая вынікала як з аслабеласці Літвы, так і ўнутранага крызісу ў Масковіі. Пасля досыць працяглага адрэзку мірнага часу выбухнулі першыя сутычкі вакол Вялікага Ноўгарада. Ягелонская дзяржава не была ў стане прадпрымаць рашучыя крокі. Смерць Казіміра Ягайлавіча і часовы зрыў польска-літоўскай уніі Іван III выкарыстаў для ўдару па Літве. Пасля паразы літоўскага войска на Ведрашы перамір'е, заключанае ў 1503 г., прынесла Маскве значныя тэрытарыяльныя набыткі. Адбыўся новы падзел рускіх зямель. На ўсходзе і поўначы знаходзіліся землі, падпарадкаваныя Маскве, а на поўдні і захадзе ўлада належала літвінам. Такі падзел тэрыторыі стаў прычынай працяглага і кровапралітнага змагання Масковіі з Літвой і Польшчай, якое працягвалася амаль тры стагоддзі.

Варта лепей прыгледзецца да сутнасці Маскоўскай дзяржавы як палітычнага суб'екту. У канцы XV ст. у ёй канчаткова аформіліся асаблівыя рысы ўнутранага развіцця. Баяры, як і раней, захавалі свае прывілеі ў якасці групы, якая фарміравала структуры ўлады. Шэрагі баярства пашырыліся

за кошт уключэння ў свой склад нашчадкаў удзельных князёў, якія страцілі сваё незалежнае становішча. Баярамі сталі таксама князі, якія не паходзілі з уласна рускіх зямель. Прыкладам могуць служыць літоўскія Гедымінавічы. Аднак у параўнанні з папярэднімі часамі прывілеі баярства былі абмежаваны, яно губляла сваё значэнне. Баярын не мог без згоды вялікага князя кінуць службу і, прыкладам, выехаць за мяжу. У такім выпадку яго дзеянні аўтаматычна трактаваліся як здрада. Іерархія баярскіх родаў, якая вынікала з іх паходжання, строга пільнавалася вялікім князем пры прызначэнні на дзяржаўныя пасады.

Не толькі баяры вырашалі найважнейшыя дзяржаўныя справы. Усё большую ролю пачыналі адыгрываць службовыя дваране. Яны выводзіліся з катэгорыі княскіх і баярскіх слуг featureрознага сацыяльнага паходжання. Асаблівае значэнне гэтая група атрымала ў вайсковай сферы. За верную службу вялікі князь узнагароджваў яе земскімі наданнямі. Гэта была форма заходнееўрапейскага бенефіцыяту. На гэтых землях дваранін гаспадарыў да тых пор, пакуль нёс службу. Пасля яго смерці наданне вярталася ў рукі ўласніка, г.зн. вялікага князя. На тых жа самых варунках зямля магла быць пакінута сыну памерлага двараніна. Сістэма зямельных наданняў адыграла вялікую ролю ў працэсе стварэння цэнтралізаванай дзяржавы. Праз наданне зямельных надзелаў дзяржава прыцягвала да сябе групу дваран і тым самым пашырала сацыяльную базу вялікакняскай улады. У выніку досыць хаатычнай раздачы зямельных угоддзяў пачало не хапаць. Вялікія князі з гэтай прычыны звярнуліся да канфіскацыі баярскіх і манастырскіх уладанняў. Падчас праўлення Івана III была прадпрынята нават спроба секулярызацыі зямель, якія належалі праваслаўнай царкве. Аднак ад гэтай ідэі давялося адмовіцца, бо быў сустрэты рашучы супраціў. Няўдача гэтых дзеянняў хавалася не толькі ў супраціве духавенства, але і ў тым значэнні, якое мела праваслаўная царква ў Маскоўскай дзяржаве, Усходняй

Еўропе і Асманскай імперыі. Праваслаўнае духавенства мела магутнае эканамічнае становішча. Гэта быў час шпаркага гаспадарчага развіцця ў царкоўных землеўладаннях. У рукі епіскапаў і манастыроў пераходзілі найбагацейшыя абшары ў краіне. Гэтыя землі не заўсёды здабываліся легальным альбо прыстойным для святароў чынам. Даволі значнай была доля царкоўных зямель, атрыманая шляхам канфіскацыі за пазыкі ў тых баяр, якія не здолелі іх вярнуць, іншымі словамі — папросту шляхам ліхвярства. Царква не толькі валодала буйнымі землеўладаннямі. Яна навучылася дасканала гаспадарыць на іх. Даволі паспяхова ёй удавалася прыстасоўвацца да новых эканамічных рэалій, якімі былі таварна-грашовыя адносіны. У царкоўных уладаннях, у прыватнасці ў манастырах, працавалі на палях не толькі сяляне, але рамеснікі і слугі. Манастыры, асабліва буйных памераў, з'яўляліся важнымі вытворчымі цэнтрамі.

Цалкам іншая сітуацыя панавала ў буйных уладаннях баяр і князёў. Яны не здолелі прыстасавацца да выклікаў, якія несла з сабой таварна-грашовая гаспадарка, і па-ранейшаму абапіраліся на натуральныя павіннасці сялян. Землеўласнікі нярэдка трапнялі ў даўгі, закладалі свае ўладанні, якія потым ужо не маглі выкупіць[1].

Землі баяр і дваран апрацоўвалі сяляне, чые павіннасці да гэтага часу значна ўзраслі. Адбываўся далейшы рост паншчыны, якая цягам XVI ст. стала найбольш распаўсюджанай формай феадальных павіннасцей. У некаторых раёнах краіны, прыкладам, на поўдні, паншчына з'яўлялася адзіным відам павіннасцей. З развіццём таварна-грашовай гаспадаркі ўсё часцей стала паяўляцца грашовая рэнта. На павелічэнне павіннасцей сяляне адказвалі масавымі ўцёкамі з запрыгоненых зямель. Улада імкнулася абмяжоўваць свабоду перасоўвання сялянства, дазваляючы яму пакідаць гаспадарку толькі раз на год, на працягу тыдня перад днём Святога

---

[1] Wójcik Z. Historia powszechna XVI–XVII wiek. Warszawa, 1991. S. 217.

Юрыя і пасля яго, пасля заканчэння ўсіх сельскагаспадарчых прац, разліку з панам па ўсіх данінах і павіннасцях, а таксама выплаце яму пэўнай кампенсацыі. Існавалі і іншыя акалічнасці, якія яшчэ больш абмяжоўвалі і так невялікія магчымасці свабоднага перамяшчэння сялян. Прыкладам можа служыць г.зв. кабала. Беручы пазыку ў свайго пана, селянін павінен быў замест выплаты працэнтаў адпрацоўваць на зямлі крэдытора да моманту вяртання доўгу. Аднак часцей за ўсё абкладзеныя пазыкамі сяляне зусім не мелі магчымасці разлічыцца па іх, таму на ўсё жыццё звязвалі сябе з феадалам.

Яшчэ з часоў залежнасці рускіх зямель ад манголаў існавала г.зв. дума, альбо рада пры вялікім князі. Пасля вызвалення і аб'яднання Русі гэты інстытут пашырыў свой склад і абсяг дзейнасці. У яго шэрагі ўваходзілі баяры, якія мелі пасады на вялікакняскім двары, а таксама некаторыя службовыя дваране, якія называліся “дзецьмі баярскімі”. Разам з пераўтварэннем думы паявіліся першыя органы цэнтральнай улады — прыказы. Да найбольш даўніх адносіліся Скарбовы прыказ, які кіраваў дзяржаўным скарбам, Дварцовы прыказ, які займаўся дворскай гаспадаркай, і Канюшы прыказ, у функцыі якога ўваходзіў нагляд за вялікакняскімі стайнямі. Сур'ёзным крокам па стварэнні цэнтралізаванай дзяржавы стала прыняцце ў 1497 г. г.зв. Судзебніка. Гэты заканадаўчы акт увёў адзінае судаводства і зацвердзіў адміністрацыйны лад на абшарах Маскоўскага княства.

Цэнтралізаваная дзяржава з'яўляецца моцнай структурай, дзякуючы гэтаму яна робіцца аб'ектам цікавасці для іншых краін. Узрослая моц Маскоўскага княства засведчыла, што ў ім пачалі бачыць патэнцыяльнага партнёра антытурэцкай лігі. У наладжванні дыпламатычных адносін асабліва вылучаліся Габсбургі, якія ніколі не даравалі б сабе адмовы ад магчымасці аслабіць ягелонскія дзяржавы. А менавіта Масква, якая знаходзілася ў пастаянным канфлікце з Літвой з-за рускіх зямель, а ўскосна — і з Польшчай, была надзвычай выгадным саюзнікам у гэтай справе.

Рымская курыя таксама звязвала з Масковіяй уласныя планы. Рымскія папы спадзяваліся падпарадкаваць сабе рускую царкву і выкарыстаць праз гэта Маскву пры рэалізацыі сваіх палітычных намераў. Добрую магчымасць давала жаніцьба аўдавелага Івана III на пляменніцы апошняга візантыйскага імператара Зоі (Сафіі) Палеалог. Гэты шлюб сапраўды адбыўся, але прынёс карысці толькі вялікаму князю. Спакрывёны з імператарам, ён пачаў лічыць сябе яго спадкаемцам. Маскоўскі князь прыняў візантыйскі герб (двухгаловы арол) і пачаў ужываць, пакуль што спарадычна, царскі тытул. У яго акружэнні паявілася канцэпцыя, згодна з якой Масква стала “трэцім Рымам” (другім да гэтых пор называўся Канстанцінопаль). Абмінаючы праблему знешняга прызнання візантыйскай спадчыны, новыя тытулы і ідучыя ўслед за імі цырыманіяльныя навацыі адыгралі не апошнюю ролю ва ўмацаванні становішча манарха перад князямі і баярамі.

## Узмацненне пагрозы для Літвы з боку Маскоўскай дзяржавы ў канцы XV — пачатку XVI ст.

Польска-літоўскія ўзаемаадносіны мелі сталы ўплыў на характар спраў з усходнім суседам Літвы – Масковіяй. У дачыненнях з Польшчай Вялікае княства Літоўскае імкнулася весці сябе згодна са сваімі інтарэсамі. Цалкам інакш выглядалі адносіны з Маскоўскай дзяржавай, якая ў другой палове XV ст. пачала імкліва расці як найвялікшая ваенна-палітычная сіла ў рэгіёне. Значэнне Маскоўскага княства стала настолькі вялікім, што з ім лічылася нават далёкая ад яго Святая Рымская імперыя. Уладар Масквы Васіль II Сляпы яшчэ не мог адкрыта выступіць супраць Літвы, таму што мусіў расправіцца з прэтэндэнтамі на свой трон з малодшай дынастычнай лініі. Аднак калі яму ўдалося вырашыць гэты доўгачасовы канфлікт, Масква распачала актыўна рыхтавацца да рэалізацыі праграмы аб'яднання пад сваёй уладай усёй тэрыторыі Русі. На перашкодзе выкананню гэтых амбітных планаў стаяла Літва, якая з даўніх часоў трымала ў сваіх руках этнічныя рускія землі. Шмат залежала ад літоўскай палітыкі ў дачыненні да Масковіі, ад таго, хто знаходзіўся на вялікакняскім троне ў Вільні. Казімір Ягайлавіч (а менавіта з яго праўлення мы пачнем аналізаваць канфлікты з Масковіяй) першапачаткова працягваў палітыку Вітаўта як у дачыненні да Польшчы,

так і ў дачыненні да суседніх княстваў на ўсходзе, у прыватнасці да Маскоўскай дзяржавы. Казімір жадаў замацаваць за Літвой вядучую ролю на рускіх абшарах.

Паведамленне пра смерць брата Уладзіслава III пад Варнай заспела Казіміра знянацку, падчас выправы супраць Масковіі, прадпрынятай у сувязі з нападам на Вязьму. Турботы, звязаныя з заняццем трону ў Польшчы, на некалькі год перапынілі дзеянні супраць Маскоўскай Русі. Адразу пасля каранацыі Казімір меў намер ужо ў якасці караля Польшчы канчаткова разрубіць "рускае пытанне". Ён хацеў пасадзіць на вяліканяскі пасад свайго стаўленіка. З гэтай мэтай ён узяўся за фарміраванне польскіх вайсковых падраздзяленняў. Усё адбывалася спачатку па задуме караля. Аднак на самой Літве адбыліся патрасенні, якія зрабілі немагчымым ажыццявіць амбітныя намеры. Адзін з галоўных сапернікаў у барацьбе за вялікакняскі трон Міхаіл Жыгімонтавіч, нічога не атрымаўшы ад караля, збег да крымскага хана Хаджы-Ахмета і здзейсніў спусташальны татарскі набег на Падолле ў верасні 1448 г. У наступным годзе адбыўся чарговы напад, які ставіў мэтай не толькі спусташэнне, але і авалоданне паўднёвымі землямі ВКЛ. Верагодней за ўсё, яны павінны былі быць перададзены Міхаілу Жыгімонтавічу. Ён, зрэшты, шукаў падтрымкі і ў Маскве. Гэты неспрыяльны збег абставін прывёў Казіміра Ягайлавіча да падпісання ў жніўні 1449 г. міру з Маскоўскай дзяржавай. Межы Літвы і Масковіі прызнаваліся нязменнымі. Казімір абавязваўся не падтрымліваць сапернікаў Васіля II. Той, у сваю чаргу, прысягаў не аказваць дапамогі Міхаілу Жыгімонтавічу. У дамове меўся артыкул пра ўзаемную дапамогу супраць татарскіх набегаў. Па задуме польскага караля гэты мір мусіў быць кароткачасовым замірэннем перад рашучым наступам на ўсход. Аднак увязванне Казіміра ў канфлікты і спрэчкі на іншых напрамках знешняй палітыкі не дазволіла яму зноў узяцца за рэалізацыю сваіх планаў. Мір 1449 г. стаў для літоўска-маскоўскіх узаемаадносін па-

варотным пунктам. Завяршыўся наступальны перыяд у палітыцы Літвы на ўсходзе, што адкрыла дарогу для шырокай экспансіі Маскоўскай дзяржавы. Наступствы такога стану рэчаў далі сябе адчуць яшчэ падчас праўлення Казіміра Ягайлавіча[1].

Баі, якія вяліся на тэрыторыі Чэхіі і Венгрыі, не дазвалялі адпаведным чынам заняцца літоўскімі справамі. Казімір надзвычай рэдка паяўляўся ў Літве, а яго побыты былі звычайна кароткімі па часе. Кожная праблема з гэтай прычыны вырашалася павярхоўна, без поўнага разбору. Літоўская арыстакратыя звярнулася з просьбай да караля, каб той паставіў урэшце асобнага вялікага князя. Ім мог стаць, на яе думку, адзін з каралеўскіх сыноў. Такія просьбы літвінаў не былі пазбаўлены падстаў. У той час, калі Ягелоны змагаліся за перавагу ў Цэнтральнай Еўропе, на ўсходзе ўсё больш мацнела Масква.

Літва апынулася перад аблiччам надзвычай грознага праціўніка. На маскоўскім троне сеў жорсткі і суровы Іван III (1462–1505 гг.). Сваю палітычную дзейнасць па аб'яднанні рускіх зямель ён распачаў ад нападу на дзве купецкія рэспублікі — Вялікі Ноўгарад і Пскоў. Абодва гарады заставаліся пад уплывам Літвы. Дарэмна наваградцы прасілі ў польскага караля дапамогі. У 1471 г. Ноўгарад трапіў пад кантроль Масквы. Праз некалькі год тут выбухнула антымаскоўскае паўстанне. Казімір, аднак, і цяпер не аказаў гораду належнай падтрымкі. Іван з лёгкасцю адолеў паўстанцаў і назаўсёды зламаў сілу Ноўгарада.

Адзінай спробай стрымаць поспехі Івана на дарозе да славы быў рыхтаваны Залатой (Вялікай) Ардой на чале з ханам Ахматам (Ахмедам) удар па Масковіі. У адказ на польска-літоўскія дзеянні Іван паразумеўся з крымскімі татарамі. У хуткім часе яны пачалі чыніць спусташальныя набегі на памежныя польскія і літоўскія землі.

---

[1] Grodecki R., Zachorowski S., Dąbrowski J. Op. cit. S. 391.

Палітыка Казіміра Ягайлавіча схіляла Івана III да адкрытага выступу супраць Літвы з прэтэнзіямі ў дачыненні да рускіх зямель у яе складзе. У акружэнні Казіміра з'явілася ідэя ажыццявіць вялікую выправу супраць Масковіі. Яе падтрымалі літоўскія магнаты, незадаволеныя курсам Казіміра на поўнае з'яднанне прыналежных да ВКЛ зямель і ліквідацыю асобных удзелаў. Такая палітыка не падабалася мясцовым князям, у асаблівасці на Кіеўшчыне. Кіеўскае княства з пэўнага часу карысталася аўтаноміяй у межах літоўскай дзяржавы. Спробам знішчыць самастойны статус у 1471 г. кіяўляне аказалі рашучы адпор. Аднак, нягледзячы на пратэсты, Казіміру ўдалося пасадзіць у Кіеве свайго намесніка. Прэтэнзіі Івана III на рускія землі маглі стаць прычынай сур'ёзных унутраных ускладненняў, а таму план выправы супраць Масквы меў добрыя шанцы на поспех. Пачалося ажыццяўленне дзеянняў па фарміраванні антымаскоўскай лігі. У яе павінны былі ўвайсці, акрамя Польшчы і Літвы, Ордэн Мечаносцаў у Інфлянтах, Швецыя і згаданая раней Залатая Арда. На жаль, вялікія намеры зніклі, як толькі ўзяліся за іх рэалізацыю. Хоць татары Ахмата і вырушылі ў 1480 г. у напрамку Акі, але іх не падтрымалі літвіны. Татарская выправа скончылася паразай, а сам Ахмат загінуў падчас адступлення. Уцёкі татарскіх чамбулаў засведчылі канец амаль двухсотгадовага мангольскага дамінавання над Руссю. Татарам з Залатой Арды не дапамагла таксама Польшча, якая была вымушана змагацца на літоўскім Падоллі з крымскімі татарамі, якіх паклікаў Іван III.

Але не толькі з гэтай прычыны Польшча не прыняла ўдзелу ў планаванай антымаскоўскай выправе. У Літве разгарэўся ўнутраны канфлікт. Аб сваіх правах на трон успомніў кіеўскі князь Міхаіл Алелькавіч, у якога кароль забраў княства ў 1471 г. Былы ўладар Кіева быў незадаволены тым, што Казімір адмовіўся вярнуць яму горад пасля звальнення намесніка ў 1480 г. Міхаіл склаў змову, у якую ўцягнуў князя Фёдара Бельскага і пляменніка каралевы Сафіі, кня-

зя Івана Гальшанскага. У шэрагах змоўшчыкаў знаходзіліся таксама вяльможы, незадаволеныя сваім адсоўваннем ад улады на карысць каралеўскіх фаварытаў, часта больш сціплага паходжання. Апору для сваіх дзеянняў удзельнікі змовы шукалі, зразумела, у Маскве. Яны хацелі забіць караля і яго сыноў, пасля чаго ўзнесці на трон вялікага князя Міхаіла Алелькавіча. Усё павінна было адбыцца падчас палявання. На шчасце, гэты бязбожны план удалося выкрыць. Змоўшчыкі былі схоплены на вяселлі аднаго з іх. Фёдар Бельскі збег у Масковію. Няспраўджаны князь Міхаіл Алелькавіч і Іван Гальшанскі былі асуджаны на смерць праз суд літоўскіх вяльмож. Выкананне выраку адбылося ў жніўні 1481 г. Такім чынам былі калі не ўтаймаваны, то дакладна стрыманы сепаратысцкія памкненні ў Літве.

Нягледзячы на частковую няўдачу сваіх планаў, Маскоўскае княства зусім не збіралася адмаўляцца ад антылітоўскіх дзеянняў. У 1480 г. быў заключаны саюз паміж Іванам III і Менглі-Гірэем, крымскім ханам. У хуткім часе ўздзеянне гэтага факту адчула на сабе Літва. У 1482 г. татарскія чамбулы напалі на паўднёвыя рускія землі, якія знаходзіліся пад уладай Літвы. У выніку гэтага набегу быў спустошаны Кіеў і шмат іншых бліжэйшых гарадоў і мястэчак. З гэтых пор амаль кожны год крымскія татары па ўласнай ініцыятыве альбо з падгаворвання Масквы ажыццяўлялі спусташальныя набегі на памежныя землі ВКЛ.

На працягу наступных некалькіх год стасункі паміж Масковіяй і Літвой былі надзвычай нацягнутымі. Увесь час у паветры вісела небяспека выбуху вайны. Аднак да ваенных сутыкненняў яшчэ не дайшло. Затое паявілася пагроза з боку Турцыі. Казімір Ягайлавіч быў вымушаны звярнуць больш пільную ўвагу на паўднёвае памежжа. Была нават вылучана ідэя замірэння з Іванам III альбо заключэння саюзу, скіраванага супраць туркаў. Уладар Масквы, аднак, выкарыстаў часовае адцягванне ўвагі польска-літоўскай дзяржавы ад рускай праблемы ў сваіх інтарэсах. Нягледзячы

на тое, што фармальна вайна не была абвешчана, на межах літоўскай дзяржавы з 1485 г. адбываліся сталыя канфлікты і сутычкі. У іх выніку Масковія займала ўсё, што давала рады. Дыпламатычныя механізмы таксама не спачывалі, перацягваючы памежных князёў на маскоўскі бок. Пад панаваннем Масквы ў 1487 г. апынуўся Перамышль, а ў 1489 г. — Сярэнск і Казельск разам з пасам зямлі над Угрой і Акой. Бяздзейнасць з боку Польшчы і Літвы прывяла да таго, што праблема маскоўскай пагрозы пры жыцці Казіміра Ягайлавіча не была вырашана. Гэта ў канчатковым выніку абярнулася жорсткім урокам для польска-літоўскай дзяржавы.

Пасля смерці Казіміра Ягайлавіча памежныя сутыкненні перайшлі ў адкрытую вайну. Панаванне Аляксандра Ягайлавіча распачалося са збройнага канфлікту. Яшчэ ў 1492 г. Масква схіліла на свой бок некалькіх памежных князёў, а затым заняла Вязьму і меншыя гарады. У гэтай вайне палякі не хацелі ўдзельнічаць, а кінутая ў самотнасці Літва была вымушана пагадзіцца на заключэнне ў 1494 г. нявыгаднага міру, згодна з якім Вязьма заставалася ў руках Масквы. Аляксандр спадзяваўся, што пазбегне далейшых ваенных канфліктаў у будучыні, ажаніўшыся з дачкою Івана III Аленай. Шлюб адбыўся ў 1495 г., але гэта не засцерагло Літву ад новых прэтэнзій Івана III, які, бачачы слабасць праціўніка, заявіў, што канчатковае замірэнне наступіць пасля перадачы Аляксандрам Маскве ўсіх рускіх зямель з-пад панавання Літвы. Ужо ў наступным годзе адбыўся чарговы набег татарскага войска, на гэты раз на Валынь. У баях вызначыўся князь Канстанцін Астрожскі. Колькасная перавага не давала шанцаў на паспяховае змаганне з качэўнікамі ў адкрытай мясцовасці. Астрожскі вырашыў выматаць татарскае войска падчас яго ўдару на Роўна. Спроба разбіць татар пад горадам, аднак, аказалася беспаспяховай, і абаронцы былі вымушаны схавацца ў замку. Сам горад быў спалены, а нападаючыя хоць і з вялікімі стратамі, але з унушальным ясырам вярнуліся ў Крым.

Як ужо згадвалася, Іван III, нягледзячы на парадненне з ягелонскай дынастыяй, зусім не хацеў адмаўляцца ад сваёй палітыкі, нацэленай на пазбаўленне Літвы яе ўсходнерускіх зямель. Неспрыяльная сітуацыя ў Польшчы прымусіла яго дзейнічаць больш актыўна. Гэта быў 1497 г., час няўдалай антытурэцкай выправы Яна Ольбрахта. Масква, бачачы саслабеласць праціўнікаў, прыступіла ў 1498 г. да вялікай вайны з Літвой. Галоўны ўдар маскоўцаў прыйшоўся на 1500 г. На Літву рушылі тры арміі. Адначасова здзейснілі напад крымскія татары Менглі-Гірэя, якія выпусцілі свае загоны на паўднёвую Русь, дайшоўшы аж да Берасця. Іван III асноўнай мэтай гэтай выправы вызначыў авалоданне Чарнігава-Северскай зямлёй. У якасці зачэпкі для адкрытай вайны паслужыла праблема будаўніцтва новай праваслаўнай царквы ў Вільні для Алены, жонкі Аляксандра.

Вялікі князь прыняў рашэнне, згодна з якім у першую чаргу належала абараніць Смаленск, які з'яўляўся ключавым пунктам у абарончай сістэме літоўскай дзяржавы. Для падрыхтоўкі смаленскай крэпасці да абароны Аляксандр даслаў Канстанціна Астрожскага разам з сабранымі ў спешным парадку почтамі літоўскіх магнатаў. У гэты час праходзіла канцэнтрацыя асноўных сіл. Астрожскі, аднак, не стаў чакаць на злучэнне ўсяго войска і рушыў далей на ўсход. Ён меў намер расправіцца з цэнтральнай, найслабейшай маскоўскай арміяй, якая знаходзілася ў ваколіцах Дарагабужа. Аднак аказалася, што яна не была ўжо такой і слабой. Адбылося перагрупаванне рускіх падраздзяленняў, у выніку была створана дванаццацітысячная групоўка пад камандаваннем князя Данілы Шчэні. Астрожскі гэтым значным сілам мог супрацьпаставіць толькі 8 тысяч жаўнераў. Нягледзячы на такую вялікую розніцу, ён адважыўся на ўдар па непрыяцелю. Бітва адбылася 14 ліпеня 1500 г. у даліне Дняпра, каля яго левага прытока Ведрашы. У пачатковай фазе літвінам удалося рассеяць перадавы маскоўскі полк і ў пагоні за ім перайсці на правы бераг Ведрашы. Там іх

атакавалі галоўныя сілы непрыяцеля. Пасля шасцігадзіннай бітвы літоўскае войска скарылася перад пераважваючымі сіламі ворага. Страты былі вялікімі – на полі бою палегла амаль палова войска Астрожскага. Рэшта са сваім военачальнікам трапіла ў няволю. Гэта была першая значная перамога маскоўцаў над літвінамі ў адкрытых бітвах. У выніку паразы Вялікае княства Літоўскае згубіла ўсю Северскую зямлю разам з яе асноўнымі гарадамі: Бранскам, Ноўгарад-Северскім, Старадубам, Чарнігавам і Гомелем. Маскоўскае войска не спрабавала здабыць Смаленск, бо таксама панесла значныя страты[1].

Нягледзячы на паразу на Ведрашы, вайна яшчэ не была прайгранай. Літвінам удалося перахіліць на свой бок заволжскіх татар, якія сваімі дзеяннямі паралізавалі рух атрадаў Менглі-Гірэя. Як саюзнік выступіў Ордэн мечаносцаў, чый магістр Плетэнберг здабыў важную перамогу над Масквой. Аднак Аляксандр неўзабаве быў вымушаны прыпыніць ваенныя дзеянні і адправіўся ў Польшчу, каб сесці на трон пасля смерці брата. Ён спадзяваўся, што знойдзе адназначную падтрымку польскіх магнатаў, якія ўзялі на сябе кіраўніцтва краінай. У сваіх разліках Аляксандр пралічыўся. Сенат, які фактычна кіраваў у дзяржаве, не здолеў сабраць адпаведных падаткаў. Неаплачаныя найманыя жаўнеры разышліся дадому, руйнуючы землеўладанні і чынячы гвалт па дарозе. Польская знаць раіла каралю як мага хутчэй скончыць вайну з Масковіяй.

У гэты час маскоўскае войска прыступіла да аблогі Смаленска. Сітуацыя рабілася ўсё больш драматычнай. На шчасце, інфлянцкі магістр Плетэнберг атрымаў над маскоўскім войскам перамогу на возеры Смоліна. Яна дазволіла адкінуць непрыяцеля ад аблажанага Смаленска, які апынуўся ў невыносных умовах. Нягледзячы на гэты поспех, стан спраў быў не най-

---

[1] Бітва на Ведрашы дасканала апісана ў: Herbst S. Bitwa nad Wiedroszą 1500 roku // Wieki średnie. Prace ofiarowane T. Manteufflowi. Warszawa, 1962.

лепшым. Крымскім татарам удалося перамагчы сваіх "братоў" з Вялікай Арды, а затым уварвацца на Валынь і каронную Русь. Іх чамбулы паявіліся нават на левым беразе Віслы. У сувязі з такім неспрыяльным развіццём падзей на пачатку 1503 г. былі ініцыяваны мірныя перамовы з Масквой. У сакавіку было заключана шасцігадовае перамір'е. На яго падставе Маскоўская дзяржава атрымала агромністыя абшары задняпроўскіх зямель, якімі яна авалодала падчас ваенных дзеянняў. Яны склалі каля 25% тэрыторыі літоўскай дзяржавы.

Заключэнне перамір'я зусім не азначала, што вайна скончылася. Галоўнай пагрозай, натуральна, з'яўляліся крымскія татары, якія спустошвалі польска-літоўскія землі. У канцы 1506 г. адбыўся адзін з найбольш значных татарскіх набегаў. Два сыны Менглі-Гірэя на чале некалькіх тысяч ваяроў вырушылі на землі Вялікага княства Літоўскага. Яны дайшлі аж пад Клецк, які ляжаў на мяжы Слуцкага княства і Віленскага ваяводства на рацэ Лань, прытоку Прыпяці. Сам горад быў спалены падчас набегу ў 1503 г. Пасля закладкі лагера (коша) татарскія военачальнікі разаслалі шматлікія чамбулы на захад, аж да Вількаміра і Гародні, а таксама ў паўночна-заходнім кірунку пад Ашмяны, Ліду і Крэва. Частка атрадаў была адпраўлена ў паўночным кірунку на Менск. Усведамляючы пагрозу патэнцыяльнага нападу татар, Аляксандр Ягайлавіч распачаў фарміраванне войска ў Літве. Аднак сабраныя сілы былі яўна недастатковыя для адпору праціўніка. З гэтай прычыны ў ліпені кароль прыбыў у Вільню і абвясціў збор паспалітага рушэння з тэрыторыі ВКЛ. Паводле традыцыі Аляксандр сам павінен быў камандаваць сабранай шляхтай, але яму перашкодзіла хвароба. Камандаванне было перададзена Станіславу Кішку. Але той таксама захварэў і быў вымушаны здаць военачальніцкія функцыі. У выніку ўсімі ўзброенымі сіламі, у прыватнасці літоўскім паспалітым рушэннем, найманымі ротамі і польскай надворнай харугвай, фактычна камандаваў надворны маршалак ВКЛ Міхаіл Глінскі.

Літоўскае войска сканцэнтравалася ў ваколіцах Ліды. Адтуль на пачатку жніўня яно вырушыла пад Клецк. Армія Глінскага павінна была ўдарыць па татарскім кошы. Пасля разбіцця войска, якое там знаходзілася, меркавалася па чарзе знішчаць тыя чамбулы, якія вярталіся са здабычай у лагер. Адзін з іх нават удалося ліквідаваць перад уваходам у Клецк. Татары заклалі свой кош паблізу перакрыжавання дарог, якія вялі на паўночны захад у Вільню і Наваградак, на поўнач — у Нясвіж і Менск, на паўднёвы ўсход — на пераправу праз Прыпяць у Пінск. Міхаіл Глінскі быў някепскім ваенным тэарэтыкам. Яго план бітвы прадугледжваў перш за ўсё адрэзванне зваротнай дарогі татарскаму войску, якое знаходзілася ў кошы. Ёю з'яўлялася дарога ў Тураў. З гэтай прычыны Глінскі вырашыў ударыць з паўднёва-заходняга боку. Была падрыхтавана пераправа праз балоцістыя разлівы на рацэ Лань. Па выкладзеным дрэвам і хмызняком маршруце літоўская армія, сабраная ў дзве калоны, рушыла наперад. Правая калона, у задачы якой уваходзіла як мага хутчэйшае заняцце дарогі ў Тураў, сутыкнулася з моцным супрацівам. На дапамогу ёй паспяшалася другая калона. Яна ўдарыла па непрыяцелю, што і вызначыла пераможцу. Выкарыстоўваючы тую акалічнасць, што блакада адваротнага шляху не ўдалася адразу, частка татар кінулася наўцёкі. Яны не зайшлі далёка — на іх напала лёгкая літоўская конніца. Пасля выйгранага бою асноўныя сілы Глінскага чакалі пад Клецкам на чамбулы, якія вярталіся назад. Некаторыя з іх даведаліся пра падзеі ў кошы і паспрабавалі абмінуць Клецк. Большасць з іх, аднак, была разбіта высланай пагоняй. У татар адабралі ўвесь палон і здабычу[1].

Пасля смерці хваравітага Аляксандра ў 1506 г. трон у Польшчы і Літве перайшоў да Жыгімонта І. Годам раней

---

[1] Nowak T. M., Wimmer J. Historia oręża polskiego 963—1795. Warszawa, 1981. S. 280; Herbst S. Kleck 1506 // Przegląd Historyczno-Wojskowy. 1934. T. VII.

на той свет адышоў Іван III. Новы ўладар польска-літоўскай дзяржавы паспрабаваў актывізаваць палітыку супраць Масковіі. Здавалася, абставіны спрыяюць яго планам і дзеянням. Так, у 1506 г. верныя да гэтых пор Маскве крымскія татары перайшлі на бок Польшчы і Літвы. На падставе заключанай дамовы Менглі-Гірэй адмаўляўся ад прэтэнзій на ўсе рускія землі, якія захапіла Масква ў ВКЛ. Раней яны належалі Залатой Ардзе, чыім спадкаемцам лічыла сябе Крымскае ханства. Менглі-Гірэй прызнаваў за Жыгімонтам І правы на Пскоў, Вялікі Ноўгарад і Разань. З такімі дзеяннямі свайго былога саюзніка не пагадзіўся новы ўладар Масквы — Васіль III. Адказам на гэтую дамову з'яўлялася аднаўленне ваенных дзеянняў з маскоўскага боку. Пад канец 1507 г. у Літву вырушылі зноў, як у 1500 г., тры вайсковыя групоўкі. Трымаць абарону ў значнай ступені перашкаджалі неспадзяваныя падзеі ў Літве. Тут выбухнуў мяцеж, падняты трыумфатарам бітвы пад Клецкам Міхаілам Глінскім. Ён не быў цвёрдым прыхільнікам польска-літоўскай уніі, у асаблівасці з часоў вайны 1500–1503 гг., калі Літва дарэмна чакала канкрэтнай дапамогі ад Польшчы ў барацьбе з Масковіяй. У многім дзякуючы Глінскаму літоўскія магнаты адпрэчылі палажэнні Мельніцкай уніі. На гэты раз, калі мелася выбухнуць чарговая вайна, Глінскі вырашыў перайсці на бок Васіля III. Цалкам верагодна, што амбітны літоўскі вяльможа меў намеры аднавіць Кіеўскую Русь і цалкам парваць сувязі з Літвой. У сакавіку 1508 г. Глінскі заняў Мазыр, а ў кірунку Кіева выслаў свайго брата Васіля. У задачы апошняга ўваходзіла авалоданне Оўручам і Житомірам. Кароль Жыгімонт адправіў у Літву гетмана Мікалая Фірлея з польскай конніцай у складзе 1 тысячы чалавек. Яна затрымалася ў Луцку, даведаўшыся пра адступленне Васіля Глінскага з-пад Жытоміра. Такім чынам, Кіеўшчына не была адрэзана. У ліпені браты Глінскія адступілі з-пад Менска і накіраваліся пад Оршу, дзе сілы мяцежнікаў злучыліся з войскам маскоўскага ваяводы Данілы Абаленскага.

Вясною 1508 г. на тэатры ваенных дзеянняў паявіўся Канстанцін Астрожскі. Яму ўдалося збегчы з маскоўскай няволі, у якую ён трапіў пасля паразы на Ведрашы. Ён заняў рэзідэнцыю Глінскіх — Тураў на Палессі. Затым ён аб'яднаўся з каралеўскім войскам у Наваградку. Астрожскі быў прызначаны галоўнакамандуючым (гетманам) выправай супраць маскоўскага войска, якое захоплівала ўсходнія землі Вялікага княства Літоўскага. Пад яго непасрэдным камандаваннем знаходзілася літоўскага паспалітае рушэнне ў складзе 10 тысяч вершнікаў. Апрача гэтага, Астрожскі павінен быў узаемадзейнічаць з камандзірам польскага найманага войска Мікалаем Фірлеем. Ён меў пад сваёй камандай 5 тысяч коннікаў і пяхоты. Шпарка рухаючыся на ўсход, польска-літоўская армія дапамагла абложанаму Глінскімі Менску. 13 ліпеня Астрожскі разам з Фірлеем дасягнулі Оршы. На іншым баку Дняпра ўжо стаяла маскоўскае войска, колькасць якога яўна завышана ацэньвалася ў 50 тысяч чалавек. Кароль вырашыў даць бой. Каралеўскае войска збудавала насупраць пераправы праз раку два ўмацаваных лагеры — польскі і літоўскі. Да бітвы войска шыхтавалася ў тры шэрагі. На самым пачатку бітвы некалькі каралеўскіх харугваў пераправілася праз некантраляваны брод у верхнім цячэнні ракі і ўдарыла па маскоўскім лагеры. Адначасова на рускія атрады, якія паспрабавалі абараніць пераправу, ударылі лёгкаўзброеныя польскія харугвы. За імі пайшла конніца, узброеная коп'ямі, а затым пачала перапраўляцца пяхота. Аднак з надыходам цемры кароль вырашыў спыніць атаку. Ён баяўся ўдару ад перавышаючай па колькасці маскоўскай конніцы. Падзеленае на розных берагах польска-літоўскае войска магло не адолець ворага. Карыстаючыся начной цемрай, рускія войскі адступілі на ўсход.

Каралеўскае войска тымчасам рушыла далей і 1 жніўня разбіла лагер пад Смаленскам. Жыгімонт I вырашыў, што Астрожскі разам з Фірлеем будуць накіраваны з асноўнымі сіламі на Севершчыну. Паміж гетманамі, аднак, паўстала

спрэчка аб старшынстве, з-за чаго выправа была на нейкі час адкладзена. Ніхто з іх не хацеў саступаць, і таму кароль вырашыў адправіць у напрамку маскоўскага войска Станіслава Кішку з атрадам польска-літоўскай конніцы, які налічваў некалькі тысяч чалавек. Кішка зайшоў са сваім малалікім войскам аж да Мажайска і Ржэва, заняўшыпа дарозе Дарагабуж. У хуткім часе яму, аднак, давялося сутыкнуцца з маскоўскай арміяй. Асцерагаючыся акружэння, Кішка выслаў ганцоў да караля з просьбай аб дапамозе. Манарх накіраваў Фірлея з найманым каронным войскам. Вялікая адлегласць і перашкоды, падрыхтаваныя на дарогах рускімі тылавымі падраздзяленнямі, зрабілі немагчымым яго падыход у патрэбны час. На шчасце, Кішку ўдалося самому выбрацца з пасткі і пасля злучэння з польскім войскам вярнуцца пад Смаленск[1].

Двухгадовая вайна з Васілём III не прынесла аніякіх відавочных вынікаў. 8 кастрычніка 1508 г. быў падпісаны г.зв. “вечны мір”. Масква не атрымала ніводнага кавалку літоўскай зямлі, што можна палічыць за своеасаблівы поспех польска-літоўскага боку ў гэтай вайне. Не зважаючы на заключэнне міру з Масковіяй, у далейшым адбываліся сутычкі з татарамі. Самі крымскія татары, падбухтораныя польскалітоўскім бокам, ахвотна выпраўляліся супраць Масквы. У 1512 г. татарскія орды зноў ударылі па літоўскіх землях. У сакавіку гэтага ж года разведка данесла, што татары рыхтуюць новы вялікі напад, выкліканы жаданнем умацаваць свае сілы пасля цяжкага зімавання. Неўзабаве першыя чамбулы ўварваліся на валынскія землі. На пачатку красавіка татары заклалі лагер каля Буска, мястэчка, якое ляжала на мяжы Бэлзскага і Рускага ваяводстваў, у 50 кіламетрах на ўсход ад Львова. Па звычцы яны адразу распусцілі па ваколіцах шматлікія загоны. На Падоллі знаходзіўся толькі

[1] Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów / Red. M. Nagielski. Warszawa, 1995. S. 385.

невялікі атрад паточнай абароны ў колькасці каля 600 чалавек. Спешна распачалі збіраць войска ў Львове. Кароль Жыгімонт I аддаў камандаванне над ім гетману Мікалаю Камянецкаму. Быў паклíканы да абароны і Канстанцін Астрожскі, які на чале паспалітага рушэння адправіўся з тэрыторыі Валыні. Збор каралеўскага войска, аднак, ішоў надзвычай павольна. Татары змаглі дабрацца аж да Любліна, Хэлма і амаль дасягнулі Львова і Перамышля. Таксама ў напрамку Галіча і Каламіі дзейнічалі шматлікія чамбулы. Татарскія дзеянні адзначаліся нязвыклай хуткасцю. Пакуль каралеўскае войска канцэнтравалася ў Львове, татары з захопленай здабычай і вялікім палонам сабраліся каля Буска. Затым яны згарнулі лагер і адышлі ў напрамку Вішняўца. Польскім падраздзяленням урэшце ўдалося аб'яднацца і адразу ж рушыць за захопнікамі. Пасля трох дзён маршу 27 красавіка яны злучыліся пад Вішняўцом з літоўскім войскам Астрожскага. У агульнай колькасці польска-літоўская армія налічвала каля 6 тысяч чалавек. Не абышлося без сварак паміж гетманамі наконт правядзення будучай бітвы. У рэшце рэшт удалося знайсці кампраміс і прыняць рашэнне, што войска будзе ісці маршам усю ноч, каб як мага хутчэй дагнаць непрыяцеля. Гэта ўдалося выканаць ужо на наступны дзень, 28 красавіка, пад вёскай Ласосна. Татары, не жадаючы згубіць каштоўны ясыр, вырашылі прыняць бой.

Дыспазіцыя польска-літоўскага войска выглядала наступным чынам:

На правым фланзе знаходзіліся конныя падраздзяленні гетмана Канстанціна Астрожскага. Левы фланг утваралі польскія фарміраванні, таксама складзеныя пераважна з вершнікаў. Яны мелі роту найманай пяхоты з дзвюма гарматамі. Пяхота і гарматы былі размешчаны на першай лініі, перад польскай конніцай. Яна павінна была стрымаць сваім агнём першую татарскую атаку. Гэта магло прывесці да страшэннага перапалоху ў шэрагах ардынцаў, слаба гатовых да барацьбы з выкарыстаннем агняпальнай зброі. Другую лінію

складаў перадавы гуф пад камандаваннем Войцеха Сампалінскага. На трэцяй лініі стаў вальны гуф, якім кіраваў рускі ваявода Ян Адравонж.

Татары выстраіліся ў дзве лініі насупраць польска-літоўскага войска. Сваім размяшчэннем яны хацелі засланіць лагер, адсунуты далёка ў тыл. Менавіта там знаходзіліся нарабаваная здабыча і палонныя. Польска-літоўскае войска абаперла свае пазіцыі аб лес, таму татары не маглі прымяніць сваю ўлюбёную тактыку ўдараў па бакавых флангах праціўніка. Яны паспрабавалі падзяліць групоўкі Камянецкага і Астрожскага. Апошні першым прыняў на сябе ўдар татарскага войска. Неўзабаве малыя па колькасці літоўскія атрады былі акружаны. Астрожскі, аднак, не страціў вытрымкі і працягваў стрымліваць націск татар да тых пор, пакуль не адбылася адцягваючая атака польскага войска. Гетман Камянецкі не даслаў Астрожскаму ўсе свае сілы. Толькі калі татары кінулі ў бой усё войска, ён выкарыстаў для разбіцця праціўніка ў якасці рэзерва вальны гуф. У ходзе сутыкнення адна з харугваў пераадолела татарскія шэрагі і дабралася да лагера. Вызваленыя з ясыру людзі схапіліся за зброю і разам з конніцай ударылі па татарах ззаду. Атакаваны з двух бакоў непрыяцель не спрабаваў супраціўляцца і кінуўся на ўцёкі. Страты татар былі значнымі, а вось у польска-літоўскім войску загінула не больш за 100 чалавек. Быў вызвалены грамадны ясыр — 16 тысяч чалавек і 10 тысяч коней.

Баі з татарамі не сталі найважнейшай падзеяй у 1512 г. Ужо ў лістападзе вялікі князь маскоўскі Васіль III абвясціў вайну польскаму каралю Жыгімонту I, а на пачатку 1513 г. магутная руская армія пад камандаваннем самога вялікага князя ўзяла ў аблогу Смаленск.

У гэтым месцы мы спынім наш аповед. Перад тым як заняцца аналізам ваеннай кампаніі 1512–1514 гг., зазірнем, як ствараліся асновы новага ваеннага мастацтва і як на гэтым фоне выглядала польскае, літоўскае і маскоўскае войска.

## *Si vis pacem, para bellum** — нараджэнне новага ваеннага мастацтва

Пераломны перыяд, якім быў канец XV — пачатак XVI ст., аказаўся надзвычай плённым у гісторыі ваеннай справы. Скончылася эпоха сярэднявечнага рыцарства, пачыналася шматвекавое панаванне найманага войска, якое ваявала за грошы. Канец Сярэднявечча і пачатак Новага часу былі дасканалым палігонам для стварэння новых вайсковых фарміраванняў і выпрабавання наватарскіх тэхнічных рашэнняў. Еўрапейскае ваеннае мастацтва перажывала бурлівае развіццё. Яго паскаралі два буйныя канфлікты. Першы — змаганне хрысціянскай Еўропы з ісламскім светам, які стала пашыраў свае ўплывы (маецца на ўвазе перадусім узрослая пагроза з боку Турцыі). Другой праблемай, ужо ўнутрыеўрапейскага кшталту, з'яўляўся ўзмоцнены працэс фарміравання цэнтралізаваных нацыянальных дзяржаў. Абодва канфлікты суправаджаліся крывавымі войнамі. Вядома, што нішто так не спрыяе развіццю ваенных тэхналогій і стратэгіі, як правядзенне саміх войнаў. Недастаткова проста вырабіць нейкую зброю, трэба яшчэ даведацца, як яна сябе будзе паводзіць у варунках рэальнай вайны. Выпрабаванні ў справе не бываюць марнымі. Толькі ў абставінах сапраўднага

* *Хочаш міру — рыхтуйся да вайны* (лат.)

бою высвятляецца, ці ёсць вартай новая вінтоўка, ракета і інш. Гэта датычыцца і новых тактычных рашэнняў на полі бою. Нельга ж уявіць з дакладнасцю, што паводзіны выдуманага праціўніка ў тэорыі будуць такімі ж, як сапраўднага ворага. Вяртаючыся да нашых разважанняў, неабходна зазначыць, што ў барацьбе і з ісламскімі дзяржавамі, і з гарадамі ў баях брала ўдзел выключна рыцарства. Такая вайсковая арганізацыя, дакладней, цэлая сацыяльная структура была характэрнай з'явай для Сярэднявечча.

Маладым дзяржаўным арганізмам, якія паўставалі на руінах Заходняй Рымскай імперыі, быў уласцівы нізкі ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця. Існавала мноства перажыткаў з нядаўняй племянной мінуўшчыны. Аснову ўзброеных сіл складала ўсеагульнае паспалітае рушэнне. У яго ўваходзілі ўсе вольныя людзі, здольныя насіць зброю. Кожны з удзельнікаў такога рушэння "ўзбройваў" сябе па сваіх фінасавых магчымасцях. Рэсурсы давалі перадусім зямельныя ўладанні. У тагачасных ваенных дзеяннях усё часцей прымянялася цяжкаўзброеная конніца. Уладары імкнуліся павялічыць яе колькасць у шэрагах уласных войскаў. Расло значэнне групы, якая мела дастатковыя памеры землеўладанняў, каб забяспечыць сябе зброяй і баявым канём. Калі-некалі ўладары самі займаліся конегадоўляй, а таксама вытворчасцю альбо закупкамі адпаведных відаў зброі, тым самым ствараючы неабходную базу забеспячэння для войска. Гэта, аднак, было дарагім мерапрыемствам і перавышала магчымасці манархаў пры натуральным вядзенні гаспадаркі і слабаразвітай фінансавай сістэме. Сапраўды, прасцей было раздаваць вайскоўцам значныя зямельныя абшары. Узамен тыя маглі несці конную вайсковую службу і ў добрым узбраенні, лепшым у параўнанні з тым, на якое мог разлічваць звыклы ўдзельнік паспалітага рушэння. Цяжкаўзброеныя вершнікі ў Еўропе пачалі атаясамляцца з заможнымі землеўладальнікамі. Яны стваралі сабою праслойку вайскоўцаў, якая станавілася элітай феадальнага грамадства эпохі Сярэднявечча.

Можна сцвярджаць, што рыцары былі прафесійным вой-

скам. Разам з зямлёй пераходзіў па спадчыне і абавязак вайсковай службы. Сродкі існавання рыцару давала зямля, якую апрацоўвалі прывязаныя да яе сяляне. Рыцары ў пераважнай большасці жылі на вёсцы, ва ўласных маёнтках, г.зн. не былі сканцэнтраваны ў адным месцы. Менавіта гэта ўяўляла адну з сур'ёзных праблем. Акцэнт рабіўся на індывідуальнай падрыхтоўцы ваяра, а практыкаванням у калектыўных атрадах надавалася слабая ўвага. Рыцар не ўмеў дзейнічаць сумесна з астатнімі паплечнікамі на полі бою. Людзі, якія складалі харугву, часта сустракаліся ўпершыню толькі падчас ваенных выпраў. Зразумела, такое войска не магло ўтрымацца ў правільных, роўных парадках, не ўмела гнутка і зграбна манеўраваць. Рыцар быў здольны ўзаемадзейнічаць толькі са сваім дапаможным почтам (яшчэ прасцей — з пахолкам альбо стральцом), з якім павінен быў ставіцца ў войска. Паўстаў нават спецыяльны спосаб парадкавання войска для ўдару па праціўніку, які меў назву "частакол". Ён уяўляў сабой расцягнуты ланцуг асобных почтаў, з якіх кожны біўся па-свойму, як умеў. Палова бяды была, калі супраць цябе выступала войска падобнага тыпу. Можна было спадзявацца, што абодва бакі прыменяць тактыку "частаколу" і бітва будзе выглядаць як дробныя сутычкі разрозненых почтаў. Прымяняліся таксама такія рыцарскія "вынаходніцтвы", як спыненне бою для адпачынку. Так, напрыклад, праходзіла бітва пад Бувінам у 1214 г., а таксама бліжэйшая да нас бітва з крыжакамі пад Каронава ў кастрычніку 1410 г. Нашмат горш было, калі даходзіла да сутыкнення з праціўнікам, які прымяняў зусім адрозныя спосабы бою.

Такім праціўнікам аказаліся туркі. Іх войскі былі дасканала арганізаваны і падрыхтаваныя да бою ў шчыльных шэрагах. Найбольшымі здольнасцямі да вайны вызначаліся янычары. Гэта была прафесійная пяхота, якая жыла ў казармах. Янычары складалі своеасаблівы жаўнерскі ордэн з уласцівым яму рэлігійным фанатызмам. На бітву яны вы-

ходзілі ў злітых шэрагах, якія фарміравалі глыбокі, падзелены на 10 частак чатырохкутнік. Першы шэраг складаўся з жаўнераў, узброеных у вялізныя тарчы-павезы. Два наступныя шэрагі стваралі капійнікі. Падчас бою гэтыя тры шэрагі прысядалі і над іх галовамі стралялі пяць шэрагаў лучнікаў. За імі стаялі яшчэ два шэрагі капійнікаў. Янычары біліся звычайна з-за папярэдне падрыхтаванага рову. Усе былі ўзброеныя абуховай зброяй, таму маглі праводзіць нечаканыя атакі на ваяроў у паліраваных даспехах. Кожны рух войска суправаджаўся біццём у бубны, у выніку чаго перасоўванні адбываліся рытмічна і ў аднначассе.

Туркі стварылі таксама прафесійную конніцу, якая, як і янычары, рыхтавалася цэлымі атрадамі. Яна падзялялася на цяжкую кавалерыю, якую складалі сіпахі, і лёгкую. Перад боем конніца часцей за ўсё станавілася як мінімум у тры шэрагі невялікіх калон. Паміж імі захоўвалася адлегласць. Гэтыя калідоры выкарыстоўваліся для ўвядзення ў бой тыльных атрадаў альбо адыходу змучаных пярэдніх шэрагаў. Лёгкаўзброеныя атрады, як правіла, аслаблялі праціўніка з дапамогай кідальнай зброі і падстаўлялі яго пад абстрэл янычараў.

Арганізаванаму такім чынам войску еўрапейскія рыцары звычайна нічога не маглі супрацьпаставіць, асабліва ў бітвах з вялікім па колькасці праціўнікам. Яны, знаходзячыся ў рыхлых ланцугах уласных почтаў, у сваёй большасці гінулі па чарзе ад рук турэцкіх ваяроў. З гэтых урокаў былі зроблены высновы. Сярод іншага з мэтай абароны ад туркаў, якія ваявалі на ўласны манер, былі створаны рыцарскія ордэны. Сябры гэтых згрупаванняў вучыліся калектыўнаму бою, дзе было патрэбна адзінства дзеянняў. Быў створаны калонны парадак войска, які дазваляў навязаць адносна роўны бой з прафесійным турэцкім войскам. Строй у калоны стаў апошнім тактычным дасягненнем еўрапейскай конніцы. Гэта вынікала з адсутнасці баявых каней адпаведнага гатунку. Тыя, якія выкарыстоўваліся стагоддзямі для бою "часта-

колам", былі занадта дужыя і цяжкія для складаных тактычных манеўраў у новых баявых варунках. А гадоўля коней, якія маглі б сапернічаць са спрытнымі ўсходнімі вершнікамі, патрабавала часу.

Еўрапейскім арміям дапамагла тэхніка. Былі ўдасканалены арбалеты, якія цяпер мелі большую далёкасць стральбы і сілу прабіцця, чым усходні лук. З паловы XV ст. з'явіліся ў масавым выглядзе цэльныя камплекты даспехаў, якія давалі цяжкаўзброенаму конніку перавагу над турэцкім праціўнікам. На палях бітваў пачалі разносіцца хмары порахавага дыму. Гэта быў знак з'яўлення аркебуза ў шэрагах пяхоты, а затым — лёгкай агняпальнай зброі ў вершнікаў. Паміж стрэлаў з ручной зброі ўсё часцей можна было пачуць гарматы. Аднак у развіцці і прымяненні артылерыі Турцыя не саступала Еўропе.

Калі на Усходзе практыкаваліся манеўравыя метады бою з дапамогай шчыльных парадкаў, пераважна з удзелам конніцы, то ў Заходняй Еўропе рабіўся папулярным цалкам іншы спосаб вядзення баявых дзеянняў, які таксама дазваляў чыніць эфектыўны адпор турэцкім ці татарскім ордам. На заходнееўрапейскіх землях на працягу XV ст. ішло шпаркае сацыяльна-эканамічнае развіццё. У шмат якіх краінах гэта прывяло да фарміравання таварнаграшовай гаспадаркі, росквіту гарадоў і мяшчанства, а таксама да паўстання цэнтралізаваных дзяржаў. Імі кіравалі манархі, якія абаперліся на заможныя гарады і сталі ў значнай ступені незалежнымі ад феадальнай арыстакратыі. Яны засяродзілі ў сваіх руках рэсурсы, якія дазвалялі, сярод іншага, утрымліваць значныя войскі новага тыпу. Гэта стала падмуркам іх панавання. У краінах Заходняй Еўропы сфарміраваліся арміі, цалкам адрозныя ад традыцыйных рыцарскіх. Яны характарызаваліся перадусім перавагай плябейскай пяхоты над рыцарскай конніцай, распаўсюджаннем і сталым ростам значэння агняпальнай зброі на полі бою, увядзеннем у жыццё сістэмы прафесійных войскаў, якія аплачваліся з дзяржаўнага бюджэту. Менавіта паўсюднае

выкарыстанне пяхоты так моцна змяніла аблічча поля бою. За ёй была будучыня ў ваенным змаганні.

Зразумела, гэта не быў зусім новы род войска. Як вядома, ужо ў далёкія старажытныя часы ўжывалася пяхота. У Рымскай імперыі гэта фактычны быў адзіны род войска. Рымскія легіёны без праблем спраўляліся з большасцю сваіх праціўнікаў без прымянення вялікіх конных падраздзяленняў. Зрэшты, сама рымская кавалерыя ніколі не вызначалася спраўнасцю, саступаючы коннікам розных варварскіх народаў. Першапачатковае рымскае войска, якое фарміравалася на падставе ўсеагульнага вайсковага абавязку, саступіла месца прафесійнаму найманаму войску, у якім досыць хутка забыліся на ўтрыманне конніцы. Замест яе фарміраваліся атрады кавалерыі з ліку падпарадкаваных народаў, якія найчасцей уваходзілі ў склад рымскага войска ў якасці саюзнікаў. Крызіс, які ахапіў Рымскую імперыю ў III–V стст., спрычыніўся да значных змен у ваеннай сферы. Велізарнае значэнне для перамен мела паяўленне на межах Імперыі грозных праціўнікаў — Персіі, якая адрадзілася пад кіраваннем дынастыі Сасанідаў, і няскораных германскіх народаў.

Асноўным родам войска ў дзяржаве Сасанідаў з'яўлялася цяжкаўзброеная кавалерыя. Падобны тып конніцы, сфарміраваны пад уплывам усходніх плямён, прыкладам, гунаў, граў вялікую ролю ў шэрагах германскіх войскаў. У сутыкненнях з такімі адзінкамі аказалася, што рымская пяхота мала што магла супрацьпаставіць атрадам цяжкай кавалерыі. Рым адрэагаваў масавым павелічэннем кавалерыйскіх падраздзяленняў. Яны фарміраваліся ў тым ліку і за кошт прыцягнення на найманую службу германскіх жаўнераў. У выніку ў еўрапейскай вайсковай справе пяхота на доўгі час страціла сваё дамінуючае значэнне. Яе месца заняла конніца, якая ўмацавала свае пазіцыі дзякуючы пастаянным спусташальным для Еўропы набегам качэўнікаў.

Аднак з цягам часу стала зразумела, што без пяхоты нель-

га весці і выйграваць войны, якіх так шмат праходзіла ў новай сярэднявечнай Еўропе. Добрая кавалерыя каштавала надзвычай дорага і не заўсёды прыводзіла да пераможнага завяршэння ваенных дзеянняў. Больш прыдатнай аказвалася пяхота, а сярод яе — у першую чаргу лучнікі. Яны праявілі сваю неацэнную вартасць, для прыкладу, у вайне ў гарах Уэльса ў канцы XIII ст. Цяжкая конніца феадальнага войска не ўмела змагацца ў такіх варунках. Рыцары рыхтаваліся да бою з падобным да сябе праціўнікам. У адкрытым полі бітвы шэрагі пяхоты трушчыліся, як толькі там паяўляліся. Аднак у гарах Уэльса конніца апынулася перад непрыяцелем, які не належаў да элітнага войска. Ён не быў, з іншага боку, чужародцам, якога трэба было адкінуць на яго тэрыторыю. Валійцы баранілі ўласныя дамы, горы. Ім удавалася пераследаваць нерухлівую конніцу, але яны рэдка станавіліся на бой у адкрытым полі. У сутыкненні з імі толькі лучнікі даказалі сваю карысць. Яны з'яўляліся своесаблівым родам артылерыі, у чые задачы ўваходзіла не столькі знішчэнне праціўніка, сколькі яго рассейванне перад вырашальным ударам коннікаў. Такая тактыка паспяхова выкарыстоўвалася падчас барацьбы з шатландцамі на пачатку XIV ст.

Аналагічную ролю, пачынаючы з XII ст., выконвалі арбалетчыкі (кушнеры). Аднак на адзін выстрал, выпушчаны з арбалета, доўгі валійскі лук мог адказаць 5-6 стрэламі. Ён, праўда, не меў знішчальнай сілы арбалецкай цецівы, але мог прабіць кальчугу.

З асаблівай выразнасцю значэнне пяхоты выявілася ў знакамітай бітве пад Крэсі ў 1346 г. падчас Стогадовай вайны. Сямю гадамі раней кароль Англіі Эдвард III напаў на Францыю, жадаючы здабыць французскую карону. Французы пазбягалі адкрытага сутыкнення з англійскім войскам. Змучаныя пагоняй за праціўнікам, найманыя нямецкія рыцары, з якіх у сваёй большасці складалася армія Эдварда, пачалі разыходзіцца дадому. Эдвард ужо не меў гро-

шай, каб іх утрымаць, тым больш набраць на іх месца новых ахвотнікаў. Урэшце ў яго засталося так мала вершнікаў, што калі французскае войска было сустрэта, ён загадаў злезці з коней і стаць у чатырохкутнік. У яго сярэдзіне былі размешчаны лучнікі. Пастаўленая такім чынам англійская армія, даволі малалікая, атрымала выдатную перамогу над французамі. Англійскія лучнікі, падтрыманыя капійнікамі, захавалі парадкі і нанеслі крывавыя страты непрыяцелю. Французы зрабілі з прайгранай бітвы адпаведныя высновы. У выніку яны таксама пачалі ўжываць падобны парадак у баях з англічанамі, што, аднак, не засцерагло іх ад паразаў пад Пуацье ў 1356 г. і Азінкурам у 1415 г. Бітва пад Крэсі не была першым выпадкам, калі рыцары павінны былі прызнаць першынство пяхоты. У 1302 г. мяшчане Куртрэ, узброеныя доўгімі дзідамі, сталі шчыльным парадкам і мужна, паспяхова чынілі супраціў конніцы, якой камандаваў граф Артуа.

З цягам часу, аднак, англійскія лучнікі рабіліся ўсё менш карыснымі. На полі бою з'явілася агняпальная зброя — артылерыя, ручныя гакаўніцы, ручніцы і аркебузы. На лучнікаў узору Крэсі альбо Азінкура пачалі глядзець як на перажыткі мінуўшчыны. Будучыня належала пяхоце зусім іншага тыпу. Самай простай зброяй, якой мог узброіцца пяхотнік супраць вершніка, была дзіда. Калі дзіды былі дастаткова доўгія, парадак войска шчыльным, а маральны дух высокім, — такое войска часцей за ўсё нельга было адолець. У гэтым пераканалася дынастыя Плантагенэтаў, якая ў XIII ст. імкнулася пашырыць сваю ўладу на горны Уэльс, а таксама дынастыя Габсбургаў, якая спрабавала падначаліць горы Швейцарыі. Першапачаткова асноўнай зброяй швейцарцаў была простая сякера, пасаджаная на доўгі кій. Менавіта пры яе дапамозе яны ўчынілі разгром аўстрыйскіх рыцараў у засадзе ў яры пад Маргартэнам у 1315 г. ці ваюючы ў адкрытым полі пад Лаўпенам у 1339 г. і каля Зэмпаха ў 1386 г. З цягам часу доўгія сякеры замянілі пікі, з дапамогай якіх была нанесена

параза бургундскай конніцы ў 1476 і 1477 гг. Менавіта тады швейцарскія пікінеры прымянілі шчыльны абарончы парадак войска. Яны таксама навучыліся рухацца вялікім масамі. Па-новаму быў адроджаны парадак па ўзоры старажытнай македонскай фалангі. Пасля атрымання незалежнасці сваіх кантонаў швейцарцы былі гатовыя выстаўляць свае фалангі на найм у арміі іншых краін.

Швейцарскую тактыку досыць хутка падхапілі суседзі. На тэрыторыі Святой Рымскай імперыі і Аўстрыі паявіліся фарміраванні пяхоты, якія зваліся ландскнехтамі. Ад швейцарскага войска іх адрознівала толькі тое, што яны вербаваліся з шырокіх слаёў грамадства. Шляхта хутка пазбавілася ад бар'ераў, якія перашкаджалі служыць у пяхоце. Пешае войска стала таксама папулярным у Іспаніі. У гэтай краіне, пазбаўленай добрага фуражу, цяжкая конніца ніколі не з'яўлялася асноўнай часткай войска хрысціян падчас доўгіх і зацяглых войнаў з мусульманамі (г.зв. рэканкіста).

Батальёны пікінераў з'яўляліся неад'емнай часткай любой еўрапейскай арміі. Глыбока сфарміраваны чатырохкутнік, які хутка рухаўся наперад вымераным крокам пад такт бубнаў, было немагчыма стрымаць. Усе зыходзілі прэч з яго шляху — апрача такога ж войска. Аднак хутка стала зразумела, што аднымі коп'ямі вайну выйграць немагчыма. На поле бою паволі пачала надыходзіць агняпальная зброя. Усё больш распаўсюджанай рабілася артылерыя. Пачаткова яна мела значэнне толькі пры аблозе крэпасцей. У якасці дапаможнай сілы для асноўнага войска яна была малаэфектыўнай і занадта дарагой. Цяжар гармат рабіў немагчымым іх хуткае перакідванне на тэатр баявых дзеянняў і манеўраванне падчас бітвы. Цяжкасці з перамяшчэннем прыводзілі да таго, што для павелічэння эфекту пальбы неабходна было выстаўляць іх на першай лініі перад войскам альбо ў прамежках паміж асобнымі шэрагамі. Часцёй за ўсё пушкары былі здольны даць толькі адзін стрэл на "вітанне" ворага. Але такі залп мог мець страшэн-

ныя наступствы для некалькіх тысяч пяхотнікаў, якія стаялі ў чатырохкутніку на лініі непасрэднага выстралу. Таму першай задачай нападаючага боку быў захоп непрыяцельскіх гармат да таго, як яны нанясуць сур'ёзныя шкоды. Выкананне гэтай задачы рабілася важнай разам з паступовым ростам эфектыўнасці артылерыі.

Іншым адказам на паяўленне гармат было змяншэнне колькасці жаўнераў у пяхотных шэрагах, бо, па сутнасці, найманае войска не вытрымлівала вялікіх і крывавых страт. Тым самым атрымлівалася большая манеўраванасць пяхоты ў баі. Як вядома, яшчэ на мяжы XV–XVI стст. пяхоту групавалі ў вялізныя чатырохкутнікі па 100 шарэнгаў, якія налічвалі да 10 тысяч чалавек, узброеных коп'ямі. Аднак ужо ў першай палове XVI ст. праявілася тэндэнцыя да здрабнення парадкаў і дзялення шэрагаў. Пры гэтым улічвалася патрэба ўзаемадзеяння пікінераў са стральцамі, а часам нават з артылерыяй, якая звычайна ставілася перад шэрагамі пяхоты. Конніца, у сваю чаргу, ставілася ў прамежках паміж імі.

Усё большае значэнне атрымлівала таксама агняпальная зброя малога калібру. Яе выраб быў больш танны, выкарыстоўваць яе было прасцей, чым арбалет, хоць яна і саступала яму ў хуткастрэльнасці. На пачатку XVI ст. куля з ружжа магла прабіць нават вельмі тоўстую браню з адлегласці 300 метраў. Гэта была пэўным чынам недаацэненая зброя пры змаганні з напорам кавалерыі. Толькі англічане засталіся вернымі доўгаму луку да канца стагоддзя. Яго прыхільнікі сцвярджалі, што ён больш лёгкі і зручны ў параўнанні з цяжкім аркебузам ці мушкетам. Немалаважнай справай для англійскіх "аматараў даўніны" з'яўлялася хуткасць зарадкі і стрэлу. Аднак лучнікі патрабавалі працяглага навучання, за якое ж нехта павінен быў заплаціць. З гэтай прычыны большасць еўрапейскіх уладароў імкнулася ўзброіцца агняпальнай зброяй. Першапачаткова яна не ўжывалася для адпору атак вершнікаў. Яе прызначэннем бы-

ла дэзарганізацыя і расцярушванне праціўніка яшчэ перад самым сутыкненнем жаўнераў. Нешматлікія стральцы хаваліся за спінамі пікінераў, якія ўдзельнічалі ў сапраўднай бітве з непрыяцелем. Менавіта пікінеры стаялі шчыльным парадкам, адбіваючы атакі вершнікаў. У большасці армій XV ст. якраз такі жаўнер, які нёс магутную піку-кап'ё, найбольш цаніўся.

Самымі першымі новаўвядзенні, звязаныя з распаўсюджваннем агняпальнай зброі, увялі іспанцы. Калі войска Фердынанда Арагонскага, каб нагадаць аб сваіх спадчынных правах, напала на Неапаль у 1495 г., яно спачатку не было ўзброена ні пікамі, ні аркебузамі. У яго распараджэнні, як і ў найманай пяхоты італьянскіх княстваў, былі мячы і тарчы. Такое ўзбраенне не зрабіла вялікага ўражання на швейцарскіх пяхотнікаў. Іспанскі военачальнік Гансальва де Кардова хутка прыстасаваўся да новага стылю бою. Ён прыцягнуў большую колькасць пікінераў і аркебузьераў, чым іх мелі праціўнікі. Самі стральцы былі ператвораны з пасіўных фарміраванняў у важныя падраздзяленні абарончага характару. Сваю тактыку Кардова абапёр таксама на злучэнні сілы агня аркебузаў з палявымі фартыфікацыйнымі элементамі. Ён прымяніў яе ў бітве пад Чэрыньёла ў 1503 г. Іспанцы дазволілі праціўнікам — французам і дапамагаючым ім швейцарцам — без надзеі на поспех атакаваць свае абарончыя ўмацаванні. У гэты час іспанскія аркебузьеры стралялі па іх так доўга, што калі надышоў момант для контратакі, французска-швейцарскае войска ўжо не было ў стане аказаць патрэбны супраціў. Іспанцы, змяншаючы колькасць пікінераў у сваім войску, пачалі замяняць іх стральцамі, хутка атрымаўшы нябачанае раней насычэнне сваіх узброеных сіл агняпальнай зброяй.

Яшчэ далей у рэфармаванні войска прасунуліся галандцы, якія пад канец XVI ст. павялічылі колькасць мушкецёраў да 2/3 часткі ўсяго складу войска. Стральцы, пастаўленыя ў 10 шэрагаў, выходзілі па чарзе наперадзе войска і вы-

стрэльвалі свой залп. Потым яны адыходзілі назад, каб панавому зарадзіць зброю. Пікінеры, у сваю чаргу, знаходзіліся ў сярэдзіне вайсковага парадку. Разам са зменамі ў пяхоце павінна была прайсці пераўтварэнні і конніца. Было вырашана адмовіцца ад самай дробнай кавалерыйскай адзінкі, якая звалася “кап’ём” і складалася з цяжкаўзброенага капійніка, сярэднеўзброенага пахолка і лёгкаўзброеных стральцоў. Замест гэтага конніца была падзелена на тры віды. Першы з іх склалі даўнейшыя капійнікі, якія цяпер сталі цяжкай конніцай. Да другой катэгорыі, сярэднеўзброенай конніцы, належалі аркебузьеры. Лёгкую кавалерыю стварылі райтары. Зброя была малапрыдатнай у сутыкненнях з вострымі коп’ямі пікінераў, кулямі з аркебузаў альбо гарматнымі ядрамі. Таму кавалерыя павінна была з ударна-зломнай сілы ператварыцца ў рухлівы агняпальны чыннік бою. Каб вырашыць гэтую праблему, напачатку вершнікі бралі з сабой на коней аркебузьераў. Аднак гэтая задума не апраўдала сябе. Рашэнне хавалася ў вынаходніцтве калясцовага замка, які дазволіў коннікам мець уласную агняпальную зброю. Цяпер трэба было выпрацаваць асаблівую тактыку атакі. Быў прыменены г.зв. “караколь”. Падчас бою шэрагі вершнікаў па чарзе пад’язджалі да лініі войскаў праціўніка, стралялі з блізкай адлегласці, а затым раз’язджаліся па баках. Так вялі бой райтары. Гэта быў вельмі дзіўны характар бою для вершнікаў, але ён аказваўся эфектыўным нават пры сутыкненнях з цяжкаўзброенай конніцай. Караколь, аднак, не атрымаў вялікай папулярнасці. Трэба памятаць, што конныя фарміраванні на захадзе Еўропы не былі так распаўсюджаны, як на ўсходзе, прыкладам, у Польшчы.

Даволі складаная тактыка найманай пяхоты прывяла да выпрацоўкі адпаведных форм вярбунку жаўнераў. Камандзір найменшай тактычнай адзінкі, г.зв. рэгіменту (палка), падпісваў з манархам дамову, у якой акрэслівалася яго грашовае ўзнагароджанне. Затым ён прыводзіў свой полк. Гэта была г.зв. “капітуляцыя”. Камандзір быў адзіным

прадстаўніком вайсковага падраздзялення перад уладаром. Толькі ён мог атрымліваць заробак за службу альбо іншыя ўзнагароджанні за ваенныя паслугі. У сваім атрадзе ён валодаў абсалютнай уладай. У адвольнай форме і па ўласным разуменні камандзір набіраў сабе афіцэраў. Памер заробку для кожнага жаўнера таксама вызначаў ён. Апрача таго, ім усталёўваліся жорсткія ўнутраныя правілы паводзін у рэгіменце. Дзякуючы гэтаму ў найманых фарміраваннях удавалася ўтрымліваць жалезную дысцыпліну. Вайна рабілася адзінай крыніцай існавання для жаўнераў і іх сем'яў. Таму яны вельмі сур'ёзна ставіліся да кожнага ваеннага канфлікту і былі да іх старанна падрыхтаваныя. З гэтых прычын найманае войска ўсё часцей выкарыстоўвалася ў ваенных дзеяннях, замяняючы паспалітае рушэнне.

Найманае войска не быў вынаходніцтвам эпохі Адраджэння. Падобныя арміі, заснаваныя на кантрактных падставах, існавалі на Апенінскім паўвостраве ўжо некалькімі стагоддзямі раней, перш чым яны паявіліся на палях бітваў на поўнач ад Альпаў. На тэрыторыі будучай Італіі феадальныя структуры распаліся ў выніку барацьбы за інвестытуру паміж Ватыканам і Святой Рымскай імперыяй. Гэтая барацьба аслабіла пазіцыі шляхты, аднак развіццё гаспадаркі гарадскога тыпу прывяло да яе запатрабаванасці з боку заможных гарадоў-дзяржаў, якія былі гатовыя несці высокія кошты дзеля ўтрымання моцнага войска. На Апенінскім паўвостраве, акрамя таго, жылі незлічоныя масы рыцарства з чужых краёў, якія засталіся тут пасля шматразовых нападаў германскіх імператараў і крыжовых выпраў. Усе яны былі гатовыя аддаць свае мячы і ўменні на службу таму, хто больш заплаціць. Яны з'яўляліся непрадказальнай і небяспечнай групай у грамадстве. Да найгоршых з іх належала г.зв. "Вялікая Рота", якая існавала ў 1338–1354 гг. і складалася амаль з 10 тысяч лайдакоў. Сваёй шырокамаштабнай дзейнасцю яна нагадвала хутчэй сучасныя банды гангстэраў. Вялікая маса рыцарства, якая засталася часова без занятку

пасля заканчэння ў 1360 г. першага этапу Стогадовай вайны, стварыла пад сцягам Джона Хоўквуда не менш вядомую "Белую Роту". Да канца XIV ст. іншаземныя жаўнеры альбо растварыліся сярод мясцовай шляхты, альбо вярнуліся дадому. Частка з іх загінула ў баях. Менавіта на іх месцы паявіліся кандацьеры.

Слова "кандацьер" азначае "людзі на кантракце" (тлумачэнне аўтара). Гэтая назва паходзіць ад слова *condotto*, якое акрэслівае дамову аб варунках вайсковай службы, дзе пазначаны яе працягласць па часе, колькасць жаўнераў, велічыня заробку[1]. Кандацьеры па сваім паходжанні прадстаўлялі любыя слаі грамадства. У якасці ўзнагароды за сваю службу яны нярэдка атрымлівалі зямельныя ўладанні. Некаторыя з іх рабіліся ўдзельнымі князькамі, а дамовы, якія з імі заключаліся, фактычна былі дамовамі з суверэннымі дзяржавамі. Войскі, якія выстаўлялі кандацьеры, пачаткова былі прадстаўлены конніцай з рыцарскіх почтаў. У склад такога почту часцей за ўсё ўваходзілі пахолак, канюшы і пешыя жаўнеры, узброеныя дзідай альбо арбалетам, а ў канцы XV ст. – аркебузам. З цягам часу ад конных почтаў адмовіліся як ад занадта дарагіх ва ўтрыманні і падрыхтоўцы. Звычайна жадаючым несці вайсковую службу камандзір павінен быў заплаціць за тры месяцы наперад і яшчэ патраціцца на іх падрыхтоўку. Таму ў яго інтарэсах было затрымаць жаўнераў на службе прынамсі на пару гадоў. З гэтай нагоды з'явіўся звычай таемнай дамовы паміж правадырамі вайсковых адзінак аб пазбяганні сутычак і ўзаемных забойстваў сваіх жаўнераў. Войны з гэтай прычыны займелі спецыфічны характар. Мастацтва вядзення вайны стала мастацтвам хітрыкаў і раптоўнасцей, манеўравання і нечаканага ўдару. Так адбывалася прынамсі да моманту паяўлення ў найманых падраздзяленнях цяжкай артылерыі і масіўнай ручной агняпальнай зброі. Такое вядзенне баявых дзеянняў

---

[1] Howard M. Wojna w dziejach Europy. Wrocław, 1990. S. 51.

не заўсёды магло спадабацца тым, хто плаціў за ўтрыманне вайскоўцаў. Наймальнікі кандацьераў, выдаткоўваючы на іх немалыя грошы, патрабавалі канкрэтных вынікаў дзейнасці, што рабілася без вялікага імпэту. Паводзіны кандацьераў характарызаваліся надзвычайнай хітрасцю і пралічанасцю. Прафесійная кампетэнтнасць замяніла сярэднявечную пагоню за славай. Такія разважлівыя, як на першы погляд, дзеянні вымагалі адвагі, вынослівасці і цярплівасці, а часам і ахвяравання жыцця. У гэтым занятку не было месца для непрадуманых учынкаў баязліўцаў і халтурнікаў. Прафесійныя жаўнеры не хацелі загінуць, калі існаваў іншы спосаб выйграць вайну. Надзвычай эфектыўным метадам паспяховага завяршэння ваенных дзеянняў было яе падаўжэнне, пазбяганне адкрытага змагання і спусташэнне непрыяцельскіх зямель да тых пор, пакуль рэсурсы мясцовага ўладара не будуць вычарпаны, найміты ад яго не зыдуць, а сам ён пачне шукаць мір на любых варунках. З гэтых прычын найманыя жаўнеры звычайна выклікалі страх у простага насельніцтва. Яны сталі паўсюднай бядой, бо ніводзін уладар не быў у стане ўтрымліваць вялікую колькасць сталага войска. Неаднаразова не хапала грошай для аплаты жаўнерскай службы. Часта ў такой сітуацыі камандзіры асобных рэгіментаў пераходзілі на чужы бок. Усё залежала ад таго, ці новы ўладар мае дастатковую колькасць наяўных грошай. І, нягледзячы на гэтыя хібы, найманая пяхота цалкам адсунула рыцараў з поля бою.

Як ужо казалася, на захадзе Еўропы існавала мноства гарадоў, якія вырашальным чынам паўплывалі на кшталт ваенных дзеянняў. Кожны заможны горад, а на Захадзе па сутнасці іншых не было, уяўляў сабою крэпасць. Перамога ў полі не мела вялікага значэння, калі не ўдавалася здабыць пры гэтым непрыяцельскія замкі. Яны, разам з моцнай пяхотай і артылерыяй для аблогі, сфарміравалі заходнееўрапейскае ваеннае мастацтва. Аблога зрабілася асноўным спосабам вядзення баявых дзеянняў. Заход-

неэўрапейская армія на мяжы XV–XVI стст., складзеная пераважна з цяжкаўзброенай пяхоты, з наяўнасцю цяжкай артылерыі, мела выгляд маларухомага механізму. Надзвычай складаным было заспець праціўніка знянацку і навязаць яму месца і час бітвы. Гэта адбывалася і з-за такой жа слабой манеўранасці супрацьлеглага боку. Таму адкрытыя бітвы ў Заходняй Еўропе адбываліся ўсё радзей. Яшчэ здараліся спробы адпору з-пад сцен абложанага замку. Адмова ад бітваў у адкрытым полі на карысць аблог мела вырашальнае ўздзеянне на развіццё фартыфікацый. Менавіта крэпасць стала сімвалам заходніх войнаў XVI ст. І ў гэтым не было нічога дзіўнага. Замак адыгрываў важную ролю ўжо падчас сярэднявечных войнаў. Праціўнік, пераможаны ў адкрытым полі, звычайна хаваўся за мурамі сваіх умацаваных фартэцый. Прыкладам можа служыць аблога Мальбарка войскам Ягайлы пасля ганебнай паразы крыжакоў пад Грунвальдам у 1410 г. Як правіла, гарнізону ўдавалася пратрымацца ў такой крэпасці працяглы час. Толькі ў выпадку з наймітамі існавала пагроза, што яны пяройдуць на іншы бок, калі б там заплацілі болей альбо ўвогуле гэта зрабілі. (Мальбарк быў здабыты падчас Трынаццацігадовай вайны ў 1457 г., папросту выкуплены з рук найманага войска.) У сярэднявечную эпоху замкі здабываліся спосабамі і метадамі, вядомымі ўжо ў старажытнасці — пры дапамозе рознага роду катапультаў і таранаў. Вельмі карысным хаўруснікам выступаў голад.

Сітуацыя змянілася карэнным чынам з паяўленнем і далейшым удасканаленнем артылерыі. Рост яе значэння надышоў пасля італьянскага паходу французскага войска ў 1494 г. (г.зв. "італьянскія войны"). Быў уведзены ў дзеянне новы тып лафетаў, якія палепшылі перамяшчэнне гармат на полі бою. Таксама сталі прымяняцца новыя чыгунныя ядры замест старых каменных. Гэтыя навацыі дазволілі значна шырэй і больш эфектыўна выкарыстоўваць артылерыю як у бітвах у адкрытым полі, так і падчас аблога-

вых аперацый. Аб вялікай ролі, якую пачала граць артылерыя пры аблогах, можа сведчыць факт разбурэння муроў Канстанцінопаля турэцкімі гарматамі ў 1453 г. Гэтая дата прымаецца паўсюдна за сімвалічнае заканчэнне працяглай эпохі Сярэднявечча. Падчас згаданых "італьянскіх войнаў" кароль Францыі Карл VIII ужо не павінен быў займацца аблогай шматлікіх крэпасцей. Сама рэпутацыя артылерыі змушала іх гарнізоны да капітуляцыі. Магутныя высачэзныя муры і яшчэ вышэйшыя вежы, якія будаваліся для паспяховага адпору штурмаў, не з'яўляліся больш надзейнай абаронай перад гарматнымі ядрамі. Цяжкая гармата, якая страляла з адлегласці 150 метраў, праз некалькі гадзін выбівала сваімі залпамі адтуліну ў мурах, праз якую нападнікі маглі пранікнуць углыб крэпасці[1]. Абложаныя ў замках людзі стараліся знайсці які-небудзь новы спосаб абароны. І сапраўды, на агонь з гармат таксама можна было адказваць артылерыйскімі выстраламі. Напачатку рабіліся невялікія дзіры ў сценах, праз якія праводзіўся абстрэл праціўніка, трымаючы яго на адлегласці ад крэпасці. Насыпаліся земляныя валы ў месцах, дзе нападнікі вялі інтэнсіўны агонь. Але ўсе гэтыя рашэнні былі хуткапальнай імправізацыяй. Распачалася ліквідацыя так характэрных для сярэднявечных замкаў высокіх круглых вежаў — баштаў. Замест іх на кутах муроў пачалі будавацца г.зв. бастэі. Іх вышыня не перавышала вышыні суседніх муроў. Затое бастэя мела нашмат большую паверхню, чым башта, што палягчала ўсталяванне гармат на шырокай платформе. Артылерыю размяшчалі таксама ў казематах, якія знаходзіліся ніжэй. У яе задачы ўваходзіла знішчэнне непрыяцельскіх сіл, якія спрабавалі наблізіцца да муроў. З цягам часу пачалі зніжаць і самі муры, каб варожым пушкарам цяжэй было патрапіць у цэль. Яны ўзмацняліся спераду земляным валам. У далейшым вырашылі ледзь не зусім адмовіцца ад муроў на карысць зем-

---

[1] Nowak T. M., Wimmer J. Op. cit. S. 231.

ляных умацаванняў, часам абліцаваных камянямі. Значна пашырыўся роў. Замест паўкруглых бастэяў узносіліся пяцібокавыя земляныя бастыёны. Дзякуючы гэтым мерам еўрапейскія крэпасці стала надзвычай цяжка захапіць. Артылерыя аказвалася бяссільнай супраць землянога валу на шырокім падмурку. Пашыраны роў і дадатковыя ўмацаванні перад крэпасцю рабілі немагчымым набліжэнне да валу. Сам замак быў збудаваны так, што гарматы, усталяваныя на простых адрэзках валу, трымалі пад прыцэлам ўсю бліжэйшую прастору і падыходы да сцен бастыёнаў. Гарматы, якія стаялі на бастыёнах, маглі таксама кантраляваць флангавыя шляхі да валу. Дзякуючы бастыённай сістэме вырасла глыбіня абароны. Гэта дазваляла трымаць праціўніка на значнай адлегласці ад крэпасці.

Такая складаная канструкцыя, якую ўяўляў сабою замак XVI ст., патрабаваў людзей адпаведнай падрыхтоўкі, якія былі здольныя не толькі яго спраектаваць і збудаваць, але і валодалі ўменнямі, патрэбнымі для яго здабыцця. З гэтай прычыны ў XVI ст. стала ўзрастаў попыт на ваенных інжынераў. Імі мог пахваліцца, для прыкладу, гетман Ян Тарноўскі пры аблозе Старадуба ў 1535 г.

Не ўсе перамены, якія прывялі да стварэння новага ваеннага мастацтва на захадзе Еўропы, знайшлі сваё развіццё ў краінах усходняй часткі кантыненту. Ва Усходняй Еўропе сацыяльна-эканамічныя адносіны развіваліся па іншым сцэнарыі. Адрозным быў і тэатр ваенных дзеянняў. Тут даўжэй праіснавала сістэма, абапертая на паспалітым рушэнні, а сярод вайсковых адзінак працягвала мець вялікае значэнне конніца. Нягледзячы на гэта, Польшча, якая знаходзілася на стыку культур Захаду і Усходу, здолела ў сваім ваенным мастацтве прымяніць усё найлепшае з абодвух бакоў.



*Партрэт Юрыя Радзівіла, “Геркулеса Літоўскага”.*
*Невядомы мастак. 1-я палова XVII ст.*
*Арыгінал: Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.*



*Карціна «Бітва пад Оршай».*
*Аўтарства прыпісваецца Гансу Крэлю (Hans Krell),*
*звязанаму са школай Лукаса Кранаха-старэйшага. 1530-я гг. (?).*
*Арыгінал: Нацыянальны музей у Варшаве (Польшча).*



*Партрэт Канстанціна Іванавіча Астрожскага.*
*Невядомы мастак. Сярэдзіна XVIII ст.*
*Арыгінал: Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.*




*Схема Аршанскай бітвы 1514 г.*
*з рукапісу Станіслава Сарніцкага "Księgi hetmanskie". Пасля 1575 г.*
*Арыгінал: Archiwum Głowne Akt Dawnych w Warszawie.*
*Archiwum Publiczne Potockich. Nr 325. S. 387.*



*Тытульны ліст "лятучага аркуша" (Flugschrifte)*
*на нямецкай мове аб "вайне польскага караля з маскавітамі".*
*Аўтар Якаб Пізо. Арыгінал: Piso, Jacob. Die Schlacht von dem Kunig*
*von Poln und mit dem Moscowiter. S.l., 1514*



*Бітва пад Оршай.*
*Гравюра невядомага мастака з выдання:*
*Krzycki, Andrzej. Ad Sigismundum Poloniae regem*
*post partam de Moschis victoriam carmen. Kraków, 1515.*



*Аршанская бітва 1514 г.*
*Гравюра невядомага мастака з выдання:*
*Bielski, Marcin. Kronika wszystkiego świata. Kraków, 1564.*

## Польская армія

*Роды войскаў, формы камплектавання*

Раздзел, прысвечаны польскай вайсковай справе, самы вялікі па аб'ёме сярод іншых, у якіх распавядаецца пра ўзброеныя сілы ваюючых бакоў. Гэта звязана не толькі з тым, што мы валодаем на гэтую тэму найбольш шырокімі і грунтоўнымі ведамі. Польская армія на мяжы XV–XVI стст. пачала адыходзіць ад сярэднявечных узораў вядзення бою, распачынаючы новы этап у развіцці ваеннага мастацтва. Пераймаючы ўсе найважнейшыя дасягненні з Усходу і Захаду, яна стварыла свой асаблівы стыль, увасоблены ў г.зв. старапольскай вайсковай школе. У час існавання шляхецкай Рэчы Паспалітай былі атрыманы шматлікія буйныя перамогі, нават па еўрапейскіх маштабах. Такіх істотных і кардынальных змен не назіраецца ў развіцці літоўскага альбо маскоўскага ваеннага мастацтва. Там і надалей пераважна выкарыстоўваліся прынцыпы сярэднявечнай вайны, прынамсі – у справе арганізацыі арміі.

Узброеныя сілы Польшчы эпохі позняга Сярэднявечча былі арганізаваны на падставах, усталяваных яшчэ Казімірам Вялікім. Яны прадугледжвалі тры формы выканання абавязку вайсковай службы: паспалітае рушэнне, выправа

з землеўладанняў і абарона зямлі. У рамках найважнейшага віду — паспалітага рушэння — служылі ўсе землеўладальнікі: не толькі рыцарства, альбо шляхта, а таксама солтысы, войты гарадоў і мяшчане, якія мелі зямельную ўласнасць. Яны павінны былі выстаўляцца ў войска на конях і з людзьмі, г.зн. мець пры сабе вайсковы почт, які складаў такую структурную адзінку, як "кап'ё". Склад гэтага почту, як і яго рыштунак, вызначаўся маёмасным станам самога рыцара. Найчасцей дзейнічала правіла службы паводле максімальных магчымасцей. Гэтае даволі загадкавае акрэсленне крытэрыяў выклікала значныя цяжкасці пры праверцы рэальных магчымасцей. З большай дакладнасцю былі вызначаны патрабаванні ў дачыненні да "выправы з уладанняў". Уладальнікі маёнткаў у гэтым выпадку не былі абавязаны асабіста выходзіць на ваенную выправу, а толькі выставіць пэўную колькасць жаўнераў адпаведнага роду і рыштунку. Абвяшчэнне абароны зямлі азначала, што ў войска выходзіла ўсё насельніцтва, здольнае насіць зброю. Гэта была крайняя мера, якая прымянялася пры сапраўды надзвычайнай пагрозе, часта ў асобных землях альбо рэгіёнах. Асноўнай формай арганізацыі абароны заставалася паспалітае рушэнне. Яно склікалася і пры выправах за мяжу. За ўдзел у такім паходзе рыцарам прадугледжвалася ўзнагароджанне. Звычайна гэта былі малыя сумы грошай, якія не пакрывалі выдаткаў на зборы і амуніцыю почту. Гэта прывяло да ўсталявання правіла кампенсацыі праз уладара патэнцыяльных страт, якія маглі панесці рыцары падчас замежных паходаў.

Колькасць людзей, якія ўваходзілі ў склад "копій", змяняўся. Звычайна гэта былі тры жаўнеры, сярод іх адзін цяжкаўзброены капійнік і два лёгкаўзброеныя пахолкістральцы. Некаторыя капійнікі выступалі разам з некалькімі стральцамі, іншыя мелі толькі аднаго. Здараліся выпадкі, калі рыцар ішоў на вайну адзін. Наступнай арганізацыйнай і тактычнай адзінкай паспалітага рушэння з'яўлялася харугва. Частка харугваў фарміравалася па тэрытарыяльным прын-

цыпе. Іншыя выстаўляліся магнатамі. Існавалі таксама асобныя каралеўскія харугвы. Менавіта яны былі папярэднікамі прафесійнага войска ў Польшчы. Прыкладам, пад Грунвальдам вялікая надворная і гончая (польск. *gończa*) харугвы складаліся не са шляхецкага паспалітага рушэння, а з прафесійна падрыхтаваных жаўнераў. З гэтага часу заклалася традыцыя трымання пастаянных атрадаў надворных рыцараў пры каралі. Стварэнне найманай конніцы не супярэчыла прававым нормам збораў паспалітага рушэння. Заможны рыцар прыводзіў каралю почт, які складаўся не з пары ўзброеных пахолкаў, а ўяўляў сабою атрад з некалькіх дзясяткаў добра ўзброеных ваяроў. Гэта была тактычная адзінка, здольная да спрытнага манеўравання і эфектыўнага бою ў шчыльным парадку. Такія паслугі лічыліся не самымі горшымі ўкладаннямі, бо маглі абярнуцца някепскімі наданнямі маёнткаў з боку караля за паўсталыя запазычанасці рыцарскага заробку. З гэтай прычыны ахвотнікаў выставіць у войска новыя прафесійныя почты рабілася ўсё болей.

Такім чынам, паспалітае рушэнне было конным войскам, якое складалася з дзвюх асноўных катэгорый жаўнераў: капійнікаў, якія выконвалі выключна атакуючыя функцыі, і больш універсальных стральцоў. Апошнія маглі змагацца ў бліжнім баі, але перадусім ваявалі з дапамогай кідальнай і стралецкай зброі, у гэты час яшчэ пераважна выкарыстоўваючы арбалеты. Якасны і колькасны склад "копій", які змяняўся з часам, не меў вялікага значэння, бо харугвы ставіліся перад боем у калонна-клінавы парадак. Асобныя "коп'і" падзялялі, ставячы цяжкаўзброеных вершнікаў спераду і па баках, а стральцоў выстаўлялі за імі. Падчас атакі стральцы вялі абстрэл праціўніка па-над галовамі капійнікаў, а калі непрыяцельскія пазіцыі ламаліся, актыўна ўключаліся ў бліжні бой. Паступова адмовіліся ад "частаколу", пры якім "коп'і" кідаліся на ворага шырокім пасам. Досвед, вынесены ў выніку сутыкненняў з туркамі, даў

зразумець, што такі падыход прыводзіць да індывідуальных сутычак асобных почтаў, якія скараліся колькаснай перавазе непрыяцеля. Са стральцоў таксама складалі асобныя фарміраванні, якія выконвалі спецыяльныя задачы, прыкладам, разведку і пагоню.

Агулам можна сцвердзіць, што рыцарская конніца, якая дзейнічала ў рамках паспалітага рушэння, яшчэ ў першай палове XV ст. уяўляла сабою даволі спраўны механізм. Як на тагачасныя патрэбы, яна вызначалася вялікай мужнасцю, уменнем манеўраваць і ладзіць калектыўныя дзеянні. Яе галоўным недахопам была няздольнасць дзейнічаць на доўгачасовай аснове. Асаблівыя цяжкасці назіраліся падчас аблогавых аперацый, у асноўным звязаныя з недахопам харчавання, неабходную колькасць якога не мог забяспечыць абоз, што ішоў разам з войскам. Прысутнасць вялікага абозу абмяжоўвала б магчымасці перамяшчэння. Аднак не толькі польская армія мела падобныя праблемы. Гэта былі тыповыя балячкі ўсіх войскаў рыцарскага тыпу тагачаснай Еўропы.

У польскую армію эпохі позняга Сярэднявечча ўваходзіла таксама пяхота, якая складалася з пешых вайскоўцаў, мабілізаваных у рамках "выправы з уладанняў", у прыватнасці сялян, якія склікаліся пад зброю падчас абароны зямлі. Някепска ўзброеная, пры ўмелым кіраванні яна выдатна праяўляла сябе як падчас нечаканых нападаў, так і ў адкрытым полі. Важную ролю грала гарадская пяхота, прызначаная асноўным чынам для абароны муроў сваіх гарадоў. Але і баі ў адкрытым полі не былі для яе чужымі (прыкладам, у Трынаццацігадовую вайну). Менавіта ў руках гарадской пяхоты ўпершыню паявілася агняпальная зброя, якая стала шырока прымяняцца ў адкрытых бітвах на мяжы XV–XVI стст. Яшчэ больш папулярнай, чым пяхота, стала артылерыя. Першая згадка аб яе выкарыстанні на польскіх землях датычыцца 1383 г. Яе дынамічнае па тых часах развіццё прыпала на эпоху праўлення Уладзіслава Ягайлы. Агнявая

артылерыя не выціснула з поля бою ўжыванай раней механічнай артылерыі (катапульты, балісты)[1]. Эфектыўнае выкарыстанне артылерыйскага парка забяспечвалі адмысловыя спецыялісты – пушкары. Яны мелі ўсё большую павагу і шанаванне сярод іншых жаўнераў і саміх уладароў.

Польскае войска першай паловы XV ст. годна прадстаўляла сябе ў бітвах, у якіх давялося ўдзельнічаць дзяржаве. Аднак ужо ў сярэдзіне стагоддзя ў ваеннай сферы праявіўся выразны крызіс, звязаны са зменамі ў светапоглядзе і звычаях шляхты. Яна, як вядома, грала дамінуючую ролю ў шэрагах паспалітага рушэння. Рыцары пачалі больш цікавіцца сельскай гаспадаркай, чым удзелам у абцяжарваючых ваенных выправах. Гэта было выклікана, як ужо нам вядома, ростам спрыяльнай кан'юнктуры на збожжа на заходнееўрапейскіх рынках. Шляхта бачыла ў сваім абавязку абараняць Айчыну неабходнасць, якая абцяжарвала жыццё і перашкаджала займацца ўзбагачэннем. Рыцары пераставалі практыкавацца ў вайсковых навыках. Армія, фарміраваная на падставе паспалітага рушэння, губляла свае бясспрэчныя вартасці, захоўваючы пры гэтым усе свае заганы. Яна пераставала быць эфектыўным ваенным механізмам у баях у адкрытым полі. Гэта асабліва відавочна выявілася падчас Трынаццацігадовай вайны з Нямецкім Ордэнам. Польшча апынулася перад неабходнасцю правядзення кардынальных вайсковых рэформ, калі хацела паспяхова скончыць змаганне з крыжакамі. Было вырашана звярнуцца да стварэння найманага войска, якое ў Заходняй Еўропе, як вядома, ужо выкарыстоўвалася ў шырокіх маштабах. Каб правесці такую сур'ёзную і вельмі патрэбную рэформу, неабходна было знайсці адпаведныя фінансавыя сродкі. На жаль, на каралеўскі скарб нельга было разлічваць (як, зрэшты, заўсёды). На дапамогу паспяшаліся заможныя

[1] Nowak T. M. Artyleria polska do końca XIV wieku. Problematyka i stan badań // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. 1963. T. IX. Cz. I. S. 4–40.

прускія і паморскія гарады, моцна зацікаўленыя ў перамозе над крыжакамі.

Як ужо згадвалася, найманыя атрады паявіліся ў войсках, якія збіраліся Казімірам Вялікім і Уладзіславам Ягайлам. Выразны рост іх колькаснага складу і значэння прыйшоўся на другую палову XV ст. У польскіх найманых атрадах першапачаткова пераважалі жаўнеры іншаземнага паходжання, у асноўным чэхі, мараўляне, сілезцы. Аднак у хуткім часе мясцовыя жаўнеры пачалі дамінаваць. Былі ўсталяваны формы прыцягнення найманых атрадаў. У краінах Заходняй Еўропы, дзе найманае войска было ў паўсюдным ужытку, камандзіры з'яўляліся свайго роду прыватнымі прадпрымальнікамі, якія наймалі сфарміраванае імі войска для выбраных працадаўцаў. У Польшчы, са свайго боку, камандзіры паасобных адзінак, якія называліся ротамі, атрымлівалі статус каралеўскіх афіцэраў і дзейнічалі на падставе манаршага патэнту альбо суправаджальнага ліста. Гэты дакумент акрэсліваў колькасць, склад і ўзбраенне роты, перыяд службы і велічыню ўзнагароджання, а таксама кошты магчымых кампенсацый за панесеныя страты падчас ваенных дзеянняў. Узнагароджанне ў пяхоце вылічвалася зыходзячы з колькасці людзей, а ў конных ротах — колькасці коней. У суправаджальным лісце кароль абвяшчаў, што прымае на службу ў якасці найманых жаўнераў афіцэраў разам з іх "таварышамі". У сваю чаргу, таварышы былі абавязаныя прыходзіць з уласнымі почтамі. Іх налічвалася нярэдка некалькі дзясяткаў альбо нават соцень. Таварышы падпарадкоўваліся непасрэдна сваім ротмістрам. Такая форма рэкрутацыі, якая называлася "таварыскай", запэўнівала старанны набор жаўнераў, таму што ротмістр наймаў на службу пераважна людзей, якіх сам добра ведаў, а таварышы, у сваю чаргу, былі зацікаўленыя ў як мага лепшым камплектаванні сваіх почтаў.

Сістэма таварыскага найму датычыла і фарміравання конных адзінак. Гэты род войска захаваў разнастайнасць

узбраення ў почтах і ротах, якія, як і раней, складаліся з цяжкаўзброеных капійнікаў і лёгкаўзброеных стральцоў. Іх колькасныя суадносіны вызначалі, з'яўлялася гэта рота капійнічай ці стралецкай. У капійнічай роце на аднаго цяжкаўзброенага ваяра прыходзіліся два стральцы. У стралецкіх ротах гэтыя суадносіны былі 1:4. Чыста стралецкі характар мелі пешыя роты.

Калі ўсе роты былі сфарміраваныя, адбываўся іх прагляд. Ён называўся попісам, падчас якога правяралася адпаведнасць жаўнераў і іх узбраення крытэрыям, выкладзеным у прыпаведным лісце. Пасля прагляду афармляўся спецыяльны спіс (менавіта ён з'яўляўся "попісам"), у якім пералічваліся ўсе жаўнеры разам з узбраеннем, а ў конных ротах апісваліся таксама коні. Такі рэестр з'яўляўся падставай для выплаты заробку. Самыя даўнія вядомыя попісы паходзяць з 1471 г. і датычаць коннай роты ротмістра Ракасоўскага і пешай роты пана Марка[1].

Недахоп грошай быў прычынай таго, што паспалітае рушэнне не адразу было выціснута найманым войскам. Першапачаткова найманыя атрады набіраліся ў малых колькасцях, так што ў першыя гады Трынаццацігадовай вайны Польшча вяла асноўныя дзеянні з удзелам не адпавядаючага тагачасным баявым патрабаванням шляхецкага паспалітага рушэння. Невялікія найманыя падраздзяленні, якія ўдалося сфарміраваць, накіроўваліся толькі туды, дзе існавала асаблівая небяспека. На жаль, стан дзяржаўнага скарбу звычайна не ўражваў, калі не сказаць, што зусім быў кепскім. Гэта цягнула за сабой падзенне мабілізацыйных магчымасцей. Войска, найманае за грошы, выступала ва ўсё меншых памерах. Былі выпадкі, калі яно налічвала некалькі тысяч (пры наяўнасці ва ўладара грошай), але нярэдка ў войску знаходзіліся атрады агульнай колькасцю ўсяго толькі

---

[1] Górski K. Historya piechoty polskiej. Kraków, 1893; Górski K. Historya jazdy polskiej. Kraków, 1895.

некалькі соцень чалавек. Таму падчас змагання за чэшскі і венгерскі трон (што адбывалася ўжо пасля заканчэння Трынаццацігадовай вайны) польская армія складалася з непрыхільнай да вядзення вайны шляхты.

Польшча са сваім паспалітым рушэннем заўважна пачала адставаць ад Заходняй Еўропы. Паваротным момантам стала няўдалая турэцкая выправа Яна Ольбрахта. Шляхта, якая з'яўлялася галоўнай сілай каралеўскіх войскаў, выявіла сваю поўную непрыдатнасць у дзеяннях на адкрытай мясцовасці і падчас аблог. Усё часцей улады цвёрда пачалі адыходзіць ад збору апалчэння. Армія такога тыпу магла налічваць да 50 тысяч чалавек, аднак яе скліканне патрабавала соймавай ухвалы, а збор праходзіў вельмі павольна. Пры гэтым паспалітае рушэнне нельга было падзяляць на часткі, камандаваць ім мог толькі кароль, а на ніжэйшых узроўнях — ваяводы, якія звычайна не найлепшым чынам арыентаваліся ў ваенных справах. У выніку роля паспалітага рушэння падала і абмяжоўвалася, уласна кажучы, апошняй лініяй абароны краіны.

Сапраўды, яно было малакарысным у змаганні з заходнееўрапейскім праціўнікам альбо туркамі, аднак захавала пэўнае значэнне ў войнах з татарамі. З зямель Рускага ваяводства склікалася войска, якое складалася са шляхты, сялян і мяшчан, загартаваных у пастаянных баях падчас набегаў качэўнікаў. Аднак каб паспяхова супрацьстаяць татарскім нападам, абарончых мерапрыемстваў, арганізаваных ад выпадку да выпадку, яўна не хапала. Патрэбна было сталае войска.

У караля бракавала сродкаў на вырашэнне праблемы ў форме прыцягнення наймітаў, тым больш на фарміраванне і ўтрыманне пастаяннай арміі. Сталая пагроза на паўднёва-ўсходняй мяжы прымусіла, аднак, знайсці патрэбныя фінансавыя рэсурсы. У 1479 г. упершыню ў шэрагах польскага войска паявілася падраздзяленне, якое ўяўляла сабою заро-

дак сталага прафесійнага войска — г.зв. "паточная абарона"[1]. Дзяржава магла выдаткаваць на яго толькі невялікія сумы, таму колькасны склад такіх атрадаў не задавальняў існых патрэб. Ён ніколі не перавышаў 4 тысяч, а звычайна меў ад 2 да 3 тысяч чалавек. Часам колькасць абмяжоўвалася ледзь не некалькімі сотнямі жаўнераў. Такое малалікае войска, зразумела, не было ў стане забяспечыць належную бяспеку на памежжы. Увесь час разглядаліся розныя магчымасці павелічэння колькаснага складу польскай арміі. Адна з задум палягала на ўвядзенні ўсеахопнай, да гэтых пор рэдка выкарыстоўваемай "выправы з уладанняў". У ёй павінна была браць удзел большая колькасць сялян і мяшчан. Пяць, дзесяць альбо пятнаццаць чалавек уласным коштам рыхтавалі і выпраўлялі ў войска аднаго пяхотніка ці вершніка. Як і варта было чакаць, шляхта непрыхільна глядзела на гэтыя рэформы. Яна непакоілася, што страціць частку рабочых рук, так патрэбных для паншчыннай працы ў фальварках, а таксама, што аддасць зброю ў рукі прыгнятаемых ёю паднявольных людзей.

Ад спроб узмацнення і паляпшэння арганізацыі польскага войска ўлады не адмаўляліся. Група прагрэсіўных магнатаў з акружэння караля Жыгімонта I высунула ў 1513–1515 гг. альтэрнатыўны праект. У яго аснове ляжала ідэя, згодна з якой абавязак службы ў паспалітым рушэнні неабходна замяніць на сталы вайсковы падатак. Рэфарматары дапускалі, што пасля абкладання падаткамі ўсіх землеўладанняў і вызначэння сум выплат, прапарцыянальных да велічыні маёнткаў, атрымаецца квота, якая б дазволіла ўтрымліваць двухтысячны кантынгент найманага войска на працягу двух з паловай кварталаў у год.

---

[1] Больш падрабязна на гэтую тэму: Gerlach J. Pospolite ruszenie i obrona potoczna za Zygmunta I // Księga pamiątkowa ku czci Wiadysiawa Abrahama. T. II. Lwów, 1931; Spieralski Z. Obrona potoczna // Pamiętnik VIII Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. Historia wojskowości. Warszawa, 1960.

Гэта было б падраздзяленне, існуючае незалежна ад тысячы жаўнераў, фінансаванай з каралеўскага скарбу. Спачатку шляхта пагадзілася з гэтай задумай. Аднак калі надышоў час рэалізацыі, яна палічыла яе нявыгаднай для сябе, тым больш што велічыню маёнткаў павінны былі вызначаць каралеўскія ўраднікі. Было вырашана вярнуцца да старых правіл, паводле якіх кароль абцяжарваў выдаткамі на абарону ў першую чаргу памежныя рэгіёны. Па-ранейшаму вялізная польская дзяржава мела непрапарцыянальна малую прафесійную армію, якой з'яўлялася толькі паточная абарона.

Разам са зменамі баявых парадкаў у заходнееўрапейскіх арміях мяняліся і парадкі польскага войска. Як вядома, на Захадзе пачалі адыходзіць ад вялікіх і маларухомых мас пяхоты. На іх месцы пачалі з'яўляцца меншыя батальёны пяхотнікаў, з больш шчыльнай пабудовай і насычэннем ручной агняпальнай зброяй. У Польшчы ў канцы XV ст. наймаеная пяхота падзялялася на роты па 400–500 чалавек. На пачатку наступнага стагоддзя колькасць жаўнераў у паасобных ротах зменшылася да 200 чалавек. Захаваўся ранейшы падзел на дзясяткі, прычым у кожнай з іх адна частка жаўнераў валодала халоднай зброяй і засцерагальным узбраеннем, а іншая — агняпальнай зброяй. У першай палове XVI ст. усталяваліся наступныя нормы ў дзясятку: шэсць стральцоў, па два капійнікі і павезнікі. Як бачна, у польскай пяхоце ўжо існавала перавага агняпальнай зброяй над халоднай.

Варта ў гэтым месцы звярнуць увагу, што, нягледзячы на працяглыя і блізкія кантакты з літоўска-рускімі войскамі ВКЛ, якія прадстаўлялі сабою ваенную школу ўсходнееўрапейскага тыпу, арганізацыя і тактыка польскіх узброеных сіл была падпарадкавана заходняй традыцыі. Нязначным напачатку быў таксама ўплыў гусіцкага ваеннага мастацтва, заснаванага на баі ў лагеры (табары). Становішча пачало мяняцца з паяўленнем сур'ёзнай пагрозы з боку татарскага і малдаўскага войска. Абарона паўднёва-ўсходняга памежжа патрабавала цяпер інакшых, чым на Захадзе, так-

тычных і арганізацыйных падыходаў. Баі на памежжы схілілі польскіх военачальнікаў да ажыццяўлення перамен у вядзенні ваенных дзеянняў. Польскае войска, такім чынам, дапасавала да ўласных патрэб адпаведна змадыфікаваныя арыентальныя ўзоры. Распачаўся вельмі важны ў гісторыі Польшчы працэс стварэння старапольскай ваеннай школы, якая пачала атрымліваць свае першыя буйныя трыумфы ўжо ў другой палове XVI ст.

Паўднёва-ўсходняе памежжа было абшарам з вялікімі прасторамі і слабой заселенасцю. Толькі конніца магла тут супрацьстаяць небяспецы. Але гэта павінна была быць кавалерыя, здольная да вядзення паспяховых баёў з лёгкаўзброенымі і імклівымі малдаўскімі і татарскімі атрадамі. Да канца XV ст. польская конніца падзялялася на атрады цяжкаўзброеных капійнікаў і лёгкіх стральцоў. Капійнікі зусім былі непрыгодныя да хуткасных дзеянняў у полі, дзе патрэбная была гнуткасць, а не ўдарная сіла. Лепей спраўляліся ў баях з чамбуламі стральцы, але і яны не заўсёды маглі даць рады. Ідэальнай для барацьбы з татарскімі і малдаўскімі войскамі аказаліся фарміраванні новага тыпу, г.зв. гусары. Гэта яшчэ не былі тыя гусары, якіх мы прывыклі сабе ўяўляць — вершнікі ў прыгожых даспехах, у штурмаках (род шлема), з доўгімі коп'ямі і шаблямі, якія сядзелі на вялікіх баявых сёдлах. Гусары ў падобным выглядзе паявіліся толькі ў XVII ст. Першапачаткова гэта была лёгкая конніца, паходжаннем з Сербіі і Венгрыі, дзе рана навучыліся паспяхова супрацьстаяць татарскім набегам. Менавіта на гэтую конніцу звярнулі ўвагу ў Польшчы, перакідваючы ўзорныя найманыя атрады з Венгрыі. Першыя гусарскія падраздзяленні паявіліся ў надворнай харугве ў 1500 г. Іх яшчэ называлі рацамі, бо такое найменне замацавалася за сербамі, сярод якіх пачаткова вербавалі жаўнераў. Рацы ваявалі пры дапамозе лёгкіх коп'яў і шабляў. Для аховы перад коп'ямі і стрэламі яны карысталіся малымі тарчамі. Гусары з Венгрыі мелі таксама шлемы і кальчугі. Такі тып гусараў найбольш распаўсюдзіўся ў шэрагах паточнай

абароны. Ён забяспечваў, апрача неабходнага манеўравання, таксама магчымасць зламаць парадкі непрыяцельскага войска. З цягам часу гусары замянілі сабою на полі бітвы занадта цяжкіх капійнікаў і сталі цяжказбройнай конніцай. На памежжы зусім адмовіліся ад утрымання цяжкай конніцы. З гэтых пор войска складалася выключна з гусараў і стральцоў, а таксама атрадаў, якія ваявалі "па-татарску" (уласна кажучы, гэта была стралецкая конніца, толькі без засцерагальнага ўзбраення). Каля сярэдзіны XVI ст. побач з гэтымі двума родамі кавалерыі паявілася лёгкая конніца, якая па-іншаму называлася казацкай.

У Польшчы XVI ст. існавалі і інжынерныя падраздзяленні. Гэта былі г.зв. шанцавыя сяляне, у задачы якіх уваходзіў рамонт і будаўніцтва дарог на шляху войска, насыпанне шанцаў вакол лагера, пабудова мастоў, фартыфікацыйныя работы падчас аблог. Польская армія ўжо з часоў Грунвальда была вядома сваімі здольнасцямі ўмелага наладжвання мастоў. У 1410 г. быў узведзены каньковы мост, які стаяў на вадзе з дапамогай лодак. У Аршанскай бітве быў выкарыстаны спосаб з дапамогай плаваючых, шчыльна зачыненых і звязаных паміж сабой бочак. У тыя часы такое вырашэнне з'яўлялася значным дасягненнем інжынернага мастацтва.

*Камандаванне*

Утварэнне сталых атрадаў паточнай абароны не вырашала ўсіх праблем, звязаных з арганізацыяй абароны ў краіне. На парадку дня паўстала пытанне рэарганізацыі камандавання і кіравання такім войскам. Галоўнакамандуючым усіх узброеных сіл у дзяржаве з'яўляўся манарх. Аднак ён камандаваў толькі паспалітым рушэннем. Справа значна ўскладнілася, калі на гістарычную сцэну выйшла найманае войска. Звычайна манархі не выконвалі непасрэднага камандавання над наймітамі. Гэтага не дазваляла шляхта, якая турбавалася за рост абсалютысцкіх прэтэнзій чарго-

вых уладароў. Таму былі патрэбныя людзі, якія замянялі б караля ў камандаванні найманым войскам. Ужо на пачатку XV ст. гэтай справай займаліся ўраднікі, вызначаныя манархам. Часцей прафесійныя камандзіры пачалі паяўляцца ў канцы Трынаццацігадовай вайны. Такой асобай быў, прыкладам, ужо згаданы ў нашай кнізе Пётр Дунін. Падчас панавання Казіміра Ягайлавіча ўзмацнілася практыка вызначэння намеснікаў караля на полі бою, якія павінны былі камандаваць як паспалітым рушэннем, так і надворнымі з найманымі сіламі. На чале атрадаў паспалітага рушэння сталі ваяводы і кашталяны асобных зямель і ваяводстваў. Яны часта камандавалі надворным каралеўскім войскам і маглі самастойна выконваць пастаўленыя перад імі баявыя задачы. Такая арганізацыя камандавання апраўдвала сябе, пакуль найманы кантынгент не быў вялікім. З другой паловы XV ст., калі колькасць наймітаў пачала расці, паявіўся ўрад гетмана. Гетманы займаліся выключна камандаваннем і арганізацыяй узброеных сіл. Польшча яшчэ не мела сталай арміі. Найманае войска набіралася толькі ў выпадку якой-небудзь пагрозы (калі меліся на гэта сродкі). Пасля заканчэння ваенных дзеянняў найманыя падраздзяленні распускаліся, а вызначаны военачальнік пераставаў быць гетманам.

Сітуацыя змянілася, калі ўрэшце ўдалося сабраць хоць і невялікае, але сталае войска на паўднёва-ўсходнім памежжы — паточную абарону. Неадкладнай справай стала вылучэнне сярод ротмістраў найманых рот, якія знаходзіліся на службе, галоўнакамандуючага абаронай. Адсюль бярэ свой пачатак урад польнага гетмана. Першапачаткова з-за малалікасці паточнай абароны ён быў вымушаны ўзаемадзейнічаць з паспалітым рушэннем рускіх зямель. З гэтай прычыны, каб пазбегнуць спрэчак наконт кампетэнцыі камандзіраў, пасаду кіраўніка абароны злучалі з мясцовымі сенатарскімі альбо старосцінскімі ўрадамі. Такое рашэнне дазваляла камандаваць усімі ўзброенымі сіламі на дадзеным абшары аднаму чалавеку. З цягам часу таксама

сфарміраваўся ўрад кароннага гетмана. Працяглая адсутнасць караля Аляксандра Ягайлавіча ў Польшчы і татарская пагроза на малапольскай тэрыторыі прывялі да таго, што ў 1503 г. манарх прызначыў гетмана для гэтых зямель. Ім стаў Мікалай Камянецкі. Пад яго ўладу была аддадзена таксама абарона рускіх зямель і падпарадкаваны гетман паточнай абароны. Урад кароннага гетмана быў перадумовай для ўвядзення ўрада вялікага кароннага гетмана (з 1539 г.)[1]. У функцыі кароннага гетмана ўваходзіла праверка баяздольнасці войска, правядзенне попісаў, судаводства ў дачыненні да вайскоўцаў. Ён таксама камандаваў усёй сукупнасцю ўзброеных сіл дзяржавы на канкрэтнай выправе. Аднак на пачатку асоба, якая знаходзілася на ўрадзе кароннага гетмана, не з'яўлялася галоўным военачальнікам. Яшчэ пэўны час гетманы выконвалі свае абавязкі толькі на падставе спецыяльнага каралеўскага рашэння.

Як мы ўжо ведаем, польныя гетманы кіравалі паточнай абаронай. Яны падпарадкоўваліся каронным гетманам, але неаднаразова выконвалі і самастойныя задачы. Польныя гетманы стала знаходзіліся на паўднёва-ўсходняй тэрыторыі, каб быць на месцы ў выпадку татарскага набегу альбо нечаканых udараў малдаўскага войска.

У польскай арміі склаўся таксама ўрад часовага гетмана, які прызначаўся каралём пры канкрэтнай неабходнасці. Кампетэнцыі такіх гетманаў мелі выключна аперацыйны характар. Яны замянялі манарха ці гетмана ў агульным камандаванні і пры прывядзенні войска на поле бітвы. Калі ваенныя дзеянні скончваліся, такі гетман пераставаў трымаць свой урад. Пад камандаваннем часовых гетманаў знаходзілася і паточная абарона, і новабранае войска, а таксама паспалітае рушэнне. Неаднаразова здаралася, што такія гетманы атрымлівалі ад манарха паўнамоцтвы арганізацыйнага характару. Гэта фактычна азначала, што яны маглі, прыкла-

[1] Hetmani... S. 8–9.

дам, здзейсніць набор у войска. Побач з часовымі гетманамі паявіліся гетманы польскага і іншаземнага найманага войска. У іх функцыі ўваходзіла камандаванне падраздзяленнямі наймітаў. Іх дзейнасць была дакладна акрэслена адмысловым каралеўскім рашэннем. Часцей за ўсё гэта былі камандзіры дапаможных войскаў для Вялікага княства Літоўскага, якое змагалася з Маскоўскай дзяржавай. Як правіла, яны камандавалі не ўсімі сіламі, якія бралі ўдзел у выправе, а толькі іх часткай, маглі весці ваенныя дзеянні самастойна альбо ва ўзаемадзеянні з іншымі гетманамі. Аднак такое супрацоўніцтва не заўсёды было паспяховым. Вельмі часта даходзіла да спрэчак паміж военачальнікамі адносна іх правоў і паўнамоцтваў. Справа пераважна датычылася падпарадкавання гетманаў дапаможных войскаў гетманам з літоўскай арміі. Іншаземнымі атрадамі, якія знаходзіліся на службе ў Польшчы, кіравалі гетманы-іншаземцы, якія наймаліся каралём на перыяд правядзення канкрэтнай ваеннай кампаніі. Яны падпарадкоўваліся кароннаму, польнаму гетманам альбо іншым военачальнікам, вызначаным манархам. Кола гетманскіх урадаў на гэтым не скончвалася. Яшчэ існавалі надворныя гетманы. Яны выводзіліся з камандзіраў надворных адзінак польскіх каралёў. Першапачаткова гэтымі вайсковымі падраздзяленнямі з волі і дазволу караля кіравалі надворныя альбо вялікія каронныя маршалкі. Аднак ужо на пачатку XVI ст. паявіліся камандзіры надворных атрадаў, якіх уладар абіраў сярод самога войска. Звычайна гэта былі дасведчаныя ў вайсковай справе людзі, бо, як памятаем, надворныя харугвы з'яўляліся папярэднікам сапраўднай прафесійнай арміі. Менавіта з іх падчас грунвальдскай кампаніі былі сфарміраваны вялікая надворная і гончая харугвы. У першай палове XVI ст. існаваў таксама ўрад прускага гетмана, у падначаленні якога знаходзіліся ўсе збройныя адзінкі на тэрыторыі Прусіі. Пад сваім камандаваннем ён меў найманае войска, усялякага роду прыватныя почты і паспалітае рушэнне. Гэты ўрад знік у сярэдзіне

XVI ст. з-за асцярогі празмернага адасаблення Прусіі.

Як бачна з вышэйсказанага, стварэнне асноў польскай арміі эпохі Новага часу, увядзенне мноства наватарскіх рашэнняў суправаджаліся шматлікасцю і разнастайнасцю гетманскіх урадаў. Такая вялікая колькасць падобных па функцыях і паўнамоцтвах пасад не магла не выклікаць спрэчак і непатрэбнай валтузні паміж гетманамі, якія іх займалі. Не адзін раз падобныя канфлікты ўплывалі на няўдачы ў ваенных дзеяннях. Аднак у цэлым можна сцвердзіць, што новая армія пад камандаваннем новых каралеўскіх ураднікаў рэпрэзентавала сябе ў станоўчым выглядзе. Яны з цягам часу сталі неад'емнай часткай польскай ваеннай гісторыі, упісваючы сябе туды гераічнымі чынамі і подзвігамі.

*Узбраенне*

Нягледзячы на сваё перыферыйнае становішча на абшары еўрапейскай цывілізацыі, Польшча знаходзілася ў першых шэрагах сярод краін, якія перажывалі рэвалюцыю ў сферы ваенных тэхналогій. Прыкладам можа служыць агнявая артылерыя. Першыя гарматы з бронзы, з доўгім ствалом, якія стралялі чугуннымі, а не каменнымі ядрамі, паявіліся падчас італьянскіх войнаў у 1494 г. у войску французскага караля Карла VIII. У Польшчы захавалася падобная гармата польскай вытворчасці з 1506 г., але гэта, зразумела, не азначае, што такія гарматы не маглі выкарыстоўвацца раней. Гэтак жа выглядае справа з ручной агняпальнай зброяй. Ужо падчас букавінскай выправы большасць польскай пяхоты была ёю ўзброена, а ў бітве пад Оршай, якая нас найбольш цікавіць, яе мелі амаль усе польскія стральцы. Польская армія атрымлівала свае перамогі ў канцы XV — пачатку XVI ст. не толькі дзякуючы агняпальнай зброі і артылерыі. Не згубіла свайго значэння халодная зброя і засцерагальнае ўзбраенне. Зробім па чарзе характарыстыку ўзбраення асобных родаў польскай арміі, якія прысутнічалі пад Оршай.

Як вядома, польскія войскі не адмовіліся цалкам ад выкарыстання ў баях цяжкаўзброеных капійнікаў, якія дасягнулі сваёй вялікай славы ў XV ст. Разам са зменамі ў абліччы поля бою роля конніцы гэтага тыпу пачала паступова падаць. Частыя сутычкі з імклівымі і гнуткімі татарскімі чамбуламі зусім адсунулі капійнікаў з паўднёва-ўсходняга памежжа. Аднак у змаганні з праціўнікам заходняга тыпу, тым, хто прымяняў традыцыйную сярэднявечную тактыку, цяжкая конніца яшчэ некаторы час працягвала паспяхова выконваць свае задачы. У далейшым яна з'яўлялася галоўнай ударнай сілай на полі бітвы, а сам выгляд вершніка ў даспехах на магутным кані рабіў вялікае ўражанне на праціўніка. Асноўнай наступальнай зброяй цяжкаўзброенага вершніка было кап'ё. У сярэднявеччы капійніка лічылі сапраўдным рыцарам, менавіта ад наймення яго зброі пайшла назва найдрабнейшай арганізацыйнай адзінкі рыцарскай кавалерыі — "коп'я". Наяўнасць гэтай зброі можна прасачыць ужо ў XII ст. У познім сярэднявеччы яе прыстасавалі да прабівання ўсё больш дасканалых і таўсцейшых даспехаў. У гэты час дрэўкі кап'я былі вельмі масіўнымі, цяжкімі і доўгімі (3,5–4 метры), таму іх забяспечылі ўхватамі, якія аблягчалі трыманне зброі ў руцэ. На дрэўку замацоўваўся акруглы шчыток, які ахоўваў далонь капійніка. Кап'ё было надзвычай грознай зброяй. Маса рыцара і разагнанага каня, які часта таксама быў у даспехах, забяспечвала, як правіла, паспяховае зламанне парадкаў непрыяцельскай конніцы і пяхоты. Канешне, кап'ё не было самай зручнай зброяй. Але гэты недахоп кампенсаваўся яго велізарнай ударнай сілай, якую не мог забяспечыць просты замах рукой з мячом альбо шабляй. Здаралася, што цяжкаўзброены вершнік узбройваўся не кап'ём, а больш зручнай дзідай, але гэты тып зброі ўсётакі часцей выкарыстоўваўся іншымі родамі кавалерыі.

Зброяй "другога ўзроўню", якую ўжывалі капійнікі, з'яўляўся меч. Да яго звярталіся пасля выканання першага ўдару, калі коп'і ламаліся ад сустрэчы з целамі праціўнікаў.

Меч у сярэднявечную эпоху вырас да ўзроўню сімвала, яго шанавалі і ўзносілі. На ім прыносіліся прысягі, ім выконваліся выракі смерці. Меч з'яўляўся каштоўным падарункам, які рабіўся рымскімі папамі каралям і наадварот. Яго перадавалі ў спадчыну. Найбольш клапаціліся пра захаванне клінка, бо дзяржанне мяча, як правіла, было створана з матэрыялаў, менш падуладных уплывам часу. І хоць змены на баявых палях патрабавалі ўжо іншага ўзбраення, у перыяд позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу меч надалей захоўваў важную ролю сярод польскай зброі.

Меч на працягу гісторыі спазнаў шмат змяненняў. У канцы XV — пачатку XVI ст. ён значна адрозніваўся ад ранейшых аналагаў. Перамены ў выглядзе мяча былі моцна звязаны з развіццём засцерагальнага ўзбраення. Можна казаць пра своеасаблівае саперніцтва рамеснікаў, якія займаліся даспехамі, і тымі, хто вырабляў мячы, коп'і і іншага роду наступальную зброю. Гэты працэс паскоранай эвалюцыі мяча, яго прыстасавання для ўжытку супраць усё больш моцных даспехаў распачаўся яшчэ ў другой палове XIII ст. Удасканаленне мяча праходзіла ў двух напрамках. Першы з іх заключаўся ў тым, каб зрабіць меч, які б дапамагаў адштурхоўваць праціўніка. Гэта былі г.зв. малыя мячы, якія распаўсюдзіліся ў першую чаргу ў Францыі, Італіі, Іспаніі і Англіі. Другі напрамак – павелічэнне мяча да такіх памераў, якія б забяспечылі большую ўдарную сілу. У выніку з'явіліся вялікія мячы, якія атрымалі найбольшую папулярнасць у краінах паўночна-ўсходняй Еўропы.

Разам з развіццём даспехаў, якія ў другой палове XV ст. дасягнулі дасканалых форм, і мячы павінны былі падвергнуцца зменам. І зноў гэтая эвалюцыя развівалася па двух шляхах. Малыя мячы павялічваюцца па памерах, а колючыя ўдары ператвараюцца ў масіраваныя ўколы з мэтай прабіцця тоўстых даспехаў. Вялікія мячы робяцца ўсё больш універсальнымі — яны прыдатныя як для магутнага вырашальнага ўдару, так і нанясення пашкоджанняў уз-

браенню праціўніка. Клінок такога мяча быў шасцікутны, а пры заканчэнні вастрыя – рамбаідальны. Дзяржанне мяча з'яўлялася аднаручным альбо двуручным. Разам з ім меч дасягаў даўжыні 130 сантыметраў, часам нават больш. Менавіта гэтыя вялікія мячы выкарыстоўваліся ў шэрагах польскіх цяжкіх вершнікаў у бітве пад Оршай.

Вельмі небяспечнай зброяй у руках капійніка з'яўляўся канчар, па форме набліжаны да мяча, але з вужэйшым клінком (часта быў шматгранным). Ён не быў прыдатны для сякучых удараў, а толькі для колючых. Цяжкаўзброеная конніца магла выкарыстоўваць канчары пры зламанні коп'яў, бо востры і вузкі клінок добра прабіваў усё танчэйшыя даспехі і выходзіў навылет праз кальчугу ці іншага роду панцыры.

Наступальнае ўзбраенне цяжкаўзброенага ваяра дапаўнялі корд альбо стылет, а часам – молат і рыцарская дубіна. Корд меў форму доўгага нажа і часта выкарыстоўваўся рыцарамі ў выпадку страты мяча ў баі. Таксама нярэдка капійнікі карысталіся кордам у дарозе, бо ён быў у параўнанні з мячом лягчэйшы і зручнейшы пры нашэнні. Стылет (кінжал, мізэрыкордыя) быў прыдатны з-за кароткага клінка толькі для колючых удараў. Кінжал быў карысны для дабіцця збітага з каня праціўніка і з гэтай прычыны з XIV ст. пачаў называцца мізэрыкордыяй (ад лат. *misericordia* – міласэрнае сэрца). Надзвычай эфектыўнай зброяй з'яўляўся рыцарскі молат. Ён ужываўся ў XIV–XVI стст. Стрыжань гэтай зброі быў драўляны альбо металічны, меў даўжыню да 50 сантыметраў. Молату было ўласціва жалезнае вастрыё з пляскатым малаточкам з аднаго боку і вострай дзюбай ці сякеркай – з другога. Выдатна рыцарскі молат праяўляў сябе пры разбіванні шлемаў і даспехаў. Падобную ролю на полі бою адыгрывала рыцарская дубіна, часцей за ўсё выраблена са сталі, з галавой, складзенай з шасці альбо сямі пёраў[1].

---

[1] Gradowski M., Żygulski Z. Słownik uzbrojenia historycznego. Warszawa, 1998. S. 62.

Варта, аднак, меркаваць, што не ўсе капійнікі пад Оршай былі забяспечаны камплектам такіх "прылад". Па-першае, гэта нятанна каштавала, па-другое, тут не прадугледжвалася сустрэча з цяжкаўзброенай конніцай заходняга тыпу, а значыць, як молаты, так і рыцарскія дубіны не былі патрэбныя.

Засцерагальнае ўзбраенне капійніка складалася ў гэты час толькі з пласцінавых даспехаў. Тарча, яшчэ зусім нядаўна неабходны элемент узбраення, пачала знікаць з рыштунку цяжкіх вершнікаў. Усё больш дасканалыя і таўсцейшыя даспехі не патрабавалі дадатковай аховы. Зрэшты, пры кіраванні вялізным баявым канём тарча часта толькі перашкаджала, а пашырэнне агняпальнай зброі рабіла з яе непатрэбны цяжар. Яна перастала таксама выконваць сімвалічныя і сігналізацыйныя функцыі. У часы, калі армія складалася са шляхецкага паспалітага рушэння, на тарчы адлюстроўваўся ўласны герб альбо зямельны сімвал з месца паходжання рыцараў. Жаўнеры, якія служылі ў найманай конніцы, ужо не прадстаўлялі сабою зямель ці родаў. Іх служба, не менш ганаровая чым у паспалітым рушэнні, зводзілася да выканання сваіх прафесійных абавязкаў. Тут не было месца для сепаратысцкіх альбо асабістых пачынанняў. Выхвалянне ўласным гербам вяло ў мінулыя часы і стварала праблемы на полі бою — "частакольны" парадак так доўга захоўваўся ў рыцарскіх войсках, між іншым, з тых прычын, што рыцар мог поўнасцю праявіць у ім свае ўменні і мужнасць. Цалкам свае вартасці тарча захавала ў рыштунку лёгкаўзброеных вершнікаў, у асаблівасці ў гусараў (рацаў). Але аб гэтым — крыху пазней.

Як ужо казалася, галоўным ахоўным элементам узбраення з'яўляліся даспехі. Яны цалкам пакрывалі ваяра і складаліся з металічных пласцін. Велічная гісторыя пласцінавых даспехаў распачалася ў паўночнай Італіі ў першай палове XV ст. З гэтага часу іх папулярнасць пастаянна расла, хоць гэта было даволі дарагое засцерагальнае ўзбраенне. Аднак яго вартасці кампенсавалі выдаткі. Нягледзячы на

значны цяжар (да 30 кілаграм), гэтыя даспехі давалі ваяру поўную свабоду рухаў. Такі эфект дасягаўся дзякуючы сучлененым заслонам канечнасцей — як верхніх, так і ніжніх. Бляхі нагрудніка былі звычайна таўсцейшыя ад тых, што ахоўвалі плечы. Даспехі, якія выраблялiся пад уплывам паўночнаітальянскіх майстроў, адрозніваліся, да таго ж, асіметрыяй будовы — левы бок быў багата шырэйшы. Ён выраблаўся з больш тоўстага металу, што было звязана з неабходнасцю замяніць з левага боку тарчу. Адначасова побач з даспехамі паўночнаітальянскага тыпу выраблялiся адмысловыя даспехі майстрамі з поўдня Святой Рымскай імперыі. Яны мелі сіметрычную форму, а кірасы (нагруднікі) усё часцей пакрываліся спосабам канеліравання — упрыгожваннямі ў выглядзе жалабкоў (даспехі з Італіі былі гладкія). З нямецкіх даспехаў выйшлі знакамітыя "гатычныя" даспехі. Яны вызначаліся зграбнасцю ліній, выцягнутасцю форм і выразнай вастрынёй контураў. Шэрагі жалабкоў, якія веерападобна разыходзіліся ў бакі, вострыя вярхі ахоўных элементаў на канечнасцях павінны былі ствараць ілюзію руху і энергіі[1]. Верагодна, пад Оршай польская цяжкая конніца насіла даспехі, падобныя да "гатычнага" тыпу. На гэта могуць указваць не толькі іканаграфічныя выявы, зробленыя сведкам бітвы[2], але і геаграфічная блізкасць майстроў з Германіі, адкуль польская вайсковая школа пазычала навацыі ва ўзбраенні.

---

[1] Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1975. S. 88.

[2] Гаворка ідзе пра карціну "Бітва пад Оршай" невядомага мастака (гл. уклейку). Яе стварэнне прыпісваецца нямецкаму мастаку, які ўласнай персонай прысутнічае на выяве. У тыя часы быў звычай высылання мастакоў на ваенныя выправы. У іх мэты ўваходзіла адлюстраванне пераможных бітваў. Творца "Бітвы пад Оршай" выдатна прадставіў ваюючыя бакі, з улікам разнастайных дэталяў узбраення. Зразумела, такое адлюстраванне не павінна было абавязкова адпавядаць рэчаіснасці, але дае нам пэўнае ўяўленне аб рэаліях эпохі.

Абавязковым элементам засцерагальнага ўзбраення капійніка з'яўляўся, зразумела, шлем. Яго форма залежала ад тыпу даспехаў. У асноўным гэта была прылбіца, г.зн. шлем з рухомай заслонай для твару. Варта падкрэсліць, што прылбіца была адным з відаў шлему, а не ўласна заслонай, як раней было прынята лічыць. Пад Оршай, верагодна, выкарыстоўваліся прылбіцы найноўшага тыпу "армет". Яе сканструявалі бліжэй да сярэдзіны XV ст. у Італіі. Сваё распаўсюджанне яна атрымала ў другой палове гэтага стагоддзя. Такая прылбіца адрознівалася паўсферычным звонам, падоўжаным унізе. Шчокі ахоўвалі дзве паўкруглыя тарчаўкі, якія маглі адхіляцца ўбок. Заслона прафілявалася, з выразным грэбнем, які праходзіў пасярэдзіне. Прылбіца мела таксама вентыляцыйныя адтуліны. Часта шлем дапаўняўся падбароднікам. Канешне, не ўсе цяжкаўзброеныя вершнікі валодалі менавіта такімі прылбіцамі. Былі магчымы розныя варыянты. Апрача прылбіц, выкарыстоўваліся капаліны і салады. Капалін быў свайго роду стальным капелюшом з моцна выдзеленым крэзам, які надзейна закрываў твар жаўнера (у тыя часы ў ім рабіліся шчыліны для вачэй). Такі шлем быў вядомы са старажытных часоў, але толькі ў сярэднія вякі атрымаў вялікую папулярнасць, у тым ліку і з увагі на сваю таннасць. Саладу прыдумалі італьянскія майстры. Верагодней за ўсё, яна паходзіла ад капаліна. Моцна выцягнуты крэз, які засланяў верхнюю частку твару, прымушаў выразаць зрокавую шчыліну. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да выцягвання тыльнага боку звона, які прымаў форму напатылічніка. Спераду вырашылі адмовіцца ад крэзу, замяняючы яго рухомай заслонай. Ніжняя частка твару часам ахоўвалася падбароднікам, прымацаваным да нагрудніка. Так быў створаны амаль цалкам закрыты, але ў той жа час адносна лёгкі шлем[1]. Салады карысталіся вялі-

---

[1] Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej 1450–1500 / Red. A. Nowakowski. Toruń, 1998. S. 75.

кай папулярнасцю і ўсё часцей ужываліся замест цяжэйшых у параўнанні з імі прылбіц.

На мяжы XV–XVI стст. даволі папулярным становіцца "апрананне" (г.зв. ладраванне) у даспехі коней. Іх ахова перад ударамі коп'яў і стрэлаў была вядома ўжо ў раннім Сярэднявеччы. Тады выкарыстоўваліся тоўстыя тканіны альбо кальчугі. Валоданне канём і яго ўтрыманне вымагалі шмат сіл і грошай. Таму неабходна было захоўваць каня ў выдатнай форме праз як мага даўжэйшы час. Гэта было важна асабліва тады, калі на палях баёў з'явілася агняпальная зброя. Сам вершнік рабіўся складанай мішэнню, затое коней значна лягчэй было выдаліць з бітвы. А без іх не было капійнікаў, "стальны націск" рабіўся праблематычным. Таму ў той час, калі сфарміраваўся комплекс рыцарскіх пласцінавых даспехаў, прыйшла чарга і коней атрымаць сваю стальную засцярогу. Поўныя пласцінавыя даспехі жывёл складаліся з мноства элементаў, так сканструяваных і злучаных, што яны амаль зусім не перашкаджалі руху каня. Часткі цела, якія не ўдавалася ахапіць бляхамі, маскіраваліся з дапамогай кальчугі.

Так забяспечаныя даспехамі вершнік і конь, а дакладней — цэлая маса закаваных у сталь ваяроў, сапраўды павінна была рабіць застрашальнае ўражанне на праціўніка. Аднак капійнікі не заўсёды выступалі ў поўным, комплексным рыштунку (тое ж самае датычылася і коней). Гэта не дазвалялі зрабіць наяўныя рэсурсы, а часам умовы, у якіх прыходзілася ісці ў бой. На падмочаных землях пад Оршай цяжкаўзброеная конніца дакладна не магла выйсці ў поўным рыштунку. У адкрытым полі ніхто ёй не мог супрацьстаяць і адной атакі хапіла б, каб сцерці ворага з твару зямлі альбо па меншай меры прымусіць да ўцёкаў. Аднак тут, пад Оршай, справа выглядала не такой простай. Каб марыць пра перамогу, асабліва ў змаганні з больш гнуткім праціўнікам (як, прыкладам, татары), была неабходна лёгкая конніца. Яе паяўленне звязана з часамі, калі рыцар прыводзіў з са-

бой на ваенную выправу почт лёгкаўзброеных коннікаў. У перыяд Аршанскай бітвы менавіта стралецкая конніца, разам з гусарскай, была найвялікшым фарміраваннем у польскім войску. Конныя стральцы ўжо адкінулі цяжкія і нязручныя арбалеты на карысць хуткапальнага лука. Цяпер ён выступаў асноўнай наступальнай зброяй гэтага роду конніцы. У цесным баі конныя стральцы выкарыстоўвалі, як і капійнікі, мячы, але больш лёгкія. Папулярнасцю пачалі карыстацца шаблі. Яны былі нашмат лягчэйшыя за мячы, а сваёй эфектыўнасцю часта іх перавышалі. Гэтае ўсходняе вынаходніцтва з'явілася на землях Польшчы пры пасярэдніцтве венграў і не адразу прыжылося. Першапачаткова рыцары ўжывалі шаблі ў дарозе, трымаючы іх пры сабе, у той час як мячы разам з даспехамі ехалі ў абозе. Бліжэй да сярэдзіны XVI ст. шаблі цалкам выціснулі мячы з рыштунку вершніка.

У якасці аховы ў баі лёгкая конніца час ад часу прымяняла металічныя, кольчатыя тарчы з вострым выступам пасярэдзіне. Галоўнай засцерагальнай зброяй стралецкай кавалерыі з'яўляліся панцыры альбо кальчугі. Гэтая кашуля была зроблена са сплеценых між сабой металічных калечак і паявілася ў старажытныя часы дзякуючы кельтам. Густая кальчуга забяспечвала добрую абарону перад сякучымі ударамі, аднак не дапамагала пры колючых ударах і стральбе з лука. Нярэдка стралецкія вершнікі апрача кальчугі апраналі таксама нагруднікі. Бывала, што кальчуга замянялася г.зв. стралецкімі даспехамі — кафтанам, узмоцненым металічнымі пласцінкамі. Часам ужывалася і брыгантына — камізэлька са скуры з прымацаванымі пласцінкамі. Цалкам магчыма, што стралецкая конніца пад Оршай увогуле адмовілася ад засцерагальнага ўзбраення, каб павялічыць рухомасць у сутыкненні з праціўнікам з больш лёгкім рыштункам.

Для аховы галавы лёгкая кавалерыя, акрамя койфаў (чапцоў), прымяняла таксама лёгкія, адкрытыя шлемы,

якія называліся бацынеты. Гэты від шлема сфарміраваўся ў Сярэднявеччы. Ён вызначаўся сферычным, часам лёгка завостраным звонам. У большасці выпадкаў быў выкаваны з адзінага кавалка металу, таму адрозніваўся значнай трываласцю. Бясспрэчнай вартасцю такога шлема была яго нізкая цана. З гэтай прычыны ён карыстаўся папулярнасцю ў шэрагах польскага войска. Разам з бацынетамі звычайна ва ўжытку прымяняліся капаліны.

Коні стралецкіх атрадаў прадстаўлялі больш лёгкія пароды, здольныя да хуткага манеўравання падчас бітвы. Не апошняе значэнне меў кошт каня, які быў немалым у выпадках з цяжказбройнымі вершнікамі. Для падтрымкі манеўравання коней стралецкай кавалерыі не апраналі ў даспехі.

У часы, калі адбылася бітва пад Оршай, шырокае прымяненне атрымалі гусарскія (рацкія) фарміраванні, вельмі прыдатныя на паўднёва-ўсходнім памежжы. Там поспех залежаў ад хуткасці і спрытнасці, а не ад ударнай сілы. Сербы і венгры, сярод якіх першапачаткова набіраліся вайсковыя атрады, выпрацавалі паспяховыя метады барацьбы з імклівымі татарскімі чамбуламі. Гусары ўступалі ў бой, узброеныя лёгкімі коп'ямі, звычайна дзідамі. Яны былі такімі лёгкімі, што дазвалялі свабодна рухацца, а адначасова такімі цяжкімі, што ўзброены імі згуртаваны атрад рацаў уяўляў сабою выдатную нязломную сілу, захоўваючы найважнейшую здольнасць манеўравання.

У групавых баях гусары карысталіся шаблямі. Як правіла, гэта была зброя з шырокім клінком і лёгкай крывізной. Такая шабля, даволі цяжкая, добра падыходзіла для разбіцця засцерагальных даспехаў, дзе меч такой жа вагі быў непрыдатны. Звычайна шаблі былі венгерскага ці турэцкага паходжання.

Рацы ваявалі практычна без засцерагальнага ўзбраення, калі не лічыць малых тарчаў. У большасці выпадкаў гэта была драўляная, прамакутная, трохі выцягнутая венгерская тарча са звыклым, абрэзаным асіметрычна верхнім краем.

Некаторыя з гусар мелі турэцкія тарчы — калканы. Сербскія гусары, як ужо згадвалася, зусім не насілі панцыра. На тулаве яны мелі рознакаляровыя ватныя лёгкія кафтаны, якія някепска ахоўвалі цела ад удараў. На сваіх галовах рацы не насілі шлемаў. Замест іх былі шапкі альбо крыху гратэскнага выгляду капелюшы. Трохі лепей — кальчугамі і шлемамі — былі ўзброены венгерскія гусары. Менавіта яны сталі першаўзорам польскага гусарскага войска, якое з сярэдзіны XVI ст. прыйшло на змену цяжкай капійнічай конніцы.

Рацы валодалі лёгкімі, хуткімі і ў той жа час цягавітымі коньмі. Гэта дазваляла выкарыстоўваць іх у разведцы і пагоні.

Дапаўненнем конных фарміраванняў з'яўлялася лёгкая татарская конніца. Не ўсе яе жаўнеры, канешне, былі татарамі. У большасці гэта былі палякі, якія служылі "па-татарску". Яны не мелі засцерагальнага ўзбраення, а ў баях па-майстэрску прымянялі лук усходняга тыпу. Акрамя таго, яны карысталіся шаблямі і арканамі, якія служылі для сцягвання праціўніка з коней.

Як ужо не раз згадвалася, усё большае значэнне на полі бою атрымлівала найманая пяхота. Яна падзялялася на павезнікаў, пешых капійнікаў (наш адпаведнік заходнееўрапейскага пікінера) і стральцоў. Павезнікі з'яўляліся родам пяхоты, які даволі хутка прапаў з-за сваёй малой рухомасці, якая была абумоўлена цяжарам вялікай тарчы, альбо павезы. Гэты элемент засцерагальнага ўзбраення даў назву іх падраздзяленням. Вялікая пяхотная павеза ўтварылася з малой коннай павезачкі, якая паявілася пад балцкім уплывам і адрознівалася прыбліжанай да прамакутніка формай, з вертыкальным выступам уздоўж усёй тарчы. Гэты элемент ствараў ідэальную ахову перадплечча і далоні рыцара. Конная павеза была настолькі ўдалым вырашэннем, што калі пяхота пачала набіраць папулярнасць, яе прыстасавалі для аховы пешых атрадаў. Зразумела, гэтая тарча была павялічана і ўзмоцнена жалезнымі аковамі. Павеза засланяла амаль усё

цела жаўнера. Найбольш вытанчаныя асобнікі мелі спецыяльныя кольцы для ўбіцця тарчы ў зямлю. У некаторых можна сустрэць маленькія назіральныя акенцы. Такія вялікія і цяжкія тарчы, як правіла, выкарыстоўваліся падчас аблог альбо пры абароне лагера. У адкрытым полі звярталіся да больш лёгкіх і зручных тарчаў. Акрамя таго, павезнікі, хутчэй за ўсё, насілі кальчугі ці зусім выступалі без дадатковага засцерагальнага ўзбраення. Галовы ўпрыгожвалі бацынеты.

Наступальнай зброяй павезнікаў, як правіла, быў корд. Часам выступала і шабля. Цяжкае наступальнае ўзбраенне павезнікамі не выкарыстоўвалася, бо далёка не лёгкай ношай была сама павеза.

Чарговым відам пяхотніка ў польскім войску быў капійнік, называны гэтак сама, як жаўнер на кані, таму што карыстаўся ў баях кап'ём альбо пікай[1]. Пешы капійнік меў таксама звычайна вялікі меч, зрэдку канчар альбо кінжал. Аднак у цэлым капійнік не абцяжарваў сябе зброяй, бо павінен быў пераадольваць значныя адлегласці пешшу.

Засцерагальнае ўзбраенне складалася, як і ў цяжкай конніцы, з пласцінавых (капійнічых) даспехаў. Гэта не заўсёды былі цэласныя камплекты, у прыватнасці, калі бітва адбывалася ў такім месцы, як поле пад Оршай. Гэта былі ўзбярэжныя землі каля Дняпра — прамоклая і складаная для перасоўвання цяжкай кавалерыі і пяхоты зямля.

Асаблівай з'явай, якая паявілася ў польскім войску падчас Трынаццацігадовай вайны, а затым значна пашырылася ў XVI ст., было прымяненне агняпальнай зброі. З-за яе кідалі свае арбалеты стральцы, якія з'яўляліся трэцім родам пяхоты ў польскай арміі. Самыя першыя звесткі пра еўрапейскую ручную агняпальную зброю паходзяць з першай паловы XIV ст. Ствалы першых экземпляраў адліваліся з жалеза ці бронзы. Часам іх выраблялі, абварочваю-

---

[1] Polska technika wojskowa do 1500 roku / Red. A. Nadolski. Warszawa, 1994. S. 211.

чы вакол драўлянага кія тоўстыя металічныя палосы, разаграючы альбо скоўваючы месцы злучэння. Ствол мацаваўся на драўляным ложы, адтуліна для запалу знаходзілася ў канцы парахавой камеры. Пад нізам, ля вылета, знаходзіўся гак, які падчас стральбы абапіралі на мур альбо на іншую апору. Такое рашэнне змяншала аддачу і дало зброі назву "гакаўніца"[1]. Першапачаткова гакаўніцы выкарыстоўваліся пераважна пры абароне муроў, таму што іх цяжар не даваў магчымасці прымяняць іх у адкрытым полі. Аднак з цягам часу гакаўніцы сталі лягчэйшыя. На пачатку XVI ст. існавалі два тыпы гакаўніц. Першы адрозніваўся вельмі простым, невялічкім прыкладам, які ўскладняў прыцэльванне. Гэты тып зброі хутка пачаў зыходзіць з палёў баявых дзеянняў. Другі тып меў складаны прыклад, падобны да сучаснага ў карабіне. У канцы XV ст. у польскіх фарміраваннях найманай пяхоты з'явіліся ручніцы. Гэты від зброі быў значна лягчэйшы ад гакаўніц, і гэта вызначыла, што ён стаў больш папулярны. І гакаўніцы, і ручніцы ў той час мелі кнотавыя замкі. Гэта быў рычаг, прымацаваны з правага боку да ствала, які меў на канцы дзяржанне для кнота. Для выстралу трэба было націснуць на ніжні канец рычага, і тады яго верхняя частка з умацаваным кнотам падала на ўтулку з порахам. Гэта паляпшала прыцэльванне і выстрэльванне. Да гэтых пор для выстралу трэба было адной рукой прытрымліваць зброю (і абапіраць яе на якую-небудзь апору), а другой – прыткнуць распалены канец кнота да запальнай адтуліны. Кнотавы замок дазваляў свабодна трымаць зброю абедзвюма рукамі і лепей прыцэльвацца.

Варта дапускаць, што польскія пяхотнікі пад Оршай мелі ў карыстанні як найноўшыя ручніцы, так і лягчэйшыя віды гакаўніц (аркебузаў). Аднак не трэба зусім выключаць і наяўнасць у польскіх шэрагах арбалетаў. Іх маглі мець бяднейшыя таварышы. Гэтая зброя паходзіла са старажыт-

---

[1] Ibid. S. 219.

ных часоў, яе распаўсюджанне адбылося дзякуючы кельтам (ім жа вайсковая справа абавязана кальчугай). Вялікае значэнне арбалет атрымаў у Сярэднявеччы, аднак у гэтую эпоху разам з лукам ён не лічыўся годнай рыцара зброяй. Усё з-за таго, што ім наносілася шкода праціўніку з далечыні альбо засады. Страшэнная сіла, з якой арбалет прабіваў панцыры, стала прычынай супрацьдзейнічання царквы выкарыстанню гэтай зброі ў баявых дзеяннях. Справа палягала не ў апецы над жыццём жаўнераў, а ў захаванні прэстыжу рыцараў. Нягледзячы на ўсе забароны і абмежаванні, арбалет стала знаходзіў новых прыхільнікаў. Ён асабліва быў папулярны ў пяхотных атрадах. Нават калі паявілася агняпальная зброя, арбалет яшчэ доўга захоўваў сваё значэнне. У бітве пад Оршай польская пяхота была выдатна забяспечана агняпальнай зброяй, асабліва ў параўнанні з літоўскім альбо маскоўскім войскам.

У блізкім баі стральцы не былі поўнасцю залежныя ад сваіх калег — капійнікаў і павезнікаў. Апрача кідальнай і агняпальнай зброі, яны мелі мячы (лёгкага тыпу), корды, а таксама ўсё больш папулярныя шаблі.

Яны не насілі засцерагальнага ўзбраення, апрача сцёганых кафтанаў. Трэба памятаць, што агняпальная зброя тых часоў не была лёгкай. Яе вага дасягала 15 кілаграм. Да гэтага трэба дадаць адпаведны запас куляў, пораху і інструменту. Усё складала цяжкі груз, а стральцы павінны былі мець свабоду рухаў, каб весці шпаркі і эфектыўны агонь. Для аховы галавы ўжывалі ў асноўным бацынеты альбо капаліны.

Польшча вельмі хутка пераймала ўсе тэхнічныя навінкі ў ваеннай сферы. Гэта асабліва добра бачна ў агнявой артылерыі, якая ў дадзены гістарычны перыяд цалкам адсунула назад старую механічную артылерыю. Ствалы гармат адлівалі цяпер з бронзы, вылучалі іх некалькі тыпаў. Цяжкую артылерыю прадстаўлялі г.зв. бамбарды. Яны прымяняліся ў першую чаргу для знішчэння муроў. Адсюль іх іншая назва — аблогавыя гарматы. Гармат гэтага тыпу

не было ў бітве пад Оршай, таму тут мы не будзем даваць іх падрабязнае апісанне. Адзначым толькі, што бамбарды слушна заслугоўвалі права называцца цяжкай артылерыяй. Вядомы асобнікі велізарных памераў па цяжкасці і калібры. Прыкладам, гандаўская бамбарда з назвай "Шалёная Грэта" мела ў даўжыню больш за 5 метраў, важыла каля 16,5 тысяч кілаграм, а яе калібр складаў 640 міліметраў. Бамбарды, з якіх можна было ажыццявіць толькі некалькі стрэлаў за адзін дзень, наводзілі жах на шмат якія замкі, збудаваныя паводле сярэднявечных узораў.

Палявая артылерыя была прадстаўлена перадусім гуфніцамі, якія сваім агнём аказвалі падтрымку войску. Адносна лёгкія, пастаўленыя на двухколавыя лафеты, яны дазвалялі ўмела манеўраваць у полі. Разам з гуфніцамі выступалі таксама тарасніцы, якія так называліся, бо ставіліся на брусяны пераносны лавет (тарасы) і прызначаліся для абароны на мурах. Гэта былі лёгкія, доўгаствольныя гарматы, якія бліскуча аказвалі агнявую падтрымку падчас бою. Палявую артылерыю дапаўнялі яшчэ г.зв. фоглеры, першыя ў гісторыі гарматы, якія зараджаліся ззаду. Гэтага ўдалося дасягнуць дзякуючы прымяненню заменнай зараднай каморы. На вялікі жаль, нельга было зрабіць так, каб паміж каморай і стволам зусім не было шчыліны. Значная частка порахавых газаў выходзіла вонкі, і з гэтай прычыны выбуховая сіла гарматы істотна змяншалася. Гэта паўплывала на тое, што фоглеры не прыжыліся ў польскай (як і ў еўрапейскай) артылерыі.

Як бачна з вышэйпададзенага аналізу, польская ваенная тэхніка не саступала ў сваім развіцці заходнееўрапейскім узорам. У дачыненні да халоднай зброі можна казаць, што Еўропе было чаму ў нас павучыцца. Удасканаленне гакаўніц і ручніц з дапамогай кнотавага замка адбывалася адначасова і ў Польшчы, і ў заходніх краінах. Артылерыя ў выглядзе бронзавых гармат імкліва заняла важнае месца ў польскім войску. Аднак цвёрды націск на развіццё кавалерыі спрычыньваўся да развіцця адрознага способу вя-

дзення польскай арміяй ваенных дзеянняў. Гэта прывяло да фарміравання спецыфічнага ваеннага мастацтва, у якім знайшлі сваё прызнанне тэхнічныя навацыі Захаду і арыгінальныя тактычныя метады вядзення бою з Усходу.

*Тактыка*

Мяжа XV–XVI стст. з'яўлялася перыядам фарміравання старапольскага ваеннага мастацтва, прынцыпова адрознага ад заходніх узораў. Як вядома, у Заходняй Еўропе урбанізацыя тэрыторыі мела значныя памеры. З гэтай прычыны перамога над праціўнікам у адкрытым полі мела невялікія наступствы, бо той мог схавацца за магутнымі замкавымі ўмацаваннямі і адтуль працягваць непакоіць. Неадкладнай і першачарговай справай стала стварэнне высокаэфектыўнай і добра забяспечанай зброяй і амуніцыяй пяхоты. Толькі яна магла быць прыдатнай пры аблозе і здабыцці крэпасцей. У заходнееўрапейскіх войсках кавалерыя не адыгравала вялікай ролі. Яе выкарыстоўвалі як дапаможную сілу ў дзеяннях пяхоты. Гэта зусім не азначае, што яе лічылі непатрэбнай. Яе часта выкарыстоўвалі для прарыву варожых шэрагаў. Аднак галоўная роля ўсё-такі адводзілася пяхоце з агняпальнай зброяй, якая магла адкінуць непрыяцельскую кавалерыю і давесці справу да разбіцця варожых парадкаў.

У Польшчы сітуацыя выглядала інакш. Ваеннае мастацтва краіны фарміравалася пад уплывам спецыфічных геапалітычных акалічнасцей. З часоў заключэння ўніі з Літвой у Крэве Польшча пачала ўсё больш цікавіцца справамі на ўсходзе. З аднаго боку, гэта было прадыктавана новымі магчымасцямі гаспадарчай экспансіі, з другой — вымушанасцю ўдзельнічаць у канфліктах, якія прынесла з уніяй Літва. Гаворка ішла ў першую чаргу пра адносіны з Вялікім княствам Маскоўскім і памежныя канфлікты з татарамі. Польская армія была вымушана часта знаходзіцца на ўсходзе, дзе яна мела справу з мужным праціўнікам, які абапіраўся на конніцу,

большым па колькасці, з ідэальнай арганізацыяй і ўменнем выдатна манеўраваць. Палякам прыходзілася біцца на слабазаселеных землях. Нешматлікія і ў асноўным збяднелыя гарады і мястэчкі не былі ў стане збудаваць сабе ўмацаванні, таму не з'яўляліся сур'ёзнымі пунктамі супраціву. Страта ці здабыццё якога-кольвек горада не мела такога важнага значэння для вынікаў усёй кампаніі, як на Захадзе. Выключэннем з'яўляўся Смаленск, які заўсёды аказваўся ў эпіцэнтры канфлікту паміж Масквой, Літвой і Польшчай.

Галоўнай сілай, здольнай стрымаць частыя татарскія, малдаўскія ці маскоўскія набегі, з'яўлялася конніца. Яна павінна была быць лёгкай і здольнай да імклівага манеўра, каб мець магчымасць перамагчы праціўніка ў полі, умомант дагнаць яго і адбіць, прыкладам, ясыр. У польскім войску павялічвалася колькасць гусарскіх і стралецкіх харугваў. Цяжкія капійнічыя роты таксама існавалі, але яны выкарыстоўваліся ў асноўным у баях з войскамі заходняга тыпу (крыжакамі). Нават калі яны запрашаліся да барацьбы з усходнім праціўнікам, галоўная роля ўсё роўна належала лёгкай кавалерыі.

Стаўка на конніцу ў польскай арміі зусім не вяла яе да заняпаду. Цалкам наадварот, Польшча апярэдзіла Еўропу на паўтары стагоддзі ў гадоўлі прыстасаваных да сучаснай баявой тактыкі парод коней. Польскі верхавы конь быў не такім шпаркім, як арабскі скакун. Аднак ён быў больш рослым і, што важна, быў непатрабавальны да надвор'я і якасці ежы. Такіх коней гадавалі галоўным чынам у магнацкіх латыфундыях, там, дзе можна было выдаткаваць на гэтую справу значныя фінансавыя сродкі. Верагодней за ўсё, гадоўляй займаліся не ва ўсёй краіне, а толькі ў яе паўднёва-ўсходняй частцы. На астатняй тэрыторыі перавагу працягваў мець цяжкі капійнічы конь. Новы польскі скакун быў настолькі каштоўным, што польскі сойм нярэдка забараняў яго продаж і вываз за мяжу[1].

---

[1] Polska w okresie odrodzenia / Red. A. Wyczański. Warszawa, 1970. S. 171.

Асаблівая тактыка бою, якая прымянялася польскай конніцай (аб чым распавядзем далей), патрабавала і спецыяльнай дрэсіроўкі коней. Яе называлі яздой "каля зямлі", а з цягам часу замацавалася назва "выправа па-гусарску". Падрыхтаваныя да такой язды коні павінны былі пераадолець галопам адлегласць каля 30 метраў. Затым яны павінны былі паварочваць назад вакол абазначаных з двух канцоў дыстанцыі колаў дыяметрам 3 метры. Гэта была нялёгкая задача, бо конь не мог нават капытам выйсці за пазначаны круг.

Па тактычнай задуме неабходна было знянацку прымусіць праціўніка прыняць бітву. Для дасягнення гэтай мэты здзяйсняліся імклівыя маршы, апошні этап каторых адбываўся ўначы. Ранкам падчас прачынання альбо пачатку маршу вораг засяпваўся знянацку. Калі не ўдавалася прымусіць непрыяцеля да бітвы альбо наяўных сіл аказвалася замала, прымяняліся загоны. Гэта былі характэрныя для ўсходняга ваеннага мастацтва выпады кавалерыйскіх груповак без прыцягнення абозу альбо зусім з малой яго колькасцю. У задачы загонаў уваходзіла застрашэнне ворага пры дапамозе такіх метадаў, як спусташэнне краю, ліквідацыя малых вайсковых груповак, узяцце якой-небудзь крэпасці. Часта здаралася, што загоны паточнай абароны, якія арганізоўваліся для пагоні за татарамі альбо ў мэтах рэваншу, заходзілі ў глыб зямель качэўнікаў.

Пра татарскую тактыку вядзення бою мы падрабязней пісалі вышэй. У гэтым месцы толькі нагадаем, што татары пасля прыбыцця на землі, якія збіраліся спустошыць, стваралі лагер, іншымі словамі – кош. Адсюль яны рассылалі чамбулы для збору ясыра. З улікам рухомасці татарскага войска не было вялікага сэнсу ў пагоні за асобнымі чамбуламі. З гэтай прычыны палякі і літвіны заўсёды імкнуліся напасці на менеей рухлівы кош. Калі ім удавалася авалодаць, у рукі нападаючых трапляла і пэўная частка чамбулаў. Для таго каб хутка і спраўна іх перамагчы, былі патрэбны фарміраванні лёгкай

конніцы, такія як гусарскія роты альбо атрады жаўнераў, якія служылі "па-татарску". У сутычках з малдаўскім войскам таксама вялікую ролю адыгрывалі хуткасць і ўменне манеўраваць на полі бою. Важнай задачай з'яўлялася імклівая рэакцыя на наезды малдаван на адвечна спрэчнае Пакуцце і польскае Падолле.

Іншыя правілы дзейнічалі ў войнах Польшчы з агрэсіўна настроенымі крыжакамі. Тэатр ваенных дзеянняў адрозніваўся большай насычанасцю замкамі, таму змаганне заключалася перадусім у аблогах умацаваных пунктаў. З тых пор як крыжацкае войска атрымала паразу пад Грунвальдам, яно не спяшалася ваяваць у адкрытым полі. Крыжакі хутчэй імкнуліся змучыць польскага і літоўскага праціўніка ў працяглых аблогах сваіх магутных замкаў. Польская армія не адразу авалодала майстэрствам узяцця фартэцый. Пераломным момантам стала вайна 1519–1521 гг. Відавочным аказаўся той факт, што гарматы новага тыпу даволі ўмела разбіваюць муры крыжацкіх замкаў. Гэтая аблогавая вайна новага кшталту з'яўлялася выключэннем у гісторыі польскага ваеннага мастацтва першай паловы XVI ст. Досвед яе правядзення быў перанесены на ўсход толькі ў 1535 г. пры аблозе Старадуба, падчас чарговай вайны з Масквой[1]. Войны з крыжакамі, якія прадстаўлялі сабою войска заходняга ўзору, абумоўлівалі захаванне ў Польшчы атрадаў цяжказбройных капійнікаў. З гэтай прычыны, як толькі ўдалося канчаткова знішчыць крыжацкую пагрозу, колькасць закаваных у сталь вершнікаў пачала імкліва падаць. Прыкладна на пачатку 30-х гг. XVI ст. капійнічыя харугвы зніклі амаль цалкам. Гэта не азначала поўнай адмовы ад выкарыстання кавалерыі такога роду ў баях. Аднак яе колькасны склад быў настолькі малы, што ўжо перастаў уплываць на вынікі баявых дзеянняў.

Як вышэй згадвалася, польская альбо польска-літоўская

---

1 Ibid. S. 185.

армія асноўным чынам мела справу з большым па колькасці праціўнікам, які валодаў вельмі рухлівай конніцай. Галоўным тактычным баявым прыёмам гэтай конніцы з'яўлялася акружэнне ворага. Польскае войска, меншае па колькасці, не такое здольнае да манеўру з-за наяўнасці цяжкай кавалерыі, пяхоты і артылерыі, не так лёгка магло акружыць непрыяцеля. Адказам палякаў на падобны манеўр з боку праціўніка быў глыбокі, трывала забяспечаны з усіх бакоў парадак. Яны свядома дазвалялі сябе акружыць (часам у надзвычай рызыкоўных месцах, прыкладам, пад Оршай польска-літоўскае войска білася, маючы за плячыма Днепр), упэўненыя, што ім удасца разарваць варожыя парадкі адным гвалтоўным і магутным ударам. Пры гэтым пачаў выкарыстоўвацца гусіцкі парадак, г.зн. бой з апорай на ўмацаваны лагер (табар). У ім войска, пераважна пяхота, замыкалася і з-за ўмацаванняў непакоіла атакуючага праціўніка. Калі вораг у выніку ўсё новых, але няўдалых атак губляў сваю моц, адбываўся вырашальны контрудар (бітва пад Абертынам 1531 г.).

Аднак галоўным чынам польская армія вяла баі ў адкрытым полі, з выкарыстаннем традыцыйнага польскага парадку. Ён заключаўся ў фарміраванні двух гуфаў, якія змяшчаліся ў сярэдзіне строю. Гэта былі два шэрагі конніцы, створаныя з харугваў цяжкаўзброеных капійнікаў і гусараў. Першы з іх меў назву перадавога гуфу, а другі — вальнага. Менавіта яны з'яўляліся асноўнай ударнай сілай польскага войска. Акрамя таго, вальны гуф мог выконваць ролю рэзерву, які мог быць кінуты ў бой у самы востры момант. З абодвух бакоў асноўных сіл размяшчаліся меншыя атрады — дапаможныя гуфы. Іх ставілі звычайна глыбей, чым асноўныя сілы, у тры шэрагі. У іх склад уваходзілі стралецкія і гусарскія харугвы. Задачы дапаможных гуфаў былі надзвычай важныя, у асаблівасці пры акружэнні асноўнага войска. У такой сітуацыі яны маглі адысці ўбок і стварыць тым самым фронт для адпору праціўніка. Дапаможныя атрады так-

сама выкарыстоўваліся пры правядзенні ўласна манеўру па акружэнні непрыяцеля, заходу ў тыл праціўніка і ўдару ззаду. Лёгкія дапаможныя гуфы прымяняліся і пры ажыццяўленні ўяўнага адступлення з поля бою, каб заманіць праціўніка ў сеткі асноўных сіл (дарэчы, гэта быў улюбёны прыём татар). Парадак, які ўжываўся польскім і польска-літоўскім войскам, быў даволі гнуткім, дзякуючы прымяненню дапаможных атрадаў на флангах і змешанаму характару польскіх харугваў — у іх знаходзіліся і капійнікі, і лёгкаўзброеныя стральцы з гусарамі. Гэта, у сваю чаргу, дазваляла паасобным харугвам самастойна выконваць разнастайныя задачы. Наяўнасць у падраздзяленнях стральцоў дазваляла чыніць абстрэл праціўніка як перад, так і хаваючыся за асноўнай масай войска. Гэта мела важнае значэнне, бо ў шэрагах ворага адбывалася моцнае замяшанне, што, у сваю чаргу, паслабляла яго ўстойлівасць перад вырашальным ударам.

У першых шэрагах разбудаванага баявога парадку харугваў станавіліся таварышы, а сябры почтаў утваралі наступныя шэрагі. Заўсёды стараліся так расставіць войскі, каб заставалася магчымасць пашырыць і здрабніць харугоўныя парадкі. Дзякуючы такому падыходу ў бой уводзілася большая колькасць коп'яў. Самі харугвы ставіліся ў некалькі ліній у шахматным парадку. Удары на непрыяцеля нагадвалі хвалі. Калі першай лініі жаўнераў не ўдавалася зламаць парадкі праціўніка, яна адыходзіла паміж харугвамі другой лініі, якія з усім імпэтам кідаліся на шэрагі ворага, які не паспяваў аправіцца ад першага сутыкнення. Гэта была тактыка, якая прымянялася татарамі і вельмі нагадвала метады бою вялітаў у старажытным Рыме. Менавіта тут была карыснай дрэсіроўка коней "каля зямлі". Стралецкія харугвы вялі абстрэл цэлымі групамі, бо лучнікі маглі страляць над галовамі ўласных жаўнераў. У выніку ў баі ўдзельнічалі адразу ўсе стральцы. Стралецкія атрады таксама выкарыстоўвалі ў сваіх дзеяннях элементы татарскай тактыкі — напіралі ма-

сай на непрыяцеля, умела пры патрэбе сціскаючы альбо расціскаючы свае шэрагі.

Згодна з тэндэнцыямі найноўшага ваеннага мастацтва і ў польскім войску пяхота пачынала атрымліваць большае значэнне. Як правіла, яе размяшчалі ў першай лініі паміж перадавым і дапаможным гуфам. Ставілі пяхоту і па баках. Яе пазіцыі знаходзіліся крыху па-за першай лініяй і па магчымасці былі замаскіраваныя. Пры размяшчэнні на першай лініі задачай пяхотнікаў з'яўлялася агнявая затрымка атакі непрыяцельскай конніцы. Пры расстаноўцы па баках яна павінна была дзейнічаць супраць акружэння свайго войска[1]. Менавіта такім чынам была выкарыстана пяхота ў бітве пад Оршай.

Як мы памятаем, у пешых ротах існаваў прынцып падзелу на дзясяткі. На пачатку XVI ст. у склад кожнай такой адзінкі ўваходзіла шэсць стральцоў, па два капійнікі і павезнікі. З цягам часу лічба павезнікаў зменшылася. Як бачна, польская пяхота ў асноўным была прадстаўлена стральцамі. У баявым парадку ў першых двух шэрагах станавіліся капійнікі і павезнікі. За імі расстаўляліся стральцы з агнепальнай альбо кідальнай (з арбалетамі) зброяй. Яны вялі агонь наступным чынам: спачатку страляў апошні шэраг, а астатнія ў гэты час стаялі на каленях. Калі адбываўся залп, уставаў перадапошні шэраг, а астатнія рыхтавалі зброю. Так паўтаралася аж да першага шэрагу. Абстрэльвалі праціўніка і над галовамі папярэдніх шэрагаў. На жаль, слабым месцам польскіх пешых рот была іх невысокая манеўранасць на полі бою. Узброеныя цяжкімі тарчамі павезнікі і цяжказбройныя капійнікі былі вельмі непаваротлівыя. З гэтай прычыны першапачаткова пяхота выкарыстоўвалася толькі ў аблогах і абараняльных баях. Яе імкнуліся расставіць такім чынам, каб з максімальнай карысцю выкарыстаць сілу агня (рота ў складзе 200 жаўнераў, у якой стральцоў налічвалася 120 ча-

---

[1] Nowak T. M., Wimmer J. Op.cit. S. 290.

лавек, магла зрабіць на працягу 15 хвілін да 190 выстралаў) і не прыцягваць да раптоўных манеўраў.

Адпаведным чынам на пачатку XVI ст. ставіліся і да артылерыі. Хуткастрэльнасць, дакладнасць трапляння ў цэль (самая цяжкая палявая гармата страляла на адлегласць да 6 кіламетраў, аднак прыцэліцца было магчыма толькі на адлегласць чалавечага зроку — да 800 метраў, больш-менш дакладна — яшчэ менш), агульная эфектыўнасць ранейшых гармат была невялікай. З-за хуткага награвання гарматных ствалоў было немагчыма весці агонь працяглы час. Да таго ж, абслугоўванне гармат было карпатлівай і працаёмкай справай. Неабходна было выканаць мноства дзеянняў перад тым, як "даць агню". У першую чаргу, даставіць гарматы на поле бою, што пры іх цяжары не было такой лёгкай задачай. Затым трэба было падрыхтаваць агнявую пазіцыю, насыпаць шанцы, забяспечыць гарматы перад моцнай аддачай. Паўбяды, калі гармата мела лафет на колах, — яе перасоўванне тады было адносна простым. Горш, калі лафет адсутнічаў і трэба было падрыхтаваць спецыяльную траншэю, з якой і вёўся агонь. На шчасце, у Аршанскай бітве такія гарматы не ўжываліся. Пасля ўстаноўкі гарматы на сваім месцы адбывалася яе наладжванне па наступнай схеме: порах, утрамбоўка, ядро, утрамбоўка, пакля, утрамбоўка, порах для запалу, прыцэльванне і выстрал. Потым — папраўка пазіцыі пасля аддачы, знясільваючая чыстка ствала ад засталага пораху і паклі, новая загрузка пораху і ядра. Праз некалькі залпаў разагрэты ствол аблівалі вадой (было зручна, калі паблізу знаходзіўся які-небудзь вадаём). Імгненная змена агнявой пазіцыі была немагчымая, таму імкнуліся размясціць гарматы ў найбольш бяспечным і карысным месцы. Было важным пазбегчы раптоўнага нападу з боку непрыяцельскіх войскаў і не згубіць усю артылерыю. З гэтай прычыны часта гарматы ставілі там жа, дзе і пяхоту. Гэтыя два роды войскаў, як правіла, мелі набліжаныя задачы, якія заключаліся ў падтрымцы дзеянняў кавалерыі.

Пры малой хуткастрэльнасці неабходна было так паставіць артылерыю, каб ужо самы першы залп прынёс найбольшыя шкоды непрыяцелю. Вельмі важным з'яўляўся псіхалагічны эфект. Пранізлівы гук выстралаў, а таксама дым з агнём, якія выкідваўся з гарматных пашчаў, звычайна стваралі даволі вялікае замяшанне ў шэрагах ворага, асабліва калі ён не валодаў магутнай артылерыяй.

Падводзячы высновы пра польскае ваеннае мастацтва, можна сцвердзіць, што на пачатку XVI ст. яно дасягнула даволі высокага ўзроўню. Яго развіццё пайшло іншым шляхам, чым на Захадзе, хоць грунт перамен, у першую чаргу звязаны з паяўленнем найманага войска, быў тым самым. У Заходняй Еўропе галоўную ролю адыгрывала пяхота. У першай палове XVI ст. найбольш важнымі ў заходнееўрапейскіх арміях сталі пікінеры, пастаўленыя ў чатырохкутныя парадкі. У Польшчы, у сваю чаргу, адзначалася развіццё кавалерыі. Гэта, аднак, была зусім іншая конніца, чым тая, якая атрымала трыумф пад Грунвальдам. Там змагалася паспалітае рушэнне, а ў эпоху Адраджэння конніца займела найманы характар. Як і на Захадзе, ніводзін род войскаў не дзейнічаў самастойна, яны ўзаемадзейнічалі паміж сабой. Агнястрэльная зброя (як ручнога тыпу, так і гарматы) атрымлівала ўсё большае распаўсюджанне і ў Польшчы, і на Захадзе. Сярод польскай пяхоты яна пачала раней адыгрываць ключавую ролю, у сувязі з чым была і лепей ёй забяспечана. Між іншым, гэта вызначыла перамогу польска-літоўскага войска пад Оршай, дзе агонь польскіх пяхотнікаў у значнай ступені прывёў да паспяховага пералому ў бітве.

Польская армія вызначалася ў сваіх дзеяннях перадусім рухам — з дапамогай конніцы, і агнём, з выкарыстаннем пяхоты і артылерыі. Уражвае ацэнтаванне ўвагі на прымяненні ў баі гармат, асабліва калі памятаць, што польскае войска было пераважна кавалерыйскім. Яно расстаўлялася глыбокімі парадкамі, у некалькі ліній. Вялікую ролю пачалі адыгрываць дапаможныя гуфы і рэзервовыя сілы. У гэты

час на Захадзе войска расстаўлялася звычайна ў адну лінію, не вызначаючы атрадаў у якасці рэзерву. Гэтая акалічнасць сведчыла, што польская вайсковая школа адрознівалася значна большай рухомасцю і гнуткасцю ў рэальных варунках на полі бою. У яе прынцыпах было закладзена правядзенне адкрытай бітвы, падчас якой праціўніку наносіўся вырашальны ўдар. Гэта цалкам адрознівалася ад правіл, прынятых на Захадзе, дзе асноўны націск клаўся на аблогі замкаў.

Пры параўнанні з заходнееўрапейскім польскае ваеннае мастацтва нічым не саступала, а нават можна сказаць, што пераўзыходзіла яго. На жаль, звычайна так выглядае ў тэорыі. Не было дастаткова мець добрую найманую конніцу і элітную пяхоту. Самая бліскучая ваенная дактрына не магла шмат даць у змаганні з праціўнікам, калі не было грошай на ўтрыманне войска. У дзяржаўным скарбе звычайна бракавала сродкаў на найм новых падраздзяленняў. Калі ў рэшце рэшт грошы знаходзіліся, праблемы зусім не скончваліся. Найманае войска было дарагім задавальненнем, а шляхта не жадала ўхваляць новыя падаткі на яго ўтрыманне. Падатковых сродкаў звычайна хапала на аплату жаўнераў толькі падчас адной і не самай працяглай кампаніі. Потым у сабранага войска скончваўся тэрмін службы і яно разыходзілася дадому. Часта здаралася, што бракавала сродкаў на аплату войска, якое павінна было служыць у якасці гарнізона ў здабытай крэпасці. У выпадку, калі праціўнік меў яшчэ якія-кольвек сілы, ён мог без цяжкасцей вярнуць страчаныя землі. Нязначныя фінансавыя сродкі моцна адбіваліся на стане артылерыі, асабліва аблогавых гармат. І гаворка ідзе не пра недахоп грошай на іх вытворчасць (сапраўды, артылерыйскі патэнцыял быў даволі значны), а пра кошты перавозкі цяжкіх гармат пад замак, які падвяргаўся аблозе. Арсеналы знаходзіліся ў асноўным у глыбіні краіны, а добрых дарог у тыя часы амаль не існавала. З гэтых прычын транспартныя паслугі былі і дарагія па коштах, і складаныя ў рэалізацыі. Польскае войска было вымушана адмаўляцца

ад аблогавай артылерыі, а гэта, у сваю чаргу, не дазваляла здабываць важныя варожыя крэпасці.

У вывучаемы гістарычны перыяд Польшча не мела вялікіх бітваў з войскамі заходнееўрапейскага тыпу, а гэта значыць, не мела магчымасцей даказаць перавагу сваёй ваеннай дактрыны. Інакш было на ўсходняй мяжы. У баях з татарамі палякі навучыліся выкарыстоўваць, акрамя элементаў, звязаных з рухам, перавагу ўласнага ўзбраення. Калі ўдавалася здзейсніць напад, праціўніка сустракалі масавым агнём з агняпальнай зброі. Такім атакам татары амаль нічога не маглі супрацьпаставіць. Іх паралізоўвалі не столькі крывавыя наступствы прымянення гармат і ручніц, колькі ашаламляльны эфект, якому падвяргаліся коні. Выхаваныя ў стэпах, яны не мелі досведу сутыкненняў з новай зброяй. У войнах з Вялікім княствам Маскоўскім злучалася ў адно цэлае польская тэхнічная перавага і эфектыўныя дзеянні найманых жаўнераў. Маскоўская армія не мела ў сваім складзе наймітаў і яшчэ не была ў поўнай ступені знаёмая з найноўшай агняпальнай зброяй.

# Літоўская армія

*Роды войскаў, камандаванне, узбраенне, тактыка*

Літоўская армія не спазнала ў гэты час такіх кардынальных арганізацыйных змен як яе партнёр па ўніі. Літвіны засталіся верныя правілам збору войска, прынятым у сярэднія вякі. Галоўны элемент узброеных сіл літоўскай дзяржавы складала ў першую чаргу паспалітае рушэнне. Як і ў Польшчы, шляхта была абавязана ў залежнасці ад памераў землеўладанняў выходзіць у войска асабіста ці з почтам на заклік вялікага князя (а таксама караля Польшчы). Колькасць людзей у почтах залежала ад колькасці зямельных "службаў", якія з'яўляліся адзінкай вымярэння норм вайсковай службы для баяр. Пераважвалі харугвы, якія фарміраваліся па тэрытарыяльным прынцыпе і прадстаўлялі асобныя землі, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Існавалі таксама харугвы, якія выстаўлялі заможныя магнаты і некаторыя князі. У літоўскім войску прымянялася таксама вядомая па прыкладу Польшчы "выправа з уладанняў". Пры яе абвяшчэнні землеўладальнікі былі вызвалены ад асабістага выхаду ў войска, але былі абавязаны выставіць за ўласны кошт акрэсленую колькасць жаўнераў. З-за адсутнасці вызначаных крытэрыяў у дачыненні да ўзбраення баярын, які

павінен быў выходзіць на службу, часта імкнуўся зрабіць гэта малым коштам, толькі фармальна выконваючы накладзены на яго абавязак. Гэта адмоўна ўплывала на характар рыштунку войска, скліканага ў рамках "выправы з уладанняў". Увядзенне гетманскага ўраду дазволіла запэўніць прыстойны ўзровень падрыхтоўкі войска. З-за сталай пагрозы татарскіх і маскоўскіх нападаў на землі ВКЛ час ад часу склікалася "абарона зямлі". Пад зброю заклікаліся ўсе мужчыны, здольныя да бою. Як і ў Польшчы, да падобнага збору войска звярталіся зрэдку. Прычына была даволі простая — землеўласнікі баяліся ўзбройваць сялян, якіх яны няшчадна эксплуатавалі пад прыгонным правам у сваіх маёнтках.

Перамены ў вайсковай справе, якія адбываліся ў суседняй Польшчы, не маглі не пакінуць водгаласу ў Літве. Тут таксама разумелі, што сярэднявечныя метады абароны не маюць вялікай будучыні. Гэта стала асабліва відавочна, калі ў ВКЛ пачала развівацца інтэнсіўная сельская гаспадарка і расці вытворчасць збожжа. Баяры ўсё больш цікавіліся справамі на ўласным падворку і ўсё менш выказвалі жаданне гойсаць па ваенных выправах. Адзіным выйсцем з сітуацыі стала найманае войска. Яго фарміраванне таксама сутыкнулася з сур'ёзнымі цяжкасцямі, у асноўным фінансавага кшталту. Баяры не жадалі ні ваяваць самі, ні адпраўляць уласныя почты, ні ўхваляць падаткі на найм прафесійных жаўнераў. Як у Кароне, так і ў Літве скарб цярпеў ад хранічнага недахопу грошай. Аднак пільная патрэба рэарганізацыі сістэмы абароны літоўскіх зямель прадвырашыла ў рэшце рэшт фарміраванне найманых рацкіх харугваў гусарскага ўзору. Выбар менавіта гэтага роду войскаў з'яўляўся надзвычай удалым. На шырокіх паўднёвых і ўсходніх прасторах толькі лёгкая гусарская конніца магла супрацьстаяць пастаянным набегам татар і маскоўцаў. Склад літоўскага войска дапаўнялі татары, якія валодалі зямлёй у ВКЛ і таму былі абавязаны несці вайсковую службу. Іх атрады ідэальна праяўлялі сябе ў сутычках з надзвычай шпаркімі чамбуламі стэпавых

супляменнікаў. Найманая пяхота рэдка выступала ў шэрагах літоўскага войска. Пяхотнікі паяўляліся толькі ў почтах, сабраных і ўзначаленых баярамі, і ў атрадах, якія выстаўляліся гарадамі. У полі першынство мела кавалерыя, прытым не найманая, а выстаўленая шляхцічамі-землеўладальнікамі. Артылерыя таксама не была моцным бокам літоўскага войска. Пераважна выкарыстоўваліся гарматы, якія прывозіліся польскім войскам на супольныя ваенныя выправы.

Калі літоўскае войска складалася толькі з паспалітага рушэння, на яго чале стаяў вялікі князь. Падчас яго адсутнасці ў Літве ў выпадку знешняй небяспекі камандаванне войскам брала на сябе спецыяльна прызначаная асоба. Аднак не заўсёды яна спраўлялася са сваімі абавязкамі. Не раз адбывалася так, што камандзіры асобных харугваў мелі большае ўяўленне пра вайну, чым галоўнакамандуючы. Неўзабаве на літоўскім тэатры ваенных дзеянняў паявіліся найміты. Як і ў Польшчы, у новых абставінах з'явілася патрэба ў сапраўдным военачальніку. У гэты час быў заснаваны ўрад літоўскага гетмана, які часта камандаваў і найманым войскам, і паспалітым рушэннем, і прыватнымі атрадамі асобных князёў (княжат). Даволі часта адбываліся спрэчкі паміж літоўскімі і польскімі гетманамі дапаможных войскаў наконт падзелу паўнамоцтваў. Літоўскія гетманы лічылі, што на ўласнай тэрыторыі ўсе войскі разам з іх камандзірамі павінны знаходзіцца пад іх уладай. На шчасце, у большасці выпадкаў удавалася неяк прымірыць абодва бакі канфлікту. Гетманы дапаможных войскаў папросту прызнавалі верхавенства ўрада літоўскага гетмана і аддавалі яму ініцыятыву ва ўсім, што было звязана з ваеннымі дзеяннямі.

Узбраенне літоўскага войска, у прыватнасці яго засцерагальныя элементы, было не такое якаснае, як у польскіх жаўнераў. Асабліва гэта датычылася паспалітага рушэння. Як і ў сярэднявеччы, баярын выходзіў у войска ў цяжкім узбраенні. Гэта не быў цэласны пласцінавы даспех, занадта дарагі нават для заможных магнатаў. Толькі адзінкі

маглі сабе яго дазволіць. Часцей за ўсё ўжываліся кальчугі, да якіх дадаваліся пласцінавыя элементы. Цяжкаўзброеную конніцу засцерагалі таксама лускаватыя даспехі, вядомыя са старажытных часоў. Гэта былі скураныя альбо тканевыя кафтаны, да якіх прымацоўваліся звонку металічныя лускі. Увесь даспех выглядаў вельмі эфектна, але лускі часта адпадалі, тым самым перастаючы ахоўваць цела жаўнера. Прымяняліся таксама бехцеры, якія ўяўлялі сабою панцыр, складзены з невялікіх прадаўгаватых пласцін і кальчужнага палатна. Такі панцыр вызначаўся высокімі баявымі якасцямі, але вельмі дорага каштаваў. Не менш высокая па коштах, добра сябе паказвала ў баі брыгандына. Гэта быў від кірасы з пласцін, якія накладваліся адна на адну знізу ўгору (так забяспечвалася ахова ад udaраў знізу высока пасаджанага вершніка)і прымацоўваліся да падкладкі са скуры альбо дарагой тканіны, кшталту ядвабу альбо аксаміту. Бачныя зверху галоўкі заклёпак звычайна пакрываліся золатам. Выкарыстоўваліся таксама ламелярныя панцыры, якія, як і лускаватыя, мелі старажытнае паходжанне[1]. Яны рабіліся з металічных пласцін, злучаных вяззю з раменьчыкаў, стужак ці шнуроў. Для аховы галавы цяжкая літоўская конніца ўжывала ў асноўным бацынеты, капаліны і конусныя шлемы, тыповыя для ўсходніх войскаў. Прылбіцы сустракаліся надзвычай рэдка.

Ударнай зброяй цяжкаўзброенай конніцы з'яўляліся коп'і, якія былі лягчэйшыя за тыя, што ўжывалі польскія капійнікі. Коп'і часта замяняліся суліцамі (дзідамі). У рукапашным баі ўжываліся мячы, але ўсё больш папулярнымі станавіліся шаблі (у адрозненні ад польскіх капійнічых падраздзяленнях, дзе надалей паважаўся толькі меч). Здараліся і выпадкі выкарыстання сякучай зброі, такой як кінжалы і корды.

Почты былі ўзброены больш сціпла і лягчэй. У якасці аховы тулава пераважна выкарыстоўваліся г.зв. сцёганкі. Гэта

---

1 Słownik... S. 121, 139.

быў тканевы панцыр тыпу кафтана, пашытага з некалькіх слаёў тканін. Ён даваў выдатную ахову перад рэжучымі ўдарамі, але не лепшым чынам праяўляў сябе пры моцных колючых ударах. Часам у шэрагах літоўскіх стралецкіх атрадаў сустракаліся кальчугі. Галовы ахоўваліся часцей за ўсё кальчужнымі каптурамі. Ужываліся таксама бацынеты і шаломы з барміцай. Апошні элемент засцерагальнага ўзбраення складаўся з пляскатага звону, які называўся донкай і засланяў вярхушку галавы. Да донкі быў прышчэплены доўгі кальчужны чапец, які ахоўваў бакавіны твару і частку шыі ваяра. У якасці стралецкай зброі служыў лук усходняга тыпу. Гэта была выдатная зброя. Складовы (кампазітны) лук (сустракаліся і такія яго назвы) быў вынайдзены ў старажытнасці. Аснова лука стваралася ў выніку карпатлівага склейвання і прасавання слаёў дрэва, рога і сухажылляў. Яму надавалі форму паўмесяца. Усталяванне цецівы патрабавала сгінання асновы лука ў супрацьлеглы бок – куды былі скіраваны яе канцы[1]. Для нацягвання цецівы патрэбная была немалая сіла, але дзякуючы гэтаму ўзрастала дальнасць і прабіўны эфект выстралу. З-за спецыфічнай формы ўсходні лук не павінен быў быць вялікім па памерах і нават перавышаў па эфектыўнасці раўнінны (валійскі) лук. Таму ён ідэальна падыходзіў для стральбы з каня. Стральцы ўдзельнічалі і ў рукапашных баях, дзе звычайна выкарыстоўваліся шаблі. Папулярнымі былі таксама цесакі — сякучая зброя, блізкая да мяча і шаблі, аднак з больш кароткім клінком. Клінок быў аднасечны і злёгку закрыўлены, як у шаблях. Дзяржанне ж было падобным да таго, які меўся ў мяча.

Невялікая па колькасці пяхота была ўзброена вельмі разнастайна. Як правіла, яна не выкарыстоўвала спецыяльнага засцерагальнага ўзбраення і насіла сцёганыя кафтаны альбо скураныя панцыры. Кальчуга ў шэрагах пяхотнікаў была

---

[1] Słownik..., s. 75.

сапраўднай раскошай. Ужываліся і тарчы. На галовах часцей за ўсё сустракаліся бацынеты альбо кальчужныя каптуры, але нярэдка здаралася, што пяхотнік уступаў у бой з адкрытай галавой. У баі звычайна выкарыстоўваліся дзіды, пікі, баявыя сякеры і бердышы. Апошнія былі падобныя на сякеры, але насаджваліся на доўгія дрэўкі. Іх шырокае, паўмесячнае лязо ў спалучэнні з магутнай сілай замаху, якую стварала доўгая аснова, з лёгкасцю разбівала даспехі цяжкіх коннікаў. У нешматлікіх найманых ротах і прыватных почтах сустракалася і агняпальная зброя, падобная да той, якая ўжывалася ў польскім войску.

Літоўскае войска было лягчэй узброена ў параўнанні з польскім. Гаворка ідзе не толькі пра ўзбраенне, але і пра коней у літоўскай кавалерыі. Літоўскія атрады з гэтай прычыны былі больш манеўраныя на полі бою. Часта ў бітвах, якія вяліся супольна з польскай арміяй, менавіта літвіны ўваходзілі ў склад дапаможных гуфаў, у якіх вядучую ролю гралі хуткасць і манеўранасць. Часам почты падзяляліся. Конных стральцоў перакідвалі ў стралецкія харугвы, а цяжкія коннікі ўваходзілі ў склад капійнічых харугваў. Аднак з-за лягчэйшага ўзбраення і нежадання літвінаў выступаць пад польскімі сцягамі яны з'яўляліся асобнымі адзінкамі пад непасрэдным кіраўніцтвам літоўскага гетмана. Літоўская армія вызначалася ваяўнічасцю і мужнасцю на полі бою. Шматвяковыя сутыкненні з татарамі і маскоўцамі сфарміравалі адпаведныя ўменні ў змаганні з ворагамі з Усходу. Варта, аднак, памятаць, што ў сваёй большасці гэта былі падраздзяленні, сабраныя ў паспалітым рушэнні. У іх непрыхільна ставіліся да працяглых ваенных кампаній, якія адрывалі рыцараў ад спраў, звязаных з атрыманнем прыбыткаў з землеўладанняў. У баявой гатоўнасці заставаліся нешматлікія прыватныя атрады заможнай шляхты і князёў. Яны маглі сабе дазволіць утрыманне вайскоўцаў з адпаведным рыштункам, якія прызначаліся для абароны ад знішчальных татарскіх набегаў і нападаў суседзяў з ліку магнатаў і шляхты.

## Маскоўская армія

*Роды войскаў, камандаванне, узбраенне, тактыка*

Войска Вялікага княства Маскоўскага ў яшчэ большай ступені, чым войска літоўскага саперніка, абапіралася на сярэднявечнае паспалітае рушэнне. На заклік вялікага князя ў першую чаргу павінны былі ставіцца са сваімі почтамі, пераважна коннымі, баяры. Гэта быў іх абавязак, абумоўлены наяўнасцю зямельнай маёмасці. Другую групу абавязаных да ўдзелу ў ваенных выправах складалі службовыя дваране, якія называліся таксама дзецьмі баярскімі. Яны знаходзіліся на службе ў князёў і баяр і не заўсёды маглі пахваліцца шляхетным паходжаннем. З-за слабеючай з кожным годам вайсковай дысцыпліны сярод падраздзяленняў, якія выстаўляліся баярамі, дваране пачалі адыгрываць вядучую ролю ў структуры абароны краіны. За сваю вайсковую службу яны атрымлівалі зямельныя маёнткі, якімі маглі карыстацца толькі пажыццёва. Потым землі вярталіся вялікаму князю. Часта, аднак, здаралася і так, што сыны памерлых дваран атрымлівалі гэтыя землеўладанні назад на такіх жа варунках, як і іх бацькі. Жадаючы затрымаць у сваіх руках землі, службовыя дваране стараліся скрупулёзна выконваць абавязкі па абароне дзяржавы. Конніцу паспалітага рушэння дапаўнялі

атрады татар, якія паступілі на службу да вялікага князя і атрымалі землеўладанні, а таксама казакі, якія мелі зямлю на памежжы краіны. У склад маскоўскага войска ўваходзілі гарадскія палкі. Да іх выстаўлення былі абавязаныя ўсе гарады і мястэчкі. Гэта былі ў асноўным фарміраванні пяхоты. Толькі камандзір меў каня, і то не заўсёды. Найбольшым і найлепш узброеным падраздзяленнем сярод гарадскіх палкоў з'яўляўся, як можна меркаваць, сталічны (маскоўскі) полк. Існавала яшчэ адно вайсковае згрупаванне — г.зв. пасошнае войска. Яго выстаўлялі сяляне паводле вызначанай колькасці "сох" (адна "саха" аб'ядноўвала ў мэтах падатковых збораў 12 чалавек). Пасошныя атрады складаліся выключна з пяхоты, дапаможных адзінак і тых, хто абслугоўваў вайсковы лагер. З іх набіраліся інжынерныя групы, якія займаліся будаўніцтвам мастоў, равоў, частаколаў, пазіцый для гармат, рамонтам дарог. На пачатку XVI ст. рускія мелі шматлікую, але надзвычай разнастайную па сваіх якасцях артылерыю. Здаралася, што на выправы збіралі па 100 і больш гармат, дзякуючы чаму можна было паспяхова штурмаваць гарады і крэпасці. Усе вайскоўцы ўзбройваліся за ўласны кошт. Правіянт, фураж для коней і неабходныя запасы амуніцыі таксама забяспечваліся імі. Увесь рыштунак і запасы харчавання перавозіліся на вазах, конях, а часам і на ўласных плячах. З арміяй спадарожнічалі велізарныя абозы, якія моцна стрымлівалі яе рух.

Усімі ўзброенымі сіламі камандаваў вялікі князь. Падчас бою ён прысутнічаў на полі і сачыў за дзеяннямі войска. Аднак не заўсёды гэта было магчыма, хаця б з увагі на вялікія абшары, на якіх дзейнічалі маскоўскія войскі. Пры адсутнасці вялікага князя камандаванне даручалася спецыяльна прызначаным асобам, звычайна ваяводам. Яны мелі для дапамогі некалькі ваявод больш нізкага рангу. Маскоўскія военачальнікі вызначаліся вялікай адвагай у бітвах, якая не заўсёды ішла ўпоравень з ваеннымі ўменнямі і здольнасцямі. Яны часта рабіліся ахвярай уласнай самаўпэўненасці

і пыхі. Аднак пастаянныя сутычкі з татарамі і войны з Літвой дапамагалі маскоўскім ваяводам, асабліва ніжэйшага статусу, атрымліваць патрэбны ваенны досвед.

Узбраенне маскоўскай конніцы было вельмі разнастайным і залежала ад ступені заможнасці баярына. Пласцінавыя даспехі ў шэрагах цяжкай кавалерыі сустракаліся надзвычай рэдка. Гэта былі даспехі не заходняга, а ўсходняга тыпу, а менавіта г.зв. зярцальныя даспехі (ад рус. *зерцало*). Яны таксама мелі назву "чатыры зярцалы" і насіліся на сцёганым кафтане альбо кальчузе. Зярцальныя даспехі ў турэцка-пярсідскім стылі складаліся з чатырох простакутных пласцін, якія засцерагалі грудзь, плечы і бакавіны. Яны навешваліся на плечы і злучаліся між сабой з дапамогай раменьчыкаў і засцёжак. Паліраваная паверхня рабіла іх падобнымі да люстэрак, адсюль і паходзіла назва. Рускія даспехі мелі кольчатую нагрудную пласціну, якую дапаўнялі шэраг чатырохбаковых і трохкутных пласцінак, злучаных кольчатай пляцёнкай. Гэтая некамплектная ахова не дазваляла засцерагчы ніз тулава, часткі кальчугі альбо сцёганкі. У якасці цікавага факту дадамо, што ў Персіі ў XVI–XVII стст. зярцальныя даспехі былі даведзены да дасканаласці праз стварэнне кірасы, якая поўнасцю засцерагала тулава. Яна складалася не з чатырох, а з пяці частак, злучаных завесамі (нагруднік утваралі дзве пласціны, якія замыкаліся спераду з дапамогай стрыжня, перасоўваемага гэтымі завесамі). Наплечнік знаходзіўся вышэй нагрудніка. Зярцальныя даспехі для рускага жаўнера каштавалі вельмі дарага, таму дазволіць сабе іх магло няшмат вайскоўцаў. Заможныя баяры таксама карысталіся брыгандынамі, бехцерамі, лускавымі і лямелярнымі панцырамі. Гэтыя элементы засцерагальнага ўзбраення таксама каштавалі дорага і зрэдку сустракаліся на полі бою. Хутчэй яны служылі баярам як прадстаўнічае ўзбраенне. Найбольш распаўсюджаным засцерагальным узбраеннем маскоўскай цяжкай конніцы з'яўляліся, без сумневу, кальчугі рознага роду і панцыры

з зацвярдзелай скуры (мангольскага паходжання). Заможнейшыя маглі сабе дазволіць байдану — кароткую кальчугу з шырокімі кольцамі. Бывала, што кольцы на канцах байданы выраблялiся з пазалочанай медзі, а нагрудныя элементы ўпрыгожваліся меднымі медальёнамі. Байдану апраналі паверх звычайнай кальчугі, падвойваючы тым самым ступень аховы тулава. Даволі папулярнымі былі таксама тарчы. Звычайна выкарыстоўваліся калканы — тарчы са сплеценых раслінных прутоў, прыкладам, з лазы альбо фігавага дрэва (мелі татарска-турэцкае паходжанне). На галовах насіліся бацынеты, конусныя шлемы, капаліны, місюркі альбо кальчужныя каптуры.

Ударная зброя часцей за ўсё была прадстаўлена суліцамі, рагацінамі (род дзіды), часам лёгкімі коп'ямі. Маскоўская конніца пераважна мела стралецкі характар. Шырока ўжываўся лук усходняга тыпу. У рукапашным баі прымяняліся шаблі і цесакі, зрэдку ў рыштунку паяўляліся мячы.

Пяхота, хоць і даволі шматлікая, не валодала адмысловым узбраеннем. Для засцярогі яны ў асноўным выкарыстоўвалі сцёганыя кафтаны, а вярхом раскошы лічыліся кальчугі альбо пласціны даспехаў, нават у фрагментарным выглядзе. Часта сустракаліся драўляныя тарчы, але былі вядомыя і металічныя. У якасці ўдарнай зброі ўжываліся арбалеты і лукі, а дзе-нідзе можна было ўбачыць агняпальную зброю, гакаўніцы і ручніцы. Для блізкага бою служылі цесакі, шаблі, сякеры, бердышы і мячы.

Для маршу і бою маскоўская армія станавілася ў вялікія па колькасці людзей палкі: вартавы, вялікі, правай і левай рукі. Апошні часцей за ўсё служыў рэзервам. Пры атацы конніцы не выкарыстоўваўся нейкі асаблівы баявы парадак. У той жа час імкнуліся захаваць шчыльнасць шэрагаў (уплываў досвед сутычак з татарамі) і атакаваць усёй масай. Пяхота не адыгрывала на полі бою адчувальнай ролі. Яна выкарыстоўвалася перадусім пры аблогах і для абароны вайсковага лагера. Маскоўскае войска змагалася з вялікім запа-

лам. Асабліва грозным яно было падчас імклівай атакі, але гэтак жа хутка магло трапіць у паніку. Як і любое паспалітае рушэнне, яно было ўзброена вельмі неаднародна і, нягледзячы на досвед шматлікіх сутыкненняў з татарамі і літвінамі, слаба падрыхтаванае для калектыўных дзеянняў. Узровень дысцыпліны таксама выглядаў не найлепшым чынам. Было, аднак, штосьці, што рабіла з рускага войска надзвычай небяспечнага праціўніка: нязвыклая вынослівасць жаўнера, які не баяўся ні голаду, ні кепскага надвор'я, ні прымітыўных варункаў жыцця. Гэтая рыса потым была характэрнай для армій Расійскай імперыі і СССР. У гэтым маглі пераканацца тыя, хто спрабаваў авалодаць вялізнымі абшарамі гэтай краіны, у прыватнасці Напалеон Банапарт і Адольф Гітлер.

Агулам кажучы, войска вялікага князя Васіля III можна параўнаць па баяздольнасці з паспалітым рушэннем Літвы і Польшчы. Затое атрады польскіх наймітаў значна перавышалі яго па ўзроўні ваеннага майстэрства.

## Аршанская перамога

Пасля абвяшчэння вайны маскоўскім бокам у лістападзе 1512 г. ваенныя дзеянні распачаліся не адразу. Хутка набліжалася зіма, а ў гэтую пару года яны звычайна не вяліся. Маскоўская армія, папраўдзе кажучы, была загартаваная да вядзення вайны ў неспрыяльных варунках. Аднак трэба памятаць, што галоўнай ударнай сілай з'яўлялася конніца, а ўзімку надзвычай складана было ўтрымліваць коней у належнай форме. Толькі калі паявіліся першыя прагаліны, маскоўскае войска на чале з вялікім князем падышло пад Смаленск і акружыла горад. Нягледзячы на сур'ёзную падрыхтоўку да кампаніі, здабыць добра падрыхтаваную да аблогі крэпасць яму не ўдалося. Аблога працягвалася амаль два месяцы. У рэшце рэшт маскоўскае войска было вымушана адступіць і прызнаць сваю няўдачу. Небяспеку з рускага боку не ўдалося спыніць надоўга. Смаленск быў важным гаспадарчым цэнтрам, аднак у першую чаргу з'яўляўся ключом для авалодання астатнімі рускімі землямі, якія Масква хацела вырваць з-пад літоўскага панавання. Ужо ў жніўні адбыўся чарговы ўдар маскоўскага войска па Смаленску. На гэты раз, аднак, было вырашана ўдарыць таксама па Полацку і Віцебску, якія ляжалі далей на паўночны захад ад Смаленска. Менавіта тады першы раз у гэтай вай-

не на полі бою паявіліся польскія найманыя атрады. З іх дапамогай літвінам удалося адкінуць маскоўцаў ад Віцебска, а затым ад Полацка. Адбылася чарговая, ужо другая па ліку, бітва пад Оршай. Рускія атрымалі ў ёй паразу і былі вымушаны адступіць ад Смаленска і з усяго абшару Смаленскай зямлі. Вялікі маскоўскі князь быў гатовы падпісаць новае мірнае пагадненне.

Аднак Васіль III змяніў свае намеры, калі да яго прыбыло пасольства ад германскага імператара Максіміляна I. Той прапанаваў разам напасці на польска-літоўскую дзяржаву. На пачатку 1514 г. манархія Габсбургаў і Маскоўскае княства падпісалі дамову аб заключэнні саюза. У ёй упершыню быў згаданы тытул цара і князя ўсёй Русі Васіля III. Паводле гэтай дамовы Масква павінна была атрымаць фінансавую дапамогу для авалодання "непакорным" Смаленскам, а таксама Кіевам, Віцебскам і Полацкам. Распачатыя мірныя перамовы з Польшчай і Літвой былі спынены. Польска-літоўскі бок, бачачы гэтыя змены, таксама распачаў неабходныя прыгатаванні да вялікай ваеннай кампаніі. Ужо ў лютым 1514 г., паралельна з маскоўска-габсбургскімі перамовамі, сойм Вялікага княства Літоўскага, які засядаў у Вільні, ухваліў збор спецыяльных падаткаў на абарончыя мэты. За пэўную частку атрыманых грошай літвіны вырашылі завербаваць у Польшчы сур'ёзны кантынгент наймітаў. Іх колькасць склала 8 тысяч чалавек, на чале гэтага войска стаў трэмбавельскі староста Януш Свярчоўскі. Да аблогі рыхтаваліся ўсе найбольш значныя гарады на чале са Смаленскам. Абаронай апошняга камандаваў мясцовы ваявода Юрый Салагуб, які вырашыў змагацца да апошняй кроплі крыві. Месцам першапачатковага збору польскага і літоўскага войска быў абраны Менск, які знаходзіўся на смаленскай дарозе. Польска-літоўскі бок рыхтаваў да вайны не толькі ўзброеныя сілы. Дыпламаты таксама імкнуліся стварыць спрыяльныя варункі для адпору націску, які немінуча набліжаўся з Усходу. На дапамогу былі пакліканы

крымскія татары, чые дзеянні маглі б адвярнуць пэўную частку ўвагі маскоўцаў ад спраў на памежжы з ВКЛ. На жаль, яны былі затрыманыя дзеяннямі нагайскіх татар, саюзнікаў Масквы, якія напалі на землі Крымскага ханства з усходняга боку і паспяхова паралізавалі партнёраў Польшчы і Літвы, гатовых ужо выступіць на маскоўскія землі.

Прыкладна ў сярэдзіне красавіка 1514 г. на Смаленск вырушыла маскоўская армія, якой камандаваў вядомы нам Міхаіл Глінскі. Ён першым прыступіў да аблогавых мерапрыемстваў. Аднак яго сілы былі заслабыя, каб здабываць Смаленск. На дапамогу паспяшалася асноўнае маскоўскае войска на чале з князем Шчэняй Абаленскім. Маючы перад сабою вялізную перавагу ворага, Смаленск меў невялікія шанцы абараніцца і дачакацца падтрымкі. Нягледзячы на гэта, горад два месяцы паспяхова адбіваў атакі рускіх. Сітуацыя змянілася ў горшы бок у канцы чэрвеня, калі пад Смаленск прыбыло трэцяе войска на чале з Васілём III. Чаканні дапамогі з Польшчы і Літвы па-ранейшаму не апраўдваліся. Збор войска пад Менскам ішоў вельмі павольна, у прыватнасці з-за недахопу фінансавых сродкаў і праблем з літоўскім паспалітым рушэннем. Калі падрыхтоўчыя мерапрыемствы ўжо павінны былі быць завершаныя, нечакана, як маланка, грымнула вестка, што слаўны Смаленск скарыўся ворагу. Кіраўнік абароны Юрый Салагуб не ведаў, што дапамога хутка з'явіцца, і цалкам згубіў надзею ў мэтазгоднасць далейшага супрацiву. 31 ліпеня 1514 г. у горад увайшлі войскі Васіля III. Нягледзячы на добрую падрыхтоўку да працяглай аблогі, поўную забяспечанасць правіянтам і амуніцыяй, упэўніванні Салагуба ў змаганні да самага канца не спраўдзіліся. Адзінай слабой кропкай мог аказацца змучаны цяжкімі баямі гарнізон, але і ён у сваёй большасці выказваў жаданне змагацца. Дзеянні Салагуба палічылі здрадай, яго аддалі пад суд і пакаралі смерцю. Смаленск стаў толькі пачаткам. Пасля яго на міласць ворагу здаліся Мсціслаў, Крычаў і Дуброўна.

Захоп Смаленска адкрыў перад маскоўскім войскам шлях у глыб рускіх зямель, якімі валодала Літва. Аднак наступ Васіля III на гэтым быў прыпынены. Маскоўскі князь быў задаволены захопам даўно жаданага Смаленска і вырашыў зрабіць паўзу ў дзеяннях. Нібы па інерцыі, ён выслаў у напрамку Бярэзіны некалькі атрадаў, сам жа з асноўнымі сіламі паволі вырушыў пад Оршу. Здзіўляе, што ён не прадпрыняў далейшых рашучых крокаў, тым больш што польска-літоўская армія яшчэ не паявілася на полі бою. Маскоўскі валадар меў значныя магчымасці для свабоднага манеўру. Васіль III не выкарыстаў гэтай спрыяльнай акалічнасці, больш таго, сваімі недальнабачнымі дзеяннямі пазбавіў войска здольнага военачальніка — Міхаіла Глінскага. Насуперак ранейшым абяцанням кіраванне Смаленскам вялікі князь аддаў не Глінскаму, а братам Шуйскім. Такой знявагі Глінскі не мог прабачыць. Жадаючы адпомсціць, ён вырашыў перайсці на бок польскага караля. Яму нават удалося дабіцца даравання ў Жыгімонта I. Аднак яго салодкім марам аб помсце не было наканавана збыцца. У момант падрыхтоўкі да ўцёкаў з маскоўскага лагера Міхаіл Глінскі быў нечакана арыштаваны і кінуты ў вязніцу ў Маскве.

У жніўні 1514 г. польска-літоўскаму войску нарэшце ўдалося скончыць камплектаванне сваіх сіл і вырушыць з-пад Менска ў Барысаў. Яно налічвала каля 30 тысяч жаўнераў, у іх ліку 15 тысяч літоўскай конніцы, 5 тысяч польскай найманай конніцы, больш за 3 тысячы добраахвотнікаў і жаўнераў надворнай харугвы, 3 тысячы польскай найманай пяхоты. Таксама мелася салідная колькасць гармат[1]. Літвінамі камандаваў кіеўскі ваявода Юрый Радзівіл (па мянушцы "Геркулес"), палякамі — трэмбавельскі староста Януш Свярчоўскі. Над усімі сіламі стаяў вялікі літоўскі гетман Канстанцін Астрожскі. Пад Барысавам разам з невя-

[1] Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi / Wyd. M. Malinowski. T. II. Warszawa, 1846.

лікай часткай войска застаўся кароль Жыгімонт І, а рэшта 27 жніўня пераправілася праз Бярэзіну. Там адбылася першая сустрэча з маскоўскімі жаўнерамі. Сутычка завяршылася перамогай польска-літоўскага боку. З гэтага часу войска Астрожскага ішло з забеспячэннем аховы, якую ажыццяўлялі авангард і невялікія патрульныя атрады, якія рассылаліся ў розныя бакі. Такі падыход дазваляў жаўнерам спакойна рухацца наперад, не баючыся раптоўных удараў з боку праціўніка. Ужо на наступны дзень адбылося новае сутыкненне, і зноў пераможцамі сталі польска-літоўскія жаўнеры. 1 верасня войска дасягнула ракі Друць.

Падчас набліжэння польска-літоўскай арміі да Оршы сілы рускіх былі раскіданыя па розных месцах. Частка маскоўскага войска знаходзілася ў лагеры пад Оршай. Іншая значная групоўка ішла ў напрамку Барысава і Менска. Урэшце, трэцяя частка набліжалася да Друцка. Упэўнены рух ягелонскіх войскаў на Оршу прымусіў рускіх правесці адпаведную перадыслакацыю ўсіх сваіх даступных сіл. У выніку маскоўская армія налічвала перад вырашальным сутыкненнем каля 45–50 тысяч вайскоўцаў[1]. Па загаду Васіля III у Смаленску і навакольных крэпасцях былі пакінуты моцныя гарнізоны. Для бою з польска-літоўскім войскам была выстаўлена выключна конніца. Маскоўцы не разумелі важнасці на полі бітвы добра ўзброенай і забяспечанай пяхоты. За гэтую памылку рускім неўзабаве прыйшлося дорага заплаціць. Галоўнакамандуючым замест Васіля III, які застаўся ў Смаленску, быў прызначаны вялікакняскі канюшы (гэта, насуперак стэрэатыпам, была вельмі ганаровая і прэстыжная пасада) князь Іван Чэляднін. Менавіта ён пастанавіў вярнуцца пад Оршу, каб знішчыць там войска Астрожскага. Чэляднін у камандаванні войскам дапамагалі князь Міхаіл Голіца і ваяводы Дзмітрый Булгакаў, Грыгорый Давідаў і Іван Растоўскі. Рускія занялі пазіцыю ў выгібе Дняпра, на паўночным ус-

---

[1] Razin E. Historia sztuki wojennej. T. II. Warszawa, 1960. S. 295–302.

ходзе ад Оршы, дзе рака, кіруючыся на паўднёвы захад, рэзка паварочвае на поўдзень. Орша была абрана месцам бітвы зусім невыпадкова. У тыя часы яна з'яўлялася вельмі важным транспартным вузлом. Цераз Оршу ішлі шляхі, якія вялі праз Менск ў Вільню, праз Смаленск у Маскву, праз Магілёў у Кіеў. Зямля над берагамі Дняпра была насычана разнастайнымі ярамі, цяснінамі, ручаямі. Навокал раслі гаі і хмызняк. Гэтая прастора не надавалася для дзейнняў грамадных тлумаў кавалерыі, аднак спрыяла выкарыстанню малых атрадаў разам з пяхотай і артылерыяй, якія было лёгка схаваць. На Дняпры пад Оршай меліся шматлікія броды, парослыя хмызам, слаба бачныя берагі дазвалялі будаваць пераправы без боязі іх заўчаснага выкрыцця праціўнікам.

7 верасня войска Канстанціна Астрожскага дасягнула берагоў Дняпра. Гэтае месца было добра вядомае гетману, тут ён ужо двойчы сутыкаўся з рускімі — у 1508 і 1513 гг., і кожны раз выходзіў пераможцам. Цяпер лёс даваў яму трэці шанец атрымаць рэванш за сакрушальную паразу на Ведрашы ў 1500 г. Зарыентаваўшыся ў размяшчэнні войскаў праціўніка, якія стаялі на іншым беразе ракі на краі высокага схілу, на поўнач ад дарогі з Оршы да Дуброўны, гетман вырашыў не перапраўляцца праз Днепр непасрэдна на вачах у Чэлядніна. Ён трапіў бы пад знішчальны абстрэл рускіх лучнікаў, якім удалося б нанесці значныя шкоды польска-літоўскім шэрагам. Астрожскі прадпрыняў толькі дэманстрацыйныя дзеянні дзеля засяроджвання ўвагі маскоўскага войска менавіта на гэтым месцы. Сам жа ён з асноўнымі сіламі перамясціўся ўверх па рацэ, у ваколіцы сяла Пашына[1]. Там уначы з 7 на 8 верасня была ажыццёўлена пераправа праз Днепр. Былі выкарыстаны напоўніцу інжынерныя дасягненні польскіх майстроў. Жывецкі мяшчанін Ян Башта склаў праект моста на плаваючых бочках. Гэтая задума аказалася вельмі ўдалай. Такі мост быў простым у будаў-

---

[1] Podhorodecki L. Sławne bitwy Polaków. Warszawa, 1997. S. 105.

ніцтве і зручны пры транспартаванні (пустыя бочкі не перавозіліся, а выкарыстоўваліся апарожненыя пасля піва, віна і пітной вады). Ён не патрабаваў спецыяльных прыстасаванняў, як масты на чоўнах ці плытах. Пад Оршай палякі і літвіны збудавалі два масты на бочках. Будаўнічыя работы забяспечваў аховай атрад стралецкай конніцы, які раней перайшоў бродам на іншы бераг ракі. Масты служылі ў першую чаргу для перакідвання пяхоты і артылерыі, конніца пераходзіла Днепр на бродах самастойна.

Каля дзявятай гадзіны ранкам уся польска-літоўская армія апынулася на ўсходнім беразе. Канстанцін Астрожскі распачаў расстаўленне баявых парадкаў. Наперадзе на левым баку стаў літоўскі гуф з Астрожскім у якасці камандуючага. Побач з ім праваруч заняў месца перадавы польскі гуф на чале з надворным гетманам Войцехам Сампалінськім. У праломе паміж перадавымі гуфамі была размешчана частка пяхоты. За гэтай першай лініяй сталі вальныя гуфы: з левага боку — літоўскі пад камандаваннем Юрыя Радзівіла, з правага — польскі на чале з Янушам Свярчоўскім. На левым флангу свае пазіцыі займалі тры дапаможныя гуфы лёгкай літоўскай конніцы, прадстаўленыя ў асноўным гусарамі. Правы фланг утваралі тры дапаможныя падраздзяленні польскай лёгкай конніцы. Тут таксама мелі перавагу гусары. Рэшта пяхоты і амаль усе гарматы былі размешчаны яшчэ далей ад польскіх дапаможных гуфаў з правага боку. Гэта была вельмі зручная пазіцыя, таму што жаўнераў і гарматы засланяў хмызняк. Як аказалася пазней, такая заслона была надзвычай удалай — рускія зусім не здагадваліся аб існаванні гэтай польскай групоўкі.

Нягледзячы на папярэднія дэманстрацыйныя дзеянні польска-літоўскага войска, Чэляднін зразумеў, што праціўнік збіраецца пераправіцца праз Днепр у іншым месцы. Ён, аднак, не выкарыстаў спрыяльных абставін, каб ударыць па Астрожскім падчас пераправы альбо адразу пасля яе, пакуль палякі і літвіны не расставіліся ў баявыя парадкі. Іншыя


Бітва пад Оршай. Першая фаза
С1 - Сампаліньскі
С2 - Свярчоўскі
Р - Радзівіл
А - Астрожскі
ПР - Полк правай рукі
ЛР - Полк левай рукі
В - Вялікі полк
З - Засадны (тылавы) полк
Артылерыя
Конніца
Пяхота
да Віцебска
ПАШЫНА
С1
Р
А
С2
ПР
ПУГАЙЛАВА
Днепр
В
ОРША
РУКЛІНА
ЛР
З
да Дуброўны

военачальнікі, якія былі разам з Чэлядніным, упрошвалі яго разбіць праціўніка на беразе і выціснуць яго ў раку. Чэлядній на гэта адказаў: "Калі возьмем бой з той часткай войска, з якой потым злучацца іншыя атрады, нам будзе пагражаць яшчэ большая небяспека. Пачакаем, пакуль сюды пяройдзе ўсё войска. Мы валодаем дастаткова вялікімі сіламі і без цяжкасцей зможам яго перамагчы — акружыць і пагнаць да Масквы як быдла. А пасля перамогі зоймем усю Літву"[1]. Гэтыя разважанні рускага военачальніка выклікаюць здзіўленне. Ён зрабіў фатальную памылку, наступствы якой яшчэ доўга сказваліся. Чэляднін лічыў, што ў польска-літоўскага войска няма аніякіх шанцаў на перамогу, бо маскоўцы мелі значную колькасную перавагу. Яму здавалася, што армію Астрожскага чакае параза на пагоркавай мясцовасці, дзе складана праводзіць раптоўныя кавалерыйскія атакі, з шырокай ракой за плячыма. Галоўнакамандуючы рускага войска ўвогуле не ўлічваў магчымасці ўласнай паразы і, упэўнены ў трыумфе, не прыняў мер па вывучэнні поля бітвы і парадкаў польска-літоўскага войска. Гэта была другая сур'ёзная памылка з боку вялікакняскага канюшага.

Князь Чэляднін расставіў сваё войска традыцыйным спосабам. На першай лініі знаходзіўся вартавы полк. Ён не быў значным па колькасці, але расцягнуўся амаль на пяць кіламетраў. Далей, на правым баку, у ваколіцах сяла Пугайлава стаў полк правай рукі, а на левым баку, перад сялом Рукліна, размясціўся полк левай рукі. Паміж імі знаходзіўся вялікі полк, а за ім стаў полк тыльнай старожы, які яшчэ называўся засадным. Там жа размясцілася стаўка камандуючага Івана Чэлядніна. Яго план бітвы выглядаў davoлі проста. Ён хацеў акружыць ягелонскія войскі, а затым мэтанакіравана спіхнуць іх у Днепр. Каб ажыццявіць акружэнне, Чэляднін моцна расцягнуў свае сілы ў полі. З гэтым ён

---

[1] Герберштейн С. Записки о московских делах / Изд. А. Малеин. СПб, 1908. С. 18.

пасляшаўся, таму што флангі яго войска занадта аддаліліся ад сябе, а гэта пагражала разрывам маскоўскіх парадкаў шчыльнымі польскімі і літоўскімі гуфамі.

Калі абедзве арміі ўжо былі гатовыя да бітвы, на полі паявіліся два вершнікі. Гэты звычай меў свае карані ў глыбокай старажытнасці. Перад пачаткам бітвы некалькі ўзброеных волатаў выклікалі з шэрагаў праціўніка самых адважных ваяроў на своеасаблівы турнірны паядынак. Пераможца забіраў сабе зброю і каня саперніка. Часам таксама здаралася, што вынік двубою вырашаў лёс усёй бітвы. У эпоху Адраджэння гэта былі ўжо не паядынкі асобных рыцараў, а сутычкі невялікіх атрадаў, якія тым самым нібы знаёміліся з праціўнікам. Вельмі важнай справай быў захоп г.зв. “языка” — палоннага, які мог распавесці пра планы варожага боку. Вынік двубою ўжо не ўплываў на тое, адбудзецца бітва ці не. Пад Оршай падобныя паядынкі цягнуліся прыблізна да поўдня. Пасля першымі да атакі прыступілі рускія. Чэляднін кінуў наперад полк правай рукі з мэтай удару па літоўскіх дапаможных атрадах, якія, нагадаем, стаялі на левым флангу. Пасля іх разбіцця з гэтага боку павінна было адбыцца акружэнне ўсёй польска-літоўскай арміі. Літоўскія лёгкаўзброеныя харугвы не вытрымалі ўдару пераважваючых па колькасці рускіх вершнікаў. У адказ галоўнакамандуючы ягелонскіх войскаў скіраваў для атакі перадавы польскі гуф. Цяжкая конніца, узначаленая Сампаліньскім, прагарцавала, нібы на парадзе, перад першымі шэрагамі літоўскага перадавога гуфу і з усёй сілай ударыла па рускіх ваярах з палка правай рукі. Надзвычайная моц удару цяжкаўзброеных капійнікаў парушыла, але не зламала да канца парадкі маскоўцаў, якія здолелі ўтрымаць свае пазіцыі. Пасля скрушэння коп’яў у справу пайшлі мячы, канчары, шаблі. Выдатна дзейнічалі гусары з дапаможных літоўскіх атрадаў. Бітва была надзвычай жорсткай, аднак з-за колькаснай перавагі рускіх палякі і літвіны пачалі павалі адступаць. Сітуацыя складвалася для іх не найлепшым чы-

нам. У выпадку няўдачы на гэтым адрэзку мог рэалізавацца план Чэлядніна па акружэнні ягелонскіх войскаў. У самы спрыяльны момант на рускіх, якія ўжо паверылі ў сваю перамогу, наваліўся літоўскі передавы гуф. Маскоўская конніца была цалкам заспетая знянацку гэтай атакай. Яна не вытрымала дадатковай масы жалеза, якая звалілася на яе галовы, і пачала адступаць. Неўзабаве вершнікаў агарнула паніка і яны кінуліся на ўцёкі. Астрожскі прадпрыняў гэтую атаку, не хвалюючыся за тое, што адбывалася на супрацьлеглым флангу польска-літоўскага войска. Там каронныя дапаможныя атрады прынялі на сябе ўдар маскоўскага палка левай рукі. Гэтая атака не была такой небяспечнай з увагі на меншы размах і тэмп націску. Польскіх сіл, размешчаных тут, хапала для затрымкі маскоўцаў.

За ўвесь час змагання на флангах Чэляднін не выкарыстаў ніводнага падраздзялення з вялікага, засаднага альбо вартавога палкоў. Такія паводзіны галоўнакамандуючага маскоўскага войска не могуць не здзіўляць. Маючы колькасную перавагу, ён мог аказаць дапамогу слабеючым атрадам на флангах, што змяніла б ход бітвы. На шчасце для палякаў і літвінаў, ён не зрабіў гэтага і пасіўна назіраў за беспаспяховымі дзеяннямі сваіх палкоў на флангах. У маскоўскага военачальніка былі іншыя намеры. Вышэйзгаданыя вайсковыя адзінкі Чэляднін разглядаў у якасці рэзерву. Ён палічыў, што Астрожскі ўвёў у бой усе наяўныя сілы, і чакаў на адпаведны момант, калі польска-літоўскае войска кінецца ў пагоню за ўцякаючымі палкамі правай і левай рукі. Тады Чэляднін меркаваў ударыць асноўнымі сіламі па расцярушаных ягелонскіх харугвах.

Аднак на полі бою ні ў чым нельга быць упэўненым. Чэляднін хутка ў гэтым пераканаўся. У той момант, калі здавалася, што ўсё адбудзецца па задуме рускага военачальніка, польскія дапаможныя гуфы, якія перайшлі ў контрнаступ на полк левай рукі, раптам павярнулі назад і пачалі ўцякаць у бок Дняпра. Гэта не былі панічныя ўцёкі, а добра

прадуманае рашэнне. Польскія падраздзяленні папросту скарысталіся старым татарскім выкрутам, які заключаўся ў імітацыі ўцёкаў, каб скіраваць праціўніка на асноўныя сілы і затым акружыць яго. Чэляднін заўважыў манеўр палякаў і, упэўнены ў канчатковай перамозе, кінуў у бітву вялікі полк. Яго жаўнеры павінны былі дапамагчы слабеючаму палку левай рукі і разам здабыць пераправы праз Днепр, у выніку чаго армія Астрожскага аказалася б прыціснутай да ракі. Чарговая імправізацыя Чэлядніна мела б, магчыма, шанцы на поспех, калі б ён лепей вывучыў тэрыторыю, дзе будзе адбывацца бітва. Убачыўшы, што да іх падыходзіць вялікі полк, жаўнеры палка левай рукі яшчэ больш націснулі на польскія харугвы. У гэты момант адбылося тое, што ў вялікай ступені прадвызначыла разгром рускага войска. На маскоўскія атрады, якія навальваліся ўсёй масай, абрынулася лавіна жалеза і волава. У бітву ўключылася схаваная да патрэбнага часу пяхота з агняпальнай зброяй і артылерыяй. На рускім баку шмат было забіта і паранена. Польскія стральцы і пушкары завіхаліся нібы варам аблітыя, каб зрабіць як мага больш залпаў па праціўніку і нанесці яму бязлітасныя крывавыя шкоды. Аднак не толькі кулі і ядры былі небяспечныя для маскоўскіх вершнікаў. Гук выстралаў быў настолькі магутны і ашаламляльны, што большасць рускіх коней пачала шалець і станавіцца на дыбы. Распачалася вялікая сумятня, пра далейшую атаку ўжо не было размовы. Выбухнула паніка. У гэты момант польскія дапаможныя атрады развярнуліся і раптоўна ўдарылі па рускіх, якія знаходзіліся ў здранцвелым стане. Да атакі далучылася частка польскага вальнага гуфа пад камандаваннем Свярчоўскага. У выніку масіраванага ўдару полк левай рукі фактычна перастаў існаваць. Каго не паспелі дабіць, трапляў пры адступленні на надыходзячы вялікі полк, што выклікала сумятню і ў яго шэрагах. Камандзіры рускіх адзінак спрабавалі арганізаваць абарону, але ў гэты самы момант з правага боку надышоў літоўскі перадавы гуф, узначалены самім гетманам Астрожскім. Пас-

ля авалодання становішчам на левым флангу ён пакінуў там літоўскія дапаможныя харугвы і польскі перадавы гуф Сампаліньскага, каб яны закончылі справу знішчэння рускага палка правай рукі. Супраць раптоўнага і рашучага наступу літоўскага войска вялікі полк быў бяссільны і адразу кінуўся ў панічныя ўцёкі.

Галоўнакамандуючы маскоўскага войска бачыў разгром сваіх сіл як у цэнтры, так і на абодвух флангах. Ён, аднак, не думаў пакідаць поле бітвы. Чэляднін вырашыў ратаваць становішча, уводзячы ў бой засталыя ў рэзерве вартавы і засадны палкі. Згодна новаму плану, неабходна было абысці каронныя атрады на правым флангу і ўдарыць па тылах ягелонскіх войскаў. Маса рускіх вайскоўцаў на чале з Чэляднiным рушыла з пагорку паміж сёламі Рукліна і Пугайлава. Калі яна ўжо набірала хуткасць, супраць яе сцяной сталі літоўскі вальны гуф Юрыя Радзівіла "Геркулеса" і засталая частка польскага вальнага гуфа пад камандаваннем Свярчоўскага. Шчыльныя шэрагі палякаў і літвінаў убіліся клінам у горш узброеных і разрозненых рускіх жаўнераў. Войска Чэляднiна адчайна і мужна абаранялася. Гэта мала дапамагло ў зацеклым баі з добра падрыхтаванымі і ўзброенымі наймітамі. Іван Чэляднін трапіў у палон, а яго вялікая армія фактычна перастала існаваць. Каля 6-ай гадзіны вечара маскоўцаў, якія масава кінуліся на ўцёкі, пачалі дабіваць. Большасць з іх для выратавання абрала шлях, які вёў у Дуброўну і далей на Смаленск. Аднак уцёкі не былі лёгкімі ў сувязі з набліжэннем ночы і патрэбай перабрацца праз забалочаную рэчку Дуброўну і не менш цяжкі для пераправы шырокі Днепр. Польскія і літоўскія атрады, якія кінуліся ў пагоню, з лёгкасцю даганялі рускіх і без літасці рубілі іх. Тыя, каму пашчасціла ўвярнуцца ад лязоў мячоў і шабляў, у большасці патапіліся ў рэках і балотах. На наступны дзень (9 верасня) нешматлікім купкам маскоўскага войска ўдалося

схавацца за магутнымі мурамі Смаленска, дзе вестак аб перамозе чакаў Васіль III[1].

Аднак іх яму так і не давялося пачуць. Замест іх ён даведаўся, што разбітай аказалася яго найбольшая армія ў гэтай ваеннай кампаніі, а яе камандуючы, да якога вялікі князь меў асаблівы давер, апынуўся ў зняволенні. Страты маскоўскага войска былі надзвычай вялікія. У бітве загінула ад некалькі да некалькі дзясяткаў тысяч жаўнераў, а прыблізна 5 тысяч чалавек трапіла ў палон, у іх ліку 10 ваяводаў. У рукі пераможнага польска-літоўскага войска перайшоў багаты абоз Чэлядніна. Такім чынам, Васіль III меў падставы для хвалявання наконт перспектыў далейшай вайны.

Іван Чэляднін так і не дачакаўся вызвалення і памёр у сярэдзіне 1516 г. Яго абвінавацілі на вялікакняскім двары ў паразе, атрыманай пад Оршай. Лягчэй за ўсё было вінаваціць таго, хто не мог абараніцца. Вялікакняскі канюшы сапраўды зрабіў шмат сур'ёзных памылак як перад, так і падчас бітвы. Паўплываў на гэта, безумоўна, невялікі ваенны досвед Чэлядніна. Аднак прыпісваць галоўнакамандуючаму ўсю віну за няўдачу нельга. Сярод маскоўскіх ваяводаў часта адсутнічала згода ў поглядах, нярэдка яны ўхіляліся ад радаў з галоўнакамандуючым[2]. Памылку зрабіў і сам вялікі князь, даручыўшы камандаванне войскам маладасведчанаму военачальніку.

Да паразы маскоўскага войска спрычынілася недастатковае знаёмства з тэрыторыяй, дзе разыгралася бітва. Гэта асабліва моцна адчуў на сабе полк левай рукі, якому дапамагаў вялікі полк. Рускія не чакалі, што Астрожскі замаскіраваў у сховішчы пяхоту і артылерыю, агонь каторых пахіснуў іх шэрагі. Другой сур'ёзнай памылкай арміі Чэ-

---

[1] Spieralski Z. Wojskowość polska w okresie Odrodzenia // Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864. T. I. Warszawa, 1965. S. 331–336.

[2] Русский биографический словарь. 1905. Т. XXIV. С. 137.

ляднiна была адсутнасць узаемадзеяння i ўзаемадапамогi асобных вайсковых падраздзяленняў. У той час калi палкi на флангах змагалiся з польска-лiтоўскiм войскам, асноўныя маскоўскiя сiлы пасiўна назiралi за падзеямi. Калi было вырашана прыйсцi на дапамогу, было ўжо позна. Рускае войска не мела агульнага рэзерву, наяўнасць якога прадвырашыла перамогу ягелонскiх войскаў. Умелае ўзаемадзеянне асобных частак паказала, што яны былi прыгатаваныя да любога дзеяння рускай армii. Асаблiвую ўвагу звяртае на сябе факт выкарыстання войскам гетмана Астрожскага масiраванага агня пяхоты i артылерыi ў якасцi падрыхтоўчага мерапрыемства для контрнаступу кавалерыi[1]. Польска-лiтоўскае войска мела яшчэ адну важную вартасць — камандаванне, сканцэнтраванае ў руках аднаго, дасведчанага чалавека. Што праўда, Канстанцiн Астрожскi не заўсёды мог утаймаваць свой тэмперамент (залiшняя запальчывасць прывяла да двух паразаў у яго вайсковай кар'еры — на Ведрашы ў 1500 г. i пад Сокалам у 1519 г.), але пад Оршай ён не быў у адзiноце. Ён меў шмат дасведчаных памочнiкаў, сярод якiх найважнейшую ролю выконваў камандзiр польскага найманага войска Януш Свярчоўскi. Аршанская вiкторыя 1514 г. з'явiлася адной з блiскучых перамог гетмана (а ён меў ужо 62 гады). У гонар гэтай пераможнай бiтвы i яе трыумфатара кароль Жыгiмонт I падрыхтаваў у Вiльнi грандыёзны, годны найславуцейшых рымскiх военачальнiкаў урачысты прыём.

---

[1] Razin E. Op. cit. S. 343–344.

## Стабілізацыя літоўска-рускай мяжы

Ужо праз два дні пасля разгрому Васіль III пакінуў Смаленск і накіраваўся ў Маскву. У дарозе ён выдаў некалькі загадаў, якія павінны былі ўскладніць далейшыя дзеянні палякаў і літвінаў. У прыватнасці, ён загадаў спаліць Дарагабуж, каб гэты горад не трапіў у рукі пераможцаў пад Оршай. Звесткі аб паразе пачалі хутка распаўсюджвацца. Без бою здаліся рускія гарнізоны ў Дуброўне, Мсціславе і Крычаве. Неўзабаве польска-літоўскае войска апынулася пад Смаленскам. Аднак гэты горад быў дасканала падрыхтаваны да аблогі. Яго ахоўвалі магутныя фартыфікацыі з даволі вялікім гарнізонам. Затое войска аршанскіх пераможцаў выглядала не найлепшым чынам. Яго шэрагі былі моцна надарваныя не толькі самой бітвай, даваліся ў знакі і стомныя маршы перад боем і пасля яго. Пашыралася, як гэта часта бывае ў такіх выпадках, дэзерцірства. Нагодай для гэтага, у прыватнасці, стаў захоп багацейшага абозу Чэлядніна. Палякі і літвіны так добра нажыліся, што многія з іх папросту адмовіліся ад ўдзелу ў ваенных дзеяннях і вярнуліся дахаты. Польска-літоўскаму войску таксама не спрыяла надвор'е. Гэта была восеньская пара, якая не надта падыходзіла да вядзення шырокамаштабных баявых дзеянняў, а ў асаблівасці — да аблогі добраўмацаванай крэпасці. З гэтай прычыны гет-

ман Канстанцін Астрожскі адмовіўся ад спроб захопу горада і накіраваўся назад у Літву. У канчатковым выніку акрамя бліскучай перамогі пад Оршай вайна прынесла ВКЛ сур'ёзныя тэрытарыяльныя страты. Асабліва балючай стала страта Смаленска.

Аршанская вікторыя, па вялікім рахунку, не паўплывала на ход далейшых падзей. Сама вайна ішла яшчэ доўга, з пераменлівым поспехам. Васіль III скарыстаўся непрыхільнасцю да Польшчы новага ордэнскага вялікага магістра Альбрэхта Гогенцолерна, які шукаў падтрымкі маскоўскага вялікага князя. У 1517 г. ён заключыў з Васілём III саюз супраць Жыгімонта I. Праўда, замест ваеннай дапамогі маскоўскі валадар атрымаў толькі фінансавыя сродкі, тым не менш такі хаўрус з'яўляўся даволі небяспечным для польска-літоўскай дзяржавы. Пра тое, чым гэтае супрацоўніцтва скончылася для вялікага магістра, ужо пісалася вышэй. Вяртаючыся да вайны з Масквой, варта таксама згадаць пра саюз імператара Максіміляна I з Васілём III. На шчасце, польскай дыпламатыі ўдалося стрымаць выступленне імператара на карысць Масквы. У далейшым справа была даведзена да разрыву гэтага небяспечнага для Ягелонаў пагадня. Гэта стала магчымым дзякуючым саступкам, на якія пайшоў Жыгімонт I. Польска-літоўская дзяржава была слабая, каб ваяваць на два фронты. Было вырашана скарыстацца праблемамі Габсбургаў у г.зв. італьянскіх войнах і прапанаваць ім кампраміс. Ён павінен быў аслабіць саперніцтва паміж абедзвюма дынастыямі і на нейкі час адсунуць вырашэнне спрэчных пытанняў. У 1515 г. у Вене сустрэліся Жыгімонт I, Уладзіслаў, кароль Чэхіі і Венгрыі, і Максіміліян I. Адбылося падпісанне дынастычнай дамовы. Яна прадугледжвала шлюбы сына Уладзіслава Людвіка з унучкай імператара Марыяй і ўнука імператара Фердынанда з дачкой Уладзіслава Ганнай. У выпадку згасання гэтай лініі ягелонскай дынастыі Габсбургі атрымлівалі адкрытую дарогу да чэшскага і венгерскага тронаў. Узамен Ягелоны

атрымалі абяцанне імператара, што той не акажа падтрымкі Нямецкаму Ордэну і яго антыпольскай палітыцы, а таксама адмовіцца ад супрацоўніцтва з Маскоўскім княствам.

Немалаважным поспехам рускай дыпламатыі з'яўляўся разрыў перамір'я ягелонскіх дзяржаў з Крымскім ханствам. Як толькі гэта адбылося, а дамагчыся гэтага пры зменлівых настроях качэўнікаў было няцяжка, на Літву абрынуўся новы набег татар. У 1516 г. яны спустошылі землі Рускага ваяводства, вяртаючыся дадому праз Валынь. У пагоню за імі кінуўся гетман Мікалай Фірлей на чале 2 тысяч коннікаў. Ён дагнаў непрыяцеля пад Вішняўцом, але з-за значнай колькаснай перавагі ворага не адважыўся ўступіць у бой. Татары беспакарана адышлі на сваю тэрыторыю разам са здабычай. Бездапаможнасць кароннага войска прывяла толькі да яшчэ больш дзёрзкіх дзеянняў качэўнікаў. Чарговы, запланаваны ў шырокіх маштабах набег крымскіх татар адбыўся ў ліпені 1519 г. Яны спустошылі Бэлскую і Хелмскую землі. Парываючыся наперад, яны дасягнулі Люблінскай зямлі, а некаторыя чамбулы паявіліся ажно на берагах Віслы. Мікалай Фірлей разам з Марцінам Камянецкім і Канстанцінам Астрожскім сабралі свае войскі ў Сокале. Яны меркавалі ўдарыць па непрыяцелю, калі той будзе вяртацца са здабычай. Польска-літоўскія сілы налічвалі каля 7 тысяч чалавек, у асноўным коннікаў. Сілы качэўнікаў ацэньваліся, яўна завышаючы лічбы, на 40 тысяч чалавек. На жаль, наяўнасць у польска-літоўскім лагеры некалькіх военачальнікаў з высокім статусам прывяла да рознагалоссяў адносна тактыкі правядзення бітвы. План Астрожскага здаваўся найбольш рэалістычным. Літоўскі гетман намерваўся правесці бой пры пераправе на правы бераг Буга, які тады належаў Літве. Аднак з гэтым не пагаджаліся яго калегі з Кароны. 2 жніўня, калі татары паявіліся пад Сокалам, Астрожскі убачыў іх колькасную перавагу і прапанаваў пачакаць з наступам да моманту, калі непрыяцель пачне перапраўляцца праз раку. Тады яго можна было разбіць па частках. Польскія военачальнікі гэтага мер-

кавання не паслухалі і загадалі сваім войскам пераправіцца на іншы бок Буга. Палякі перашлі раку і ўступілі ў бой у вельмі нязручным месцы. Мястэчка Сокал было спалена, што толькі ўскладняла разгортванне атакі польскай цяжкай кавалерыі. У дзеяннях польскага войска наступіў выразны крызіс, які толькі на момант быў пераадолены атакай літоўскага войска Астрожскага. Яна дазволіла палякам разгарнуць парадкі для бітвы ў адкрытым полі. На жаль, у гэты час было ўжо занадта позна прадпрымаць якія-кольвек масіраваныя ўдары. Польска-літоўская армія была акружана (праявілася ваеннае майстэрства качэўнікаў) і разгромлена. Яе страты былі агромністымі — каля 1200 чалавек забітых. Аднак военачальнікам удалося прабіцца і адысці з поля бітвы са значнай часткай сваіх сіл. У гэты ж час выбухнула чарговая вайна з Нямецкім Ордэнам — апошняя ў гісторыі.

Неўзабаве Крымскае ханства зноў змяніла свае палітычныя сімпатыі і прыняло бок Польшчы і Літвы. Татарскія атрады былі высланы пад Маскву. У такой сітуацыі Васіль III быў больш схільны да перамоў. У 1522 г. было заключана перамір'е на пяць гадоў. На яго падставе за Масквой захаваліся Северская і Смаленская землі. Такі стан рэчаў не задавальняў Ягелонаў, асабліва Літву. Тут заўсёды марылі аб рэваншы. У пэўны час паявілася адпаведная нагода. Заўчасная смерць Васіля III у 1533 г. прывяла да значнай сумятні ў Маскоўскім княстве, што стварала спрыяльныя варункі для ажыццяўлення ваеннага рэваншу. Да вайны заклікалі мясцовыя літоўскія князі. Сойм ВКЛ, які адбыўся на пачатку 1534 г., прыняў ухвалы, неабходныя для вайны за вяртанне зямель, раней страчаных на карысць Масквы. У намеры літоўскіх магнатаў уваходзіла вяртанне стану да 1492 г. Наступ гетмана літоўскага войска Юрыя Радзівіла не праходзіў, аднак, згодна з планамі літвінаў. Радзівіл меў у распараджэнні толькі літоўскае паспалітае рушэнне, якое вельмі марудна збіралася на вайну. Аб раптоўным нападзе на праціўніка не магло быць і размовы. Вясною на маскоўскія землі ўда-

рылі крымскія татары, якія на гэты раз выступалі як саюзнікі Літвы. Войска Радзівіла вырушыла ў паход толькі ў жніўні. Напрыканцы аказалася, што ўнутраны крызіс пасля смерці Васіля III у Маскве быў пераадолены. Рэгент новага цара Алена Глінская разам са сваім фаварытам Аўчынай-Абаленскім здолелі вярнуць уладу “моцнай рукі”.

На няўдалыя ваенныя кампаніі літоўскага гетмана пазіралі з хваляваннем. Дайшоўшы да Магілёва, які ляжаў на Дняпры, Юрый Радзівіл затрымаў паход свайго войска. Ён выслаў далей на ўсход толькі дзве вайсковыя групоўкі па 5 тысяч вершнікаў. Адна з іх, накіраваная на Севершчыну, паспрабавала аблажыць некаторыя драбнейшыя замкі і, спустошыўшы навакольныя землі, вярнулася назад у Магілёў. Другі атрад накіраваўся пад Смаленск. Ён не здабыў аніякага, нават самага мізэрнага поспеху. Пакуль не настала зіма, Радзівіл распусціў сваё войска дадому. Гэта была велізарная памылка, таму што Масква адразу рашуча зрэагавала на дзеянні літвінаў. На мяжы 1534–1535 гг. тры вялікія маскоўскія арміі прайшлі, нікім не затрыманыя, у глыб Вялікага княства Літоўскага. Яны спыніліся пад Маладзечнам, пагражаючы адтуль самой сталіцы Літвы. Аднак ісці на Вільню маскоўцы не рашыліся і па дарозе назад спустошылі значную тэрыторыю Літвы.

З няўдала праведзенай кампаніі Жыгімонт I зрабіў адпаведныя высновы. Яму давялося прызнаць, што перад такой пагрозай нельга абапірацца толькі на патэнцыял ВКЛ. Быў распрацаваны план фінансавай дапамогі, з гаспадарскага скарбу былі выдаткаваны сродкі на найм у Польшчы 1 тысячы вершнікаў і 500 чалавек пяхоты. Добра ўсведамлялася, што гэтых сіл яўна недастаткова. Літвіны прынялі рашэнне з уласных сродкаў наняць дадаткова 5 тысяч польскіх наймітаў. На іх чале стаў каронны гетман Ян Тарноўскі. Фармальна камандаванне захаваў за сабой Юрый Радзівіл. У рэчаіснасці ж ваеннай аперацыяй кіраваў Тарноўскі. На ўсялякі выпадак, каб пазбегнуць звычайных канфліктаў

паміж военачальнікамі, каронны гетман падпарадкаваўся літоўскаму. Свае паўнамоцтвы ён абмежаваў выключна да спраў, звязаных з правядзеннем ваенных дзеянняў. “Новая мятла — новыя парадкі”, — так можна было сказаць пра дзейнасць Тарноўскага. Ён пачаў ад замены стратэгіі выправы. Замест засяроджвання ўвагі на наступе на Смаленск, да чаго так імкнуліся літвіны, ён прапанаваў ударыць па Северскай зямлі і здабыць найважнейшыя мясцовыя крэпасці — Гомель і Старадуб.

На пачатку лета 1535 г. Юрый Радзівіл прывёў у лагер пад Рэчыцай войска ў складзе прыблізна 20 тысяч чалавек, пераважна конніцы. Яно аб’ядналася з польскім найманым войскам, якое налічвала 6500 жаўнераў. 14 ліпеня літоўска-польская армія падышла да Гомеля, які даволі хутка капітуляваў. Цвёрдым арэшкам аказаўся Старадуб. На шчасце, Тарноўскі ўзяў на гэтую выправу, акрамя гармат, неабходных для аблогі крэпасцей, майстроў па выкопванню падкопаў і закладанню мін. Яны неўзабаве спатрэбіліся. Старадуб меў умацаванні з дубовага дрэва. Узмоцненыя г.зв. ізбіцамі, якія былі напоўненыя зямлёю, яны з’яўляліся надзейнай аховай ад агняпальнай зброі. Цэлы месяц літоўска-польскаму войску не ўдавалася зламаць упарты супраціў абаронцаў крэпасці. Беспаспяховасць чарговых штурмаў абумовіла рашэнне акружыць горад шанцамі і абмежавацца толькі артылерыйскім абстрэлам Старадуба. У гэты час да працы прыступілі сапёры. Яны зрабілі падкоп пад замкавыя ўмацаванні. У ім была размешчана вялікая колькасць бочак з порахам. У паветра ўзляцела частка ўмацаванняў разам з чатырма баштамі. Маскоўцы былі цалкам заспетыя знянацку, тым больш што такіх метадаў аблогі на рускіх землях не ведалі. Выбух выклікаў пажар, які за кароткі час ахапіў увесь горад. Адразу пасля падрыву адбыўся штурм, і ў выніку крывавага бою з праціўнікам, які мужна працягваў супраціўляцца, горад быў здабыты. Пераможцы надзвычай жорстка расправіліся з гарнізонам, жаўнеры якога засталіся

ў жывых. Па загадзе Тарноўскага былі пакараныя смерцю 1400 абаронцаў, якіх знайшлі са зброяй у руках[1].

Такім чынам, удалося авалодаць Гомелем і Старадубам, а таксама амаль усёй Севершчынай. На жаль, як нярэдка здараецца, адсутнасць патрэбных фінансавых сродкаў зрабіла немагчымым выкарыстанне гэтых поспехаў на сваю карысць. Частка здабытых зямель, пасля таго як скончыўся перыяд службы найманых атрадаў, нават была страчана. Улетку 1536 г. северскія гарады, акрамя Гомеля, якога нават не ўдалося адбудаваць, зноў перайшлі пад маскоўскую ўладу. Пасля трох гадоў вайны ў 1537 г. было заключана чарговае перамір'е, на падставе якога за Літвой пакідаўся толькі Гомель. Гэтае пагадненне прынесла спакой на літоўска-рускую мяжу амаль на чвэрць стагоддзя.

---

[1] Hetmani... S. 401.

# Спіс ілюстрацый

1. Партрэт Юрыя Радзівіла, "Геркулеса Літоўскага". Невядомы мастак. 1-я палова XVII ст. Арыгінал: Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

2. Карціна "Бітва пад Оршай". Аўтарства прыпісваецца Гансу Крэлю (Hans Krell), звязанаму са школай Лукаса Кранаха-старэйшага. 1530-я гг. (?). Арыгінал: Нацыянальны музей у Варшаве (Польшча).

3. Партрэт Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Невядомы мастак. Сярэдзіна XVIII ст. Арыгінал: Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

4. Схема Аршанскай бітвы з рукапісу Станіслава Сарніцкага "Sarnicki S. Księgi hetmanskie". Пасля 1575 г. Арыгінал: Archiwum Głowne Akt Dawnych w Warszawie. Archiwum Publiczne Potockich. Nr 325. S. 387.

5. Тытульны ліст "лятучага аркуша" (Flugschrifte) на нямецкай мове аб "вайне польскага караля з маскавітамі". Аўтар: Якаб Пізо. Арыгінал: Piso, Jacob. Die Schlacht von dem Kunig von Poln und mit dem Moscowiter, S.l., 1514.

6. Бітва пад Оршай. Гравюра невядомага мастака з выдання: Krzycki, Andrzej. Ad Sigismundum Poloniae regem post partam de Moschis victoriam carmen. Kraków, 1515.

7. Аршанская бітва. Гравюра невядомага мастака з выдання: Bielski, Marcin. Kronika wszystkiego świata. Kraków, 1564.

*Навукова-папулярнае выданне*

**Друждж** Пётр

# БІТВА ПАД ОРШАЙ 1514 ГОДА

Камп'ютэрная вёрстка *Андрэй Янушкевіч*
Дызайн вокладкі *Антаніна Нявінская*
Карэктар *Настасся Трафімчык*

Падпісана да друку 19.08.2014. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 12,4. Ул.-выд. арк. 10,4.
Наклад 600 экз. Замова 846.

Індывідуальны прадпрымальнік
Янушкевіч Андрэй Мікалаевіч.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/218 ад 11.03.2014.
Вул. Шафарнянская, 3/135, 220125 г. Мінск.
e-mail: a.januskevic@hotmail.com

Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 2/34 ад 23.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004 г. Мінск.

У кнізе польскага гісторыка Пётра Дружджа распавядаецца пра знакамітую бітву пад Оршай, якая адбылася 8 верасня 1514 года. Аб'яднанае войска Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім ушчэнт разбіла велізарную армію Маскоўскай дзяржавы. Аршанская бітва стала адной з найбольш гучных ваенных падзей у гісторыі Усходняй Еўропы эпохі ранняга Новага часу і ўвайшла ў гісторыю ваеннага мастацтва як адзін з першых прыкладаў комплекснага выкарыстання трох відаў войска – конніцы, пяхоты і артылерыі. Бітва пад Оршай мела шырокі рэзананс у еўрапейскіх краінах і значна палепшыла знешнепалітычнае становішча Польшчы і ВКЛ у першай палове XVI стагоддзя.





Янушкевіч